16+

# МАЛАДОСЦЬ

падпісныя індэксы
індывідуальны - 74957
ведамасны - 749572
льготны - 00731
льготны
для настаўнікаў - 00592

ISSN 0131 2308
08/2017

Маладосць 08/2017

Таму, хто думае

08

у нумары:

**Экскурсія па адзіным у свеце музеі Пімена Панчанкі**
ў сярэдняй школе № 199 горада Мінска

**Рэканструкцыя адпачынку**
Як бавіць час на рыцарскім фэсце?

**Сервантэс, Стральцоў, Багдановіч**
«Прысутны позірк» на «дзіўных людзях»

**Полацкі Дзень пісьменства**
і веткаўскія старадрукі





ДУА «Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт»
УНН 300 220 696

# Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт




16+

# 08

**Штомесячны літаратурна-мастацкі**
**і грамадска-палітычны ілюстраваны часопіс**

**(765) ЖНІВЕНЬ, 2017**

**Выдаецца з 1953 года**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ**

Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013,
Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005,
Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Тэл.: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.
maladost@zviazda.by

**http://zviazda.by/be/edition/maladosc**
**Група VK: https://vk.com/club75787481**

**ПАДПІСНЫЯ ІНДЭКСЫ**

*00592 — індывідуальны льготны для настаўнікаў*

*74957 — індывідуальны*

*749572 — ведамасны*

*00731 — ведамасны льготны*
*для ўстаноў Міністэрства культуры*
*і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 16 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец:

рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»

Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: *Н.І. САВЕЛЬЕВА*
Дызайн вокладкі: *Н.І. САВЕЛЬЕВА*
Стылістычны рэдактар: *Г.І. ВЕРАБЕЙ*
Падпісана да друку ??.08.2017. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$.
Папера лёгкамелаваная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 15,12.
Ул.-выд. арк.??,??. Тыраж ???? экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП №02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск,
Рэспубліка Беларусь

Змест




**Тут справа ўсялякага збору людскога і горада, якія праз веру, ласку і згоду паспалітую дабро памнажаюць.**

**Францыск Скарына**

*«М»ы*




## Канстанцін Касяк

## Пра выпадковыя кнігі

Кожны раз, калі памежнік углядаецца ў мой твар, звяраючы яго з фоткай у пашпарце, я заміраю. Няўжо пазнаў? Нямая хвіліна. Але не, не гэтым разам — памежнік моўчкі вяртае мне пашпарт і пераходзіць да наступнага пасажыра.

Любому, хто піша тэксты, натуральна, хочацца, каб іх чыталі, а аўтара хоць калі-нікалі пазнавалі.

Прафесія пісьменніка (калі, канешне, так можна казаць) гэтым і складаная, што ўсё тут індывідуальна. Няма пэўных рамак ды абмежаванняў. А калі глядзець шырэй, то літаратура — гэта бадай што адна з нямногіх сфер чалавечага жыцця, якая ўсё яшчэ захоўвае адносную свабоду і не скавана сучаснай цывілізацыяй.

Кожны пісьменнік сам абірае ўласны шлях і правілы гульні. Адным даспадобы шумныя аўдыторыі, забітыя пад завязку прыхільнікамі, другім па душы пустыя вуліцы і адзінота. Адны пішуць бестселеры, якімі захапляюцца мільёны, іншыя пішуць кнігі найперш для сябе. І ўвесь парадокс у тым, што вельмі хутка першыя і другія могуць памяняцца месцамі. Усё залежыць ад трэнду. Можна сапраўды быць у андэграўндзе, а можна толькі гуляцца ў падполле. І з наскоку не распазнаеш, хто сапраўдны, а хто проста фэйк і шэрая пародыя.

Мне падабаецца пісаць у дарозе. Гэта найлепшы час, калі можна ўзяцца за аловак, ручку або клавіятуру. Калі нічога не адцягвае ад працы, у галаву прыходзяць нетрывіяльныя думкі, а суседзі не замінаюць, але выступаюць у якасці прататыпаў мажлівых герояў. За незнаёмымі людзьмі рэальна прыкольна назіраць — вывучаць іх паводзіны і манеры, слухаць чужыя размовы, нават калі і не вельмі хочаш гэта рабіць.

Асабіста я старамодны: люблю пісаць ад рукі. Таму ў мяне заўжды з сабой ручка, аловак і некалькі нататнікаў, куды я запісваю ўсё, што падаецца вартым. Спрабую таксама весці дзённік, з якога потым можа вырасці нешта сур’ёзнае. Пахі, колеры, кошты, рухі, словы, даты — усё гэта вельмі хутка забываецца, таму лепш запісваць. Потым можа спатрэбіцца.

Заўжды ў дарогу бяру з сабою кнігу — вельмі даўняя традыцыя. Магу і не адну. Вельмі радуюся, калі за шлях «туды» атрымліваецца прачытаць адну, а другую — калі ўжо вяртаешся «адтуль». Гэта сапраўднае дасягненне. Удвая выдатна, калі выходзіць яшчэ і напісаць нешта сваё. Хаця б для сябе самога, у стол, на перспектыву. Зрабіць пару накідаў. Кнігі вельмі ратавалі мяне ў студэнцкія гады, калі часта даводзілася выбірацца з сябрамі за горад. Яны былі для мяне тады і ёсць цяпер маўклівыя спадарожнікі, якіх можна ў любы момант раскруціць на шчырую цікавую гутарку, а можна гэтак жа лёгка яе скончыць, проста загарнуўшы кнігу. Неацэнная якасць у дарозе насамрэч!

Яшчэ больш люблю чытаць выпадковыя кнігі. Узяць у кнігарні кнігу, прачытаць анатацыю і набыць. Такім чынам можна адкрыць для сябе вельмі цікавых аўтараў.

Пра кубінскага пісьменніка Леанарда Падуру я не ведаў нічога акрамя таго, што ён у 2015 годзе атрымаў прэстыжную прэмію Прынцэсы Астурыйскай у галіне літаратуры. Аднойчы, перад самай выправай у Полацк, я набыў абсалютна рандомным чынам яго кнігу «Бывай, Хемінгуэй!». Мяне, канешне ж, зацікавіў гэты твор выключна дзякуючы назве. У ім — пра апошнія дні жыцця Эрнэста Хемінгуэя на Кубе. Гісторыя акурат пра тое, чаму сусветна вядомы пісьменнік гэтак раптоўна і нечакана пакінуў выспу Свабоды пасля таго, як там адбылася Рэвалюцыя.

У Полацку было нешматлюдна і спякотна. У нейкім бары я ўзяў крыху рому і разгарнуў кнігу. Мне падалося, што я перанёсся на Кубу. З той пары гэты паўночны старажытны беларускі горад трывала асацыюецца ў мяне са спякотай, свабодай і літаратурай. І ніяк іначай…

Цяпер вось, падчас апошняй вандроўкі ў Львоў, я адкрыў для сябе творчасць французскага пісьменніка Патрыка Мадзіяно́, добра вядомага сваімі раманамі пра часы акупацыі.

Я ж пазнаёміўся з ім дзякуючы раманам пра Парыж шасцідзясятых гадоў — «Начная трава» і «У кавярні страчанай маладосці». Прывабіла вокладка — мне цікава ўсё, што звязана з гэтым горадам, хоць я ніколі там не быў. Але шмат чытаў пра яго. І тут з выбарам я не прагадаў, усё як люблю — меланхолія, настальгія, павольнасць. Лепей і не прыдумаеш…

Пісьменнікам мне хацелася быць заўжды. У цяперашні час такія жаданні могуць падацца дзівам, але як ёсць. Гэтая думка не пакідала мяне з тых часоў, калі я малым прыязджаў да сваёй бабулі на вакацыі ў вёску. Яна, былая выкладчыца рускай мовы і літаратуры, каб заахвоціць мяне да чытва, вельмі цікава распавядала пра жыццё расійскіх і беларускіх пісьменнікаў. А што можа быць лепшым за тое, каб пражыць свой адрэзак яскрава? Ды не абы-як, але яшчэ і распавесці іншым пра тое, што трапілася на шляху?

Пісаць мне захацелася тады, калі я пачаў рэгулярна прыходзіць на працу да сваёй маці — бібліятэкаркі. На паліцах стаялі кнігі, і я ўяўляў, што аднойчы абавязкова стану героем адной з іх. Я і цяпер веру ў тое, што рана ці позна гэта адбудзецца. Пісьменнікі тым і адрозніваюцца ад звычайных людзей: на працягу ўсяго свайго жыцця яны не толькі вераць у казкі, але і ствараюць іх. Прыдумляюць рэальнасць, як сапраўдныя фантазёры, у якой многія пасля і жывуць.

Адным даспадобы шумныя аўдыторыі, забітыя пад завязку прыхільнікамі, другім па душы пустыя вуліцы і адзінота. Адны пішуць бестселеры, якімі захапляюцца мільёны, іншыя пішуць кнігі найперш для сябе

Свае першыя тэксты я пачаў складаць яшчэ ў школе. Спачатку, як гэта прынята, вершы, а потым і прозу. Вершы тыя атрымліваліся не вельмі ўдалымі, нават слабымі, але для заляцання да дзяўчат майго паэтычнага таленту было болей чым дастаткова. І, як большасць няўдалых паэтаў, я вырашыў пісаць прозу. Тое-сёе трапляла ў сценгазеты ды нейкія школьныя выданні.

Па-сапраўднаму друкавацца пачаў, калі скончыў універсітэт і стаў дыпламаваным гісторыкам. Цяга да літаратуры перавесіла на вагах жаданне займацца гісторыяй. Але разам з гэтым я пакуль не стаў паўнавартасным пісьменнікам, што выдатна разумею. Ім я стану, калі займею сваю першую кнігу. Гэта, відаць, асноўны і адзіны шлях да варны літаратараў. Я ведаю, якой яна павінна быць. У ёй павінна быць усё так, як у сапраўднай літаратуры. Не фэйк і тым больш не шырспажыў.

Мне 30, але я ўсё яшчэ не губляю надзеі, што калі-небудзь нехта возьме з паліцы маю выпадковую кнігу ды напіша ў сваю калонку некалькі слоў пра яе. І гэтага было б болей чым дастаткова…

Пісьменнікі тым і адрозніваюцца ад звычайных людзей: на працягу ўсяго свайго жыцця яны не толькі вераць у казкі, але і ствараюць іх. Прыдумляюць рэальнасць, як сапраўдныя фантазёры, у якой многія пасля і жывуць



## Ігар Палынскі

**беларуская мова — тое, што дазваляе адрозніць любоў да піва ад кахання да дзяўчыны. чулі такі выраз?.. пра беларускую мову яшчэ напішу, цяпер жа пагутарым пра напой багоў.**

### лексіка

півас і півалдар — такія варыянты наймення піва распаўсюджаны на Полаччыне, прынамсі, у нашай тусоўцы. нульпятка, літруха, пэлтар, двус (або пяшчотна: двусік), морышча — так у нас акрэсліваюць аб'ём. важная рэмарка: розніца ў кошце літра і пэлтара часта мінімальная, і калі мы ходзім «на краму» (менавіта «на» — калі па піва, у астатніх выпадках — «у»), то літровыя бутэлькі амаль ніколі не бяром.

### карысць і шкода

шкода — гэта машына такая, а піва — карыснае. яно стымулюе працу сэрца і сасудаў, можа зніжаць артэрыяльны ціск, паляпшае страваванне, змагаецца з бактэрыямі. вельмі важна адзначыць умовы: піва павінна быць якаснае, колькасць выпітага — адэкватная, а частата ўжывання — не тоесная звычцы. бо калі перапіць, то і ліманад да не дужа добрых наступстваў прыводзіць.

***

упершыню пакаштаваў піва я гадоў у шэсць. Ну, як пакаштаваў. калі быў малы, бабуля заўсёды хадзіла ў лазню да сяброўкі і мяне з сабой брала. ну і там, вядома, па крышачку пеннага яны там. і вось гэтую самую пенку я любіў спрабаваць. такая прыемная горыч, вось гэта ўсё. пры гэтым, калі аднойчы выпадкова хлёбнуў самога піва, яно падалося страшэнна нясмачным, нават гідкім.

толкам знаёмства з півам адбылося, вядома, ужо ў дарослым жыцці. не будзем рабіць бязвінны выгляд: сённяшнія 18-гадовыя падлеткі ўжо цудоўна ведаюць смак абсалютна розных напояў, галоўнае — ведаць меру. з мерай у мяне праблем не было (ну, амаль), але дужа не разбіраўся — што стаяла ў крамах, тое і бралі.

піўзавод у Полацку быў, здаецца, заўсёды (насамрэч першае піва тут зварылі ў 1972-м). у нас такая асацыяцыя заўсёды была: напой для «кантынгенту» (бо каштуе танней, а дызайн этыкетак выглядае… проста не выглядае). аднойчы ж полацкім півам пачаставалі на нейкай імпрэзе. і ведаеце?.. на наступны дзень я ўжо тэлефанаваў на завод з прапановай зрабіць сюжэт пра яго для нашага тэлепраекта, які распавядае пра лакальныя прадпрыемствы і іх прадукцыю.

полацкае піва аказалася неверагодна смачным, збалансаваным і… сапраўдным, ці што. катацца па замежжах і каштаваць піва ў Германіі ці Чэхіі ў мяне грошай няма, але на нейкай сляпой дэгустацыі беларускага піва пра полацкае сказалі: а гэта дакладна беларускае?.. (яно, дарэчы, у ёй перамагло). на заводзе мне тады патлумачылі, што не дадаюць цукар ці мальтозную патаку, выкарыстоўваюць толькі стопрацэнтны солад, пастэрызацыя — усяго 15 секунд (на самай справе тэрмін прыдатнасці піва досыць невялікі, што ў дадзенай сітуацыі выглядае плюсам), піва асобна бродзіць, асобна даброджвае. начальнік вытворча-тэхналагічнага аддзела Валянціна Асташкевіч працуе на заводзе хіба не ад моманту заснавання і заяўляе, што пакуль яна там, полацкае піва сапсаваць не дазволіць. зрэшты, іх «пажылое» абсталяванне не дазваляе рабіць піва па спрошчаных тэхналогіях — і добра.

сябар казаў, што калі ў яго горад завозяць трохі полацкага піва, ён скупляе ўсё, бо пакаштаваў і захапіўся. у Полацку дэфіцыту няма, а вось знайсці полацкае піва ў іншых гарадах — сапраўдная праблема. Таму, калі раптам пабачыце (а вы пазнаеце па этыкетцы з такім авалам, як было модна за савецкім часам. наогул, дызайн — самае хворае месца полацкага піўзавода) — вазьміце пакаштаваць.

мой любімы гатунак — «Жыгулёўскае». ад моманту, як адкрыў для сябе полацкае піва, здрадзіць яму магу толькі з «Лідскім» — дзякуючы іх фенаменальна крутому маркетынгу апошняга часу.

а, самае галоўнае! хоць ад полацкага і не баліць галава на раніцу — не злоўжывайце алкаголем.



Лепш менш насельніцтва, але якаснага — вось ідэя ідэаліста. Я ведаю, што нельга ідэальна сплanаваць час з'яўлення дзіцяці, але большасць і не спрабуе, бо не адчувае адказнасці

Яна Мусвідас

## Нелюбоў

**Я лічу, што перад тым як зачаць дзіця, па́ра павінна праходзіць тэст на гатоўнасць стаць бацькамі. Чаму для таго, каб узяць дзіця з прытулку, трэба даказаць сваё псіхічнае здароўе, а нараджаць можна ў любым стане?**

Нядаўна я стала сведкай непрыемнай і супярэчлівай сітуацыі. Стоячы ў чарзе ў прадуктовай краме адной буйной мінскай сеткі, я пачула нямы віск. Крычаў хлопчык гадоў дзесяці. Наколькі я зразумела з кантэксту, дзіця нешта спрабавала вынесці з крамы не заплаціўшы, але яго злавілі. Выпадкаў такіх я раней не бачыла, але хутчэй за ўсё сітуацыя пасрэдная. Калі б не адно велізарнае «АЛЕ»: «Малю, не тэлефануйце тату, ён мяне заб'е! Ён мяне штодня збівае». Гэтым словам цяжка было не паверыць, таму што хлопчык крычаў іх нечалавечым голасам. Няма нічога горшага за дзіцячы страх і безвыходнасць.

Дапамагчы хлопчыку я нічым не змагла, як і натоўп яго сяброў, які сабраўся ў пары метраў. Ніякія грошы за няшчасную жуйку, ці што там яшчэ было, не патрэбныя дарослым, якія хочуць правучыць дзіця і самасцвердзіцца за яго кошт. Ведаю, што многія цяпер са мной не пагодзяцца, бо хулігана трэба правучыць, але гэтыя многія проста не чулі віск і не бачылі прыпадку гэтага хлопца.

Я ўпэўнена, што бацька давалок няшчаснага за вуха да хаты і, не адыходзячыся далёка ад парога, «збіў», як і прарочыў хлопчык. Вядома, высноў ніякіх дзіця з гэтай сітуацыі не зробіць, бо хіба можна вынесці ўрок з фізічнага гвалту?

Думаю, што ў бацькоў гэтага хлопчыка ніколі не было ні сіл, ні часу на яго выхаванне. Гэтых людзей не хапіла на тое, каб растлумачыць свайму дзіцяці, што такое добра і што такое дрэнна. А цяпер яны яго б'юць «за свае грахі». Навошта тады нараджалі?

Адразу папярэджу, што аборты я не падтрымліваю, але я за адказнасць і ўсвядомленыя рашэнні. З дзяцінства кожнага з нас пераконваюць у тым, што заводзіць дзяцей абавязкова, бо без іх сталае жыццё непаўнавартаснае. З экранаў тэлевізараў вяшчаюць пра льготы, дэмаграфічную сітуацыю, пераконваюць: «Нараджайце, дзяржава ўсім дапаможа». Але дзяржава не можа ўзяць на сябе функцыю «ўсеагульнай маці». Па-мойму, сярод нашага насельніцтва даўно пара распаўсюджваць ідэі childfree і прэзерватывы. Для мяне наогул загадка, чаму айчынныя фармацэўты не выпрацоўваюць супрацьзачаткавыя таблеткі, бо імпартныя для вялікай часткі насельніцтва занадта дарагія. Лепш менш насельніцтва, але якаснага — вось ідэя ідэаліста.

Я ведаю, што нельга ідэальна спланаваць час з'яўлення дзіцяці, але большасць і не спрабуе, бо не адчувае адказнасці.

P.S. Калі мае словы вас не пераканалі, паглядзіце фільм Андрэя Звягінцава «Нелюбоў». Рэжысёр наглядна паказаў, што такое дзіця, да якога нікому няма справы.



**Алесь Карлюкевіч**

# Пошукі колераў жыцця і прыгажосці

**Нядаўняя выстава жывапісца Дзіяны Каласовіч у добра вядомай мінскай галерэі «Універсітэт культуры» засведчыла нараджэнне новага таленавітага мастака.**

Знаёмячыся з работамі дагэтуль невядомай мне мастачкі, я ў чарговы раз падумаў пра тое, што нашай сталіцы не хапае галерэй, сучасных прасторных залаў для адкрыццяў і знаёмстваў з сучасным выяўленчым мастацтвам. Так, ёсць Палац мастацтва, ёсць Музей сучаснага выяўленчага мастацтва, галерэя «Беларт» і яшчэ мо з дзясятак розных залаў, дзе можна выстаўляць карціны…

І ўсё ж гэтага мала для амаль двухмільённага па насельніцтву горада. Для параўнання: у чэшскай Празе з насельніцтвам каля 1,3 млн жыхароў налічваецца каля 160 (!) мастацкіх галерэй, мастацкіх музеяў… Пагадзіцеся, уражвае!.. Дзень пры дні жывапісцы, графікі, скульптары Беларусі, Мінска, іншых гарадоў узбагачаюць культурны складнік нашага жыцця. І так шмат са здзейсненага імі застаецца ў цянётах майстэрняў. Як быць, напрыклад, мастакам з правінцыйных гарадкоў? Няўжо іх доля — выстаўляць свае працы толькі для жыхароў Пінска ці Мар'інай Горкі? Ды і не ўсюды ж ёсць умовы для арганізацыі выстаў.

Зрэдчас, праўда, прабелы запаўняюць публікацыі спецыялізаваных выданняў — хаця і не такая ўжо частая госця ў часопісе «Мастацтва», газетах «Культура» і «Літаратура і мастацтва» рэцэнзія на творы выяўленчага мастацтва. Праўда, уважлівай да сучаснага жывапісу і графікі з'яўляецца газета «Звязда» са сваім спецыяльным выпускам «Жырандоля». Тут нельга не падзякаваць яе («Жырандолі») арганізатару, руплівому аўтару і рэдактару чужых тэкстаў Ларысе Цімошык. Ды і мастацкіх альбомаў у нас выдаецца не дужа і багата… З выданняў апошняга часу ў памяці — альбомы Віталя Цвіркі, Уладзіміра Слабодчыкава, Уладзіміра Савіча, Сяргея Цімохава… А колькі мастакоў яркіх, запамінальных, вартых увагі — без альбомаў, нават без сур'ёзных буклетаў… Здаецца, няма альбома ў графіка Рыгора Сітніцы. Не бачыў вартага ўвагі аўтарскага альбома Каміля Камала.

***

Дзіяна Каласовіч у выяўленчым мастацтве працуе не так даўно. Нядаўна пераехала з Салігорска ў Мінск. Вось што яна гаворыць пра ўласныя першыя крокі:

— ... Што да маіх пачаткаў, вытокаў, то насамрэч усё адбылося даволі банальна і проста. З самага ранняга дзяцінства я ў сабе чула творчасць, выразна разумела, што мне варта шукаць ідэі і па-свойму іх вылучаць у шырокае жыццё. Творчае асяроддзе заўжды прыносіла мне адчуванне камфорту. Хаця сям'я, здавалася, была далёкая ад усяго гэтага. Я нарадзілася ў вёсцы. Пасля мы пераехалі ў Салігорск… Я ведала, што ў горадзе ёсць мастацкая школа. І марыла стаць яе навучэнкай. Ледзьве ўгаварыла бацькоў, падалі туды дакументы. Я здала экзамены. Не хапіла аднаго бала. Гэтая сітуацыя крыху ўнесла сумятню ў мае памкненні, у мой настрой. Але я не спужалася, пачала наведваць розныя гурткі…

Адразу прыпамінаюцца імёны мастакоў з салігорскай і суседняй слуцкай старонкі. Тут багацейшая на таленты зямля. Браты Басалыгі, Уладзімір і Міхась, — графікі і жывапісцы, скульптар Генадзь Буралкін… Першыя ўрокі Дзіяна Каласовіч атрымала ад кіраўніка салігорскай студыі выяўленчага мастацтва Яўгена Смунева. Ён выхаваў многія таленты.

— Я і цяпер з асаблівым хваляваннем стаўлюся да ацэнак Яўгена Раманавіча, — дзеліцца развагамі Дзіяна. — Стараюся пры любой нагодзе сустрэцца з ім, падзяліцца сваімі адкрыццямі, проста думкамі. Мне здаецца, што я з'яўляюся заўсёднай яго вучаніцай. Кожную сваю работу спяшаюся паказаць яму. Імкнуся хутчэй падзяліцца ідэямі, новымі ўяўленнямі пра прафесійныя далягляды. Яўген Раманавіч як выдатны педагог умее і маўкліва «адказаць», знайсці той фармат ацэнак, які яму дазволіць давесці сваю думку. А я следам ужо яго ацэнкі, словы і ўражанні асэнсоўваю…

Доўгі час Дзіяна Каласовіч працавала эканамістам. Як быццам, жыццё склалася… Спрыяла гэтаму і адукацыя — Беларускі дзяржаўны эканамічны ўніверсітэт. Але спакою не давала зусім іншае, сапраўды паралельнае жыццё. Творчасць забірала ўсё болей і болей часу. Гуманітарны, творчы характар мыслення паступова перамог настолькі, што раздвойвацца стала досыць складана. І ўжо сёння Дзіяну Каласовіч можна смела лічыць прафесійным мастаком.

— Займаючыся дызайнам, інтэр'ерам, працуючы са шклом і тынкоўкай, спрабуючы сябе ў іншых накірунках дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, я быццам выпрабоўвала сябе. Было такое адчуванне, што на мне праводзіцца нейкі эксперымент выпрабавання мяне як фізічнага матэрыялу жыцця, — гаворыць Дзіяна.

А я тым часам углядаюся ў яе карціны, развешаныя ў галерэі «Універсітэт культуры». Вось іх назвы: «Дзіўнае, пераходнае», «Інтэлектуалы», «Пачатак новай эры», «Паліглоты», «Паэтычны хіазм»… Калі вы падумалі, што «Паліглоты» і «Інтэлектуалы» — гэта партрэты альбо выявы знаўцаў замежных моў і інжынераў ці іншага кшталту інтэлектуалаў-мысляроў, то вы памыляецеся. За назвамі — колеры ў сваіх памкненнях да судакранання з жывой прыродай, колеры ў атмасферы ветру і неспакою. Мне здаецца, што дрэвы і кветкі, неба і зямля, сонца і месяц сутыкаюцца ў сваіх супрацьлеглых жаданнях. А як вынік — народжаныя мастаком думкі вырываюцца ў поле нашых уяўленняў і філасофскіх разваг пра жыццё і смерць, пра ўладу і бяссілле. Пра моц і знямогу… Тонкія рухі, тонкія дотыкі, тонкае выкладанне, здавалася б, тых фарб і адценняў, што не могуць супадаць… У карцінах Дзіяны Каласовіч спрачаюцца не толькі сюжэты як галоўныя складнікі яе прыдумак. У палотнах мастачкі спрачаюцца колеры, якія імкнуцца спасцігнуць сутнасць чалавечага мыслення. Так, колеры ўмешваюцца ў нашу свядомасць і, магчыма, нават разбураюць нешта з ранейшых уяўленняў.

Блукаючы, літаральна вандруючы па выставе Дзіяны, сярод яе фарбаў і колераў, я мала думаў пра кампазіцыю, традыцыі вучнёўства, звязаныя з засваеннем класічнага малюнка. Хаця гэты прафесіяналізм, безумоўна, прысутнічае ў пошуках таленавітага творцы ў кожнай з яе работ паасобку. Ды маю ўвагу займалі развагі пра сілу той іскры, што энергетычным выбухам асвятляла мысліярства мастачкі.

— У выбары жанраў я сябе не абмяжоўваю, — гаворыць Дзіяна. — Зараз захапілася партрэтам. Але пакуль што асцярожна стаўлюся да таго, каб



«Дзівоснае, што пераходзіць у ліловы».

знаёміць з работамі такога кшталту публіку. Магчыма, з часам адчую, што пройдзены і ў гэтым накірунку варты шлях. Тады адкрыюся, пагляджу, як рэагуе публіка… Але і ў партрэце — я гэта адчуваю сэрцам — прыхаваны мае эмоцыі на тым ці іншым адрэзку часу… Мне складана вылучыць, каго і што я болей за ўсё люблю ў мастацтве, якія майстры пераварочваюць маю свядомасць так, што адчуваеш сябе ў бясконцай касмічнай прасторы. Дарэчы, без усялякага спадзявання на спакойнае прызямленне… Але я пільна ўглядаюся ў еўрапейскае мастацтва. Мяне цікавяць колеры Сярэднявечча. Я люблю многія еўрапейскія музеі і галерэі, люблю туды наведвацца не адзін раз. І разам з тым я пазбягаю рэалізму ў прымітыўным яго асэнсаванні… Хаця тое, што напісана на маіх палотнах, — таксама рэалізм. Толькі ў іншым вымярэнні. Я болей размаўляю колерам і формай, перспектыва застаецца на другім плане…

І гэтая размова Дзіяны Каласовіч з гледачом уражвае, прыцягвае ўвагу, прымушае весці з мастачкай дыскусію. Часам, магчыма, дыскусію, якая падводзіць да пэўных спрэчак. Але гэта ні ў якім разе не прыніжае, не можа прыніжаць ступень цікаўнасці і захаплення тымі здзяйсненнямі, што ажывіў талент Дзіяны Каласовіч.

…Мне давялося разам з Дзіянай пабываць у майстэрні другога таленавітага творцы — жывапісца, графіка, скульптара Каміля Камала. Трэба было бачыць, якімі вачыма глядзела Дзіяна на работы Камала!.. Пасля папрасіў яе выказацца, адказаць на пытанне, што ж вынесла яна з тае сустрэчы. І вось што пачуў у адказ:

— Так, нечаканае знаёмства з творчасцю Каміля Камала, як, відаць, і любая першая сустрэча такога кшталту, мела спантанны характар. Я ледзьве паспявала ахапіць позіркам скульптуру, жывапіс… Мяне яшчэ цікавілі яго інструменты, яго фарбы… Агледала сцены, столь… Гэта ж не проста частка майстэрні, не толькі яе гісторыя, а яшчэ — і частка душы мастака… Увесь час імкнулася выхапіць дэталі. Ці — наадварот: хацелася зачапіцца позіркам за дэталі… І нават цяжка было ўдзельнічаць у размове з мастаком. Хацелася ж толькі слухаць, толькі насычацца ўсёй прасторай. І адначасова — вывучаць далей, выбіраць для сябе нешта галоўнае, самае істотнае… Пагадзіцеся, жывапіс — далікатная прастора. І ён вельмі тонкі для эстэтычнага ўсведамлення. Ёсць у фарбах свая музыка. І ў работах Каміля Камала гэта выяўляецца напоўніцу.

Чамусьці мне верыцца ў вялікую будучыню мастачкі Дзіяны Каласовіч. Пра гэта мы гаварылі і з вядомым знаўцам сучаснага выяўленчага мастацтва Алай Зміёвай, вопыт якой па адкрыцці мастакоў дазваляе ўмацоўваць давер, перакананасць. Але тут справа, відаць, нават не ў словах, не ў іх няхай сабе і аўтарытэтнай вазе, справа — у тых мастацкіх дзеях-асэнсаваннях рэчаіснасці,



«Касачы».



«Паліглоты».

з якімі выпраўляецца ў вялікую бясконцую дарогу таленавіты і арыгінальны творца Дзіяна Каласовіч. Зусім не збіраюся і не хачу параўноўваць яе ўласныя памкненні, сённяшні творчы выбар з манерай іншых сапраўдных мастакоў пісаць жыццё. Бо калі мастацтва сапраўднае, то яно хутчэй за ўсё арыгінальнае і непараўнальнае ні з кім і ні з чым. Іначай — паўторы, другаснасць, няхай сабе і з доляй прафесіяналізму і майстэрства… Пра гэта ўжо пасля сустрэчы казаў і сам Каміль Камал. Казаў менавіта пасля, без прысутнасці мастачкі, асэнсаваўшы сваю сустрэчу з работамі Дзіяны, а не адразу… Што таксама мае формулу праўдзівасці.

І напрыканцы нашай размовы — яшчэ адна «формула» ад Дзіяны Каласовіч: «Мяне не вабяць кароткатэрміновыя, хуткія позіркі… Мая прырода — гэта праца на перспектыву, увасабленне жаданняў зазірнуць за даляглядь…». Застаецца ў такім разе пажадаць таленавітаму, шчыраму ў сваіх поглядах на жыццё і мастацтва чалавеку вялікіх перспектыў і вялікіх здзяйсненняў.



«Інтэлектуалы».



**Анхела Эспіноса Руіз**

## Вечны

Міхась Стральцоў хацеў напісаць адзін радок. «Толькі», — казаў, — «адзін радок». Пра дрэннага чалавека. Потым змяніў прыметнік на «кепскі». А пісаў паэт пра адзінага кепскага чалавека, які існаваў у свеце. «Я аднойчы бачыў кепскага чалавека». Толькі аднойчы, толькі адзін. А наіўны паэт стаў вечным сведкам яго злосці. Адзіным? Толькі паэт ведае. Міхась Стральцоў шукаў вечны радок ці два радкі. «Не верш, а два радкі». Усю маладосць марнаваў на змаганне з уласнай смяротнасцю. Scripta manent, відавочна. Пісьменнік памёр заўчасна, але Слова засталося. Заўчасна памёр і, бадай, самы добры чалавек, з якім марыў пазнаёміцца Міхась Стральцоў, — Максім Багдановіч.

Максім Багдановіч адназначна вечны. Так сказаў мой навуковы кіраўнік у Варшаве, так кажуць прафесары ў Мінску, Віцебску, Гродне, Брэсце. Нават некаторыя прафесары ў Расіі. Так казалі выдаўцы новага зборніка (маіх!) перакладаў Багдановіча на іспанскую мову. Так сказаў на прэзентацыі зборніка міністр Макей, да яго слоў далучыўся пасол Латушка, былы міністр культуры Рэспублікі Беларусь. Так сказаў нават да іх, але па-іспанску, выбітны паэт Луіс Альберта дэ Куэнка, які з дыпламатамі размаўляў праз перакладчыка, і з Багдановічам таксама. Праз мяне. Нават рукі дрыжаць. Але я і раней ведала, што Багдановіч вечны. Бо вершы геніяльныя, а чалавек самотны. Як і Міхась Стральцоў.

Я не ведаю вечнасці, не разумею яе. Для вечнасці патрэбны так званы гістарычны дыстанс. Дзіўнае паняцце. Nemo propheta in patria. Самоту разумею. Дзіўных недалюбліваюць. Чалавечая натура. Я так, без прэтэнзій. Але самоту я разумею. Калі я думаю пра вечных, у мяне светла-сумны настрой. Некаторыя вечныя не ведалі, што яны вечныя. Я вельмі сумняваюся, што Максім Багдановіч разлічваў на званне «сучаснага класіка». А Стральцоў смяяўся б з мяне нават сёння. Моцарт памёр у самоце, нікому не вядомы і патрэбны хіба што жонцы, альбо нават не. Сам сабе напісаў рэквіем. Той вечны «Рэквіем». Бах памёр у самоце, простым арганістам, а як кампазітар — дэмадэ, занадта кансерватыўны. Нібыта.  Толькі ў XIX стагоддзі адкрылі Баха зноў і змянілі меркаванне. Сервантэс — тым больш. Мігель дэ Сервантэс хацеў быць паэтам, але рыфмаваў ён крыва. Затое проза якая атрымлівалася... А проза была непатрэбная і незразумелая. Не падабалася людзям проза. Паэзія — тое, што трэба. Тэатр — можа быць, калі таксама паэт. А проза — бздура. А цяпер —бах!— вечны, бацька сучаснага рамана, мегакруты Сервантэс.

Не ўсе дзіўныя людзі — вечныя. Але ўсе вечныя людзі — дзіўныя. Ну, добра, скажам, нетыповыя. Гэта сінонім, але людзі меней крыўдуюць на яго, чым на «дзіўны». А я не разумею чаму, ~~бо дзіўная~~ бо «дзіўны» ад слова «дзіва», «здзіўляць».

Калі я думаю пра вечных, у мяне светла-сумны настрой. Некаторыя вечныя не ведалі, што яны вечныя. Я вельмі сумняваюся, што Максім Багдановіч разлічваў на званне «сучаснага класіка»

Той, хто здзіўляе. Не ведаю, як вас, дарагія чытачы, а мяне моцна здзіўляе Максім Багдановіч. Здзіўляе яго адчуванне беларускасці, яго мова (ён вывучыў без інтэрнэту!), яго дасканалыя санеты, трыялеты, тэрцыны, яго веданне еўрапейскай літаратуры і міфалогіі. Здзіўляе, без эйджызму, яго ўзрост: Багдановіч вечна малады, на вялікі жаль. Мая мама кажа: «А калі паспеў прачытаць так шмат кніг?» Дык здзіўляецца. Пра мяне таксама кажуць. Я шмат чытаю.

Я не магу быць упэўнена, як Багдановіч, як Стральцоў, як Сервантэс. А я вось інтраверт. Дужа імкнуся быць натуральнай у размове, але гэта не маё, і сапраўдны экстраверт бачыць, што гэта не маё. Пісаць — маё, а размаўляць натуральна... Не. Магу выступіць публічна, я не баюся публікі. Я баюся камунікаваць сам-насам. Мой голас пахне страхам. Страхам сказаць не тое, страхам непрыгожага, інфантыльнага голасу, страхам не-зусім-правільнай інтанацыі. Спяваю добра, гавару дрэнна. Не «дрэнна». Але не «добра». Гэта відавочна. Я шмат чытаю. Я не ведаю, як склалася: магчыма, я шмат чытаю, бо я самотная. Багдановіч ляжаў хворы, «я не самотны, я кнігу маю». І праўда, чым больш чытаю, тым больш люблю кнігі. Кнігі не асуджаюць, як гучыць галасок у маёй галаве. Хаця гэта не галасок, гэта глыбокі, меладычны, мужчынскі голас, пра які я і марыць не магла б. Чулі Моргана Фрымана? Ён чытае мне ў галаве санеты Багдановіча, верлібры Стральцова і апавяданні Сервантэса. Так, Сервантэс пісаў апавяданні. Так, раю пачытаць.

Часам я выходжу з дому, іду ва ўніверсітэт, размаўляю пра заняткі, пра здароўе аднагрупнікаў і пра надвор'е. Заходжу ў краму, рэпеціравую ў чарзе тое, што мне трэба: «Дайце, калі ласка, два батоны хлеба і тры булкі». Часцей за ўсё, і так кажу дрэнна. І дыхаю занадта хутка, і цяжка казаць «dziękuję, do widzenia, miłego dnia», калі выходжу, але заўсёды кажу, бо я ветлівая. «Дзіўная, але ветлівая дзяўчына. А шкада, што такая дзіўнаватая, бо нават сімпатычная, калі прыглядзецца». Такое чула пра сябе не адзін раз і не два. Я дзіўная, я самотная. Я шмат чытаю. Прыходжу дадому, сядаю за кнігі ці камп'ютар. Магу есці альбо не. Хаджу ў трэнажорку, дзе толькі кажу «dzień dobry» альбо «do widzenia». Калі не задаюць пытанняў. Калі задаюць нечаканае пытанне,

> Мігель дэ Сервантэс хацеў быць паэтам, але рыфмаваў ён крыва. Затое проза якая атрымлівалася... А проза была непатрэбная і незразумелая. Не падабалася людзям проза

звычайна прашу паўтарыць. Не таму, што дрэнна разумею па-польску, а таму, што мне патрэбны дадатковы час для рэакцыі. Гэта амаль незаўважна. Я хачу думаць, што амаль незаўважна. Заўважна на падсвядомым узроўні. Таму я дзіўная, і я самотная, і іншыя ведаюць, але не ведаюць, чаму. А шкада!

Я раней пісала пра «гістарычны дыстанс». Мала хто ведае пра сваю вечнасць. Стральцоў хацеў перамагчы смерць і стаць вечным, затое перш за ўсё смерць забрала яго, і толькі потым магла б пайсці размова пра вечнасць. Але быў і іншы дыстанс — просты чалавечы дыстанс. Паміж дзіўнымі людзьмі і чалавецтвам ёсць бар'ер. Мяжа, калі хочаце. І строгі візавы рэжым. Дзіўныя людзі заўжды самотныя. Іх не любяць у школе. Іх мала хто любіць. Паважаць іх лягчэй, чым зблізіцца і палюбіць. І менш рызыкоўна. Толькі глыбока самотны чалавек можа напісаць «Былога донжуана». Толькі ў вельмі самотнага іншага чалавека можа пачацца нервовы крызіс пры чытанні таго ж «Былога донжуана». Не ад таго, што Стральцоў экстрасэнс, які вандруе праз час і прастору і напісаў для яго гэты твор. А ад прасцейшага шоку: нехта разумее. Нехта іншы быў самотны. І тады ты менш самотны, ты не адзіны дзіўны радок, які не рыфмуецца, у кнізе санетаў. «Я кнігу маю». Я кнігу маю, і яе напісаў чалавек, які ведаў самоту. Я сімфонію маю, я карціну маю, я тэарэму маю, я скульптуру маю, я думку маю, я слова маю, я сэрца маю, я сябе маю. Сябе і свой мімалётны свет. А самота вечная.

Дзіўныя людзі заўжды самотныя. Іх не любяць у школе. Іх мала хто любіць. Паважаць іх лягчэй, чым зблізіцца і палюбіць. І менш рызыкоўна

# Косці. Камяні. Карані

А лета, такое лецейка. А сонейка такое злоснае. Але ж толькі днём. А ноччу я. Хочаш, я буду тваім сонейкам. Хочаш, я буду тваім цёпленькім. Каб ты на мяне не глядзеў нават. Каб не асляпіць сабе вочы. Не трапіць у цемень вечнай ночы, дзе ўсе з цябе няхай рагочуць. Як пісаў нейкі класік. Той самы, які сваёй спінай закрывае балет, оперу і фантанчык вышынёй у самае высокае мастацтва.

Не люблю фантаны. Пырскі-пырскі. Быццам злосны бацюшка спрабуе ахрысціць усіх жадаючых і нежадаючых. Быццам вада вырашыла зліцца з небам у пацалунку. Быццам зямля ашалела і з вуснаў яе пырскае пена.

Лепш ціхі палёт над могілкамі. На жаль, там няма Багдановіча, але ёсць іншыя. Лабірынт каранёў беларускай літаратуры. Лабірынт з маўклівых камянёў слоў.

На востраве Пасхі стаяць вялізныя цурбаны. Даўно стаяць. Глядзяць удалечыню. У далягляд. У будучыню. Хто іх паставіў? Навошта? Ты не ведаеш, мой двухногі бяскрылы, мой грамадска-сацыяльны, мой дэпрэсіўна-аптымістычны сябар. Але ты сам пакідаеш за сабой цурбан за цурбаном, камень за каменем. Не насіць жа іх у кішэні. Не хаваць жа іх на сэрцы. Не кідаць іх у грэшных жанчын, бо толькі той, хто без граху, можа кідаць камень. Таму і ляжаць камяні, напэўна.

Вайсковыя могілкі. Усходнія могілкі. Кальварыйскія могілкі. Чыжоўскія могілкі. Сляпянскія могілкі. Яўрэйскія могілкі. Брацкія могілкі. Лютэранскія могілкі.

Косці і камяні — гэта вашы карані. Мае зялёныя лісцейкі ад дрэва з каменным коранем. Як жа вы жывяце, як вы сілай наліваецеся, сілы набіраецеся? Вакол косці і камяні, камяні і косці. **Касц**ёл. **Камен**тар. **Каст**усь. **Камен**дант.

А я лячу, бо мяне не трымае зямля. У мяне ні спакою, ні хаты. Не турбуюць мяне Курапаты.

Горад стаіць на костках каменнай гісторыі. Смерць у кожным камені. Пад кожнай нагой. Ты святкуеш сваё нараджэнне, заходзіш у гандлёвы цэнтр, а пад нагамі сотні чужых шкілетаў, не ўратаваных ніякімі камянямі, струхнелымі каранямі.

На востраве Пасхі стаяць вялізныя цурбаны. А твой горад на костках каменнай гісторыі. А я лячу, бо мяне не трымае зямля. Косці і камяні — гэта вашы карані. Мае зялёныя лісцейкі… А чаму ж вы зялёныя? Зеляніне не стаць часткай гісторыі. Высахне. Ападзе. Змяшаецца з брудам. Згніе. Лепш адразу быць каменным. Каменным, як бюст Леніну, як цурбан з вострава Пасхі, як сэрцы людзей, якія бульдозерамі жруць косткі разам з зямлёй, разам са сваім каменным карэннем. Выцягваюць гісторыю з сутарэнняў і ставяць на яе месца новую, прыгожую, з выгодамі.

Вайсковыя, Усходнія, Кальварыйскія, Чыжоўскія, Сляпянскія, Яўрэйскія, Лютэранскія. Чые бацькі ляжалі сёння пад тваімі нагамі? Ці ты не ведаеш? Табе патрэбны словы на каменні. А маеш толькі чорную дарогу без слоў. З-пад якой не далятаюць каменныя стогны гісторыі, карэнныя спевы мінулага. Збітага тваімі і не тваімі абцасамі і не абцасамі.

А мяне не трымае зямля. У мяне ні абцасаў, ні хаты. Усходнія, Кальварыйскія, Яўрэйскія. Адны знаходзяцца ў горадзе, а на другіх — горад. Што ж вы, мае зялёненькія? Ах, лета-лецейка. Сонца злоснае. Свеціць у вочы Багдановічу, а той і кроку зрабіць не можа. А фантан блізка. За спінай. За спінай каменнай. Льецца і смяецца. Кроплямі па каменьчыках. Вада камень точыць. Точыць і точыць. Вось вы і зялёненькія, мае лісцейкі.



**Дзмітрый Шулюк**

# Без варыянтаў

У гурта «Король и шут» ёсць дзве тэматычна блізкія песні, дзе лірычны герой змагаецца супраць прыродных з'яў. Пры гэтым у першай ён «смельчак», бо спрабуе супакоіць вецер. У другой — «дурак», бо спрабуе злавіць маланку. Чаму так? Адказ — у фінальным куплеце. Адказ — у тым выніку, да якога прыводзяць такія нестандартныя паводзіны. Хтосьці перамагае — і таму ён герой, а хтосьці не — ён дурань.

Калі Бог стварыў свет, то ён жа стварыў і зло? Пытанне, якое стагоддзямі агучваюць навукоўцы і падлеткі, флегматычныя героі і рамантычныя злодзеі. Пытанне, якое абапіраецца на веру ў чорнае і белае. Упэўненасць у сваёй праўдзе. Праўдзе, заснаванай на пустым месцы. Дзе нічога няма, толькі кожны глядзіць на гэта месца і спрабуе знайсці, што тут павінна быць. Знайсці арыенціры. Не туман пошукаў і сумневаў, а абавязак, закон, догму. Я — белы. Я — чысты. Я — свой. Вы ўсе чужыя, бо не такія, як я. Гісторыю пішуць пераможцы. Я — перамог. Я пішу гісторыю. А вы меншасць, вы ворагі.

> Хтосьці перамагае — і таму ён герой, а хтосьці не — ён дурань

Так званая меншасць разумее, што перамагчы цяжка, што іх загналі ў кут, што іх ненавідзяць і не разумеюць. Не жадаюць нават разумець. Меншасць ведае, што ёй прыйдзецца шмат цярпець, бо яны стаяць на баку праўды. На баку справядлівасці. На баку свабоды, роўнасці і братэрства. Яны выступаюць за свет, у якім не будзе зла. Бо не будзе большасці.

Гэта фанатызм. І ён ва ўсім. Няма пунктаў погляду, няма меркаванняў, нічога няма. Ёсць толькі адзін бок Зямлі, астатняе — ерась. У нашым/вашым свеце няма месца для пытанняў, бо адкуль могуць узяцца пытанні там, дзе першапачатковы адказ.

Мне было каля васямнаццаці, і я сумняваўся ва ўсім. Я бачыў, як мне здавалася, адзін тыя неадпаведнасці, якія не бянтэжаць дарослых людзей. Я таксама спрабаваў разабрацца, адкуль прыйшло зло, ці злы чалавек першапачаткова, у чым сэнс жыцця. Мяне здзіўляла, што людзі помняць выбарачна. Адны падзеі са свайго і не свайго мінулага яны робяць культам, а другія нават не згадваюць. А трэба было б згадаць, бо тое, што памылкі былі, прымушае задумацца, ці не памыляемся мы зараз. Я не ведаў, куды ісці па адказ. Я пайшоў у касцёл. Да споведзі. Але замест таго, каб пералічыць грахі, спытаў: «У гісторыі царквы столькі крыві, столькі бруду, столькі смецця, чаму я павінен вам верыць сёння?» Ксёндз адказаў, што ніхто мяне не прымушае, калі я не хачу, то магу не прыходзіць. Адказаў. Але не даў адказу.

Адзін з альбомаў гурта «Король и шут» называецца «Герои и злодеи», ды няма ў тых песнях ні першых ні другіх. Па сутнасці ў гэтым і была ідэя. Сказаць, што ёсць матывы, што яны кіруюць людзьмі. А чыстых герояў, як і чыстых злодзеяў, не існуе.

Мяне заўжды непакоілі нямецкія здраднікі. Я глядзеў фільмы разам з бацькамі, дзе на бок «добрага» персанажа раптам пераходзіў хтосьці «злы». Тата і маці падтрымлівалі такія дзеянні. Казалі, што гэты чалавек аказаўся не такім і дрэнным. А я не мог зразумець, што ў такім выпадку «дрэнна». Калі чалавек раптам кідае ўсё, што меў: свае каштоўнасці, погляды, меркаванні… Гэта

добра. Гэта добра, бо ён стаў на бок пераможцы. То бок, таго, каго выбраў аўтар твора. Альбо таго, хто напісаў гісторыю. Альбо таго, хто бліжэй па нацыянальнасці да чытача/гледача. Калі мы чытаем пра Рычарда Львінае Сэрца, то мы ўсімі сіламі на баку рыцараў. Калі мы чытаем «Меч князя Вячкі», то мы ўсімі сіламі супраць рыцараў. Нагадвае дзіцячы ранішнік, дзе ёсць добры Дзед Мароз і нядобрая Баба Яга. Ніякіх адценняў. Ніякіх матываў. Нічога.

«Король и шут» застаўся для мяне ў мінулым. У мяне сфарміраваўся пэўны густ. А паняцце «густ» выключае большасць рэчаў і часам нараджае снабізм. Людзі імкнуцца прадэманстраваць, што яны валодаюць глыбокімі ведамі пра тое, што папса, а што — не. Пра тое, што пэўныя рэчы толькі для дзяцей і падлеткаў. Крыкнуць гэта моцна-моцна. Кожнаму дзіцяці і падлетку, якія толькі з гэтага матэрыялу і могуць пачаць рух у царства мастацтва. Бестселеры — гэта неабавязкова дрэнна. Мастацтва не павінна быць элітарным. Але ёсць. Ёсць людзі ўпэўненыя, што яны чытаюць тое, што ўсе, а астатнія проста задзіраюць насы. А тыя, што задзіраюць насы, ўпэўненыя, што астатнія не маюць права называцца слухачамі, гледачамі, чытачамі. Ніякіх адценняў. Ніякіх матываў. Нічога.

Важным пытаннем, важнай тэмай, важнай часткай свету для мяне з'яўляецца самагубства. Магчыма, я напішу яшчэ тэкст на гэтую тэму, але няправільным было б не згадаць людзей, якія кіруюць сваім жыццём да канца, тут. Так, я сапраўды назваў іх «людзьмі, якія кіруюць сваім жыццём да канца». А чаму не? А як? Людзьмі, якія не вытрымалі ўдары лёсу? Уцекачамі ад сапраўднага жыцця? Нэндзамі? Румзамі? Баязліўцамі? Слабакамі? Справа ў тым, што я не ведаю, чаму яны гэта робяць. Але гэта іх жыццё. Не трэба забіраць яго сабе. Хопіць! Вам і так хопіць! Скнары! Праглоты! Злодзеі! Вы злодзеі. Усе тыя, хто чорнай фарбай размалёўвае сусвет вакол сябе. Ёсць толькі вы, і нічога акрамя вас. Ёсць толькі ваша праўда, ваша дабро, ваша святло і цяпло. А астатняе — чужое. Спаліць! Знішчыць! Вырваць з коранем! Я хачу засмуціць вас. Бо вас няма таксама. Вы адгалосак рэха натоўпу. Бязмозгай жывёліны, якая не жадае думаць, бо навошта. Навошта думаць, калі ўсё выдумана да нас? Навошта думаць? Мы жывём, каб пакінуць пасля сябе патомства. Гэта ж усе ведаюць. Жанчыне толькі сукенкі і цукеркі патрэбны. Хто ж будзе спрачацца? Мужчына толькі палавым органам думае: куды той павядзе, туды і мужык пацягнецца. На тое ён і мужык, каб ісці за сваімі інстыктамі. Каб грошы зараблялі, каб выглядаць моцным і біць-біць-біць. На тое яна і жонка, каб сядзець дома і нараджаць дзяцей у перапынках паміж гатаваннем ежы і прыбіраннем свайго твару і кватэры. Вы ж ведаеце, што цяпер моладзь не такая, а ніякая. Што зараз дзеці не чытаюць, а сядзяць у сваіх камп'ютарах. Што анімэ горшае за савецкія мульцікі, бо нічаму не вучыць. Што цяжкую музыку слухаюць толькі наркаманы. Што татуіроўка — гэта раз і на ўсё жыццё: «Як ты будзеш выглядаць у старасці?» Што армія робіць з хлопца мужчыну. Што не падмажаш — не паедзеш. Што жанчыне інтэлект не патрэбны. Вы ўсё гэта ведаеце. У вас няма пытанняў. Вы ведаеце, што калі чалавек размаўляе на беларускай, з ім штосьці не тое. Абавязкова не тое. Хутчэй за ўсё ён нейкі правакатар ці апазіцыянер. Вы ведаеце, што любое дзяржаўнае выданне ў першую чаргу «дзяржаўнае», а толькі пасля «выданне». Вы ведаеце, што людзі дзеляцца на праваслаўных і атэістаў. Вы ведаеце, што вучоныя лічаць, быццам чалавек паходзіць ад малпы, але ж малпы не ператвараюцца ў людзей зараз. Вы ведаеце, што я пішу гэтыя радкі ў пустэчу. Бо вы не ўмееце чытаць. Не ўмееце думаць. Вы не існуеце. Вы нават не існуеце. Без варыянтаў.

Я не ведаю, чаму ўсё так адбываецца. Я нічога не ведаю.

*«Король и шут» — гурт майго і не толькі майго юнацтва. Песні на тэксты, збольшага напісаныя Андрэем Князевым, запаміналіся амаль з першага разу. Лёгкія, простыя і з сюжэтам. Незалежна ад таго, падабаецца каму гэты гурт цяпер ці не, ёсць рэчы, якія не выкінуць са сваёй гісторыі. Яны частка твайго сусвету, неабсяжнага ў сваёй рознакаляровасці.*

**Святлана Воцінава**

# Паводле Пімена Панчанкі

*Экскурсія па музеі паэта,*
*пададзеная праз развагі і ў суправаджэнні вершаў*

Усёведка вікіпедыя (не будзем пісаць яе з прапіснай літары, добра?) на старонцы пра Пімена Панчанку ўмудрылася не напісаць, што ён быў галоўным рэдактарам часопіса «Маладосць». Трэба было згадаць гэта хаця б у тых трох радочках, у якія дзіўным чынам уціснуліся згадкі пра яго працу ў часопісе «Вожык», газеце «Літаратура і мастацтва» і альманаху «Советская Отчизна» — будучым часопісе «Нёман», але не згадалі. У сённяшнім свеце, калі браць яго такім, які ён ёсць для большасці, гэта азначае, што Пімен Панчанка да «Маладосці» дачынення не мае, і калі калегі-выданні, згаданыя «вікай», прэтэндуюць на асаблівае адзначэнне 100-годдзя народнага паэта Беларусі — як былога свайго рэдактара, то «Маладосць» можа гэтым не пераймацца.

Тое самае магла б не рабіць сярэдняя школа №199 Фрунзенскага раёна горада Мінска. Дарма што размешчана па адрасе: «Вуліца Панчанкі, дом 32». Але з павагі да творцы школа зладзіла на трэцім паверсе музей, які з цягам часу заслужыў сабе званне «народны».

Гэта гісторыя пра тое, што няма ў свеце нічога мацнейшага за асабістую ініцыятыву, уласную адказнасць, высокую павагу і добрую памяць. Бо ўсё астатняе, што можна ў ім назіраць, — гэта, пагадзіцеся, толькі вынікі наяўнасці або адсутнасці пералічанага.

Дык вось, 100-годдзе народнага паэта Беларусі Пімена Панчанкі. Святкуецца ў сценах мінскай школы, якая размешчана на вуліцы яго імя і ў якой створаны яго музей (істотнае ўдакладненне — адзіны ў свеце). Святкуецца на тым узроўні, на якім традыцыйна святкуюцца юбілеі народных паэтаў — з рассылкай запрашэнняў і прэс-рэлізаў, вітальнымі словамі высокіх гасцей і эмацыйнымі выступленнямі родных і блізкіх, адноўленай экскурсійнай праграмай і замоўленым філарманічным канцэртам, здымкамі для тэлебачання і тым, што называецца шырокім асвятленнем у друку, узаемным уручэннем падарункаў і ўскладаннем на магілу любімых кветак паэта. Апошняе — кранальная асаблівасць згаданага свята: замест традыцыйнага кошыка з чырвонымі гваздзікамі да 100-годдзя Пімена Панчанкі набываецца кошык з сінімі касачамі — а гэта ж таксама праява павагі і памяці.

Букет сініх касачоў стаіць у музеі ўвесь час. Месца яму побач з партрэтам — справа ад яго, на фартэпіяна, якое належала сям'і Панчанкаў. Яно шмат павандравала па кватэрах, дзе падрасталі ўнукі і праўнукі паэта, і мае з той пары на чорным тле процьму белявых драпінак. Вобразна



Пімен Панчанка ў 1973 годзе.

сказаўшы: «Шнары часу», не забывайма, што прыбіранне іх нагадвае злачынства. Іх, як і круглыя сляды на выступе кніжнай шафы, якія мае звычку пакідаць на лакіраванай паверхні кубак з гарачай гарбатай, наўмысна тут не здымаюць, не заціраюць — яны пакінуты як сведчанні жывога побыту вялікага чалавека. Галіна Філіпёнак, дырэктар школы, паказвае такія адметнасці экспанатаў музея з гонарам, а не шкадаваннем. Пра кніжныя шафы распавядае асобна. Вось як трапіла да іх, напрыклад, апошняя, трэцяя.

— Яна стаяла ў рэдакцыі «Роднага слова», і калі Міхась Шавыркін, рэдактар часопіса і зяць Пімена Панчанкі, адтуль сыходзіў, ён падказаў супрацоўнікам, дзе гэтая шафа можа дакладна спатрэбіцца. Супрацоўнікі ласкава перадалі яе нам, і ў нас, такім чынам, была завершана інтэр'ерная кампазіцыя. Тое, што ўсе тры шафы паходзяць з кватэры Панчанкі, даказваюць фотаздымкі, на якіх Пімен Емяльянавіч зняты асобна або з унучкамі. Усе кнігі, якімі запоўнены шафы, — мемуары, энцыклапедыі, зборы твораў, асобныя томікі — належалі яму, гэты факт таксама пацвярджаецца фотаздымкамі.

**З дзённіка «Маладосці»**

*2012 год. 17 ліпеня, аўторак*

Прыходзіў Міхась Мікалаевіч Шавыркін, былы зяць Пімена Панчанкі. Папрасілі яго расказаць пра другога па ліку галоўнага рэдактара «Маладосці» што-небудзь вясёлае. Не расчараваліся!

— Памятаю, як запрасілі нас з Таццянай, дачкой Пімена Емяльянавіча, у кватэру на Пуліхава, 29, на сустрэчу за святочным сталом з нагоды рэгістрацыі нашага шлюбу. Я, вядома, саромеўся. Я ведаў яго творы, мне было пра што з ім гаварыць, але за тым сталом я маўчаў. Што ж я буду гаварыць у такіх абставінах? Ну, чокнуліся, выпілі. Зоя Кірылаўна гаворыць: «Закусвайце. Сала смачнае, вэнджанае, з Камароўкі». А Таццяна ў адказ: «Ён сала не есць». І тут я адчуў, што «папаўся»: ці то плечы Пімена Емяльянавіча падняліся, ці то галава у іх уцягнулася, а вочы глядзяць на мяне, як пражэктары: «Ён сала не есць». Тады Зоя Кірылаўна кажа: «Дык вы сялёдачку вазьміце». А Таццяна зноў: «Ён сялёдкі не есць». Плечы Пімена Емяльянавіча адразу апускаюцца і ён кажа: «Тут нешта ёсць. Давай за гэта і вып'ем». Вось так пры нашай першай сямейнай сустрэчы паміж першай і другой мы нават не закусілі.

Наўмысна ці выпадкова, але школьныя музейшчыкі (відаць, хутка з'явіцца такі тэрмін) выкарысталі вельмі цікавы прыём, які стварае тры эфекты адразу — пераходу выявы ў рэальнасць, ператварэння 2D у 3D і пераносу ў часе: глядзіш на здымак Пімена Панчанкі, зроблены на фоне шафы з кнігамі, пераводзіш позірк на тыя самыя кнігі ў той самай шафе, якая стаіць тут жа, побач, — і падаецца, што паэт на хвілінку адышоў.

— Калі ўзнікла патрэба вызначыць, што рабіць з фотаздымкамі, прамільгвалі думкі перанесці іх на пластык, празрыстую стужку, выкарыстаць нейкія іншыя сучасныя матэрыялы. Але рашэнне прынялі такое: калі ўжо пакідаем шафы і іншыя прадметы сапраўднымі, з налётам часу, калі ствараем дамашнюю абстаноўку, то і фотаздымкі трэба захаваць арыгінальнымі і размясціць адпаведным чынам — аформіўшы з іх пано, як гэта рабілі раней.

Размова, якая адбываецца сярод экспанатаў фармату «адзін аднаго цікавей», не можа быць плаўнай і паслядоўнай. Такую ж «праблему» мае і гэты аповед: кранеш адно — усплыве другое, што называецца. Перш чым напісаць пра «збажыновы фон», які маюць пано з арыгінальнымі фотаздымкамі, і яго «пераклічку» са снапом каласоў і іншым «жытнёвым» у інтэр'еры (як часткай відавочнай канцэпцыі), трэба сказаць, што ў гэтым музеі, хоць ён і школьны, усё арганізавана прафесійна — «як у музеі». Каб быць упэўненымі ў тым, што ўсё зроблена правільна і патрэбная дакументацыя аформлена і вядзецца як трэба, былі

Асабістыя рэчы паэта.



Сярод іншых экспанатаў асабліва цікавыя — пішучая машынка і куфэрак для лекаў.

запрошаны спецыялісты з Міністэрства культуры і Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў. Іх візіты пацвердзілі правільнасць усіх дзеянняў і рашэнняў. У тым ліку і датычных пытання зберажэння экспанатаў. Ці мала хто, ствараючы ў школе музей, наіўна размяшчае іх «пад сонейкам»? Але не ў дадзеным выпадку. Задаю дырэктару школы пытанне пра ўмовы захавання — і чую ў адказ, што вокны ў музейным памяшканні аснашчаны таніраваным шклом, паверх яго размешчаны роль-шторы, таксама сонцаахоўныя, і толькі потым тое, што наведвальнікі бачаць як прыгожыя, у колер жытнёвага поля, парцьеры.

Але гаворка пра засцярогу на вокнах пайшла не ад пытання захавання фотаздымкаў — ад зусім іншай тэмы. На пісьмовым стале (на якім размешча-

на ўсё тое і так, як у Пімена Емяльянавіча, са слоў яго жонкі) стаіць сярод іншых прадметаў пішучая машынка «Эрыка» — падарунак родных, зроблены музею да 95-годдзя паэта.

— Спецыяльны карэспандэнт Белтэлерадыёкампаніі, асвятляючы наша папярэдняе юбілейнае мерапрыемства і ўбачыўшы гэты падарунак, выказала меркаванне, што яе клавіш краналіся пальцы знакамітага паэта. Але з экскурсійных матэрыялаў і з той інфармацыі, якую давялося прачытаць, я зразумела, што Пімен Емяльянавіч сам не друкаваў, гэтым займалася, ператвараючы рукапісы ў друкаваныя старонкі, яго жонка, Зоя Кірылаўна. Таму правільней сказаць, што клавіш «Эрыкі» краналіся не яго, а яе пальцы. Школьнікі здзіўляюцца, гледзячы на гэты механізм, бо клавіятуру яны пазнаюць, а іншае для іх галаваломка, — гаворыць Галіна Філіпёнак і ўдакладняе, што машынка дагэтуль выдатна працуе.

На гэтыя яе словы раптам узнікае гарэзлівая думка і тут жа агучваецца:

— А ці не хацелася вам стварыць вакол гэтай машынкі легенду ці зладзіць квэст: маўляў, калі ўпотай залезці ў музей і надрукаваць на ёй сваю мару, то мара здзейсніцца дзівосным чынам?..

Прыкусваю язык.

— Ведаеце, — гэтак жа гарэзліва адказвае Галіна Аркадзьеўна, — не хочацца дзяцей правакаваць…

— Бо залезуць?

— І надрукуюць!

— І здзейсніцца!

Мы смяёмся, быццам самі ўжо залезлі і нешта надрукавалі. А потым Галіна Аркадзьеўна расказвае, чаму насамрэч трапіць сюды потайкі немагчыма, і не толькі з калідора, але і з вуліцы, — апісвае згаданую ўжо засцярогу на вокнах. Але вучням і не трэба «залазіць» сюды такім чынам. Бо адны з іх прыходзяць сюды рэгулярна як на самую сапраўдную працу: некалькі ўзроставых груп з'яўляецца тут экскурсаводамі. Іншыя, безумоўна, бываюць у музеі як наведвальнікі.




Кніга з дарчым надпісам ад сябра Максіма Танка.

Святлана Воцінава. Паводле Пімена Панчанкі

Мяркую, што ўрокі па творчасці Пімена Панчанкі праходзяць не ў класах, а ў гэтых сценах, дзе столькі зборнікаў паэзіі разгорнуты на самых патрэбных старонках — не трэба шукаць, не трэба вучыць і, хвалюючыся, збівацца: чытай і дэкламуй натхнёна. Напрыклад, вось гэта:

Той дзень прапаў і страчаны навекі,
Калі ты не зрабіў таго, што мог;
Калі не паспрыяў ты чалавеку,
Няшчыры быў, зманіў, не дапамог.

Той дзень збяднеў, зліняў на сотню радуг
І, попелам пасыпаны, сканаў,
Калі не падзяліў з суседам радасць
І больш за дзень узяў ты, чым аддаў.

Той дзень, лічы, завянуў пустацветам,
Калі ты пяць хвілін пашкадаваў,
Каб дзецям паказаць куточак свету
І хараство людзей, і дрэў, і траў.

Той дзень зусім закрэслены табою,
Калі ты раўнадушна абмінуў
Бяду чужую, пабаяўся болю,
Абразу хама моўчкі праглынуў...

Пазней старэць пачнеш самотна ў хаце
І будзеш скаргі гнеўна кідаць нам.
Не мы, жыццё табе даўгі заплаціць
За раўнадушша.
Вінаваты сам.

Мы не плюём на дружбу і на працу:
Нам без трывог не зберагчы жыцця.
Сябры, давайце будзем хвалявацца
За ўсіх і ўсё: за зерне, і дзіця...

Я не святы, хоць і не скнапны злыдзень.
Даруйце, калі часам быў глухі
Ці чалавека грубасцю пакрыўдзіў...
Грахі мае, бясконцыя грахі.

— А фон збажыновы на фотапано нездарма, ён як частка ідэі, — працягваецца расповед, ад якога я адвяла чытача — ненадоўга і ненаўмысна, а толькі таму, што не ўкладаецца жывая размова ў роўныя радкі ў межах плоскіх старонак. — «Калі за летам не ўбачу жыта, зраблюся хворым», — пісаў паэт. Экскурсія па нашым музеі завяршаецца звычайна ў месцы, дзе размешчаны тэкст верша «Жытнёвы звон». Калі вучні-экскурсаводы яго прамаўляюць, у тых, хто іх слухае, на вачах з'яўляюцца слёзы.

Жытнёвую тэму падтрымлівае высокі сноп у цэнтры кабінета-музея. Жнівень — месяц нараджэння паэта, дык ці магло быць іначай?..

...Пішу гэтыя радкі ў вёсцы. Выходжу за ваколіцу набрацца новых спосабаў іх «спляцення». Паветра насычана збожжам — праз два дні жнівень. А ў галаве ўключаецца «Жытнёвы звон» — ужо як песня ў выкананні Анатоля Ярмоленкі:



Пімена Панчанка ў 1962-м, калі быў галоўным рэдактарам «Маладосці».

Калі за летам не ўбачу жыта,
Зраблюся хворым, зраблюся хворым.
За мною тое, што пражыта,
Стаіць з дакорам, стаіць з дакорам.

Дубоў вялікасць, бярозаў светласць
У зялёным дыме, у зялёным дыме.
І свет адметны, і час прыкметны
Мы – маладыя, мы – маладыя.

А што засела ў сэрцы кволым
З часоў дзяцінства, з часоў дзяцінства?
А тая песня і матчын голас
У полі чыстым, у полі чыстым!

Такі любімы, як вочы маці,
Як сонца ў росах, як сонца ў росах,
Яго за век ты не растраціш
Той звон калоссяў, той звон калоссяў.

Як позірк маці, такі ласкавы,
Да смерці родны, да смерці родны.
На радасць шчодры, на шчасце шчодры
Ён несмяротны, ён несмяротны.

Калі за летам не ўбачу жыта,
Зраблюся хворым, зраблюся хворым.
За мною тое, што пражыта
Стаіць з дакорам, стаіць з дакорам.




Пано з сямейнымі фотаздымкамі.

За тры апошнія гады музей налічыў пяць тысяч наведванняў. Прыязджаюць сюды не толькі вучні з іншых школ і не толькі выхаванцы ўстаноў пазашкольнай адукацыі Беларусі, але і замежныя дзіцячыя і моладзевыя дэлегацыі. Асаблівыя стасункі склаліся ў музея з Эстоніяй, у прыватнасці, з горадам Маарду. Тамтэйшыя школьнікі і гімназісты наведваюцца ў Мінск на вуліцу Панчанкі, 32 па некалькі разоў у год. Такому сяброўству спрыяе пагадненне ўпраўлення адукацыі, спорту і турызму адміністрацыі Фрунзенскага раёна горада Мінска з гарупраўай Маарду і яго дэпутатам Эрыкай Цыганік, якая ўзначальвае кірунак дзейнасці ў галіне адукацыі.

– Эрыка Цыганік – дэпутат, старшыня камісіі па адукацыі і справах моладзі гарадскога сходу горада Маарду з задавальненнем суправаджае экскурсіі да нас, — кажа дырэктар школы. — Эстонскія дзеці, якія праводзяць свае канікулы ў беларускім лагеры адпачынку, перад тым як пакінуць нашу краіну, абавязкова наведваюць нашу школу і наш музей — гэта ўжо традыцыя.

Чаму эстонцы цікавяцца Панчанкам? Бо ён нарадзіўся ў іх сталіцы Таліне, які меў тады назву Рэвель. Бацькі-сяляне трапілі туды, вандруючы па свеце ў пошуку лепшага месца і лепшай долі.

— Калі дзеці на экскурсіі расказваюць пра гэта эстонцам, тыя бяруцца ў бокі: таксама, маўляў, прэтэндуем, — з усмешкай прамаўляе Галіна Аркадзьеўна.

І паказвае Кнігу для запісаў ганаровых гасцей: вось водгукі дырэктара Маардускай асноўнай школы (аналаг нашай дзевяцігодкі) Марыям Раннак і дарадчыка мэра горада Маарду па міжнародных справах Эліны Лецючай. На некалькі старонак далей — водгук Надзвычайнага і Паўнамоцнага пасла Рэспублікі Казахстан у Рэспубліцы Беларусь Ергалі Булегенава, які наведаў выязную экспазіцыю музея на адным з музейных форумаў. Тут можна адшукаць і водгукі іспанскіх гасцей, якія прыязджалі ў сярэднюю школу № 199 Мінска на выбарчы ўчастак — сачыць за ходам галасавання.

Назіраецца парадаксальная з'ява: нягледзячы на тое, што музей размешчаны ў школе (і мог бы з гэтай прычыны мець адпаведную «збітую» славу, называючыся шаблонна «школьны музей»), ён валодае больш чым тысячай экспанатаў, мае тысячы ўдзячных наведвальнікаў і, як бачым, вядомасць у свеце. Маркетынгавая стратэгія? Безумоўна. Але і навука. Школа бярэ актыўны ўдзел у рэспубліканскіх і міжнародных мерапрыемствах, прысвечаных дзейнасці музеяў. Апошняе з іх — III Нацыянальны форум «Музеі Беларусі» — прайшло летась у Магілёве. Для ўдзелу ў такіх мерапрыемствах школа набыла спецыяльныя кубы для экспанатаў — каб і транспарціраваць іх без

пашкоджанняў, і дэманстраваць годна. Абавязкова вандруе, да прыкладу, пішучая машынка і саламяны куфэрак для лекаў, які ў вольны ад выязных экспазіцый час стаіць на пісьмовым стале, як было прынята і ў паэта. Цудоўная, я скажу, рэч: ідэя — незвычайная, прадмет — выключнай прыгажосці, а ўражанне пакідае такое, што хочацца неадкладна завесці сабе нешта падобнае. У гэтым і сакрэт сілы ўздзеяння сапраўднага музейнага экспаната: ён не толькі розум сілкуе, але і абуджае эмоцыі, і пабуджае да дзеяння.

Юнымі і дарослымі — адно аднаму калегамі, вучнямі і іх кіраўнікамі-настаўнікамі — ажыццяўляецца не толькі экскурсійная, але і навуковая дзейнасць. Працу экскурсаводаў курыруе кіраўнік музея Таццяна Іванаўна Кудрэвіч, а навуковую дзейнасць — настаўнік беларускай мовы і літаратуры Таццяна Уладзіміраўна Курашэвіч, якая займаецца гэтым ад самага пачатку, дня стварэння музея. Стаяла, як кажуць, ля самых вытокаў разам з Янінай Іванаўнай Плашчынскай, заснавальніцай.

Гэтыя старонкі сапраўды маглі б застацца ненапісанымі, калі б не збег маленькіх акалічнасцей для ўвасаблення вялікіх задум: настаўніца Яніна Іванаўна, сябруючы з Зояй Кірылаўнай, жонкай Пімена Панчанкі, прыйшла працаваць у школу, якая стаіць на вуліцы Панчанкі. Для стварэння музея паэта ўмова небясспрэчная, але чытач павінен памятаць, што гэта гісторыя пра тое, што мае ў свеце найвялікшую моц. Ініцыятыва Яніны Іванаўны Плашчынскай знайшла падтрымку ў Сяргея Пятровіча Стрэнкоўскага, самага першага дырэктара школы, цяперашняга першага прарэктара Мінскага гарадскога інстытута развіцця адукацыі. Адказнасць супрацоўнікаў школы перад роднымі Пімена Панчанкі, якія перадалі ім асабістыя рэчы свайго мужа, бацькі і дзеда, іх трапяткое стаўленне, павага да памяці нараджаюць вялікі давер: цяпер кожны год на дзень нараджэння паэта яго сям'я абавязкова наведвае школу і стараецца перадаць на захоўванне ў якасці экспаната нешта яшчэ з таго, што памятае народнага паэта. А школьныя даследчыкі дзеляцца сваімі здабыткамі — вынікамі працы, якія выклікаюць заслужаную павагу і захапленне, а часам здзіўленне: «Вы ведаеце пра нашага роднага чалавека ўжо нават больш, чым мы». Памяць пра Пімена Панчанку захоўваецца настаўнікамі і вучнямі з 2003 года. З той пары ў школе працуе чацвёрты па ліку дырэктар. Як і два папярэднія, што працавалі тут пасля Сяргея Пятровіча Стрэнкоўскага, так і Галіна Аркадзьеўна Філіпёнак імкнецца падтрымліваць дух музея і захоўваць яго традыцыі.

— Пазнаёміўшыся з творчасцю Пімена Панчанкі бліжэй, я па-новаму зразумела яе глыбокі філасофскі сэнс і проста яго палюбіла, — прызнаецца мая суразмоўца, павярнуўшыся да партрэта. — Музейная праца выклікае вялікую радасць, нягледзячы на тое, што патрабуюцца для гэтага дадатковыя грошы. Шмат што зроблена тут за сродкі апякунскага савета і проста рукамі бацькоў. Не за грошы бацькоў, а рукамі бацькоў. Гэта таксама важна. Вось гэтая кафля на падлозе старанна імі выкладвалася, і штукатурка на сценах — таксама. Звароты па такую дапамогу мы тлумачым простымі словамі: усё, што акружае асабістыя рэчы паэта, павінна быць вартым таго, каму яны належалі.

Асабістыя рэчы паэта. Бела-блакітны кубак са сподачкам, акуляры і брытва, алоўкі, ручкі і нататнікі з запісамі, зробленымі яго рукой, фотаапарат, сувеніры з вандровак і ключыкі ад чамаданаў, гальштукі-стужкі з арнаментам, шэры пінжак... У адной вітрыне захоўваецца запэцканы чарніламі піянерскі гальштук, побач — разгорнута кніжачка з вершам пра яго. Кранальную гісторыю пра тое, як расчуленая дзяўчынка на сустрэчы з паэтам у Бухары падбегла да яго і аддала яму свой гальштук, расказваецца тут заўсёды з асаблівым уздымам і выклікае асаблівы настрой. Напэўна, не толькі настрой, але і ўспаміны — у кожнага свае. Слухаючы Галіну Філіпёнак, я ўспомніла Дзень пісьменства ў Шчучыне ў 2015 годзе, гала-канцэрт конкурса юных чытальнікаў «Жывая класіка» і чатырнаццацігадовую вучаніцу Круцілавіцкай базавай школы Дзятлаўскага раёна Веру Сёмуху, якая, бы сапраўдная артыстка, душою і сэрцам чытала верш «Бульба». З той пары ён у мяне любімы.

Так ісці на захад, гэтак перці
За эпоху можна толькі раз.
Есці захацелася да смерці,
Ну, а повар з кухняю заграз.

Падцягнулі рамяні з тугою,
Леглі адпачыць пад сіняй хвояй,
На сухой абочыне шашы.
Рай — для ног, цыгарка — для душы...

Спрэчка пачалася нечакана:
Што смачней з усіх вядомых страў?
«Хаш і лобі! — першым крыкнуў Вано,—
Я б сем місак зараз увабраў».

«Плоў,— сказаў Ахмет.— Калісьці дома..
І пацмокаў смачна языком.
А Гурген ускочыў: «Вы знаёмы
З ерэванскім сочным шашлыком?»

Я тут узгарэўся не на жарты:
«Вашых страў я ганіць не хачу:
І яны што-кольвек, пэўна, варты,
Як хвалілі знаўцы іх — я чуў.

Сорам пра найлепшае не ведаць,—
Рынуўся я ў наступ на байцоў,—
Калі смачна хочаце паснедаць,
Закажыце бульбы з селядцом.

Печаная бульба — гэта казка,
Паскрабеш нажом — і калі ласка.
Жоўтая скарынка, як пірог,
Будзеш уплятаць яе за трох.

Трапіш да кабеціны рахманай —
Паспытаеш, друг мой дарагі,
Дранікі са свежаю смятанай,
Бабку, клёцкі, нават пірагі.

З нашай бульбы тысячу, не меней,
Смажаць і гатуюць розных страў...»
Я ўсхапіўся з месца і з натхненнем
Песню ім пра бульбу праспяваў.

Бачу: праняла мая прамова,
Зараз крыкнуць: «Дзе яна? Гарні!»
...Добра, што пад'ехаў ротны повар
На рудым запараным кані.

— Спарышы. Ён любіў наўмысна шукаць спарышы, — вяртае мяне са Шчучынскага дома культуры ў музей Галіна Аркадзьеўна, — арэхі, якія зрасліся між сабой. Лічыў, што калі знойдзе спарыш, то планы, сфарміраваныя ў гэты дзень, абавязкова рэалізуюцца, усё атрымаецца. Вось і верш пра спарышы нездарма тут.

Адгрымела ноччу навальніца,
Птушак пазванчэлі галасы,
І пяюць на сто ладоў сініцы —
Упіліся, пэўна, ад расы.

На ялінах росных зор мільярды,
Дурнап'яну гаркаваты пах.
І арэхаў наліўныя ядры
Хрумстаюць так смачна на зубах...

Ён адшастаў ценісты арэшнік,
Змок увесь, але знайшоў, знайшоў —
З думкай пра яе, зусім нягрэшнай, —
Пару запаветных спарышоў.

Хоць ніколі ў прымхі ён не верыў,
Проста для забавы ўзяў, а ўсё ж,
Калі стукнуў да яе у дзверы,
Скаланула радасная дрож.

У яе пакоі — вокны насцеж,
І сама, як раніца, была.
«На, вазьмі сабе спарыш на шчасце...»
Ціха засмяялася, ўзяла.

Узяла і тут жа раскусіла:
«Дзякую, браточак, шчасце ёсць!»
На вяселле хлопца запрасіла:
«Будзеш у мяне найлепшы госць!»

Не, не быў ён госцем на вяселлі.
Па начных дарогах, без дарог
Ён хадзіў ля пожняў і аселіц,
Боль хацеў развеяць і не мог.

А праз год яна яго спаткала
Выпадкова.
Ці то ён яе...
Ля вачэй — маршчынкі...
Шчасця мала:
Муж — гультай, бадзяецца ды п'е.

Прызнавацца сорамна і горка.
«Як тады аслепнуць я магла?
— Сумным жартам скончыла гаворку:
Шкода, што спарыш не зберагла».

Вось і ўся гісторыя...
А можа
Гэта толькі першая з дарог?
Нездарма яе так устрывожыў
Ціхі сказ хлапца: «А я збярог».

А на пісьмовым стале, каля самай машынкі — званок, адліты на ліцейным заводзе Валдая, прывезены адтуль Пїменам Емяльянавічам, ганаровым грамадзянінам гэтага горада, як падарунак. Першы і апошні званкі — для першакласнікаў і выпускнікоў школы — даюцца тут ім, выробленым па тэхналогіі 1125 года. Неверагодны ў яго гук — як у царкоўнага звана. Шкада, што дыктафон запісаў яго, а на паперы — не перадаць.

— На гэтым стэндзе — яго фота з жонкай, — працягваецца экскурсія. — Яны мелі вельмі цёплыя адносіны адно да аднаго. Гэта прасочваецца і ў вершах. Кнігі сяброў з аўтографамі. Вельмі шмат ад Максіма Танка. Яны былі сябрамі. Падарункі, якія Пімен Емяльянавіч прывозіў з вандровак, у тым ліку замежных. Вось цікавы экспанат — нос рыбы-пілы, прывезены ім з Афрыкі.

***

Напрошваецца адно пытанне: чаму сярэдняя школа № 199 не носіць імя паэта Пімена Панчанкі?

— Прыемна адзначыць, што рашэннем калегіі Міністэрства культуры літаратурнаму музею Пімена Панчанкі прысвоена званне «народны». Цяпер школе, у якой знаходзіцца народны музей, не сорамна будзе звяртацца з хадайніцтвам у Міністэрства адукацыі аб прысваенні ёй імя паэта, — адзначае Галіна Філіпёнак.

А часопіс «Маладосць», які некалі ўзначальваў Пімен Панчанка, далучаецца да шматлікіх віншаванняў на адрас музея і школы. З прысваеннем звання «народны», дарагія сябры! І ўсіх нас — з днём нараджэння паэта!

*Фота Кастуся Дробава*




Яна Нікіфарава

**нарадзілася 17 студзеня 2002 года ў Мінску. Вучыцца ў гімназіі №1 імя Ф. Скарыны. Абсалютны пераможца рэспубліканскай алімпіяды па беларускай мове і літаратуры 2016—2017 н.г. Захапляецца альтэрнатыўнай беларускай культурай, з задавальненнем наведвае канцэрты сучасных беларускамоўных рок-гуртоў. Вельмі натхняе яе беларуская гісторыя, творчасць Вольгі Гапеевай і Вальжыны Морт, а асабліва — песні Лявона Вольскага.**

## Рознакаляровасць

***

складаю сумныя вершы
пра вясёлую рэчаіснасць
рыфмую першы
радок
са станам узрушанай душы
непахіснай
здаецца сцяна вершаскладання

мару
што калісьці я зазірну за яе
і адкрыецца перад вачыма
неабсяжны прастор
вясёлай рэчаіснасці
якую так сумна
так безвыходна
апісваю я непахіснасцю
невершаваных вершаў

***

мы паволі крочым пад кроплямі,
сціскаючы парасон
гэта сон
ці мне падалося, што нехта плача
ва ўнісон
дажджу?
ты кажаш,
гэта не здані —
прадчуванне
бяды ёсць ва ўсіх.
людзі
не забівайце
дазвольце дажджу,
каб ён сціх.

***

дасягаеш абсалюту калі
сяпваеш
не задумваючыся пра чысціню нот
і яны адлятаюць у паветра
рэжучы слых выпадковым мінакам
а ты спяваеш
і спяваеш
et cetera
захапляешся жыццём
забыццё
сінонім слова «абсалют»
калі мы спяваем
не зважаючы на адсутнасць голасу
калі гартань вырваная з коранем
а ў цябе жыццё
кіпіць
і па́ра фармуе песню
ляціць у паветра
і ты жывеш
і жывеш
et cetera

## Тваё дэкадэнцтва

унутры няма надзеі
і ты адлятаеш на яе пошукі
кудысьці далёка
далёка назад
у тыя часы
калі спёка пачуццяў
яшчэ не спаліла ўнутраны сад
забіўшы ўсе кветкі
ўсе дрэвы
ўсе сэнсы

дэкадэнцтва
цяпер тваё любімае слова
а раней любімым
было слова радасць
унутраная аснова
зламалася
не пакінуўшы рэштках
не пакінуўшы месца на новы
квяцісты сад
застаўся толькі шлях
апалены
шлях назад.

***

я чакаў
а яна не прыйшла
прабач
сціплыя літары
на разраджаным экране
ўбачыў
у разраджаным сэрцы
рэхам сумнае
«ты мне не патрэбны»
мне засталося хіба памерці
накрыўшыся коўдрай
пад якой мы разам
смяяліся
мушу назаўсёды сцерці
твае ўсмешкі
з кватэрных шыбаў
і тэлефоннага дысплэя
каб
не спяшаючыся
ў скрусе загінуць
ідучы па алеі памяці
з тваіх абдымкаў.

## Безліч планет

калісьці
я думала, што восем планет
рухаюцца па арбітах
выйсця
не шукаючы з кругазвароту
адвечнага
цяпер
я разумею
што планет значна больш
азірніся навокал
павер
і ты ў гэта
побач ходзяць людзі
і кожны з іх
планета
са сваёю фаўнай і флорай
са сваёю марай
і сваім Сонцам
што апета
акружана арбітай, па якой рухаецца
планета
на кожнай
у кожнай
выбітнае жыццё
якое дыхае трывожна
змагаючыся
за існаванне
дай сваёй планеце шанец
каб увесь
наш зямны свет
ператварыўся ў маленькую галактыку
ў якой нараджаецца
танец
сямі мільярдаў
планет-людзей.

## Маленькая смерць

прыйшла
ноч
ты чакаў яе
з нецярплівасцю дзіцяці
якому абяцалі падарунак;
апроч
зорак
ніхто не перашкодзіць
гуляць думкам у галаве стомленай
пакуль золкі
світанак не прыйдзе;
кладзешся
на ложак
і разумееш, што ён цвёрды
і халодны
не можа
яго ніхто сагрэць
для цябе;
кладзешся
і выгляд
робіш, што спіш
а насамрэч сам сабе распавядаеш казку
пра гібель
сваіх мар.

***

бывае час
калі глядзіш на яскравую рознакаляровасць
а твая ўнутраная прызма
змяняе аранжавы колер на шэры
ўраз
губляецца сэнс
і суцяшае бадай толькі тое
што пакуль ты губляеш веру
хтосьці
яе знаходзіць





Алена Ясінская

**нарадзілася 5 лістапада 1991 года ў Мінску. Скончыла Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў, атрымала спецыяльнасць «Рэжысура кіно і тэлебачання». Удзел у мерапрыемствах Арт-суполкі імя Тадэвуша Рэйтана і цікавасць да гісторыі натхнілі на стварэнне стужкі пра Рэйтанаў. Выпадкова сцэнарый ператварыўся ў гэты аповед, а кадр з кінафільма — у ілюстрацыю.**

## Апошняя з роду Рэйтанаў

*З падзякай Зміцеру Юркевічу і Наталлі Краснадубскай*

…цяпер так самотна ў нашай Грушаўцы, Юзаф. Адзінае, што ў мяне засталося, — гэта ўспаміны.



Славутае месца, знакамітая Грушаўка — сядзіба твайго роду. Час ніколі не спыняўся тут, заўжды было шмат людзей. Шмат руху. Шмат жыцця.

А цяпер нікога. І нічога, апроч голых сцен. Толькі з імі я і размаўляю тут. Ужо восем гадоў пасля тваёй смерці.

Гэтая наша апошняя прагулка — ніколі яе не забуду. Бо тады я цябе страціла.



На тым месцы ты і ляжыш, мой Юзаф, ляжыш там, дзе стаіць капліца.

…ведаеш, я памятаю ўсё.

Памятаю, як першы раз цябе ўбачыла. Была яшчэ маленькая, дзіця, птушаня, але ты так закахаўся, што адмовіўся ад шлюбу з дзяўчынай, з якой быў заручаны.

Ты чакаў, пакуль я стану дарослай.

І дачакаўся мяне.

Я вельмі цябе кахаю. Дасюль. Заўжды.

Таму ніколі не дарую сабе той дзень, калі, цяжарная, упала з каня. Такая была сонечная раніца... і такі злавесны, крывавы захад сонца ўвечары.

І тады прагучаў той страшны прысуд, што ў нас — *у мяне* — больш ніколі не будзе дзяцей.

Ты нічога не сказаў. Лепей бы забіў. Твой клопат, тваё каханне, здавалася мне, толькі павялічвалі маю віну — перад табой, перад тваім родам.

Мы — апошнія.





Успамінаю дзяўчат, якіх мы бралі на выхаванне. Як бы я хацела, каб яны ўсе былі дзеткамі з нашага роду, з крывёю Рэйтанаў.

Ці так наканавана, каб такі быў лёс у Грушаўкі, у твайго роду, Юзаф?

Апошнія.

Апошняя.

Як з гэтым мірыцца?



…ці памятаеш, як квітнела Грушаўка, калі мы былі разам? Усё так добра было наладжана, сядзіба прыносіла прыбытак. Перад вачыма грушаўскія краявіды: экзатычныя дрэвы самых розных кшталтаў, квітнеючы сад. І наша ліпавая алея.

Водар ліпавай квецені — гэта водар нашага кахання.

А вось водар нашага дому, водар дубовых дошак — ён так нагадвае пра цябе. Памятаеш, ты аднойчы захварэў, і лекар параіў перабудаваць дом: каменны будынак быў вельмі сыры для цябе. Зруйнавалі яго пад падмурак, пабудавалі новы — драўляны. Дубовы. Наш дом — на гады, на доўгія гады.

На вечнасць.

Якой не будзе.



Я часцяком бываю ў дамку Тадэвуша Рэйтана. Там дасюль — я адчуваю — жыве яго боль, боль, пражыты ім сто гадоў таму. Тадэвуш быў героем, а героям, здаецца, шчасце не бывае суджана. Спрабую зразумець яго, чытаю яго тэксты... Ведаеш, напісалі нават баладу пра яго.

Зараз разумею, наколькі Тадэвуш Рэйтан быў самотны. Такі ж самотны, як і я. Але са стрыжнем — з любоўю да Радзімы, мацнейшай за ўсіх, за ўсё.

Толькі праз некалькі гадоў пачалі прыходзіць людзі ў музей імя Тадэвуша Рэйтана, які мы з табой заснавалі. Я распавядаю, што ён быў дэпутатам сойма Рэчы Паспалітай. Тады сам Рэйтан і яшчэ некалькі аднадумцаў-ліцвінаў спрабавалі сарваць падзел Бацькаўшчыны. Спрабавалі гэта ў момант роспачы, калі стала зразумела, што лёс Радзімы — трапіць у няволю.

І Тадэвуш кінуўся да дзвярэй.

— Не сыходзьце! — крыкнуў. — Не сыходзьце, калі не жадаеце ў вечную трапіць няволю, сорам і ганьба, пабойцеся Бога! Забіце мяне, але не забівайце Радзіму!..

Самотны голас сумлення.

Спроба захаваць, выратаваць. Адчайная, апошняя.



А яшчэ тая гісторыя пра партрэт. Памятаеш, Юзаф? Вось яна вельмі падабаецца людзям, асабліва маладым.

Паказка пра тое, як Тадэвуш закахаўся, як хацеў ажаніцца, але ўбачыў у пакоі каханай партрэт Пятра Першага, ворага Айчыны, — і не змог ёй гэтага дараваць. Проста задушыў у сабе пачуцці. Так і застаўся самотным назаўсёды.

А я… я не магу, як ён. Я не магу адна, мой Юзаф, цішыня забівае.

Пасля падзелу Рэчы Паспалітай Тадэвуш стаў іншым, але яго так непакоіла разуменне, што нічога нельга змяніць. Сышоў ад людзей, стаў жыць адзін у маленькім будынку побач з вялікім домам.

Ён ні з кім не размаўляў, вельмі пакутаваў. Хварэў за лёс сваёй краіны.

Але гэта быў яго выбар.

Таямніца ахутала смерць Тадэвуша. Кажуць і будуць казаць, быццам ён проста не вытрымаў і скончыў жыццё самагубствам.

Але… вось думаю зараз, ці праўда гэта?..



…Сёння яны ўварваліся ў сядзібу. Знішчылі карціны, пабілі посуд, спалілі ўсю нашу бібліятэку, столькі кніг, столькі гісторый паглынула ненажэрнае полымя.

Яны — вар'яты, гэтыя бальшавікі. Юзаф, мой даражэнькі, яны арыштуюць і мяне. Але мне болей не страшна.

Усё роўна без цябе — не жыццё.

Існаванне. Удых. Выдых.

Успаміны.

…Забілі твайго пляменніка Генрыха Грабоўскага. Забілі! Звяры! Што ён зрабіў? Што мы зрабілі ім?!

…памятаю, як мы з ім пахавалі цябе тут. Гэта ён, Генрых, замовіў прыгожую капліцу. Такі таленавіты архітэктар, такі маладзенькі.

Кіруючыся традыцыяй, Генрых зламаў радавы герб Рэйтанаў, таму што ты быў апошнім са свайго роду.

Як і я... Апошняя.

Аліна Рэйтан, народжаная Гартынг.

Апошняя з роду Рэйтанаў.

***Ад аўтара***

*Аповед створаны на падставе гістарычных фактаў з жыцця ліцвінскага роду Рэйтанаў.*

*На працягу каля 240 гадоў гэты род жыў у Грушаўцы (вёска ў Ляхавіцкім раёне Брэсцкай вобласці). Самым вядомым яго прадстаўніком з'яўляецца Тадэвуш Рэйтан, які спрабаваў сарваць першы падзел Рэчы Паспалітай.*

*Апошнімі гаспадарамі Грушаўкі былі Аліна і Юзаф Рэйтаны.*

*Гісторыя распавядаецца ад імя Аліны Рэйтан, народжанай Гартынг.*

*Гэта расповед-зварот да яе мужа, які памёр у 1910 годзе.*

*Аліна жыве ў адзіноце ў Грушаўцы. І згадвае былое.*

***У афармленні публікацыі выкарыстаны кадры з фільма «Апошняя з роду Рэйтанаў»***



Дзмітрый Рубін



**нарадзіўся 23 лютага 1989 года ў вёсцы Сачаняты Смаргонскага раёна. Скончыў Рэчыцкі педагагічны каледж. Жыве з асобай жаночага полу (пацук Эйліф). Удумлівы. Іранічны. Амбітны. У прозе арыентуецца на ўяўную кропку паміж Лаўкрафтам, Ёнэску і Гінзбергам. У паэзіі не арыентуецца.**

## Артэрыяльнае неба

***

Часам на твары не бачу сорам
Часам на твары не бачу і твару
Хорар напэўна прыйшоў ад хору
Мара напэўна прыйшла ад Мары

Вычарпаць неба нема і лыжкай
Моўчкі давіцца бавоўнай аблокаў
Крыкі напэўна крышацца ў крыгі
Лекі напэўна стварае сам Локі

Ззяе на небе адной залатою
Сонца-пачвара прышпільнай манетай
Войны напэўна вынікі вою
Міфы напэўна забытыя мэты

Дні пралятаюць гракамі над дахам
Лямантам Яна з далёкай пустыні
Бляск пачынае сябе словам бляха
Бог гэта толькі палова багіні

***

Што хаваецца у вершы?
Сумны згорблены лясун?
Можа быць, аповед смешны
Ад русалак-прыгажунь?
Ці вясёлая вясёлка?
Ці траскучы гад-трыснёг?
Ці Іудава вяроўка?
Ці сляды мярцвячых ног?
Ці муры, як сны-кашмары?
Ці кашмары, як муры?
Ці падземныя абшары?
Суднадзённае журы
Выстаўляе мне адзнакі:
Кожны аркуш — чысты глузд.
Кожны верш пільнуе кракен,
Распалохвае ўсіх муз.
Што хаваецца у вершах,
Дзе ні сэнсу, ні глыбінь?
Аўтар іх трывала грэшны.
Ў вершах — толькі ён адзін.

***

Адзін на усіх цягнік
Адзіны на ўсіх шлях
І шчырасць адна на ўсіх
І тая ляжыць на пасля

Ходзяць адной зямлёй
Ўсіх грэе адзін Айцец
Ды кожны б сонца сваё
У свой паклаў гаманец

Асфальтам заціх пясок
Заціхла дыханне ў сцяне
Паветра адзін глыток
Ў агульнай для ўсіх труне

Хто схлусіць цвіком у лоб
Хто зробіць з асла слана
Апостал ці асталоп
Шчырасць на ўсіх адна

Ні слова *таварышч фашыст*
Ні слова *пракляты троль*
Ты трапіў у чорны ліст
Ты трапіў пятлёй пад столь

Б'ецца ў грудзёх жаўна[1]
Колеру кроў крыніц
Шчырасць на ўсіх адна
Людзі без нагавіц

***

Дома дапамагаюць сцены
Пакрытыя белай паперай
На ёй маркерам чорным
Я пісаў словы дрэнныя
Маляваў незразумелае
Рукамі няўмелымі
Быццам я праз вены верыў не
У Бога ці чорта з пер'ямі
Не ў свінняў перад перлінамі
А што я не ў целе і
Не існуе вечнай цемені
Што там за спісанымі шпалерамі
Жывуць тараканаў плямёны
Вусатых і моцных ад часу
Яны прыйшлі праз комін
Яны распыляюць стому
І толькі мой маркер чорны
Выводзячы дрэнныя словы
Іх можа пасласць к чорту
Хоць я і не верыў у чорта
На чорта
Шпалераў абвіслая скура
У зморшчынах звілінах
Па зморшчынах звілінах
Блукае сліна
У пошуках грыфаў якія расставілі міны
А раптам там цар пчаліны
Хаваецца ад царыцы
Сцены дапамагаюць
Дома
Не спіцца

***

Мы дзьмухаўцы выразалі сем'ямі
Бралі дубцы і секлі іх секлі іх
Мы ў вёсцы не чулі пра гамасекаў
Але гэта быў досыць падобны вектар
Галовы жоўтыя кроў ліпкая белая
Ні адна тварына не павінна быць цэлая
Удары ў рэбры сцябло па твары
Мы неслі праўду з аблiччам кары
Старыя пух пускалі па ветры
Мы неслі радасць з аблiччам гета

***

Лісты ўхапілі бярозу за рукі
Пачалі вырываць яе разам з коранем
Людзі сказалі
Вось гэта вецер

[1] Жаўна — назва чорнага і зялёнага дзятла.

***

Заўтра пайду да ветэрынара
Скажу ўсыпі мяне ветэрынар
Хачу быць як снег
Ляжаць белым пухам вішняў
Хачу як асфальт быць цвёрдым
І пад нагамі
Хачу быць учора
Учора было добра
Спытайце любога
Вам скажуць
Ветэрынар усыпі мяне
Я хачу спаць
Як мора
Халоднае мора
Пад лёдам і пад караблямі
Дзе пушкі матросы і адмірал
Адзін
Я хачу спаць як гліна
Пад слоем зямлі
Хто змяшае з вадой
І наробіць свістулек
Будуць дзеці
Дзевятнаццатага стагоддзя
Свісцець
На кірмашы
Усыпі мяне ветэрынар
А не можаш
Забі

***

Не магу знайсці карту на глобусе
Яна губляецца на гэтых выпукласцях
Акругласцях
Выгінах
Вяртаннях
Глобус круціцца верціцца
Жвавы
Вясёлы
Быццам калабок
Зараз спяе песеньку
Каб мы яго не з’елі
А мы скажам
Што ты там мармычаш
Мармуровы шарык
Скопішча мар і муроў
Што ты там мармычаш
Такі псеўдавясёлы і вісючы
Падыдзі бліжэй
Прашапчы на вушка
Ён не падыдзе
У яго няма ног
І ў ім нічога няма
Толькі выпукласці
Акругласці
Выгіны
Вяртанні
На якіх губляецца карта

***

*Ю.Ц.*

Паэтка не павінна пацець
Калі піша вершы
У яе нічога не павінна станавіцца цвёрдым
Мэтанакіраваным
Не павінна старонкі заліваць семя
Гэта ж паэтка
Адно разгільдзяйства
Ніякага задавальнення
Маўклівае выкананне сваёй ролі
Ляжыш церпіш
Пасля выношваеш верш
Губляеш фігуру
Сама ж так вырашыла
Гэта прырода
Потым боль
Боль
Боль
Боль
БОЛЬ
І табе пакажуць яго
Акрываўленым
Каб пасля сажраць
І яго
І цябе
І мяне



Дзмітрый Рубін

# Сіндром хранічнага невяртання

***Ад рэдактара***

*У гэтай новай падборцы — джэнтльменскім наборы — апавяданняў ад Дзмітрыя Рубіна спакushаны чытач знойдзе для сябе шмат. Драбочкі кафкіянскага пакутлівага пераварочвання, пера(с)тварэння. Можа, трошкі гамсунаўскай «галоднай» асуджанасці творцы. Можа, у Ганначкіным расповедзе пра ідэальна выпраўленага чалавека — таксама і нешта замяцінскае.*

*А па-над гэтымі постмадэрновымі росшукамі самога сябе ва ўласнай свядомасці, магчыма, знойдзеце і пытанні, адрасаваныя непасрэдна, канкрэтна, адчайна — Вам.*

## Я не спяваю

Сцены кабінета былі вельмі белыя. Вопратка ўрача таксама была белая. Занадта белая. Белы халат, белыя пальчаткі, белыя нагавіцы, белыя (нечакана) красоўкі. І голас такі чысты, светлы, прыкры.

— Мухі?

— Так.

Не разумею, чаму ён перапытаў. Ён жа ўрач. Ён не мае права з мяне здзеквацца. Ён абавязаны моўчкі дапамагаць. Ён абавязаны слухаць кожнае маё слова. Кожнае маё слова павінна адкладвацца ў яго белых костачках. Будаваць яго па-новаму. Будаваць яго так, як патрэбна пацыенту.

Я — пацыент.

— Мухі?

Ён здзекваўся з мяне. Ён не хацеў мне дапамагчы. Ён не слухаў. Мае словы не ўспрымаліся ім. Не рабіліся частачкамі яго белых костачак. Не будавалі яго па-новаму. Не будавалі яго так, як патрэбна мне. Быццам я яшчэ не магу стаць яго пацыентам. Не магу стаць пацыентам, пакуль не скажу штосьці важкае і патрэбнае гэтаму чалавеку. Пакуль не скажу штосьці, што прымусіць яго рот вывернуцца мне насустрач. Прымусіць яго вопратку перастаць быць такой белай.

— Так. Мне дакучаюць мухі.

— І вы прыйшлі сюды.

Гэта пытанне? Гэта не пытанне? А што гэта? Навошта ён гэта сказаў? Я ведаю, чаго я хачу ад яго. Я хачу ведаць, чаго ён хоча ад мяне.

— Я чую мух. Я бачу мух. Паўсюль.

— І тут?

Сцены кабінета былі вельмі белыя. Вопратка ўрача таксама была белая. Занадта белая. Белы халат, белыя пальчаткі, белыя нагавіцы, белыя (нечакана) красоўкі. І голас такі чысты, светлы, прыкры.

— Не.

— Чаму?

Гэта пытанне. Гэта было сапраўднае пытанне — зноў. Ён, урач, пытаў мяне, катаваў мяне. Павінна быць наадварот. Ён павінен распавесці мне ўсё. Што са мной робіцца. Калі б я ведаў гэта сам, я не прыйшоў бы да яго.

— Гэта бальніца.

— Так.

Як усё проста. Стэрыльна проста. Гэты белы колер паглынае маленькія чорныя кропкі мух. Гэты белы колер знішчае любыя страхі. Усё, што можа надакучыць. Усё, на што можна скардзіцца. Гэты белы колер глытаў і мяне. Я адчуў гэта. Я зразумеў гэта. Ён праглынуў чалавека-ўрача. Ён гатовы быў праглынуць і мяне.

— Але я не хачу заставацца ў бальніцы.

— Навошта вы жывяце?

Зноў пытанне. Зноў пытанне. Такое спакойнае, ціхае, чыстае, такое празрыстае. Пытанне пра сэнс майго жыцця. Пытанне на прыёме ва ўрача. Пытанне, зададзенае з інтанацыяй будзённай штодзённасці.

— Мухі.

— Гудуць, не даюць думаць. Так?

Так. Але ж тут няма мух. Тут павінна быць цішыня. Але цішыня таксама звініць. Звініць камарынымі спевамі ў вуху. Ці ў галаве. Але ж вуха таксама частка галавы.

— Навошта мухі жывуць?

— Гэта ланцужок. Мухі — ежа для птушак. Мухі патрэбны птушкам, каб тыя спявалі.

Птушкі? Якія птушкі? Я ніколі не бачыў ніякіх птушак. І як можна спяваць, калі вакол усё гудзе. Спытаць? Ці не спытаць?

— Я не разумею.

— Вы слухаеце толькі мух.

Ён так і сказаў. Гэты абгрызены сценамі чалавек. Ён так і сказаў мне. Ён не хацеў мне дапамагчы. Ён вінаваціў мяне. Вінаваціў у чымсьці брыдкім, безназоўным. У нейкай ілюзіі хваробы. Ён называў мяне амаль алкаголікам. Ён называў мяне наркаманам. Ён называў мяне шызікам.

— Я не вар'ят.

— Не вар'ят.

Ён зрабіў выгляд, што гэтых рэплік не было. Я зрабіў выгляд, што гэтых рэплік не было.

— Што за птушкі?

— Яны лётаюць.

— Як мухі?

— Як птушкі.

Адчулася, быццам я ўжо вечнасць у гэтым белым пакоі. Быццам нічога не было да яго і нічога не будзе пасля. Быццам мухі — гэта ўяўная тэма для нашага дыялогу. Таму не трэба крыўдзіцца на ўрача. Я ўявіў мух. Ён уявіў птушак.

— А вы бачыце мух?

— Зрэдку.

Дзіўна. Вельмі дзіўна. Уся размова ў галаве ўрача адбывалася не так, як у маёй. Я чамусьці па-дзіцячы пакрыўдзіўся. Адразу. Палічыў яго за ката. Вырашыў, што ён не верыць мне. Што ён не дасць парады, не паставіць дыягназу, а ён проста тактоўна і далікатна выконваў сваю працу.

— І што мне рабіць?

— А для чаго вы жывяце?

Зноў. Тое ж пытанне. Ён зноў спытаўся пра гэта. Чаму? Напэўна, у гэтым пытанні штосьці ёсць. Штосьці важкае. Штосьці сапраўднае. Такое балючае, моцнае, слізкае. Як міска з заціркай. Як цяжка ў гэтым пакоі. Калі яны не гудуць, не дакучаюць. Як цяжка ў цішыні і чысціні. Як балюча ад гэтага белага святла.

— Можа, я пайду.

— Вы не хочаце стаць птушкай?

Птушкай? Я не ведаю, што такое быць птушкай. Знішчаць мух. Гэта добра. Але спяваць. Але птушкі лётаюць, як птушкі.

— Не.

— А для чаго вы жывяце?

Зноў. Тое ж пытанне. Ён зноў спытаўся пра гэта. Чаму? Напэўна, у гэтым пытанні штосьці ёсць. Штосьці важкае. Штосьці сапраўднае. Такое балючае, моцнае, слізкае.

— Можа, я пайду.

— Я — урач. А вы толькі слухаеце мух і скардзіцеся.

Я выбег з кабінета. Я выбег з гэтай неўтаймаванай бялізны сцен. Менавіта бялізны. Яны былі завешаны бялізнай. А самі заставаліся цьмянымі, бруднымі, пыльнымі. Як і чалавек-урач. Ён па-майстэрску мяне абхітрыў. Я паверыў яму. Але кроў лілася праз яго вопратку. І яна была белая. Яна была белая, быццам малако.

Пяць лыжак заціркі — і ты сядзіш перад пустой міскай. Ніякая птушка не заспявае. Толькі суседскі певень закрычыць пра тое, што ён суседскі. Суседскі певень не есць мух. Суседскія куры не ядуць мух.

Па дарозе дадому мяне зноў абгарнула гудзенне. Роднае. Блізкае. Раптам зусім недакучлівае.

Хутка трамвай прыпыніцца на праспекце Ракасоўскага. Я прайду ў сваю аднапакаёўку. Сяду ў кут. І буду слухаць. Ні на хвіліну не прыпыняючыся.

Слухаць. Плесці сеціва сваёй павуціны.

Слухаць. Каб чуць. Каб сачыць.

Я не птушка. Я не спяваю.

Я не лётаю, як птушка.

## Сіндром хранічнага невяртання

Да адпраўлення цягніка заставалася васямнаццаць хвілін.

— Ідзі, — сказала ты. — Паспееш.

Зразумела, ты думала пра мяне. Не пра тое ж, каб пабыць адной у паўпустым вагоне электрычкі. Я ўвогуле ніколі не думаў, і, напэўна, у цябе былі прычыны хацець хоць на некалькі хвілін застацца ў адзіноце. Табе можа надакучваць мой голас, мае дотыкі, маё дыханне. Мае вочы, якія часам гатовы не адрывацца ад цябе, пакуль не пачнуць слязіцца.

Зразумела, ты хацела, каб мне стала лепш. А мне было нядобра. Я часам не вучуся на вопыце, асабліва калі размова ідзе пра пэўныя фізіялагічныя з'явы. Напрыклад, ператраўліванне ежы. Маці заўжды гатуе вельмі тлустыя дранікі. А я заўжды не звяртаю ўвагу на тое, што страўнік крычыць ад нежадання працаваць з такім матэрыялам. Я аддаю перавагу аб'ёму ежы. Я ўпэўнены, што галоўнае — запоўніць унутраныя кантэйнеры. Чым запаўняць? Гэта другаснае. Першасным яно робіцца толькі праз некалькі гадзін. Калі ежа дасягнула меж, дзе мае ўнутраныя гастарбайтары пачынаюць ад яе ванітаваць.

Увогуле, збольшага я трымаю свой арганізм пад кантролем. Быццам гэта мая калонія. Прыслухоўваешся зрэдку, што там шэпчуць: ці жадаюць цара скінуць, ці, можа, прапановы па рэформах саспелі. Але ж гэта зрэдку. Звычайна родны арганізм адыходзіць на нейкі далёкі план і зусім не чутно, што ён там мямліць. Тым больш калі захоплены да кончыкаў вушэй пітвом, ці ежай, ці лянотай. Наконт апошняй не заўсёды і можна сказаць, гэта я лянуюся ці не я. Гэта я вінаваты, што ляжу ў ложку пад коўдрай да той хвіліны, пакуль не надыдзе час, калі ўжо спазняюся на працу, ці гэта я проста дазваляю свайму арганізму быць самім сабой, развівацца, як яму патрэбна, без лішніх ціскаў на нервовую сістэму.

Самаідэнтыфікацыя чалавека — гэта асобная тэма. Няхай пра яе пішуць філосафы, а я неяк не збіраюся. Вось толькі згадаў, каб, пакуль штосьці ўсярэдзіне варочаецца, заняць сябе развагамі. Тлумачэннем, чаму я выйшаў з цягніка і пайшоў купляць ёгурт ці які іншы кісламалочны прадукт.

Думкі і развагі — гэта добра. За імі не заўважаеш заган і хібаў навакольнага свету. Не чуеш дзіцячых крыкаў, дарослай лаянкі, цыгарэтнага дыму. Я нават не паглядзеў на цябе ў акно. А ты, напэўна, глядзела. Хацела, каб я хутчэй вярнуўся. Хацела запомніць мяне, затрымаць вось такім на гэтыя дзесяць хвілін да крамы, у краме, ад крамы.

Да крамы дайшоў хутка. Незаўважна. У краме таксама ніякіх лішніх рухаў, пошукаў, вывучэнняў тавараў, тэмбраў галасоў і іх людзей. Толькі некалькі крокаў да малочнага аддзела, упэўнены рух рукой і тыя ж некалькі крокаў да касы. Два хлопцы з півам не паспелі ўлезці ў чаргу раней за мяне, і гэта адзінае, на што я звярнуў увагу. Падумаў, што, можа, піва было б лепш, чым ёгурт. Зразу-

мела, ёгурт малочны, вішнёвы, а піва даражэйшае і алкагольнае. Але ж даражэйшае не нашмат. Піць яго ўвогуле прасцей, яно слаямі не застаецца на ўнутраных сценках бутэлькі. Толькі вось супраць ёгурту ты нічога не маеш, а да піва адносішся, як да нейкай маёй палюбоўніцы. Можа, гэта таму, што палюбоўніцы ў мяне няма, то трэба да чагосьці ўсё ж раўнаваць. Да думак, да літаратуры, да футбола не асабліва і разумна. А піва — алкаголь — залежнасць. Хоць у выпадку майго адмаўлення ад піва, думаю, футбол бы таксама трапіў пад пагрозу.

Думкі і развагі — гэта добра. Захутаешся ў іх, бы ў плед, — цёпла, утульна. Расплюшчыш вочы, а свет не знік. Хоць здавалася, дзе той свет, калі ты па звілістых вулачках свайго мозгу шпацыруеш, узяўшы сябе ж пад руку і з сабой жа наладзіўшы прыемную гутарку. Адкрываеш вочы, а рэаліі іншыя. Хоць можна было б паспрачацца, што тут яшчэ рэаліі, што тут яшчэ іншае. Толькі вось не да гэтага мне было, бо цягнік знік. Высоўваю я галаву са сваіх думак, заспанымі вачыма ўглядаюся ў прастору. Няма цягніка. Цябе няма. Сумкі няма з ноўтбукам. Пакета з дранікамі і катлетамі. Добра, што грошы і пашпарт пры мне засталіся. Ды вось яшчэ ёгурт.

Часам здараюцца рэчы вельмі нечаканыя. У такіх выпадках людзі рэагуюць вельмі па-рознаму. Адны пачынаюць панікаваць, другія ціхенька захлёбваюцца апатыяй, трэція праяўляюць нечаканую цвярозасць духу і розуму. Я не з такіх. Калі са мной здараецца штосьці вельмі нечаканае, я чакаю. Чакаю да той пары, пакуль нечаканае стане звыклым. Пакуль дзесьці там, далёка ў маіх думках, пачнуць з'яўляцца рашэнні праблемы. То бок, я не толькі не іду ўгару, я яе і не абыходжу нават, а сяджу, чытаю кнігу і час ад часу пазіраю: на месцы гара ці сышла куды. Зразумела, што сыходзіць яна і не думае, але я паспяваю на мяжы свядомага і падсвядомага вынайсці некалькі больш-менш адэкватных спосабаў жыць далей. Паразмаўляць з людзьмі, якія пераходзілі праз гэту гару, падзёўбацца носам у тыя месцы, дзе маглі б быць схаваны тунэлі, пашукаць транспарт.

Калі я ўбачыў, што цягніка няма, то не здзівіўся, не спужаўся і нават не пачаў рваць з галавы валоссе. Толькі пашкадаваў літаратуру, якая ў гэты час, напэўна, прасоўвалася ў Мінск, замкнутая ў цемры майго заплечніка, не пакідаючы мне іншага занятку, як ісці ў якую кавярню ўзяць «Балтыку-7», сухарыкі — і ўсё.

Не паспеў я далёка адысці ад вакзала, як заспяваў тэлефон. Экран прадэманстраваў слова «мама». І мне прыйшлося адказваць.

— Ну, як там, усё нармальна? — спытала маці.

Я маўчаў. Я мэтанакіравана ўжо гадоў шэсць спрабую адвучыць яе ад гэтага слова. Ад гэтага брыдкага, неадпаведнага, неадэкватнага слова. Слова, якое не абазначае нават ілюзій. Слова, якое проста патрэбна двухногім людзям, быццам мыліца. У цябе няма мыліцы? А як жа ты ходзіш? Акрамя таго, менавіта ў гэты час пытанне было нават не іранічнае, а поўнае чорнага, як гнілы зуб, сарказму.

— Ну, дзе вы там ужо?

— Э-э-э, — на гэта пытанне я не мог адказаць. Яшчэ адна звычка: адказваць на канкрэтнае пытанне, не даваць яму свабоды для трактоўкі. Пытаешся так — то я і адкажу так. Калі ты не можаш скласці са слоў дакладны сказ, у якім будзе сутнасць, у якім выразна будзе акрэслена, чаго ты хочаш, то чаму я павінен вычварацца і штосьці прыдумляць? Чаму мне трэба замыкаць вочы на кодавы замок і забываць код? Увогуле, для мяне такія дыялогі былі звыклыя, а для маці, напэўна, не. Усё ж такі я шукаў і выклікаў яе на рацыянальнасць, а яна хацела атрымаць толькі шчырасць. Пры гэтым *нармальную* шчырасць.

— Зрабілася што?

— Я табе казаў, што патэлефаную, як прыедзем. То пакуль.

Страявод і дранікі зноў адышлі на эпізадычныя ролі майго жыцця. На першае месца выйшаў спакой, піва і якая-небудзь кніга. Пры гэтым кніга даволі шпарка бегла наперад. Рабілася проста неабходнай. Утапіцца ў чужых словах. Удавіцца чужымі радкамі. Застрэліцца з тых стрэльб, якія тут і там развешваюцца на сценах старонак. Пакуль свет вакол зноў набывае сваю статычнасць.

Да кнігарні было недалёка. Толькі крыху раздражняў, узнікшы з нябыту, снег. Які, магчыма, і не ўзнікаў з нябыту, а проста стаў яшчэ адной рысай гэтага брыдкага сёння, дзе ўсё раптам пайшло не так. Хацелася хутчэй у цяпло. Хутчэй уткнуцца носам у палічкі, чытаць загалоўкі, усміхацца знаёмым. Хацелася нечакана знайсці тое, што нават і не шукаў. У гэтай кнігарні такое ўжо са мной было. Напэўна, гэта сапраўдная кнігарня, бо ў ёй можна спаткаць штосьці большае, чым купля-продаж. Штосьці магічнае, рэальнае. Дзверы ў іншыя сны.

Кнігарні не было. Я некалькі разоў прайшоўся па гэтай вуліцы, не прызначанай для машын, аўтобусаў, трактароў. Прызначанай толькі для мяне і іншых людзей. Дзяцей, якія раптам пачалі так голасна вішчаць, быццам у мяне толькі зараз з'явіліся вушы. Было б добра, калі б і вочы з'явіліся, бо там, дзе павінна была быць кнігарня, я яе не пабачыў. Можа, зачынілі. Можа, перанеслі куды. Можа, я штосьці пераблытаў.

— Ізвініці, што абрашчаюсь. У вас ні будзет пяцьдзясят капеек?

Такія людзі ніколі не папярэджваюць пра сябе загадзя, не дазваляюць падрыхтаваць адказ. А калі б і дазвалялі, ўсё роўна стаіш, як на экзамене. Ды не проста на экзамене, а на тым, які павінен быў быць праз тыдзень, на тым экзамене, дзе тэма для цябе застаецца зусім незразумелай. На тым экзамене, дзе табе зараз паставяць тройку, і ты застанешся на паўгода без стыпендыі.

— Панімаеце, я вучыцель. Я прэпадаваў астраномію і фізіку. А счас вот, вы панімайце.

Я «панімаў». «Панімаў», што нічога яму не дам.

— Няма, — выціснуў я з сябе слова, а затым дадаў: — Прабачце.

Ён не прабачыў. Глядзеў мне ў твар. А я старанна ўцякаў вачыма ад яго вачэй. Уцякаў то ў адзін бок, то ў другі. І не мог уцячы.

— А колькі ёсць? — спытаў ён, гэты смярдзючы настырны чалавек, які ведае свае правы, які ведае, што свет абавязаны яму. Ведае, што людзі, у якіх ёсць, павінны дзяліцца з ім.

Вочы кінулі ўцякаць. Бо ва ўцёкі пусціўся я сам. Хутчэй адысці ад гэтага месца. Ад гэтага чалавека. Хутчэй. Бегчы на вакзал і чакаць там наступнага цягніка. А галоўнае — патэлефанаваць табе. Спытаць, як ты. Сказаць, што хутка буду.

Думкі і разважанні — гэта добра. Але вось вылазіш з гэтага думка-разважнага сну і заўважаеш, што стаіш на месцы. Стаіш каля чалавека, які прымае цябе за карову. Углядаецца ў тваё вымя. Аблізваецца.

— Вось, — я працягнуў яму бутэльку з ёгуртам. Бутэльку, якая нечакана ўвесь гэты час заставалася ў маёй руцэ. — Трымайце.

Ён не працягнуў руку насустрач. Бутэлька чмякнулася вобземлю. Не ведаю чаму, але крышка адляцела ўбок, і белая цягучая вадкасць пачала змешвацца з брудным, прысыпаным пясочкам снегам.

Мы стаялі і глядзелі на ёгурт. Я і ён. А затым ён развярнуўся і пайшоў. Я глядзеў яму ў спіну, і мне вельмі захацелася даць яму пяцьдзясят капеек. Але калі б я сапраўды кінуўся за ім, дагнаў, даў бы гэтыя грошы (грошы, пра якія ўжо сказаў, што іх няма), як бы ён адрэагаваў?

Панура пасунуўся на вакзал. Не патэлефанаваў табе. Размаўляць не было жадання. Усё здавалася шэрым і пустым. Быццам і сэнс, і колеры бягуць наперад нашмат хутчэй за мяне. Быццам я згубіўся ў нейкай далёкай пазачасавай прасторы і не паспяваю нічога зразумець і прыняць, як яно ўжо знікае. Знікае цягніком з платформы. Знікае кнігарняй з вуліцы. Знікае радасцю з сэрца, энергіяй з рук, ног, цела.

Па дарозе зайшоў у краму і ўзяў батон. Звычайны свежы батон. Батон, які б галоўны герой «Голаду» ўспрыняў як падарунак лёсу. Ён бы абняў гэты батон. Ён бы ў думках праводзіў разлікі, наколькі хопіць гэтага батона. А я проста рваў яго зубамі на кавалкі. Рваў механічна зубамі, каб проста рваць. Рваў, пакуль не пабачыў галак. Яны сачылі за мной. Яны таксама хацелі есці. Яны не прэтэндавалі на Нобелеўскую прэмію ў будучыні, але таксама хацелі есці. Шэрыя і пустыя.

Магчыма, пекла — гэта сухая пустынная зямля ў трэшчынах. Там нічога і ніколі не змяняецца.

Толькі чорныя дрэвы тырчаць і шэрыя галкі шпацыруюць і чакаюць, калі ты дасі ім паесці. А ў цябе нічога няма акрамя свайго цела, таму ты рвеш яго. Кідаеш кавалак за кавалкам птушкам. Але часу няма. Таму ты вечны, голад галак вечны і гэты працэс вечны.

Батон скончыўся. Заспяваў тэлефон. Я ведаў, што гэта ты.

— Прывітанне, — сказаў я.

Ты маўчала ў адказ. А можа, гэта штосьці з сувяззю. А можа, проста я не чуў, як звычайна.

— Я зараз прыйду, чакай.

Я ішоў да цябе. Я ведаў, што вакол ідуць змены. Што вакол бяжыць час. Галкі разляцеліся. Крама змяніла назву.

Вакзала я не знайшоў. Проста сеў на рэйкі, каб чакаць свой цягнік. Сеў на рэйкі, пяшчотна сціснуўшы тваю руку.

Руку, якая мае значэнне.

Цягнік больш не мацнейшы за ўсіх.

Я спыню яго тваёй рукой.

## Права на праўкі

…радзільня. Ганначка глядзіць у акно. Там, за акном, ходзяць людзі. Лысыя людзі. Валасатыя людзі. Барадатыя людзі. У джынсах, кедах, шортах, сукенках, спадніцах, кашулях. Крычаць, шэпчуць, спяваюць, рагочуць. І ўсе гэтыя людзі прайшлі праз радзільню. Праз добрыя цёплыя рукі adkusher'a. Праз яе рукі.

Ганначка з дзяцінства webдала, што стане adkusher'ам. Ёй лёгка давалася матэматыка. Лёгка, зрэшты, не тое слова для фенаменальнай выключнасці яе зроку і мыслення. Ганначка ніколі не карысталася лінейкай, транспарцірам, вагамі. Яна бачыла сантыметрамі, градусамі, грамамі. Стасункі з аднакласнікамі і бацькамі і проста знаёмымі і незнаёмымі ў дзяўчыны былі статыстычныя. У галаве працавала сістэматызацыя па групах, лічбах, параметрах.

З такімі данымі Ганначка павінна была стаць adkusher'ам. І стала.

Роля adkusher'a ў грамадстве выключная і таму патрабуе выключнасці. Выключнасці зроку і мыслення. Безэмацыйнасці і веры. Вернасці і абавязковасці. Выключнасці сапраўднага грамадзяніна без розных творчых звільнасцей. Бо adkusher фарміруе грамадства. Даводзіць яго да id-ідэалу. Пазбаўляе яго эга-асабовасці. Запаўняе арганізм гімнамі, сцягамі, догмамі.

Карэктуе і правіць. Правіць і карэктуе.

Ганначка любіла правіць. Летам у бабулі яна правіла котак, мух, кусты, мурашнікі. Мурашнікі было правіць найбольш цікава. Бо яны вельмі часта выходзілі за межы. Утваралі замежжа на нашай роднай зямлі. Ганначка карэктавала мурашыную колькасць. Агульную колькасць і колькасць членаў пэўных сацыяльных груп. Старанна абрывала лапкі, каб працэнт мурашоў з недахопам ног прыблізіўся да сярэдняга ў краіне. Каб краіна была без замежных плям і магла ўпэўнена пісацца з вялікай К.

Бабуля ніколі не разумела ўнучку. Ёй здавалася, што гэта дзіця брыдкае. Што правіць і карэктаваць мае права толькі нейкі неіснуючы Абсалют.

Бабуля нічога не разумела ў жыцці. Але да пары яна была патрэбная. Старыя людзі заўсёды патрэбныя, каб іх паважаць, саступаць ім месцы ў транспарце, пераводзіць цераз дарогу.

Бабуля была старая — і Ганначка паважала яе. Паважала так, як сярэдняя, стандартная дзяўчынка павінна паважаць сярэднюю, стандартную бабулю.

І нават дапамагла той памерці пры дасягненні мяжы даўгалецця.

…радзільня. Ганначка глядзіць у акно. Там, за акном, ходзяць людзі. Людзі-мужчыны і людзі-жанчыны. Людзі-дзеці і людзі-людзі. Людзі сярэдняга росту і сярэдняй вагі. Людзі з сумкамі, з партфелямі, з пакетамі, з пустымі рукамі. Крочаць, бягуць, шпацыруюць, стаяць, падаюць.

І ўсе гэтыя людзі калісь прайшлі праз радзільню. Праз добрыя цёплыя рукі adkusher’a.

Праз яе рукі.

Ганначка любіць правіць. Любіць карэктаваць.

Яна робіць і рабіла гэта інстынктыўна — і адначасова вельмі па-дзяржаўнаму. Яна dzjarzhala рукой чый-небудзь кепскі брудны язык, а другой рукой правіла. Вострыя нажніцы, рубанак, пілка для пазногцяў, скальпель, кавалкі шкла — гэтыя інструменты з’явіліся не проста так.

Гэта — самы галоўны прадукт demoкратыі. Гэта — вынік доўгага шляху да роўнасці. Вынік і адначасова зброя, без якой немагчыма ісці далей.

Таму роля adkusher’a ў грамадстве выключная. Таму Ганначка выключная.

Яна смела ідзе супраць старых звычак, якія называлі Мараллю і Пачуццямі. Супраць гэтых старых недарэчных багоў. Яна webдае, што Мараль і Пачуццё не існуюць. Не могуць існаваць. Існуе толькі чалавек як частка дзяржавы. І задача гэтага чалавека — стаць ідэальным, стандартным цагляным блокам, каб наша краіна магла пісацца з вялікай К.

Ганначка з дзяцінства webдала, што стане adkusher’ам.

З таго самага дня, калі акацілася котка. Ганначка паглядзела на сляпых кацянят і адчула, што webдае. Webдае сваё назначэнне. Webдае, што ў сярэднім застаецца жывым адно ці два кацяняці. Webдае, што трэба з(*р*)абіць. Webдае, што яе не зразумеюць, бо яна наперадзе часу. Яна — Леанарда да Вінчы сваёй эпохі. Яна адкрые дзверы чалавеку Адраджэння.

Яна мае абавязак правіць. Яна мае права на праўкі і карэкцыю. Стандартызацыю. Удакладненне. Adkusherства. Адкусванне лішняга.

…радзільня. Ганначка глядзіць у акно. Побач адкарэктаванае, падпраўленае дзіця. Хлопчык, расцягнуты на дадатковыя тры сантыметры. З яго выразана лішніх трыццаць грамаў. Крыху падпсаваны галасавыя звязкі. Падкарочаны пальцы на руках.

Ён такі прыгожы. Такі пасрэдны. Такі стандартны. Так адпавядае патрэбам соцыума, патрэбам статыстыкі.

За акном — людзі.

## Стварэнне

Аднойчы раніцай Іван К. знайшоў сябе ў ложку з пісьменнікам. Першая ж думка, якая наведала галаву маладога чалавека, была даволі нечаканая: «Нічога такі».

Пісьменнік сапраўды быў нічога. Крыху лысаваты і з пузам, але гэта, напэўна, ад вопытнасці. А вопытны пісьменнік — прыгожы двойчы. Толькі вось справа была зусім не ў прыгажосці. Справа была ў гендарнай прыналежнасці. Пісьменнік упэўнена выглядаў, як мужчына.

Іван К. не быў ні геем, ні гомасексуалам. Ён заўсёды любіў дзяўчат. Ну, у крайнім выпадку, самога сябе. Але ж любіць сябе — гэта не азначае згубіць арыентацыю ў сексуальнай прасторы. Усе любяць сябе час ад часу. І філосаф, і паэт, і міністр, і іншыя.

Сітуацыя была дзіўная, нестандартная і крыху правакацыйная. У Івана К. узнікла выразнае жаданне сказаць: «Эй». Але раптам ён скажа, а пісьменнік прачнецца, паглядзіць на яго і…

Адкуль ён тут? Чаму ён тут? Іван К. глядзеў уважліва не незнаёмы выразна пісьменніцкі твар і спрабаваў згадаць, што было ўчора вечарам.

Вечарам. Вечарам Іван К. хадзіў у тэатр. Не. Не хадзіў. Гэта сон. Іван К. у тэатры не ходзіць. Тэатры — гэта для геяў і гомасексуалаў, а Іван К. — мужык. Сапраўдны мужык. Ён нават нядаўна ў прыбіральні лямпачку памяняў. На лямпачку. Сам. Тыя, хто па тэатрах боўтаюцца, так не могуць. Ды што там лямпачка. Ён, калі па малой патрэбе ідзе, то стоячы спраўляецца. Вось галоўны козыр. Гэта нашмат больш, чым літара «м» у пашпарце, ваенны білет дзесьці ў далёкай скрыні, нямытыя шкарпэткі пад ложкам і дзясятак каханак за апошні год.

Толькі вось гэты пісьменнік тут. Усё псуе. Ляжыць. Дыхае. Смяецца сваёй лысінай. Быццам ведае больш, чым трэба. Што і ў ваенным білеце не самыя мужныя запісы. І шкарпэткі не такія ўжо і брудныя. І каханак было менш. Адна.

Але ж тая адна была. І была яна — сапраўды *яна*. Калі б Іван К. быў з ёй адзін, ён бы сумняваўся, але яна была не самая сарамлівая, ціхая і спакойная. Ці як там кажуць пра гэтых дзяўчат, якія пораху не нюхалі? Яна была з тых, пра каго кожны пацвердзіць, — гэта жанчына. Нават не. Скажа: «Баба». І палец выставіць свой. Маленькі тоўсты палец. Уверх выставіць. То бок, добрая баба, якасная. З такой бабай ты калі не мужык, то, як мінімум, хлопец. Ці хлопчык.

Вось хлопчыкаў яна любіла. Грошай ды падарункаў ад іх не брала. Толькі кветкі. Чырванела, як дзяўчынка, і адразу сціскала маленькае цельца доўгімі рукамі. А літаральна праз некалькі хвілін і моцнымі нагамі.

Вось калі б з ёй Іван К. прачнуўся, то не прамінуў бы адразу крыкнуць: «Эй!». Мог бы і нагой крыху штурхнуць. Ці рукой. Ці проста коўдру сцягнуць і памацаць з раніцы, дзе трэба. Каб дзень добра пайшоў. Калі б з ёй прачнуўся. Толькі вось — не з ёй. Пісьменнік тут. Незнаёмы.

Знаёмы пісьменнік у Івана К. быў толькі адзін — Васька Гіль. Ці як сказалі б зараз — Васілій Іосіфавіч Гіліён. Але ж гэта зусім іншае. Гэты пісьменнік зусім не інтэлігент які-небудзь. Ён нават слова такога не чуў — «інтэлігент». А калі б яго хто клікнуў «гей», то ён, мабыць, і вухам не павёў бы, падаспеў і пачаў спеў: «Кооонік варанооооой, сээрца беег твой чуее».

Ён жа не з-за хваробы пісьменнік: у яго ні чахоткі, ні сіфілісу няма. Ён не дэградаваў у літаратара, а дарос. Праз нялёгкую справу будаўніка. Там з хлопцамі паліў, жарты ім расказваў. Яны яго ў кампанію сваю ўзялі. Навучылі на гітары граць. То пасля яго з гэтай гітарай куды толькі ні запрашалі: і на вяселлі, і на хаўтуры, і на провады, і на іншыя імпрэзы, мерапрыемствы, акцыі. Так ён у сабе талент раскрыў артыста-арганізатара. Адразу танцы арганізоўваў. Вогнішча. Лес. Паход. Затым — бац! Музей арганізаваў. То на яго і гарадскія ўвагу звярнулі. Газета пра яго пісаць узялася. Ён кажа: «Не трэба пра мяне пісаць. Я сам напішу». І напісаў.

Спадабалася. Зараз ужо пісьменнік. Кніжку мае. Усе вяскоўцы скінуліся. Ён жа — гонар. Ён жа — сімвал. Ён жа…

Увогуле, пісьменнік без кніжкі — не пісьменнік. Кніжка пісьменніку патрэбна. Без кніжкі ён — як рака без вады.

«Цікава, у гэтага ці ёсць кніжка?» — падумаў Іван К. — «Ляжыць. Пуза. Лысіна. Мабыць, ёсць. А можа, і не адна. Піша, напэўна, пра… Пра што там зараз пішуць? Пра наркату, любоў мужчыны да мужчыны і права быць дэзерцірам. Усе яны аднолькавыя. Толькі чаму менавіта гэты тут?»

Іван К. сядзеў на ложку і глядзеў у акно. Шыбы слёзна прасілі, каб хто-небудзь іх нарэшце памыў. І ў знак пратэсту адмаўляліся паказваць завакonne. Іван К. усё роўна ўглядаўся, углядаўся. А калі зразумеў, што нічога ўбачыць сапраўды не атрымаецца, спужаўся: падалося, што няма там нічога. Падалося, што вось ён, вось ложак, вось пісьменнік лысы і з пузам і — усё.

Ён захацеў падскочыць, падбегчы да акна, адчыніць яго, убачыць вуліцу, дрэвы, неба. Але аказалася, што ў такой сітуацыі падскочыць вельмі цяжка. Здаецца, што нешта прыціснула. Што правіл свайго жыцця ты больш не ведаеш. Яшчэ ўчора ты быў — мужык. Усім было зразумела, што мужык. А сёння глядзіш на бруднае шкло і ў галаве даказваеш сабе. Апраўдваешся перад сабой. Баішся.

Зарыпелі дзверы.

«Ой, Божачкі! Хтось ідзе, а я ў ложку. З мужчынам. Што сказаць? Скажу: напіліся. Скажу: напіліся і ляглі, дзе ляглі. Бо не было дзе больш легчы. І нічога не было. Так і скажу. Ці не».

Пісьменнік расплюшчыў вочы і нечакана апынуўся так блізка.

І вусны яго былі такія настырныя, і язык, і рукі, і словы, якія я сказаў:

— Там — нікога. Гэта толькі след ад майго ўяўлення на старонках. Як і ты.





# Людка Сільнова

**нарадзілася 20 красавіка 1957 года ў Маладзечне. Працуе ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Аўтар зборнікаў паэзіі, кніг крытыкі і візуальнай прозы, твораў для дзяцей. Вершы перакладзены на польскую, украінскую, славацкую, рускую, славенскую, чэшскую мовы. Захапляецца творамі мастацтва (выяўленчага, музычнага, тэатральнага), бо яны маюць цікавую ёй метамову; а яшчэ — флорай і фаўнай Зямлі, гатова глядзець на іх здзіўленымі вачыма наіўнай істоты з нетраў космасу.**

## У кніжным садзе

### Сустрэча з узноўленымі выданнямі Францыска Скарыны

*Паводле вечарыны ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі*

Прыйшла пара ўрачыстыя хвіліны
Назваць сустрэчай у святле і згодзе:
Узноўленая спадчына Скарыны
Да нас прыходзіць сёння праз стагоддзі.

Біблійны збор, як птушкі, — з рук Скарыны!
Яны ўзляталі ў неба Прагі, Вільні!
І разляталіся на ўсход Еўропы ўсёй,
Прыгожай, хрысціянскай, маладой.

Нам свеціць Сонца, Месяц узыходзіць
У Кніжным садзе доктара Скарыны.
Пяцьсот гадоў ён паміж дрэваў ходзіць…

І пчолка ведаў мёд сягоння носіць,
Кранаючы Сусвету павуціну.

Збярэцца кніжны стос на часу восі,
Каб з годнасцю паўстаў Праект адзіны —
Усе выданні слаўнага Скарыны.

А лічба ўсё аберне — у навіны.

### Пасляслоўе да сучаснай кнігі

*Амаль па Францыску Скарыне*

Мілаград, Мілаград:
Міма крам, міма град.
Міма душных кватэр,
Міма «тут і цяпер»…

Проста ў «там і тады»,
У вігвам, на клады,
Рафінад пірамід,
У палац, замак, скіт…

У нябесную сінь,
У падманную стынь —
Там, дзе коні і лёд,
Дзе пагоня і дрот…

На гары — белы сад,
А за ім — Мілаград.

## Клавіятура-ліра

З клавіятурай сярод ночы
Паэт пястуе дар прарочы —
Як бы на ліры даўняй грае
Ці струны арфы ледзь кранае…

## Тварог як газета

I
А я тварог купляю — як газету:
Як з рынка йду, за дробную манету.

Але — увага! — з хатняга падворка,
Каб ведаць, як там «вольныя кароўкі»…

Мне фермер, як друкар Сярэднявечча —
У доўгім фартуху, шыракаплечы,

Пра тое й гэта з прыказкай раскажа
І тым купіць, як быццам, абавяжа:

Праз тыдзень «свежы нумар» ўзяць павінна —
Я па тварог іду, як па навіны.
II
Тварог так натуральна абуджае,
За лыжкай лыжка, генны вобраз краю:

Драўляны дом і конікі ў званочках,
Скок жабак лугавых, пах мыла ў ночвах,

Ланцуг сабакі — дзынь! («Хто на парог?»)
А гэта я — «чытаю» свой тварог.

## Класіка

Нагледзеўшыся тэленавінаў,
старая адна
ўсвядоміла непазбежнае
і прашаптала:
«Можа, хутка пачнецца
праклятая гэта вайна,
а я яшчэ ўсю
сусветную класіку не прачытала…»

## Наша вера

Наша вера ў канон і знічво[1],
У названае геніем зно[2],

У бязмежжа, законаў мяжу
І хаду па вадзе і лязу,

У магутнае сонца і зрух,
Што дае паэтычны наш рух,

І ў пралітую зорную кроў,
Гул ухвалы над морам галоў;

Наша вера… Прывабнасць яе
Ўсё знікае — і зноў паўстае

Праз стагоддзі, і ў літары слоў
Уліваецца песняй Любоў.

## У празрыстай малельні

Маё жыццё —
Мой подзвіг у пустэльні.
Верш — забыццё
Сябе, як у малельні.

Празрыстых сцен
Маіх ніхто не бачыць…
Вятрыскі фен
Паперкі раскудлачыць.

## Магія гарачага кубка

За вокнамі золь,
Апусцелая лава.

Карыца і соль,
Малако і какава,
Вада… — і я кубак
Гарачы трымаю
З вінтажным напоем
І гора не маю!

---
[1] Знічво (аўт.) — комплекс старадаўніх вераванняў продкаў.
[2] *Зно* — паводле А. Разанава, мысліцельная рэчаіснасць, або рэчаіснасць думкі.

## Спякота. Рэг-тайм

I
Пахнуць ліпы у ліпені
Донам Пэдрам з Карлітаю.

І каханне разлітае
У паветры у ліпені.

II
У галінах у ліпавых
Пчолкі ў паскі заблыталіся.

Іх гудзенне трывожнае:
«Яшчэ трошкі!.. Няможна ўжо…»

III
Гэта ліпень. Дзень выпіты.
І кілішак закінуты

У высокія травы
Ля паркана без барвы…

## Доля-талер

А доля — талер
(Нешчарбаты хай!),
Яго ты каля
Сэрцайка запхай,

У шво з сакрэтам,
У кішэнны схоў…
Да лета — лета,
Сон начны — да сноў,

Да слова — слова,
Да душы — душа…
Бліснь! — талер новы
З нетраў гладыша

На градцы нечай,
Катлавана дне,
Ў хляве авечым
З'явіцца… не мне.

## Спаліла турку

Зноў спаліла турку я
на агні
Газавага полымя
ў нашы дні!

Кавы перапаленай
рэзкі пах.
Кадры з тэлевізара —
у вачах!

Пражываю з хуткасцю
«турка ў год».
Вялікдзень, народзіны,
Новы год…

Зноўку ўсё паўторыцца
зыркім сном.
Што такое творыцца
за вакном?

Быццам круціць хутка
калейдаскоп
Не дзіцяці ручка, а
Снежны бог.

***
Ляціць наўпрост мне ў скроню пчолка.
Заблыталася, балаболка,
З прыветнай песняю-баладай
У маіх пасмах шакаладных…



Кацярына Захарэвіч

**нарадзілася 27 жніўня 1994 года ў Докшыцах. Галоўны рэдактар часопіса «Бярозка» і калумністка часопіса «Маладосць».**



***Ад рэдактара***

*Задача пісьменніка — не даваць чытачу адказы, а ставіць перад ім пытанні. У сваім новым, прасякнутым і містыкай, і настальгіяй апавяданні Кацярына Захарэвіч пытаецца ў нас — у кожнага з нас, дзе будзем, дзе затрымаемся. Пытанне гэта сёння мо нават больш важкае, чым «Quo vadis?» або «Что делать?». Адказвайце самі.*

*А разам з C і S — трагічна аднолькавымі літарамі з другога апавядання — паразважайце.*

*І, можа, нават пашкадуйце.*

## Дзе будзеш ты?

Апошнія гады яна ў палоне.

З часам умовы зрабіліся горшымі — волі амаль няма. Ні варухнуцца, ні ўздыхнуць — зялёна-карычневая сцяна, куды ні павярніся.

Да вёскі шчыльна падступіў лес. Там, куды ён пакуль не дайшоў, густымі кратамі стаіць хмызняк велічынёй з лес. А дзе яшчэ няма хмызняку, не дае прадыхнуць высокая трава на зарослых гародах. Адзінае, што перарывае аблогу, — жоўтая дарога, якой вёска працята наскрозь.

Калісьці ўсё тут круцілася вакол гэтай дарогі. Да яе выходзілі брамкі ўсіх двароў, з яе боку хаты і платы фарбавалі найпрыгажэй, у дварах рабілі клумбы, забіраючы каштоўнае месца ад сада ці гародчыка. Паабапал дарогі ля кожнага плота стаялі лаўкі, куды па вечарах выходзілі хоць на колькі хвілін пасядзець жыхары. Калі хто не выходзіў, значыць, памёр. Летам, пацясняючы людзей, яе апаноўвалі машыны. «Не выходзь на дарогу, там машыны», — чулася з усіх двароў, варта было камусьці са шматлікіх летніх дзяцей адляпіцца ад плота і ступіць з травы на жоўты буйны пясок.

Я ішла пасярод дарогі, і ніхто не перасцерагаў мяне — хіба што вецер на сваёй мове. І машын тут — добра, калі раз на тыдзень прыедзе адна, і тая — аўталаўка. Нават аўтобусы ходзяць у гэты бок раз на дзень і спыняюцца за тры кіламетры, якія наведвальніку-вар’яту трэба адшыбаваць пешкі. Ды і няма каму і да каго тут хадзіць — мама казала, засталося колькі чалавек.

Пакаселыя будыніны паглядалі на мяне мутнымі стомленымі вокнамі. Жывыя людзі зніклі, і іх закінутым хатам нічога не заставалася, акрамя як вучыцца жыць самім. Хтосьці з іх даволі хутка здаўся — струхлеў і рассыпаўся. Хтосьці трымаўся з усіх сіл — быццам чакаў вяртання.

Хата, падобная да старога буркатлівага дзеда, здалася першай. Плоту няма, шэрыя, з рэштkамі незразумелай фарбы дзверы трымаюцца на адной завесе ды добрым слове. Шыбы выпалі з гнілых рам і сталі небяспечнымі для кожнага, хто заманецца наблізіцца. Зрэшты, і яе суседка-аптымістка, калісьці ярка-жоўтая, высокая, амаль двухпавярховая («Адбудавалі, быццам вечна жыць будуць», — казалі суседзі), таксама пустая і халодная, хоць і не страціла пакуль весялосці сцен.

Насупраць гэтых двух стаяла хата маёй прабабулі. Я жыла тут з ёй да сямі гадоў, пакуль не надышоў час ехаць у горад да бацькоў, каб вучыцца ў школе. Развітваючыся, я абяцала, што буду прыязджаць сюды кожныя выхадныя, кожныя канікулы — і сама верыла сваім словам. З таго вечара мінула дваццаць гадоў. Я тут упершыню. Неяк не склалася. А прабабуля памерла праз колькі гадоў.

Бабуля, а потым і маці, стаміўшыся даглядаць хату — няблізкі свет, аб’явілі яе маёй спадчынай. Тыдзень таму ўрачыста перадалі ключы і ледзь не мятлой выпіхвалі сюды, каб «прыняць справы». Я вырашыла, што прыеду толькі, каб сустрэцца з пакупніком. Абяцанне стрымала: заўтра прыедзе кандыдат у будучыя гаспадары, які збіраецца купіць хату на вываз. Вось і перадам яму ключы, клопаты і мятлу, якой мяне пхалі, — у якасці бонусу.

Я чакала, што яшчэ па дарозе буду згрызена сумленнем. Што выйду ўся праз уласныя вочы — слязьмі, спачатку празрыстымі, потым крывавымі, потым — што застанецца. Нават узяла з сабой запас сурвэтак. Я чакала, што захачу закапацца ў гэты пясок, утрамбавацца пад ім, стаць часткай месца.

Але я ішла і злавалася на надвор’е. Бабіна лета вырашыла скончыцца без папярэджанняў менавіта сёння, а восень павіталася парывістым ветрам і пачаставала дажджом. Каб шчыра аддацца ўнутраным згрызотам, мне не хапала дадатковых слаёў вопраткі. Канчаткова замерзлая і разлаваная, пакуль змагалася са старым пражавелым замком, я нарэшце ўвайшла ў хату.

Настальгіі наўрад ці дачакаюся. Першы пакой, што сумяшчаў вітальню, кухню, сталовую і частку спальні (замест ложка была печ), у дзяцінстве здаваўся велізарным. Зараз жа я быццам спрабавала ўлезці ў дзіцячую сукенку: варухнешся — і яна раз’едзецца па швах. Акенца, ля якога я праседжвала вечары з кнігамі і размалёўкамі, сёння не прапусціла б шмат святла нават у сонечны дзень — такое было шэрае. Драўляныя самаробныя лавы пад пыльнымі даматканымі посцілкамі гайдаліся ад кожнага кроку. У кожным больш-менш цёмным куце мроіліся павукі, прусакі, пацукі, а то і змеі. За зачыненымі дзвярыма ў другі пакой, залу і спальню адначасова, уяўляліся невядомыя заалогіі пачвары, што пасяліліся пад ложкамі, канапай, за шафай... Хопіць сёння адкрыццяў — туды нават не зазірну, пакуль адна.

Ад думкі, што давядзецца правесці тут ноч, стала ніякавата. Недарэчна ўспомнілася мая маленькая ўтульная кватэра. Нават калі ўявіць, што раней у хаце не было падцёкаў цвілі пад столлю, павуціння ва ўсіх кутах, а цыратавыя шпалеры не былі прагрызены пацукамі, жыць тут не хацелася. Я зразумела, чаму так і не вярнулася — навошта існаваць у няшчаснай беднай мінуўшчыне, калі, праехаўшы некалькі кіламетраў, трапляеш у цалкам сабе камфортную сучаснасць? Лепш бы яна развалілася, гэтая хата.

— Спадзяюся, пакупнікам ты спадабаешся, і заўтра мы разыдземся, каб не перашкаджаць адна адной, і захаваем толькі добрыя ўспаміны, — сказала я, спадзеючыся адчуць хоць маленькі ўкольчык жалю, настальгіі, сораму ці яшчэ чагосьці такога. Але не адчула. І не адчула нават сораму за тое, што не адчула. Каб схаваць гэта, я дадала:

— Дзякуй, што выгадавала мяне, — і адчула. Сваю няшчырасць.

Дождж скончыўся. Знайшоўшы прарэху ў хмарах, вызірнула халоднае сонца. Я вырашыла выйсці ў сад, набраць яблыкаў, каб узгадаць і пакінуць на памяць «смак роднай зямлі», калі ён існуе.

Адчыніла дзверы, але не паспела ступіць на ганак, як перад тварам знізу ўверх прамільгнула штосьці чорнае, халодна блiскучае i вострае, ледзь не пакінуўшы мяне без носа. З лязом сонечнымі зайчыкамі гуляла сонца.

— Ах ты, бандзіт! Панадзіўся ў пустыя хаты лазіць! Я табе пакажу! А ну выходзь, рукі ўгору! — мільгацела каса перад тварам, прымушаючы адступаць углыб калідора. Я ўжо амаль схавалася за дзвярыма, як мне трапіла думка: я ж тут гаспадыня! Але называць сябе гэтым важкім і адказным словам было няёмка. Тым часам хтосьці па той бок ірвануў дзверы на сябе — я выпусціла ручку і засталася безабароннай.

Цёмны сілуэт, сухі і ссутулены. У тонкай руцэ, што дробна дрыжыць, — доўгая, паднятая лязом угору каса. Смерць я ўяўляла сабе высокай статнай жанчынай, моцнай і вартай захаплення, але яна, відаць, не палічыла мяне годнай ахвярай і паслала сваю бабулю. Ці прабабулю.

— Танька! Ты?! — зарыпела старэчым голасам далёкая сваячка смерці. Я з палёгкай зразумела, што не Танька. Старая тым часам прыхінула касу да сцяны і павольна наблізілася. Маленькая галава з рэдкімі, забранымі хусткай валасамі, зморшчаным, як сушаны яблык, тварам з вялікімі блёклымі вачыма.

— Не… я Віка, — усё яшчэ з насцярогай сказала я.

— Таньчына?

— Ну… — размова пачала зацікаўліваць.

— Ой, то якая ж дарослая ўжо! Я ж цябе вось тачэнечкай памятаю, — рука, што нядаўна трымала касу, адмерала ад падлогі паўметра. — А я думала, хто тут тупае. Узяла касу і гайда на абарону. А як пабачыла цябе, думаю, няўжо Танечка, сяброўка мая…

— Ну што вы, прабабулі ўжо даўно няма, — сказала я, старанна дадаўшы ў голас скруху.

— То ж я ведаю, — сказала бабулька. — А ты як тут? Мо жыць вярнулася?

— Ды не, я да раніцы толькі, — не хацелася выдаваць падрабязнасці, але вырвалася само: — Хату буду прадаваць на вываз.

— То пайшлі хоць вячэрай накармлю, галодная ж, пэўна.

Я з удзячнасцю паглядзела на бабулю. У сумцы ляжаць бутэрброды, але ніякая сухамятка не параўнаецца з сапраўднай дамашняй вячэрай.

Мы пакінулі двор і пайшлі па дарозе. Вокны пустых хат пазіралі, нібы згадваючы, хто я.

— Ганка! Стой! — пачулася ззаду. — Стой, халера цябе бяры!

— А каб табе добранька жылося, — прашыпела мая добразычлівая гаспадыня, запаволіла крок, але не спынілася.

Я азірнулася. За намі бегла (ці каціліся?) кругленькая бабулька ў рознакаляровай сукенцы за калена і гумовых ботах. Пабачыўшы, што я стаю, мая спадарожніца неахвотна спынілася.

— Ну і чаго табе? Адна не магла дайсці?

— Не магла! — сказала кругленькая, бессаромна разглядаючы мяне. Было няёмка, але я старалася не адводзіць пагляд. Новая незнаёмая была маладзейшая за маю недасмерць: на твары яе вылучаліся шчокі — мяккія і румяныя, хоць і крыху аплылі, і вочы — з плоскімі, як у лялькі, цёмна-карымі райкамі. Бабка Ганна нібы атрымлівала асалоду ад няёмкіх глядзелак і не спяшалася знаёміць нас.

— Волька! Ты хіба? — не вытрымала кругленькая, пераблытаўшы мяне на гэты раз з мамай. Цікава, калі-небудзь хтосьці тут прыме мяне за мяне? Я ж і сваё імя маю!

Памкненне разблытаць сямейныя сувязі апярэдзіла бабка Ганна:

— Цьху, дурная! Якая табе Волька! Вольцы зараз пад пяцьдзясят быць павінна, а тут глядзі, маладая зусім! — быццам не яна колькі хвілін таму пераблытала мяне з маёй даўно памерлай прабабуляй.

Далей, нягледзячы на відавочную непрыязнасць паміж маімі спадарожніцамі, рушылі разам. Яны, аказваецца, абедзве пайшлі «злодзея» лавіць, ды кругленькая за пуняй чакала. «У засадзе», — казала яна. «Спужалася», — смяялася Ганна. Я спадзявалася даведацца штосьці пра гэтых бабулек, але незаўважна сама стала ахвярай роспытаў. Шчыра і поўна адказваючы на ўсе пытанні пра працу, сям'ю, сяброў і знаёмых, я думала, што менавіта бабулькам трэба працаваць у следчых структурах.

Хата Ганны і Ніны была адзіная, якая яшчэ не выпусціла чалавечае цяпло, чула галасы. Гарачыня распаленай печы, пах смажанай бульбы, па-вясковаму шыкоўныя інтэр'еры з вялікай колькасцю расшытых сурвэтак, накрывак і посцілак вярнулі мяне ў дзяцінства. Так калісьці было і ў хаце прабабулі: тая ўвесь час вышывала, шыла, вязала.

Гаспадыні гэтай хаты — цётка і пляменніца — мелі адну на дваіх асабістую трагедыю і крыўду. Ганна, гадоў на пятнаццаць старэйшая за Ніну, ухітрылася калісьці звесці яе мужа. Свой колькі год як памёр, а муж сваячкі пачаў заглядацца на нестарую яшчэ «цётачку».

— Канечне, — абуралася Ніна, пакуль мы хадзілі з ёй па невялічкім садзе, збіраючы яблыкі мне на гасцінец. — Ганка і ў пяцьдзясят выглядала на маладзіцу — маленькая-худзенькая. А я, трох дзяцей нарадзіўшы, дзе б ужо прыгажуняй была?

Варагаванне праяўлялася і ў гаспадарцы. Мяжа, амаль такая ж недатыкальная, як дзяржаўная, падзяляла гарод, сад, куратнік, курыц, дровы, двор, лаўку пад акном, хату і маёмасць у ёй. Я глядзела на бабуль, якіх зусім не магла ўявіць дзяўчатамі з пачуццямі і жарсцю, і намагалася не думаць, што сама не застыну ў сваіх дваццаці шасці гадах.

— Чаму ж вы разам жывяце, калі так кепска? — спыталася я.

— Бо ўдзвюх засталіся, трэба трымацца адна за адну. Нібыта ўсё сваё, знаёмае, а страшна адной у пустой хаце.

Сагрэўшыся ля цёплай печы гарбатай з дамашняй булкай, разамлеўшы і канчаткова заблытаўшыся, хто чым мяне частаваў (а рабілі гэта навыперадкі), я і думаць не хацела, што давядзецца вяртацца ў закінутую хату. Збіралася ўжо запытацца пра начлег, абсалютна ўпэўненая, што не адмовяць, але мяне апярэдзілі:

— Ну што, праводзім цябе хіба? Холад зноў бярэцца, а ты лёгка апранута.

Крыху агаломшаная (гасцей тут ніколі за дзверы не выстаўлялі), я і не заўважыла, як на плечы мне ўздзябурылі вялікую цяжкую ватоўку, а ў рукі сунулі пачак свечак: «Электрычнасці ў вас няма». Назад ішлі моўчкі. Ледзь давёўшы мяне да плоту маёй «сядзібы», Ніна і Ганна на дзіва зладжана развіталіся і пашыбавалі дахаты. Мне ж зноў — вазіся з замком, звыкайся з цемрай і холадам свайго дома пасля цеплыні светлага чужога.

Свечка крыху разагнала змрок. Ён сабраўся ў кутах, каб напасці зноў. Здаецца, ноч у мяне будзе вясёлая — я і свечка. І гэта нягледзячы на тое, што даследаваць суседні пакой, хай сабе са спакуслівa мяккімі ложкамі, я не збіралася: патэнцыйным монстрам, што з набліжэннем ночы сталі страшнейшымі, лепш заставацца не на сваёй тэрыторыі. Я ж рызыкнула сесці на лаўку і прыхінуцца да сцяны. Дзіўна ўсё ж, што Ніна і Ганна не пакінулі мяне на ноч. Такая закрытасць і асцярожнасць здаваліся мне характэрнымі для горада, а не для вёскі, тым больш амаль пустой, дзе павінны б радавацца кожнаму чалавеку. А можа, адвыклі яны ад людзей, акрамя адна адной? Навошта ім новыя твары на старасці гадоў — прывучайся да іх, руйнуй звыклае жыццё. Лухта ўсё гэта — пра сувязь пакаленняў, ніхто нікому не патрэбны насамрэч…

Я не адразу зразумела, што вывела мяне з дрымоты: свечка яшчэ не дагарэла, вецер не біў галінамі дрэў у шыбы, змрок узмацніўся, але ўсё яшчэ сядзеў у кутах. Прыслухалася: шапаценне лісця за акном было не адзіным гукам. Нешта дапаўняла яго з іншага боку, робячы гучанне аб'ёмным. Я павярнулася… Свечка згасла.

Але яна не была адзінай крыніцай святла. З-пад дзвярэй у суседні пакой прасочвалася тонкая бела-блакітная палоска. Я не паспела спыніць сваё багатае ўяўленне. Думка пра пажар, якую

я прымусіла з’явіцца насуперак яму, была абвергнута холадам і колерам святла. Ну чаму ноччу рацыянальнае мысленне адключаецца? Забываецца, што духаў, прывідаў і шабашу ведзьмаў не існуе, прынамсі, у гэтай хаце ім рабіць няма чаго. А крыніца святла… Можа, поўня прабілася праз хмары і свеціць проста ў акно?

Але святло жывое — то сціхае, то ярчэе. Стараючыся не дыхаць, я запаліла яшчэ адну свечку. Стрымліваць дыханне не ўдавалася, сэрца гучна стукала пад каленкамі, падкошваючы іх. Я пайшла да дзвярэй. З ціхім рыпеннем — ці то ў маім здранцвелым целе, ці то ў завесах — яны прыадчыніліся.

На стале ў цэнтры пакоя стаяла белая свечка, ад якой сыходзіла блакітнае ззянне. Вакол на драўляных лаўках і зэдліках сядзелі людзі. Таксама белыя, з паўпразрыстай блакітнасцю, і апранутыя ва ўсё белае. Іх было сямёра — мужчына і жанчына сталага веку, яшчэ адна пара — маладыя, і тры юнакі. Першыя чацвёра неразборліва перамаўляліся, адзін хлопец глядзеў на свае пустыя рукі, быццам трымаў у іх штосьці, а яшчэ два вадзілі указальнымі пальцамі па стале, нібы малююць.

Памкненне ўсчыніць лямант спынілася дзесьці на паўдарозе. Я адчула, быццам падглядаю штосьці вельмі інтымнае, роднае. Далёкае і чужое. Тое, на што страціла права. Я не здолела больш трымацца і са свістам выдыхнула. Маладзейшая з жанчын, якая сядзела найбліжэй да дзвярэй, павярнулася. Зноў сцяла ў грудзях — на мяне глядзела… я. Не люблю свой адбітак у люстэрку, але тая я была неверагодна прыгожая — блакітна-белая, гладкая, быццам адлітая з найлепшай парцаляны. Яе белыя пустыя вочы паглядзелі ў мае, белыя вусны ўсміхнуліся адразу і з дакорам, і з прабачэннем. Яна ўстала, зрабіла крок да мяне і працягнула руку. Забыўшыся на ватоўку, я выбегла з хаты і ледзь не кульнулася з ганка. Толькі тут канчаткова прачнулася. Прымроілася ўсё, не іначай. Я агледзелася.

Ліхтары не гараць, месяц спіць, накрыўшыся хмарамі. А вуліца заліта святлом. Дзясяткі агеньчыкаў раскіданы па ўсёй вёсцы. Я сфакусіравалася на бліжэйшым з іх — у хаце насупраць прабабулінай, з паваленым плотам і амаль адарванымі дзвярыма. Праз выбітыя вокны было добра бачна: белы жаночы сілуэт выглядае штосьці ў печы, два дзіцячыя, седзячы за сталом, пільна сочаць за кожным рухам жанчыны. Вось з-за рога хаты паказаўся мужчына — праз імгненне ён унутры, сядае за стол, паціраючы рукі.

Жаўтабокая суседская хата таксама не пуставала. У адным з пакояў сядзела пара — мужчына з жанчынай сярэдніх гадоў. Жанчына прытулілася да мужчынскага пляча і заплюшчыла вочы. А ён зірнуў у акно. Убачыў мяне. Белыя пустыя вочы. Павольна ўстаў і пайшоў проста да акна, да мяне, быццам паміж намі не існавала ні сцяны хаты, ні мяжы жыцця і смерці. Я стаяла і бязвольна сачыла — кожны крок павольны, дакладны. Толькі калі мужчына зусім наблізіўся да шкла і яно перастала быць перашкодай, я, скінуўшы з сябе аняменне, пабегла.

Ад мільгацення блакітных плям круцілася галава. Выразным быў толькі адзін імпульс — бегчы! Куды? Да жоўтага агеньчыка!

Ганна і Ніна не спалі. Быццам для мяне, гарэла ў іх хаце цёплае жоўтае святло. Яны пачулі тупат яшчэ з дарогі і сустракалі мяне ля дзвярэй у незвычайнай згодзе. Па іх тварах было зразумела: яны ўсё ведаюць.

— Сюды хутчэй. Не бойся, у жывую хату ён не зойдзе.

— Хто ён? Да мяне пайшоў! Чаму?— запыхалася я. Азірнуўшыся, убачыла ўдалечыні пасярод дарогі павольны бела-блакітны сілуэт.

— За Тацցяну прыняў. Вельмі вы падобныя, ну як дзве кроплі вады, таму і я збянтэжылася, днём цябе пабачыўшы. А ён закаханы быў у яе ўсё жыццё, ды й зараз, бачу, выходзіць часам уночы, стаіць пад акном, чакае, каб зірнула на яго. А тут ты — жывая, сапраўдная, сама падышла. Не бойся, ён сюды не зойдзе. А каб і зайшоў, нічога кепскага не зробіць — мы ж усе тут свае. Вось яны і вяртаюцца.

Трапіўшы ў цяпло і бяспеку, я адчула цэлы мех стомленасці на плячах. Яшчэ па дарозе пытанні ўва мне проста бурлілі. Але, сеўшы на лаўку ля печы, атрымаўшы ў непаслухмяныя рукі кубак з гарачай гарбатай, а ў цяжка-пустую галаву — думкі, я вырашыла, што нікуды не зварухнуся да раніцы і нават рот не адкрыю. Самі скажуць. А не скажуць, то й халера з імі.

— Прабач, — сказала Ніна пасля працяглай паўзы.

— Мы перапужаліся, што ты прадасі Таньчыну хату, таму і адправілі цябе на ноч адну, каб сама ўсё пабачыла, — са скрухай у голасе дадала Ганна.

— Пабачыла што? — я ледзь варушыла языком.

— Ну… Нас. Іх усіх. Усіх, хто калісьці тут жыў. Наша вёска калісьці мястэчкам была. Буйным, прыгожым. Якія тут кірмашы былі, якія фэсты! Сама мала бачыла, а вось маці і бабуля шмат распавядалі. Там, дзе дарога пераходзіць у сцежку між хмызняку, стаяць закінутыя хаты. Каля сотні. Разбураныя, лес праз іх расце. І людзі там жывуць. Белыя-белыя. Сто гадоў таму жылі. І вярнуліся, калі хаты спусцелі. Добра, што нашага свету не ведаюць, у сваім жывуць. Куды што знікла? Засталася во я ды… — махнула рукой у бок Ніны.

— А я тут прычым? — праз сон запыталася я.

— Калі памірае апошні, хто ў хаце жыў, яна збірае да сябе душы ўсіх людзей, што нарадзіліся ў ёй, каб яны зноў і зноў пражывалі тое ж жыццё. Бо хата не можа зусім пустой стаяць. І чалавек без яе не можа, бо будзе бадзяцца нічый. У хаце, што ты прадаваць сабралася, жыве твая прабабуля з братамі, іх бацькі, што хату будавалі, ды Таньчын муж, твой прадзед, які прыйшоў у дзяцінстве парабкам і застаўся. Мы з Нінай памром — вернемся, яна ў сваю хату, я ў сваю, і будзем пражываць там жыццё за жыццём, як ужо пражылі. А што будзе з тваёй сям'ёй, калі ты хату прадасі? Куды вернуцца твая бабка з маці? Калі чужыя людзі будуць жыць у тваёй хаце, то дзе будзеш ты?..

***

«Дзе будзеш ты?» — словы, з якімі я заснула і прачнулася, так і не адчапіліся. Не прайшоў і боль у спіне — усю ноч я праспала, седзячы на лаўцы, прыхінуўшыся да печкі, якая пад світанак зусім выстыла. Халоднымі і цяжкімі, як камень, былі мае начныя мроі: блакітнае свячэнне, белыя-белыя людзі, што вяртаюцца ў свае хаты. Канечне, гэта быў сон, што ж яшчэ? Сонечная раніца пацвердзіла, што ўсё прымроілася: няма ні белых людзей, ні белай поўні — толькі жоўтая цеплыня.

Але як дзіўна гэта — быць не сабой цэлай, а часткай чагосьці. Думаць, што ты такая, як ёсць, не таму, што гэта выпадковасць плюс тваё жаданне, а таму, што за табой стаіць цэлы шэраг людзей, якіх ты не ведаеш, але ад якіх залежыш. Яны нябачныя, але яны — вырашылі цябе, звязалі па руках і нагах так, што не варухнешся. Так і ты станеш — добра б імем, а то і ўвогуле нікім.

Але не хачу пра гэта думаць. Не хачу нічога, што вешае цэтлікі і вызначае прыналежнасць. Хачу намацваць у сумцы прыемна-прахалодны канверт з грашыма за хату і кантэйнер з бутэрбродамі — абсалютна гарадской і незалежнай ежай. Яшчэ колькі хвілін у аўтобусе, і я буду дома.

І я буду сама па сабе. Сама свая.

Я страсянула галавой, адганяючы чарговае марыва — белы мужчынскі сілуэт у цёмным пустым канцы аўтобуса.

## Мёртвы малёк

«*Расплюшчы вочы! Расплюшчы вочы*!» — гарлае будзільнік.

Будзільнік даўно не аўтарытэт для С. Галоўны рэдактар Р, які штораніцы выгаворвае за спазненні, таксама не аўтарытэт. І ўвогуле, няма ў свеце чалавека ці нагоды, якія б прымусілі журналістку С расплюшчыць вочы. Але С робіць гэта. Дакладней, павекі самі разыходзяцца, вяртаючы С з чарнаты сну ў рознакаляровы хаос непрыбранага пакоя.

За ноч зноў нічога не адбылося. С не прачнулася ў шыкоўным палацы каралевай, прыгожай і ўладнай, не абудзілася ад сну праз пяшчотны шоргат марскіх хваль за сляпуча-жоўтымі ад сонца вокнамі. Нават шматдзённы завал рэчаў у пакоі не разабраўся самастойна. Нічога і не змянілася. С прымусіла сябе не бянтэжыцца і паабяцала сёння звярнуць горы. Вось толькі прыедзе на працу.

Цела пасля сну драўляна-непаслухмянае. Такое і да першай гары не дойдзе. «Нядрэнна б рабіць зарадку штораніцы», — падумала С, але ідэя здалася настолькі чужой і бязглуздай, што затрымалася ў галаве не больш за паўсекунды. С сонна пашаркала на кухню, дзе яе чакалі крыху абрыдлыя, але лёгкія ў прыгатаванні бутэрброды.

***

У тлумнай рэдакцыі С робіцца спакайней. Строгі інтэр'ер кабінета, у адрозненне ад разбэшчанасці кватэры, дае адчуванне дакладнасці сябе, упэўненасці ў сваёй моцы.

С любіць гэта адчуванне. С п'е каву і гартае цяжкі суровы нататнік у чорнай скуранай вокладцы — пераглядае планы на тыдзень. У бліжэйшай перспектыве ні адной гары, якую б можна было звярнуць. Дзе-нідзе ёсць купкі, але збольшага — яміны. Усе падзеі ў спісе здаюцца С вартымі толькі таго, каб быць зарытымі ў яміны. За апошнія дваццаць гадоў, думае С, жыццё абмялела, і ёй — акуле, вялізнай і крыважэрнай — даводзіцца плаваць, нізка схіліўшы галаву, каб выжыць. Як тут рабіць вялікія справы, дасягаць вышынь, калі высунь крыху галаву з вады — і задыхнешся імгненна. Тут хіба што малькам раздолле, вось яны і вырываюцца наверх.

Дакладней, думаюць, што вырываюцца.

С злуецца, што мелкаводдзе не прыстасавана для акул. Калі С была мальком, свет здаваўся зусім іншым — вялікім і глыбокім, і быў у ім адзін відавочны зразумелы курс — наверх. Але малькі растуць, «верх» набліжаецца і аказваецца столлю, у якую можна хіба што біцца галавой.

***

С сядзіць у кавярні і чакае S. Сустрэча павінна была пачацца дваццаць хвілін таму. Сама С спазнілася на пятнаццаць хвілін, а S усё яшчэ няма.

S — малёк. Дакладней, усе кажуць, што S — маладая перспектыўная пісьменніца, якая калі-небудзь пераверне літаратурны свет. S і сама так лічыць, бо ўжо мае першую кнігу. С думае, што S — маленькае амбітнае дзіцятка. Колькі С бачыла такіх аўтараў, якія не ведалі, што калі ты напісаў адну кнігу, то ты — толькі аўтар адной кнігі, але яшчэ не пісьменнік.

С старанна злуе сама сябе. Яе раздражняе, што малёк дазваляе сабе спазняцца на сустрэчу з акулай. Раздражняе самаўпэўненасць малька, неабходнасць размаўляць з ім, казаць пра яго. Раздражняе, што ў S ёсць цэлае імя на вокладцы кнігі, а ў С — толькі подпіс пад артыкулам. С ужо ведае, як адпомсціць за гэта. Яна будзе бянтэжыць кожным словам, ставіць на месца кожным позіркам.

Яна — акула, а малькі існуюць, каб акулы харчаваліся.

С агледзела сябе ў люстэрка насупраць. Акула чакае ахвяру, не інакш. Хіба зможа хтосьці супярэчыць яе твару, які кажа, колькі яна бачыць і ведае. Хіба яе фрызура, чырвоная памада і цыгарэта ў доўгіх пальцах не ставяць на месца ўсіх, хто зашмат думае пра сябе? Хіба яе мажная постаць дазволіць камусьці абмінуць яе? Нічога ў свеце не адбудзецца без ведаму і дазволу журналісткі С.

С робіць чарговы глыток алкаголю — ён ужо не казыча прыемна язык, і С перастае разумець, навошта замаўляла яго. У гэты момант у кавярню ўвальваецца малёк S. Малая, смешная і растрапаная — валасы зблыталіся ад ветру, паліто зашпілена толькі на два гузікі, з-пад яго выбіваецца завялікі цёмны швэдар. Убачыўшы С, S усміхнулася шырока і прывітальна замахала рукамі — з рукавоў на занадта даўгіх снурках звісалі рукавіцы.

С і сама не заўважыла, як выдыхнула з палёгкай. Паблажліва ўсміхнуўшыся, яшчэ раз кінула вокам ў люстэрка, каб пераканацца: яна — сапраўды акула, якая перайграе любога малька.

S села. Тонкімі, чырвонымі ад холаду пальцамі прагартаўшы меню, замовіла гарбату і жудасна салодкі торт. С, гледзячы на дзіцячую валтузню над талеркай, з усёй магчымай годнасцю пацягвала бессэнсоўна горкае змесціва свайго келіха.

— Пачнём, — хутчэй канстатавала, чым запыталася, і ўключыла дыктафон: — Чаму вы вырашылі, што маеце права пісаць?

— Мне здаецца, на гэта ўсе маюць права. Мне хочацца — вось я і пішу. Не будзе жадання — не напішу нічога.

— Такая пазіцыя для аўтара, які выдаў кнігу, не выглядае шчырай. Чаму вы вырашылі, што людзям цікава чытаць ваш… твор?

— Гэта вырашала не я, а мае чытачы. Я зрабіла кнігу для тых, хто хацеў яе мець, — нават не думала, што ахвотнікаў так шмат. Увогуле мне было цікава пісаць, іншае — неістотна.

— Што вылучае ваш твор з вялікай плыні літаратурнага смецця?

— Тое, што я ведаю, дзе яго шукаць. І хто хоча знайсці яго ў «плыні» — знойдзе. Калі мая аповесць узрушыла хаця б аднаго чытача, а яна ўзрушыла, — я ўжо дасягнула мэты.

— Вашу кнігу вылучае штампаванасць характараў і неарыгінальнасць вобразаў. Ці не ў гэтым сакрэт ажыятажу — вы проста ідзяце насустрач нізкім густам?

— Калі мая аповесць узрушыла хаця б аднаго чытача… Зрэшты, вы гэта ўжо чулі. Калі я захачу пісаць яшчэ, магчыма, улічу вашы заўвагі.

— З такімі амбіцыямі ці не цесна будзе вам у нашым дробным літаратурным азярцы?

— Калі цесна ў вадзе, калі сапраўды цесна, можна выйсці на зямлю. Калі і зямлі мала, можна гадаваць крылы. Калі вага і ўзрост дазволяць узляцець, канечне. Калі не — застаецца толькі зласліва буркатаць на тых, хто можа больш, чым ты. Дарэчы, у вас памада размазалася, і рот стаў як крывавы, нібы вы з'елі кагосьці жыўцом. Пачакайце, я запішу гэта.

S дастала тоўсты сшытак. На вокладцы было напісана «Зборнік апавяданняў S».

С зірнула ў люстэрка. На яе адтуль глядзела акула, якой так і не выпала з'есці малька, — хіба што пракусіць сабе язык.

***

С адважылася на фізічнае практыкаванне: перацягала з антрэсоляў у пакой скрыні са старымі рэчамі. На трэцяй скрыні рукі пачалі трымцець, на шостай — апошняй — давялося зрабіць неверагодныя высілкі, каб проста падняць іх угору, — С глядзела, як прыкра дрыжыць на іх абвіслая скура.

У адной з пыльных кардонных скарбніц, сярод старых нататнікаў, падраных кніг, ненадрукаваных артыкулаў і няспраўджаных мар нарэшце знайшоўся сшытак.

Сшытак, над якім С праседжвала дні і ночы, у які ўкладала ўсе свае думкі, у якім мальком жыла сама.

«Зборнік апавяданняў С» — было напісана на ім.

С чытала. С смяялася. С спадзявалася. С пужалася. С плакала. С злавалася.

Ёй захацелася зноў пасяліцца ў гэтым сшытку, у тым часе, у той С.

Ёй захацелася парваць сшытак, прачнуцца раніцай з чыстай памяццю і дакладна ведаць, што рабіць далей.

Ёй захацелася заснуць і больш не прачынацца ніколі.

Яна — не акула.

Проста мёртвы малёк.

**Маргарыта Латышкевіч**

# Сербскі вянок для Максіма

*У краіне светлай, дзе я ўміраю,*
*У белым доме ля сіняй бухты*
*Я не самотны, я кніжку маю*
*З друкарні пана Марціна Кухты*

У наш час вельмі значная (па колькасці) частка чалавецтва, здавалася б, толькі і шукае нагоды, каб раздзяліцца і падзяліць, расцячыся па два бакі ўзброеных барыкад, развесці і спаліць масты, абтросшы попел з ног сваіх.

У такія — страшныя — часы вельмі важна адшукаць нешта такое, што аб'яднала б, паказала блізкасць і роднасць, нагадала б нам, што ўсе мы — роўныя, не лепшыя і не горшыя адно за аднаго.

Раўназначныя.

Роўнавялікія.

Але ці ёсць сродак ад нянавісці, сродак знайсці раўнавагу? Ці ёсць мова, на якой размаўляем мы ўсе, аднолькава і здавён?

Ёсць, на наша шчасце.

Гэта мова паэзіі. Незалежна ад паходжання, веравызнання, расавай прыналежнасці, усяго таго, што ўтварае ілюзію няроўнасці, усе мы аднолькава адчуваем гэтую мову, якая гучала яшчэ ў пячорных калыханках ды ўслаўленнях добрага палявання, якая была з намі — з усімі людзьмі — праз усю гісторыю чалавецтва і праз кожнае вялікае «маленькае» жыццё.

Мы ўсе аднолькава размаўляем на мове паэзіі, міжволі адгукаемся на рытмізаваныя радкі, захоўваем у памяці гучныя сакавітыя рыфмы. І калі гэтыя рыфмы пачынаюць, быццам рэха, адгукацца ў розных мовах свету, ці не даводзіць гэта зноў і зноў тую непераможную ісціну пра наша ўсеагульнае чалавечае падабенства, пра нашу роднасць і роўнасць?

Даводзіць. Кожны якасны мастацкі пераклад — зерне на шалях сусветнай раўнавагі. Гэта спосаб размаўляць, нягледзячы на моўны бар'ер, нягледзячы на адлегласці, нягледзячы на палітыку.

Колькі праблем гэтага свету можна было б вырашыць яшчэ ў самым пачатку, калі б проста — пагаварыць?..

У кніжцы, пра якую ідзе размова, Максім Багдановіч — з лёгкай рукі Даяны Лазаравіч — загаварыў па-сербску.

Багдановіч для беларусаў, як вядома, фігура знакавая. Як і надзвычай знакавая яго кніга, зборнік з характэрнай назвай — «Вянок» паэзіі, «Вянок» уражанняў, «Вянок» закаваных у выкшталцоныя рыфмы думак. «Вянок» на магілу Сяргея Палуяна — і адначасова на магілу самога аўтара. Той пайшоў з жыцця занадта рана, трагічна рана, але пры гэтым здолеў пакінуць пасля сябе яркі след, што нязгасна ззяе праз стагоддзі.

Тым больш радасна, што драбок гэтага ззяння, гэта васільковае насенне хтось ашчадна падхапіў у свае рукі, прапусціў праз сваю душу, цярпліва і старанна, аддана адсочваючы ўсе пералівы, усе найменшыя рухі слова. І даў багдановічаўскім васількам заквітнець на сербскай глебе, а словам Максіма — загучаць на сербскай мове.

Даяна Лазаравіч — малады перакладчык (сёлета якраз абараніла магістарскую па беларуска-сербскіх і сербска-беларускіх літаратурных сувязях).

Магчыма, менавіта маладосць Даяны, нароўні з заўзятасцю сапраўднага Кніжніка, дапамагла ёй прасякнуцца духам гэтай кнігі, якую сам Багдановіч называў «маладою». Маладосць, зрэшты, зусім не азначае нявопытнасць: за плячыма ў Даяны таксама і вопыт перакладання малой прозы (Уладзіміра Караткевіча), і вершаў — Караткевіча, Танка, Броўкі, а таксама, што надта важна, знаёмства з сучаснай паэзіяй Беларусі (у прыватнасці, з творчасцю Міколы Мятліцкага).




Гартаючы гэтую кнігу, беларускі чытач, нават не ведаючы сербскай мовы, зловіць знаёмыя назвы і рыфмы.

Бо кніга — гучыць. На Максімаў лад. Гэта, напэўна, лепшая ўхвала для перакладчыка: сведчанне таго, што творы, рэканструяваныя на іншай мове, паранейшаму пазнавальныя, што словы не страцілі той першаснай аўтарскай афарбоўкі, задумкі, натхнення.

І чым болей чытачоў з новых і новых краін зможа далучыцца да спеўнага багдановічаўскага радка, падзяліць гэта натхненне, тым болей падстаў у кожнага з нас будзе сказаць:

«Я — не самотны».

Бо мы — разам.

Бо мы размаўляем на адной мове.

На мове паэзіі.

# Падарунак песнярам

«М»ы не маглі абмінуць увагай сёлетнія юбілейныя святкаванні адразу двух нашых класікаў — Якуба Коласа і Янкі Купалы. І перад намі паўстала пытанне: як належным чынам ушанаваць памяць слынных творцаў і, болей за тое, перадаць асаблівасці творчай індывідуальнасці кожнага? На жаль, для некаторых, асабліва школьнікаў, гэтыя два імені зліваюцца ў адно неразрыўнае паняцце, у цьмянае, невыразнае адзінства.

— Якіх беларускіх пісьменнікаў вы ведаеце?

— Ну… там… гэта… Коласакупалу…

У гэтым нашым матэрыяле нам хацелася прадэманстраваць, наколькі сёлетнія юбіляры непараўнальна адметныя — па тэмпераменце, па творчай манеры, па ходзе думак і плыні мовы. Двое, несумненна раўназначныя па велічыні таленту ды значнасці, але — такія розныя па характары.

Хтосьці скажа, што паэзія класікаў сёння — рэч «састарэлая». Класікаў, маўляў, усе згадваюць ды цытуюць, але чытаць ніхто не чытае. Падобны аргумент усплывае досыць часта, і адказаць на яго можна адным непераможным контраргументам: класікі таму і класікі, што іх творчасць актуальная ў любыя часы. Вядома, усе любяць лічыць сваю эпоху непаўторнай і звышновай, але канстанты чалавечага існавання застаюцца ўсё тымі ж. Канстанты роднай мовы, канстанты роднай зямлі. Каардынаты сэрца.

Вершы, якія пасля разляцеліся да нашых перакладчыкаў, «М»ы адбіралі па двух прынцыпах. Папершае, гэта мусіў быць твор, які раскрывае творчую манеру аўтара, з'яўляецца сціслай характарыстыкай яго літаратурнай персоны. Па-другое, твор павінен быць параўнальна невялікім па памеры — каб перакладчыкі, закаваныя ў ланцугі дэдлайнаў, не паднялі паўстанне.

«М»ы доўга раіліся, гарталі кнігі, перачытвалі, спрачаліся, сварыліся, мірыліся, зноў гарталі кнігі.

І «М»ы — знайшлі. Для сябе. Для ўсіх вас.

Верш Якуба Коласа, падобны да прахалоднай рачной плыні, звонкі, дасканалы, напеўны, поўны чараў, быццам радкі «Калевалы». Верш-зварот да самога Слова, панегірык гэтаму Слову, размова са Словам сам-насам. Спакойная ўпэўненасць дасканаласці, расквечаныя несціханай любоўю жывыя вершаваныя радкі, туга пераплеценыя, перавітыя адмысловым рытмам, падобным да біцця сэрца. Рыфмы нанізваюцца адна на адну, падпарадкоўваючыся ўладнай волі творцы, рыфмы чаруюць, выпяваюць патаемныя чары — ад самой гэтай зямлі.

Верш Янкі Купалы, падобны да зыркай успышкі купальскага вогнішча, выбух з самай глыбіні сэрца, рэзкі вокліч, іранічна-з’едлівы, трыкстарскі адказ, вырваны з напружанага, вострага дыялогу. Верш-страла, верш з горыччу, што імгненна ўскіпела на вуснах, што быццам бы схапілася агнём ад нечай пакінутай за



Якуб Колас

Слова — радасць, слова — чары,
Вобраз вечна юных вёсен!
Ёсць ты ўсюды: ў сонцы, ў хмары,
Ты глядзіш праз неба просінь.
Лашчыш слух мой, слова-ззянне,
Атуляеш сэрца ласкай.
Ноч і вечар, дзень, світанне
Абняло ты, слова-краска.

кадрам касмапалітычнай прапаведзі. Агністая няўрымслівая перакананасць, памножаная на абурэнне, карнавальная маска, наўмысна прымераная, бязлітаснае ў сваёй бездакорнасці люстэрка — «Вось вам, зірніце!»

Сёння, як і пяцьдзясят, і сто гадоў таму, і заўжды, нязменна важнае Слова. Сваё, адзінае, роднае Слова, уласная музыка — у свеце, поўным чужароднага шуму. Важна прайсці шлях да Слова, знайсці яго ўнутры ўласнай душы, і там — выспеліць, узгадаваць, захаваць.

Сёння, як і пяцьдзясят, і сто гадоў таму, і заўжды, нязменна важная Радзіма. Нацыянальная самасвядомасць у касмапалітычным да мозгу касцей свеце, дзе ўладарыць глабалізацыя. Важна прайсці шлях да сябе, зазірнуць ва ўласныя сны, у сваю падкорку, у прапісанае даўным-даўно на ўзроўні генетыкі.

Таму тут вы пабачыце два надзённыя і вострыя вершы ад нашых Песняроў. Пабачыце гэтыя вершы ў адбітках самых розных моў. Але пры ўсім тым у любым перакладзе яны — аднолькава беларускія. Блізкія. Свойскія.

Нашы.

Янка Купала

### Кто убо грядет тамо?

Кто убо грядет тамо, кто убо грядет
В незличоной ником же толпе?
— Белорусы.
Што убо несуть оне на худых на раменьех,
На руцех во крви, на нозех в лаптех?
— Свое утрапене.
Камо же несуть сіе утрапене свое,
Камо же несуть на позорище свое?
— На свет целы.
А кто же убо их, не одну тьму тьмы
Кривду научиша носити, розверзе их сон?
— Беда, горе.
А что же убо восхотелося им,
Взгардою през веки огаргоненым,
слепым абіе и глусим?
— Убо людіе зватися.

*Пераклад на старабеларускую мову*
*Уладзіміра Кароткага*

Янка Купала

...О так! Я — пралетар!..
Яшчэ учора раб пакутны —
Сягоння я зямлі ўладар
І над царамі цар магутны!
Мне бацькаўшчынай цэлы свет,
Ад родных ніў я адвярнуўся —
Адно... не збыў яшчэ ўсіх бед:
Мне сняцца сны аб Беларусі!



***

**На англійскую — ад Маргарыты Латышкевіч**

У выпадку з вершам Коласа мне падалося найбольш важным захаваць (па меры сваіх сціплых магчымасцей) выбітную рытмічную структуру гэтага верша. Напеўны зварот і яркае прызнанне ў любові самому Слову — што можа быць лепей?

Англійскае слова «prole» — гэта слэнгавае скарачэнне, зняважлівае найменне для прадстаўніка пралетарыяту канца XIX стагоддзя. Мне падумалася, што ў дадзеным кантэксце менавіта слова з такой канатацыяй будзе глядзецца больш адпаведна задуме аўтара.

*Jakub Kołas*

Joyful words, you, words of chanting,
Ain't your image always youthful!
Ever-present, ever-shining,
As the sun, and ever-ruthful,
Soothe my ears, while gently guiding,
Warm the heart of mine with care.
You've embraced so much inside you,
Every dusk or dawn is there.

*Janka Kupała*

…Why, sure! I am a *prole*!..
A master from now on, unlike
The slave I was before,
I'm strong, I'm free, untied!
The big world is my home,
I have moved on, it seems, —
Yet… Belarus alone
Is haunting all my dreams!

***

**На шведскую — ад Яўгена Папакуля**

Пераклад паэзіі з беларускай мовы на шведскую (а не наадварот) стаў для мяне першым досведам такога кшталту. Больш за тое, брацца за творы нашых выбітных класікаў Коласа і Купалы вельмі адказна. Але адначасова і ганарова, бо дапамагае прасоўваць нашу беларускую культуру ў свеце.

*Jakub Kołas*

Ord! Du glädjer och förtrollar,
Som en doft av unga vårar.
Överallt är din närvaro,
Du är evig, du bedårar!
Du kan skina, smeka hörseln,
Fylla hjärtat med förtröstan.
Varje stund, som bästa vännen,
Kramar du min själ med trösten.

*Janka Kupała*

...Ja! Jag är proletär!..
Jag var en slav som ville lugn —
Nu har jag fått mitt eget land
Och jag är mäktigaste kung!
Jag lämnat mina hemmajsfält,
Och hela världen är mitt hus,
Men... jag har bara ett problem:
Jag drömmer om mitt Belarus!

***

**На сербскую — ад Даяны Лазаравіч**

Даяна Лазаравіч нарадзілася ў 1993 годзе ў горадзе Шабац Рэспублікі Сербія. Летась у Белградзе скончыла філфак, сёлета ўжо абараніла магістарскую працу на тэму «Бібліяграфія перакладаў з беларускай мовы на сербскую і з сербскай на беларускую». У сваёй бібліяграфіі мае пераклады твораў Максіма Багдановіча, Максіма Танка, Петруся Броўкі, Уладзіміра Караткевіча, Міколы Мятліцкага і іншыя.

*Јакуб Колас*

Речи — радости, речи — чари,
Лик пролећа младих вечно!
Постојиш свуда: у облаку, сунцу,
Гледаш кроз небо плаветно.
Дираш ми слух, речи — сијање,
Окружујеш срце љубазношћу.
Ноћ и вече, дан, свитање,
Грлиш ти, речи — разнобојношћу.

*Јанка Купала*

...О да! Пролетер сам ја!..
До јуче сам био тужни роб —
Данас сам земље господар
И над царевима моћни цар!
Моја отаџбина - свет је сам,
Окренуо сам се од њива родних —
Ипак... не реших се беда свих:
О Белорусији снове сањам!

***

**На рускую — ад Алёны Беланожкі**

«Перакладаць класікаў прасцей, чым сучаснікаў — класікі не пакрыўдзяцца!», — падумала я і ўзялася за пераклад. Аказалася — не прасцей, бо адразу пачынаеш адчуваць высокую адказнасць за кожнае слова. У перакладзе я ставіла за мэту, перш за ўсё, перадаць настрой кожнага верша, аднак зараз думаю: ці не дужа па-жаноцку выглядаюць мае варыянты бліскучых вершаў, напісаных двума сапраўднымі Мужчынамі Ад Паэзіі? У любым выпадку, я атрымала сапраўдную асалоду ад працэсу!

*Якуб Колас*

Слово — радость, слово — тайна,
Образ вечно юных вёсен.
Ты в лучах, в дожде хрустальном,
Ты глядишь сквозь неба просинь.
Ты сияешь, слух ласкаешь.
Утолив сердца любовью,
Солнце с Месяцем венчаешь,
Целый мир объят тобою!

*Янка Купала*

Я — пролетарий! Короли,
Я в полный рост
Стою пред вами!
Не раб, но — властелин земли
И царь всесильный над царями!
Огромный мир — Отчизной мне.
От нив родных я отвернулся…
Понять бы лишь, по чьей вине
Мне снятся сны о Беларуси!

***

**На украінскую — ад Адама Шостака**

З першага погляду, вобразы вельмі празрыстыя, яскравыя, нават схематычныя. Але калі прачытаць удумліва і з развагай гэтыя, здавалася б, простыя вершы, колькі падсэнсаў можна знайсці!.. Літаратурны пераклад заўсёды з'яўляецца ў пэўнай ступені трансфармацыяй паміж мовамі, перастварэннем лексічных і граматычных канструкцый. Проста ведаць абедзьве мовы (арыгінала і перакладу) недастаткова для перакладчыка. А ці добрым атрымаўся ў рэшце рэшт пераклад — вырашаць чытачу.

*Якуб Колос*

Слово — радість, слово — чари,
Спів вічно юначих літ!
Скрізь ти є: у сонці, в хмарі,
З неба просині привіт.
Лащиш слух ти, слово-сяйво,
Слово — ніжністі ти свідка.
Ніч і вечір, день, світанок,
Обіймае слова-квітка.

*Янка Купала*

...О так! Я — пролітар!..
Ще вчора раб покутний —
Землею зараз володар,
Я над царями цар могутній!
Та й батьківщина — цілий світ,
Від рідних нив я відвернувся —
Одне… не збув я ще всіх бід:
Літаю в снах до Білорусі!

***

**На польскую — ад Кацярыны Канчэўскай**

«І прыйдзе новых пакаленняў на наша месца грамада…» — спадзяваўся некалі Паэт. Вось мы й прыйшлі. Толькі ці здзейснілі ўсё тое, пра што сніў Купала? На жаль, ён найчасцей успрымаецца выключна як паэт «сахі і касы», хаця насамрэч ён — Пясняр Волі. Калісьці я ладзіла з моладдзю спектакль да ўгодкаў Купалы, сцэнар «Сны аб Беларусі» напісала на падставе яго вершаў. Вельмі важная камісія падазрона заўважыла: «Нешта бэнээфаўскае ў вас атрымалася»… Здорава, што рэдакцыя «Маладосці» абрала для перакладу менавіта гэты верш, які ўвабраў у сябе ўсю купалаўскую, а разам з тым і яго суайчыннікаў, і сучаснікаў, тугу па Беларусі. Чытайма Купалу нанова і прынамсі паспрабуйма зрабіць так, каб гэты сон аб Беларусі пачаў станавіцца рэальнасцю. Гэта ж і ад кожнага з нас з вамі таксама залежыць. І памятайма, што «суд гісторыі цяжкі»…

*Janka Kupała*

...No tak! Robociarz jam!..
Wczoraj niewolnik niedołężny —
Już dzisiaj jestem ziemi pan,
Ze wszystkich carów car potężny!
Ojczyzną jest mi cały świat,
Jam ojcowiznę swą porzucił —
Aczkolwiek... mam też parę:
Ja nadal śnię o Białorusi!

***

**На польскую — ад Цімура Буйко**

Я — выпускнік філалагічнага факультэта БДУ. Для мяне было важна перакласці тэкст максімальна блізка і адначасова з тым не дапусціць падрадковага перакладу. Лексіка арыгінала простая, цяжкасці ўзнікалі ў сувязі з неабходнасцю захавання рытмічнага строю і дакладнай рыфмоўкі.

*Janka Kupała*

Jam proletariusz! Tak!
Dopiero wczoraj czułem «chamie!»,
Dziś mam ziemskiego władcy znak,
Jam król potężny nad królami.
Ojczyzna ma to wielki świat,
Swe niwy nie potrafią kusić —
Lecz nie uniknąłem wszystkich biad,
Bo widzę sny o Białorusi!

***

**На англійскую і польскую — ад Антона Клімовіча**

Я чарговы раз атрымаў асалоду ад ёмістасці англійскага сінтаксісу, дзякуючы якому я з лёгкасцю раскрываў беларускія вобразы. Пры перакладзе на рускую/беларускую даводзіцца, наадварот, рэзаць па жывому і аддаваць дадатковыя адценні, каб дагадзіць граматыцы.

Калі першы раз прачытаў «... О так! Я — пралетар! ...», я зразумеў верш павярхоўна, мяне адхіліла прыкра-патрыятычным душком. І толькі пры перакладзе я ўбачыў крытыку абязлічвання камуністычным касмапалітызмам. І стала цікавей.

Каб праверыць пераклад на польскую, я адправіў яго тром незнаёмым жанчынам з Польшчы і ветліва папрасіў іх знайсці памылкі і ўвогуле ацаніць маю працу. Адна з іх адказала. Так, прынамсі, на адну памылку стала менш.

*Jakub Kołas*

Words are joyful charming fellows,
Words are springtime ever-youthful!
You live in a storm that bellows,
In the sky sunlit and truthful.
Gleaming words indulge my hearing
And engulf my heart in kindness.
Vibrant words embraced endearing
Tranquil night-time and day's brightness.

*Jakub Kołas*

Słowo, to jest czar i radość,
Obraz wiecznie młodych wiosen!
Słońca żar i chmury bladość,
Nad szczytami starych sosien.
Pieścisz słuch mój, słowo-granie,
Serce czule tak otaczasz.
Noc i wieczór, dzień, świtanie
Słowo-farba, ty oznaczasz.

*Janka Kupala*

Oh, yes! I am a working man!…
I was a slave before,
Today my reign at last began
And over kings I soar!
The world became my fatherland,
I left my home downstream,
Still one misfortune did not end:
Of Belarus I dream!

*Janka Kupała*

…Tak! Jestem robotnikiem!…
Zostałem dzisiaj panem —
A byłem niewolnikiem —
I teraz rządzę stanem
Świat zesłał mi ojczyznę,
Pożegnał się dom z synem,
Lecz mam na sercu bliznę:
O Białorusi sny mam!



# Братэрства: каардынаты літаратурнай дружбы

У апошнія гады склаліся добрыя і трывалыя традыцыі па прадстаўленні ў Беларусі сучаснай літаратуры народаў Расіі ў перакладах на беларускую мову і ў публікацыях «Нёмана» на рускай мове.

Вось і зараз часопіс «Маладосць» знаёміць айчыннага чытача з творамі татарскага паэта Роберта Мінуліна, татарскага празаіка Алмаза Гімадзіева, чачэнскіх пісьменнікаў Сайда-Магамеда Гелагаева, Адама Ахматукаева, Лулы Куні, Асі Умаравай, балкарскага паэта Саліха Гуртуева, марыйскага празаіка Васіля Краснова… Яны — з розных пісьменніцкіх пакаленняў. Не ў кожнага на памяці стары лозунг: «Дружба народаў — дружба літаратур». У гэтым «інтэрнацыянальным» выпуску «Маладосці» да расіян з Каўказа і Татарстана, Марыйскай Рэспублікі і Кабардзіна-Балкарыі далучыліся туркменскія празаікі Камек Кулієў і Максат Бяшымаў. Хацеў бы акцэнтавана заўважыць, што гэта не першыя іх сустрэчы з беларускімі чытачамі. Хіба што за выключэннем Сайда-Магамеда Гелагаева, Асі Умаравай ды марыйца Васіля Краснова.

Да прыкладу, народнага паэта Роберта Мінуліна даўно перакладаюць як дзіцячага паэта. Яшчэ «за савецкім часам» з'явіліся яго першыя публікацыі ў Беларусі. А летась і кніга вершаў Роберта Мінуліна выйшла ў Выдавецкім доме «Звязда». Перакладчыца – маладая паэтэса Яна Явіч. Чачэнец Адам Ахматукаеў апошнім часам прыязджае ў Беларусь на пісьменніцкія «круглыя сталы», удзельнічаў ён і ў адным з сімпозіумаў літаратараў «Пісьменнік і час». Друкаваўся ў «Літаратуры і мастацтве». Дарэчы, і ў Чачэнскай Рэспубліцы гэты вядомы паэт і перакладчык шмат робіць дзеля пашырэння беларуска-чачэнскіх літаратурных сувязяў. З апошніх прыкладаў — яго пераклады трох вершаў Якуба Коласа і паэмы Янкі Купалы «Нікому». Толькі што гэтыя пераклады былі надрукаваны ў газеце «Даймохк». А для часопіса «Вайнах» (ліпеньска-вераснёўскі нумар; ужо рыхтуецца да здачы ў друк) Адам Ахматукаеў пераклаў творы Францыска Скарыны, Максіма Багдановіча, Максіма Танка, Міколы Купрэева, Пімена Панчанкі, Алеся Бадака, Алены Стэльмах, Марыі Кобец, Валерыі Радунь.

Для знаёмства патрэбны літаратурна-мастацкія інтэрнэт-пляцоўкі. Як іх развіць, як прыцягнуць да іх увагу?.. Адзін з прыкладаў – «Созвучие: литература и публицистика стран Содружества», дзе цесна аўтарам, мовам і літаратурам. Зазірніце па гэтым адрасе

Не меней старанна працуе на ніве сяброўства з беларускай літаратурай чачэнская паэтэса, празаік, публіцыст Лула Куні. Яна выступае ў беларускім друку з інтэрв'ю, меркаваннямі пра тыя ці іншыя творы сучаснай беларускай літаратуры. Друкавалася ў «Нёмане», «Літаратуры і мастацтве». А ў часопісе «Нана», які выходзіць ў Грозным на чачэнскай і рускай мовах, яна змяшчае пераклады паэзіі і прозы беларускіх пісьменнікаў. Друкавалі ў гэтым выданні і вершы народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна. Выйшлі ў «Нане» і артыкулы пра нашых паэтаў — Рыгора Барадуліна, Максіма Багдановіча. Рыхтуецца серыя публікацый вершаваных падборак нашых класікаў з уступнымі артыкуламі. Зараз Лула Куні ўкладае калектыўны зборнік беларускай паэзіі на чачэнскай мове. Па сённяшнім часе такі плён дарагога варты. Можна ўжо гаварыць, што ад Мінска да Грознага выбудаваны трывалы мост сяброўства. Будзем спадзявацца на працяг добрых спраў.

Туркменскія аўтары ў восьмым нумары «Маладосці» — Максат Бяшымаў і Камек Кулієў. Творы апошняга з іх друкаваліся ў «Бярозцы». Падборка перакладаў яго апавяданняў выйдзе ў калектыўным зборніку, які рыхтуецца да друку ў выдавецтве «Адукацыя і выхаванне». Максат Бяшымаў выступаў у «Маладосці» з падрабязным расповедам пра маладую літаратуру Туркменістана. Такія кантакты даюць магчымасць разгледзець літаратурныя працэсы ў розных краінах і паспрабаваць зазірнуць у сучасны свет розных народаў. А з нядаўніх туркменскіх публікацый у «ЛіМе», «Маладосці», «Полымі», нават «Бярозцы» – вершы і апавяданні Агагельды

Аланазарава, Бягуль Анабаевай, Сапармурада Авязбердыева, Касыма Нурбадава, Керыма Курбанняпесава…

І «Маладосць», і «Полымя», і «Літаратура і мастацтва» сталі выданнямі, якія разам ствараюць добрую пляцоўку для зносін пісьменнікаў Беларусі і пісьменнікаў постсавецкай і не толькі постсавецкай прасторы. Але, карыстаючыся нагодай новай сустрэчы з новымі творамі, хацелася б звярнуць увагу на некаторыя праблемы. Публікацыі такога кшталту, як гэтая вось сустрэча з творчасцю замежных літаратараў, — падстава для развіцця ўяўленняў пра беларускае мастацкае слова ў свеце. І туркмен Максат Бяшымаў, і чачэнцы Лула Куні, Адам Ахматукаеў, і літоўцы Яронімас Лауцюс, Вітаутас Жэймантас — людзі і творцы, якія з'яўляюцца праваднікамі культуры Беларусі ў сваіх краінах. Ім толькі трэба дапамагчы, падказаць… Найперш — з мэтай ажыццявіць правільны перакладчыцкі выбар. Падругое, плён іх працы павінен быць падставай для абмеркаванняў і разваг — пра літаратуру і пра Беларусь. Тыражы любога друкаванага выдання сёння досыць абмежаваныя. Значыць, для знаёмства патрэбны літаратурна-мастацкія інтэрнэт-пляцоўкі. Як іх развіць, як прыцягнуць да іх увагу?.. Адзін з прыкладаў – «Созвучие: литература и публицистика стран Содружества», дзе цесна аўтарам, мовам і літаратурам. Зазірніце на гэты адрас… Відаць, прыйшла пара болей рашуча садзейнічаць мадэрыраванню на гэтай электроннай прасторы з боку самых розных нацыянальных складнікаў. У супольнасці з «Полымем», «Літаратурай і мастацтвам», «Маладосцю» «Созвучию…» можна было б шмат што зрабіць. А памагатых нашай нацыянальнай літаратуры шмат ва ўсім свеце.

І сёння перакладаюць беларускую літа-ратуру… У Азербайджане гэтым найперш апякуецца Камран Назірлі і Севіндж Нурукызы. Вось толькі што добрая вестка прыйшла з Баку. Пачала выходзіць цэлая серыя «Сучасная беларуская літаратура». І адразу тры кнігі прыйшлі да чытача з гэтай адзнакай: раман Мікалая Чаргінца «Сыны», кнігі апавяданняў Алеся Бадака і Георгія Марчука. Усе іх пераклаў Камран Назірлі. А яшчэ раней ён зрабіў пераклад аповесці лаўрэата Нобелеўскай прэміі Святланы Алексіевіч «У вайны не жаночы твар»…

І «Маладосць», і «Полымя», і «Літаратура і мастацтва» сталі выданнямі, якія разам ствараюць добрую пляцоўку для зносін пісьменнікаў Беларусі і пісьменнікаў постсавецкай і не толькі постсавецкай прасторы

У Калмыкіі шмат робіць для прапаганды беларускай паэзіі Рыма Ханінава. У «беларуска-калмыцкай» супольнасці ёй дапамагаюць у гэтай справе паэты Эрдні Эльдышаў, Вера Шуграева, і іншыя рупліўцы.

Удмурція даўно настойліва сочыць за беларускім літаратурным працэсам праз творы народнага пісьменніка Удмурціі Вячаслава Ар-Сяргі. Дарэчы, летась яго кнігай паэзіі Выдавецкі дом «Звязда» адкрыў серыю «Сябрына: паэзія народаў Расіі».

У Татарстане прапагандыстамі беларускага прыгожага пісьменства выступаюць народныя паэты Татарстана Рынат Харыс, Роберт Мінулін, празаік Ляля Гімадзіева.

І ў Чувашыі, якая некалі дала нядоўгі прытулак Янку Купалу, ёсць добры сябар беларусаў — Атнер Хузангай.

Што ўжо казаць пра Казахстан, дзе беларускай паэзіі, прозе, творам для дзяцей рады і ў часопісах, і ў газетах, і на «Беларускім партале ў Казахстане», якім апякуецца наш зямляк Міхась Буланаў. А літаратуразнаўца кандыдат філалагічных навук Святлана Ананьева выкарыстоўвае кожную магчымасць, каб расказаць пра беларускую літаратуру, адзначыць выхад у Беларусі новых цікавых твораў. Святлана Віктараўна неаднойчы ладзіла і «круглыя сталы», і канферэнцыі, дзе ішла размова пра беларускую літаратуру, усталёўвала беларуска-казахскія літаратурныя сувязі. Нельга не згадаць і паэта Нурлана Аразаліна, і перакладчыка Кайрата Бакбергенава, і літаратуразнаўцу Хамрада Алімжанава…

Такому шчыраму літаратурнаму сяброўству можна толькі радавацца! І застаецца да зробленага дадаваць і новыя справы…

*Алесь Карлюкевіч*

# Сувой эмоцый, веры і надзей

## Роберт Мінулін

### Старыя вершы

Аднойчы недавольны,
Што ўсюды хлуд і хлам,
Рыззё па ўласнай волі
Павыкінуў я сам.

Ды ў смецці, што за дзверы
Я вынес, быў відзён
Малы шматок паперы –
Радкі з мінулых дзён.

Радкі, што ў нашым часе
Не дадзена стварыць.
Агонь юнацкай страсці
У кожным з іх гарыць.

Стаю, і сэрца ные,
Не ведаю, як быць.
Радкі старыя тыя
Даўно паспеў забыць.

Ды вершы без заганаў
Стварыць шчэ здольны я…
А чытачам складана,
Напэўна, удвая.

### На зімовай сцежцы

Іду сцяжынай ледзяной,
Ляжыць зімы падушка,
Ды цуд які — перада мной
Няведамая птушка!

Прысела, глянула — адна,
Схілілася галоўка.
Як прыгажосць нясе яна —
Паважна, лёгка, лоўка!

І я ад жвавасці такой
Адразу ж здаравею:
Ужо лягчэйшаю хадой
Ступаю праз завею.

Ды не, яшчэ пажыць хачу
І лёс свой зацугляю…
І птушку тую прыручу,
Як зваць, шкада, не знаю.

Яна ж замерзне у пургу —
І ў ёй стукоча сэрца!
Бліжэй ідзі! Дапамагу —
Ёсць месца дзе сагрэцца.

…Калі на птушку паглядзеў —
У неба паляцела.
І я ураз павесялеў
Душой сваёй і целам.

### Калі ж ты паспела?

*Дачцэ Тансылу*

Прыйшла ў юнацкую пару,
Красуеш у якім ты леце?
Даруй, дачушка, мне, даруй
За тое, што і не прыкмеціў.

Цяпер цябе не пазнаю —
Зусім дарослай стала.
Руку трымаючы маю,
Па вуліцы ступала,

Расці імкнулася хутчэй —
Стройнюткая бярозка,
Уцеха маміных вачэй,
Краса вачэй бацькоўскіх.

Звысоку нейк глядзіш на нас —
Другое пакаленне…
А мы — з усмешкаю падчас,
Ды болей — з захапленнем.

Вядома мне: няма дабрэй,
Душа спагаду чуе.
Ты усміхнешся — дзень святлей,
Пажыць даўжэй хачу я.

Мне грэе сэрца позірк твой —
Упарты ці слухмяны.
Вачэй нябеснай сінявой
Даўно зачараваны —

Калі гатовая са мной
Сакрэт дзяліць ты нейкі
Або пад стрыманы настрой
Зноў апускаеш вейкі.

І пад начы абложаю
Душой не пакрыві,
Будзь радаснай, прыгожаю,
У шчасці век жыві!

Надзею ў сэрцы акрылі,
З ёй крочыць па жыцці...
Ды ўсё ж пытаюся: калі
Сумела падрасці?

### Туман

Яго пялёнка засціць зрок,
Ваколле спавіла,
Яшчэ учора незнарок
Клубілася імгла.

Густым і чэпкім стаў туман,
І дыхаць цяжка мне.
Ён водгулле забытых ран
У сэрцы варухне.

Я праз яго, нібы праз ноч,
Сцяжынаю іду.
Мне кажа морак: ціха кроч.
Сваруся на хаду

І на яго, і на сябе,
На беспрасвецце дзён,
На свет, што тузае, скубе,
На часу марны скон.

Туман агус — цяжэй вады.
Спытацца б: збочыць дзе
У цемры скутай — і куды
Шлях гэты прывядзе…

### Начныя птушкі

Ім сонца яснае — кашмар,
Для іх раскоша — ноч.
Яны ляцяць ад зыркіх фар,
Як ад агню — наўзбоч.

Сустрэць я марыў іх паўсюд —
Як вочы цемры злой,
Як навальніцы гнеўны гуд
У цішыні нямой.

Прыводзіла ў зняменне дух
Ў бясконцай немаце
Глухое грознае «вух-вух!»
Усюды і нідзе…

Калі начамі галава
Святлее у савы,
Дык я па-свойму ёсць «сава»,
Бо днём — як нежывы.

Сцінае клопатаў сіло,
А я — нібыта ў сне.
Ўначы паэзіі святло
Прыходзіць да мяне.

*З татарскай. Пераклад Міколы Мятліцкага*

## Саліх Гуртуеў

### Каханне

Каханне радасць з горыччу змяшала
Ў складаным лёсе неба і людзей.
Трымае, бы на кончыку кінжала,
Сувой эмоцый, веры і надзей.

Пяшчотаю прымусіць чалавека
Араць палі бясконцыя свае…
А ён і рады гнуцца, недарэка,
Калі сляпою вераю жыве.

* * *

Лясы на схілах — часам залатым…
Ды жухлая трава ля дома гнецца.
А мама зараз думае аб чым,
Калі адна у хаце застаецца?

Ці светла небасхіл над ёй цвіце,
Ці ружа ў садзе добра прыжылася?
І сумна мне, і так мяне гняце,
Што мама у самоце засталася.

* * *

Зімні вечар расчосвае грыву
Той завеі, што спіць у акне…
Не гучыць галасок твой шчаслівы —
Адыходзіць любоў ад мяне.
Ручая срэбразвоннага цела
Ператворыцца ў зманлівы лёд.
Ты прыйсці да мяне не схацела —
Перарваўся чароўны палёт…

*З балкарскай. Пераклад Юліі Алейчанкі*

## Лула Куні

* * *

Ты маўчыш. І дні сыходзяць,
Бы палонныя, — маркотна.
Тлум стаяў. Ды стала ціха
Ў гэтым свеце бессмяротным.

Мілы сябар. Доўгім-доўгім
Стане лёс майго раману.
Вольны вецер нескароны
Не пастукаецца ў раму.

І не ляжа ля парога
Снежным дыванком дарога…

Дык няўжо вось так прыходзіць
Вестка даўняя ад Бога?

* * *

*Дзеду Куне*

Курган стары даўно не бачыў слёз,
Травой у стэпе сцішаным кусціцца.
Крык птушкі да ухваленых нябёс:
Імя тваё ў стагоддзях паўтарыцца.
Кроў выступіць на пятах. Ад расы
Падол прамокне. На вятры — бы стужка.
Мой дзед… Таксама бачыў бляск касы,
Чуў шолах крылаў адзінокай птушкі…

* * *

Што я згубіла у гэтых забытых далінах?
Кволы прамень залаціць палінялыя травы.
Голас паклікаў —
як быццам глыток акавіты.
Жарсці сыходзяць, што сэрца раз’ятрана рвалі…

Хто папрасіў перайсці залатыя парогі
Казкі і былі? Сцяну непазбежнага смутку?
Плача зурна[1]. І мільгаюць старонкі-дарогі
Кнігі забытай — да вечнасці ластаўкі хуткай.

Я узыходжу па цёплай — ад сонца — Дарозе,
Я узыходжу да светлай Гары запаветнай.
Мне абяцалі спакой, ды тану у знямозе,
Шчасця сляды зацярушаны восеньскім ветрам.

… Што я шукала у гэтых забытых далінах?

*З чачэнскай. Пераклад Юліі Алейчанкі*

## Хасан Тхазёплаў

***

Назіраю я з самотай свет людзей , іх кроз і дум.
Ды не бачу сілу духу ў іх саміх як на бяду.
Бо як злобу нараджае нехта страшны ці тупы,
Ён тым самым параджае строй бяздумных і сляпых.

***

Караванны мой шлях пралягае праз ноч.
Цішыня напаткае адзінокага зноў,
Хоць ты стукай па небе. Вярблюд захрыпеў.
Ды душа прадаўжае бязмоўны напеў.

***

Твае вочы як сапфіры — так заўважыў Хакані.
Той жа вобраз феі дзіўнай паўтарае Хасані.
Я, табой зачараваны, зноў пяю на ўсходні лад
Пра дзівосны, быццам ружа, прамяністы твой пагляд.

[1] Усходні духавы музычны інструмент.

***

І я народ, і ты народ, мы ўсе — народ народаў.
Ды вось з якой пароды мы ў суквецці генных кодаў?
Ва ўсіх ранімая душа праз белы свет іскрыцца.
І ў кожнага — зямны свой шлях і вечнасці крыніца.

***

Не проста так пазнаць сябе , хто ёсць ты ў гэтым свеце.
Ты поўзаеш, або ляціш, або імчыш , як вецер.
Ці зорка ты або ты смоўж, чарвяк ці птушка ўранку?
Такая вострая , як нож, з сабою апытанка.

***

Душы нашы — як легенды, як аазіс паміж сноў,
Душы нашы разумеюць мовы розныя без слоў.
Што яны шукаюць вечна, што іх рухае праз свет
І праносіць Шляхам Млечным сярод зорак і планет?

*З кабардзінскай. Пераклад Навума Гальпяровіча*

# Сайд-Магамед Гелагаеў

## Вытокі

Пачатак рэк — вяршыні гор высокіх,
Не будзе скону веснім водам іх.
У жыццяў нашых ёсць свае вытокі,
Што ў сэрцах маці — чулых, дарагіх.

Пакуль жыццё цячэ яшчэ, сваволіць
Пад неба неабсяжнага шатром,
Мы твары не забудзем іх ніколі,
Што ззяюць нам і ласкай, і дабром.

## Світанне ў гарах

Так рана — сонцу шчэ няма паміну,
Кусты яго чакаюць і дрыжаць.
І па дрымотнай крочу я даліне,
Каб поўны прыгажосці дзень пачаць.

Усе шляхі, мой краю, як адзіны,
Вядуць да мэты неяк загаданай —
Будзь бацькам, краю, ў цяжкую гадзіну
Дай сілы жыць, як мне наканавана.

Аленем шпаркім паміж гор, пад сонцам
Бяжыць Аргун. Нястрымны і празрысты,
Свой шлях вядзе сярод каменняў чыстых,
Што точаць хвалі гонкія бясконца.

Вуголле сонца коціцца здалёк
І цепліцца за горнаю вяршыняй.
О краю мой, ласкавы мой выток,
Ты надзялі мяне душой арлінай.

Дай моц ляцець, як моцы не стае,
За воблак, што ёй квеценню здаецца,
І чуеш — песня з-за вяршыні льецца:
Яна пра прыгажосць тваю пяе.

## Птушыны свет

Як не стане ў свеце птушак —
Неба знікне ў той жа дзень.
Крылы іх трымаюць душы…
Ім мяжы няма нідзе.

Не стрымаць палёту думак —
Нібы птушкамі былі.
За птушыных крылаў шумам
Вёсны крочаць па зямлі.

Пелі птушкі — і праз гэта
Сталі пець і я, і ты.
Іх газелі ды санеты
Ў гэтым свеце — назаўжды.

Будзе ў хаце і калыска,
Покуль птушкі ў небе ёсць,
І заўсёды будзе блізка
Цуд натхнення, прыгажосць.

*З чачэнскай. Пераклад Валерыі Радунь*

# Адам Ахматукаеў

***

Сцяжынкай вузкай сярод стромкіх скал
Упарта лёс я сонечны шукаў.

Мне падавалася, наверсе я знайду
Жыцця свайго гаючую ваду.

Ды мара мая сталася маной:
Душу мне апаліла навіной,

Што немагчыма павярнуць назад —
Нібы мяжа між намі — мост Сірат.

***
Зорыцца ноч месяцовым радком.
Смутак мяне захлынае ракой.

Зранку не можа мая галава
Думак самотных віхуру ўтрымаць.

Пэўна, ад злыбедаў і ад трывог
Цёмнаю ноччу душу не збярог.

«Мама, няўжо наш абрынецца свет?» —
Я хваляваўся, ці дзень ажыве…

Казкі мне мама чытала тады —
Казкі, дзе шчасцем квітнеюць сады.

Толькі калі пасталеў я, знайшла
Словы, што поўняцца сілай святла:

«Ведай, сынок, што без бацькавых рук
Раптам пакоціцца сэрца на брук,

А без пяшчоты, малітвы маёй
Сонца не будзе ўглядацца здалёк,

Ранкам халодным пад знакам бяды
Свет скаланецца і знікне, як дым…»

З гэтага часу пачаў заўважаць:
Не пакідае дзяціны той жах.

І на зямлі ўсіх шляхоў і дарог
Мне не прайсці без журбы і трывог.

Зорыцца ноч месяцовым радком.
Смутак мяне захлынае ракой.

Зранку не можа мая галава
Думак самотных віхуру ўтрымаць.

## Зразумееў ты

Дзве ластаўкі мільгаюць увесь час —
У тым гняздзечку дзеці іх пішчаць.

Адзіны клопат — бараніць жытло,
Узгадаваць і ўзняць іх на крыло.

Я ўсё гляджу на птушак — думак рой
Мяне паклікаў сцежкаю старой,

Дзе лета ёсць, і дзе няма зімы,
Дзе просяць дзеці толькі накарміць…

## Пакуль не пакінуў калыску…

Палюляй яго зыбку
Або заспявай калыханку.
Хоць аднойчы прыслухайся —
Чуеш? Спяшаецца час.
Заўтра будзе інакшай —
І ў кожнага новага ранку
Ты дзіцёнка свайго
Будзеш толькі на дзень пазычаць.

## Дзяўчынка

Ты толькі нарадзілася на свет,
Ды гэты свет ужо цябе заве.
Маленькая асоба — не прадмет,
Якім гандлююць, каб чагось займець.

Ды хутка размяняюць незнарок —
На першы гук дзіцяці, першы крок…
Таму, прашу, дзяўчынка, не бяжы.
Лёс напаткае — трэба проста жыць!

*З чачэнскай. Пераклад Тацяны Сівец*



**Алмаз Гімадзіеў**

# Бацькоўскі сход

На бацькоўскім сходзе  слова ўзяла настаўніца татарскай мовы Магафія апа.

— Я хачу пагаварыць пра пяцікласніка Сіразіева, — пачала яна выступленне.

Пачуўшы сваё прозвішча, прачнуўся і навастрыў вушы бацька гэтага самага пяцікласніка, які да таго часу маўчаў і нават спакойна пыхцеў на задняй парце.

— Задала я дзецям сачыненне на тэму «Вечарам у маёй сям'і». Усе напісалі добра і даволі падрабязна. Адзін толькі Сіразіеў вырашыў абысціся двума сказамі: «У нашай сям'і пяць чалавек. Вячэрні час мы бавім здарова». Я яму патлумачыла, што так нельга, і загадала напісаць пра ўсё падрабязна. І вось паглядзіце, калі ласка, што ён мне прынёс... — Магафія апа насунула на нос акуляры і пачала чытаць: — «Вечарам у нашай сям'і. Сачыненне. Нас у сям'і шэсць чалавек — мама, тата, старэйшы брат, я, кошка і бабуля. Вечарам у нас усё здорава. Калі мы сядаем вячэраць, вяртаецца з працы, хістаючыся, бацька і пачынае крычаць на маці: «Чаму селі вячэраць без мяне?!» А мама яму адказвае: «Дзе піў, туды і валі!» Калі ў размову ўмешваецца бабуля, то ёй усе дружна адказваюць: «Маўчы, баба-яга!» Пасля я саджуся за ўрокі. Тата бярэ хромку і выціскае з яе гукі, нечым падобныя да музыкі. Апоўначы з клуба вяртаецца старэйшы брат. Мама крычыць на яго: «Так! Ты зноў курыў?!» Бацька заступаецца за брата: «Усе сапраўдныя мужчыны павінны курыць!». «З чаго б гэта сямікласнік раптоўна зрабіўся сапраўдным мужчынам?!» — спрабуе ўмяшацца ў размову бабуля. Але ёй усе дружна крычаць: «Маўчы, баба-яга!» Пасля мы садзімся гуляць у карты. Старэйшы брат пастаянна мухлюе — раздае лепшыя карты сабе. Таму і мне даводзіцца падманваць. Зусім крышачку падманваць. Калі мая кішэня напаўняецца манеткамі, якія бацька адкладваў на цыгарэты, я зноў саджуся за ўрокі. Тата са старэйшым братам ідуць курыць у сенцы. Калі бабуля пачынае бурчаць: «Вы будзеце сёння спаць ці не?!», ёй усе дружна…»

— Не так усё было, не верце! — абурана закрычаў Сіразіеў-старэйшы. — Усе павярнулі ў яго бок галовы. — Няпраўда гэта! — паўтарыў ён. — Дзе ўжо ім, гэтым маляўкам, мяне абыграць! Калі ўжо вырашыў напісаць, то няхай праўду піша. Учора толькі гэты жаўтароцік прайграў мне ўсё сваё барахло да апошняга пенала!

Здзіўлена паглядзеўшы на абуранага Сіразіева, Магафія апа чамусьці не стала далей абмяркоўваць сачыненне. А сход працягваўся — перайшлі да рэгулярных уцёкаў Валіева з урокаў фізкультуры.

*З татарскай. Пераклад Алеся Карлюкевіча*

# Кніга рэкордаў Ніяза

Калі стала вядома, што Гаміля едзе на вучобу ў Турцыю, то старастам класа абралі Ніяза. На наступны ж дзень ён правёў сход.

— А давайце завядзём для нашага шостага класа «Кнігу рэкордаў Гінеса», — пачаў сваё выступленне Ніяз. — Гэта ж цікава. Вось, напрыклад, Салім можа шэсць гадзін запар гаварыць, недарэмна ж яго настаўнікі назвалі «зламаны патэфон». Ахат можа, незаўважна для настаўнікаў, спісваць на любой адлегласці, у любой позе любы тэкст. Ці возьмем Тасліму — яна ў нас спецыяліст па жвачцы. Вунь тую чырвоную жвачку, што ў яе зараз у роце, яна жуе з пачатку снежня… Ну, якія будуць меркаванні?

Клас дружна падтрымаў ідэю Ніяза. «Пісарчуком» зацвердзілі белабрысую Наілю. І «Кніга рэкордаў шостага класа» пачала напаўняцца маладымі рэкардсменамі:

Фаніс адзін месяц і васямнаццаць дзён хадзіў у школу без шапкі. Калі б вушы не адмарозіў, то хадзіў бы яшчэ даўжэй.

Хаміт — самы высокі ў класе. Яго рост — адзін метр шэсцьдзясят сантыметраў.

Тасліма паўгода смактала цукеркі «Му-му». (Праўда, калі верыць малодшаму брацiку Мардану, то гэта былі толькі абгорткі ад «Му-му», а ў іх ці другія цукеркі былі загорнуты, ці скарыначкі ад хлеба, бо бацька ім усяго толькі паўкіло цукерак і купляў. Але, як кажуць, не злоўлены — не злодзей, і Тасліму таксама ўпісалі ў кнігу).

«Кніга рэкордаў» вісела ў кутку класнага пакоя на вялікім цвіку, Наіля вельмі старанна яе запаўняла. Каго ўносіць у кнігу, Ніяз зацвярджаў на класным сходзе. З часам лік рэкардсменаў моцна павялічыўся, некаторыя

умудраліся тры разы на дзень біць рэкорды. Салім, напрыклад, за гадзіну забіў дзевяноста пяць мух мухабойкай, а яшчэ ён за адзін урок фізікі шэсць разоў выходзіў у туалет… А нядаўна ў кнігу сталі і настаўнікаў запісваць: «Сабіра апа за адзін толькі ўрок восемдзесят чатыры разы сказала «калі б ды кабы», Халяф абый за гадзіну выкурыў пятнаццаць цыгарэт, а ў Ганіі апа карова нарадзіла тройню…».

Аднойчы, жадаючы патрапіць у кнігу рэкордаў, шасцікласнікі наладзілі на перапынку спаборніцтвы па пляўках на адлегласць. У гэтым турніры, які праходзіў за рагом школы, перамог Фідаіль. Ён плюнуў на чатыры метры. Але пакуль плявок ляцеў па прыгожай траекторыі, з-за рага выйшаў дырэктар і… пра тое, што здарылася потым, не тое, што ўголас расказваць… Як успомню, дык адразу ўся спіна мурашкамі пакрываецца.

Карацей кажучы, пасля гэтага выпадку «Кнігу рэкордаў Ніяза» болей не адкрывалі.

*З татарскай. Пераклаў Алесь Карлюкевіч*

**Камек Куліеў**

# Сямейнае кіно

Не, што б там ні казалі, а тэлевізар усё ж такі — вялікая рэч! На вуліцы халадрыга несусветная, сівер вые, снег непралазны, а ў хаце, пэўна, і птушкі шчабечуць, і кветкі радуюць. Хіба што не пахнуць яны, а так — вясна, рай, атрымлівай асалоду, колькі душа таго пажадае… І за навінамі нікуды хадзіць не трэба — з усяго свету паведамленні сыплюцца самі… Сядзі і слухай, сядзі і глядзі, колькі душа таго пажадае.

Так разважаў Джамшыт-ага, які даўно і мацней моцнага палюбіў тэлевізар. Ён называў гэтую адпаліраваную скрыню са шкляной сценкай «чашай Джамшыта». Смеючыся, параўноўваў сябе з цёзкам — героем старажытнай легенды. Валодаючы неверагоднымі багаццямі, той, казачны Джамшыт, ці то шах, ці то хан, меў чароўную чашу, на дне якой па свайму жаданню мог пабачыць любы куточак зямлі. Як толькі надыходзіў вечар, Джамшыт-ага пачынаў хвалявацца, быццам рыхтаваўся да нейкіх урачыстасцей. Павячэраўшы, ён браў вялікую падушку і свабодна размяшчаўся на варсістым дыване. Пагладжваючы рэдзенькую, з жорсткімі ніткамі сівізны бародку, ён казаў як быццам між іншым:

— Куванч-бек! Давай зазірнём у нашу чашу Джамшыта. Уключы, калі ласка. Што яна нам падорыць сёння?

Джамал-эджэ звычайна сядзела за спінай мужа і сына. Яна ўмела глядзець перадачы моўчкі, толькі часам не вытрымлівала і прасіла:

— Бацька, прыбяры, дзеля Алаха, сваю шапку, нічога не бачу з-за яе. Яна ў цябе, як мінарэт.

Джамшыт у адказ жартаваў:

— Не перажывай моцна, калі што, дык мы пасля табе ўсё з Куванчам і раскажам.

Так было і ў гэты вечар. Жартуючы, паціху папіваючы зялёны чай, хвалюючыся і адчуваючы нецярпенне, Джамшыт чакаў кіно.

І вось пачалося. Прамільгнула назва — «Як гартавалася сталь». Пасля болей дробныя словы — «Другая серыя». І дзікая, злосная мяцеліца секанула ў твар, апякла яго… Джамшыт-ага пільна глядзеў у твары бальшавікоў і камсамольцаў, якія ў пякельных умовах будавалі на экране вузкакалейку, і з цяжкасцю верыў, што гэта звычайныя людзі, такія самыя, як і ён. Усё было супраць іх, і нават надвор’е лютавала, як самыя злосныя бандзюкі. Але людзі трымаліся і рабілі сваю справу.

Джамшыт-ага злёгку павярнуўся, коратка слізгануў вачыма па твары жонкі і зняў шапку, з якой ну зусім не любіў расставацца.

Нечакана пачуўся ломкі басок Куванча:

— Эх, усё адно і тое ж… Я гэта дзясяты раз гляджу, відаць, не меней.

У Джамшыта тарганулася шчака, ён прытрымаў яе далоняй, але ні сын, ні жонка гэтага не заўважылі. На экране ў імклівым парыве імчалі героі, мільгалі іх твары.

— Та-ак, аператар тут пастараўся, нічога не скажаш, майстар! — зноў загаварыў Куванч. — Шыкоўныя здымкі!

Карчагін, пакульгваючы, ішоў да паварыхі. Вось яна, хвалюючыся, лье гарачую ваду на яго абмарожаную нагу, працягвае яму кавалак хлеба.

— Ты што, — гнеўна запалалі вочы Карчагіна, — лічыш мяне апошнім гадам?!

— Вось што значыць акцёр — майстар. Добра іграе, так?

Гэтым разам Джамшыт-ага сярдзіта зірнуў на сына, апёк яго позіркам, але нічога не сказаў, толькі паварушыў вуснамі. Кuванчу б асцерагчыся, адчуваючы настрой бацькі, але дзе там…

— Кіно ёсць кіно, — сказаў ён сумным голасам. — У жыцці так да знямогі працаваць ні адзін дурань не стане.

— Вон з хаты! — закрычаў Джамшыт-ага так гучна і нечакана, што Джамал-эджэ спалохана адхіснулася. — Сыходзь, калі так думаеш!

Кuванч рэзка падняўся:

— Ты што, бацька? А хіба гэта не кіно?

Як малады, падскочыў і Джамшыт. Хапаючы яго за рукаў, Джамал-эджэ разгублена замітусілася:

— Што з табой, бацька? Што здарылася?

Ён вырваў з яе рукі свой рукаў, як шашкай узмахнуў:

— Маўчы ты!

Куванча быццам ветрам знесла.

— Не буду маўчаць! Звар'яцеў, ці што? Узяў ды ні з сяго ні з таго дзіця з дому выгнаў! Што з табой? Ты паглядзі, што дзеецца на вуліцы, бацька!

— А яны? Ім хіба не было холадна? — Джамшыт-ага доўгім сухім пальцам тыцкаў у бок тэлевізара. — Ці гэта не людзі?! — Джамал-эджэ працягнула руку, каб дакрануцца да шчакі мужа, на якой набрыняў, пачырванеў шрам — здавалася, зараз з яго пырсне кроў. Джамшыт адхіліў яе руку. — Ці яны былі горшыя за твайго сына? Дзі-цят-ка!

Ён зачыніў уваходныя дзверы на ключ і сказаў:

— Паспрабуй мне толькі ўпусціць яго раней, чым праз дзве гадзіны…

Праз нейкі час, крыху супакоіўшыся, Джамшыт-ага падышоў да заплаканай жонкі:

— Запомні: праз дваццаць гадоў гэтым сённяшнім малым і нашы пакуты, і нашы ахвяры пададуцца пустым гукам… Вось таксама адкажуць: «Што толькі артысты ні прыдумляюць…».

— Бяда, бацька, бяда! — шаптала пасінелымі вуснамі Джамал-эджэ. — Змерзне дзіця. Такі холад… Ён і без таго слабы яшчэ пасля хваробы.

— Супыніся! Перастань, кажу табе!

Джамал-эджэ уткнулася мокрымі шчокамі ў далоні. Зрабіўшы пару крокаў, Джамшыт глуха кашлянуў:

— Кхм… Ну, няхай… Упусці яго праз паўгадзіны.

Кішэнны гадзіннік «Маланка» каменем упаў на падушку. Слаба бразнула па крышцы сярэбраная змейка ланцужка.

*З туркменскай. Пераклад Алеся Карлюкевіча*

**Васіль Красноў**

# Вядзьмарка

Спакон веку амаль ва ўсіх вёсках абавязкова быў такі чалавек, якога пабойваліся, якога часам праклінaлі і ўжо абавязкова лаялі, усялякімі мянушкамі ўзнагароджваючы. Магчыма, такі чалавек і не быў варты таго, каб на яго ўсіх сабак павесіць. Не быў такім, якім людзям трэба было яго выставіць. Але, пэўна, ва ўсе часы чуткі і плёткі апярэджваюць, прыпісваюць часта тое, чаго і быць насамрэч не можа. Так вось і прымушаюць паверыць у незвычайную цёмную сілу, што, маўляў, дапамагае камусьці тварыць свае чорныя справы. І калі ўжо табе прызначылі такую ролю, то і нясі свой крыж да канца жыцця.

Жанчыну, аднойчы западозраную ва ўменні цудадзейнічаць, варажыць, у тым, што яна валодае ўсялякімі замовамі, надзялялі пячаткай не толькі яе імя, але і адорвалі горшай славай увесь наступны яе род.

Адна такая жанчына жыве і ў нашай Купсолі. У акрузе Керамляк пра яе ведае і стары, і малы. За вочы, колькі я сябе памятаю, старую звалі Вядзьмаркай. Было ў яе і звычайнае вясковае імя — Чапай кува, але мала хто застаўся сярод жывых, хто памятае пра гэта.

Няцяжка здагадацца, пра каго мы збіраемся вам расказаць. Паводле народнага павер'я, ва ўсёй ваколіцы акрамя Чапай кувы болей страшнага нікога і няма. Акрамя ўсяго іншага, старая знешне ў дакладнасці адпаве-

дала свайму прозвішчу: гарбатая, зморшчаная, з валасамі, колер якіх нагадваў выцвілы ад туманоў сівы мох. Хацінка ў яе была напалову згніўшая. Збоку — дакладна казачная хатка на курыных ножках. Як яна яшчэ трымалася і не развальвалася? Гэтага проста было не зразумець. Такога занядбанага жылля не толькі ў Купсолі, але ва ўсёй Керамляцы болей не знайсці. І пры ўсім гэтым, як ні дзіўна, сад-агарод усім на зайздрасць Чапай кува мела цудоўны, дагледжаны і чысцюткі. У іншых глядзіш — увесь ураджай прыбраны, укладзены ў сховы, а ў гэтым садзе да першых халадоў трымаліся на галінках яблыкі. Прычына была не ў тым, што жанчына жыла адна, дапамагчы не было каму, хаця і яе з разлікаў нельга было выкінуць. Проста ў сад Вядзьмаркі ніхто не лазіў. Баючыся, што яна нашле сурокі, купсалінцы абыходзілі бокам за вярсту тую мясціну, што іх пужала.

А з іншых старонак сцежку да Чупай кувы пратапталі даўно. Адкуль толькі яны пра яе даведваліся? І днём ішлі, і ноччу грукаліся: хто паваражыць прасіў, а каму настой з траў патрэбны быў. Старая ні перад кім дзверы не зачыняла, нікому не адмаўляла ў дапамозе. Але ці дапамагала яна сапраўды — пра гэта ведалі толькі тыя, хто аднойчы пабываў у яе доме. Справа гаспадарская — верыць ці не верыць, але ўсялякіх казак з гадамі назбіралася вялікая колькасць. Вяскоўцы, якія жылі побач, праклінаі той дом і ні ў якім разе не хацелі мірыцца з такім суседствам. Ох і мылі костачкі Чапай куве, калі ў каго-небудзь здаралася тая ці іншая бяда. Як тут не пазласловіць, як тут не абгаварыць? Ёсць жа на каго віну перакласці. Скаціна са статкам не вярнулася — Вядзьмарка звяла, птушка хатняя прапала — зноў яна сурочыла. У сям'і нехта захварэў незнарок — таксама сварыліся на знахарку.

Чапай кува пра ўсе плёткі, размовы ў свой бок ведала, але ў сваё апраўданне нічога не гаварыла. Тым самым яшчэ мацней распальваючы (як запалку ў салому кідаючы) ўяўленні тых, хто яе вінаваціў і апошнімі словамі абражаў.

Чапай кува была падобна да адзінокага ссохлага дрэва сярод поля: ні дзяцей няма, ні родзічаў. Людзі больш сталага ўзросту ўспаміналі, што загінулі яны на вайне. Мала хто ў гэта верыў. «Ды ў яе з нараджэння нікога і не было!» — сцвярджалі іншыя.

… Лізук, удаве Сцяпана з суседняй вёскі Атымбал, чуць такое пра Чапай куву даводзілся неаднойчы. Сам, таго не жадаючы, паверыш, калі плятуць пра гарбатую старую з усіх бакоў адно і тое ж. Ды і стараюцца ўсё болей пра дрэннае гаварыць. «Была б простая, як мы, то хіба б яна на старасці гадоў швэндалася некуды ўдалячынь. Сядзела б дома», — так думала жанчына і ўздыхала. Ёй хапала сваіх клопатаў. У апошні час у дом удавы перасялілася сапраўднае гора. Не прайшоў і год пасля смерці мужа, як захварэў адзінаццацігадовы сынок. Дзяцей у яе было трое: старэйшы сын служыў у войску, сярэдні вучыўся ў гарадскім тэхнікуме, малодшы, Валерык, жыў з матуляй. Любіла яна яго болей астатніх не таму, што ён быў паскробышам. Што тут хаваць — гэта таксама пачуццяў да яго дадавала. Маці не магла вачэй ад яго адарваць — так ужо Валерык да Сцяпана быў падобны. І характар, і звычкі, нават голас хлопчыка быў  падобны да голасу светлай памяці бацькі.

Але вось ужо некалькі тыдняў прайшло з таго дня, як нечувана-негадана Валерык пачаў чахнуць, быццам трава без вады: то раптам галава забаліць, то апетыт зусім знікне. Маці нават да гарадскіх дактароў яго вазіла. Тыя з усіх бакоў абследавалі дзіця. Пасля праведзеных аналізаў кансіліум склікалі, аднак ні да якой высновы не прыйшлі. І заявілі: «Гэта ў яго ўзроставае. Павінна прайсці». Агледзеўшы худзенькае цела хлопчыка, параілі больш сытна карміць, выпісалі нейкія лекі для прафілактыкі і развіталіся.

Спярша Лізук так і рабіла. Старалася гатаваць ежу з найлепшых прадуктаў, грошай не шкадавала, вітаміны давала, усе просьбы сына адразу ж выконвала. Але Валерыку ад гэтага лепей не станавілася. Жанчына зноў звярнулася да дактароў.

— Парашкі не дапамагаюць, вы, відаць, памыліліся з дыягназам, — расплакалася яна ў кабінеце доктара. — Калі ласка, праверце майго сына яшчэ раз.

Просьбу выканалі. Вадзілі хлопчыка з кабінета ў кабінет — асаблівых прычын для неспакою не знайшлі. Вырашылі падстрахавацца і далі накіраванне ў рэспубліканскую бальніцу. Сказалі:

— З'ездзіце. Там і тэхніка больш сучасная. І спецыялісты вопытныя працуюць.

… Валерыка змясцілі ў палату. Два тыдні ён там праляжаў. Прайшоў паглыблены агляд. Пракалолі вітаміны. І адпусцілі. Пры выпісцы доктар, які непасрэдна адказваў за лячэнне Валерыка, сказаў зусім ужо разгубленай маці:

— Ваш сын здаровы. У такім узросце, праўда, часам назіраецца неўроз. Не адчайвайцеся. Няхай як мага болей гуляе на свежым паветры.

… Прайшоў тыдзень. Валерык з дома не выходзіў. Яго маці мітусілася над ім, як над малым дзіцем. Ні спаць, ні піць, ні есці не магла. Па рэкамендацыі рэспубліканскіх лекараў давала сыну лекі, хаця і разумела — карысці ад гэтага ніякай. «Ты, сыночак, пайшоў бы пагуляць. Вунь твае сябры як бегаюць. Зусім белы з твару стаў. І мяшкі пад вачыма з'явіліся», — ціха гладзіла маці Валерыка па мяккіх валосіках. Не, ніяк не ўгаварыць было хлопца. Не хацеў ён ісці на вуліцу. Пасля доўгіх упрошванняў выйдзе да варот, пастаіць крышачку і — назад.

— Госпадзі, вялікі Божа! — узмалілася яна, звяртаючыся да іконы ў бажніцы. — Зрабі так, каб мая крывіначка, сыночак мой салодзенькі, не хварэў. Ты ўсё можаш. Няхай ён перастане пакутаваць. Не магу глядзець на ўсё гэта. Сіл маіх болей няма. Мужа забраў. Табе гэтага мала? Навошта табе мой хлопчык?! Я не вынесу гэтага, калі ты і яго ў мяне забярэш!

Раніцай, калі ўдава Сцяпана займалася хатнімі справамі, прыйшла яе маці — Епі кува.

— Табе маці зусім ужо непатрэбная стала? — пераступаючы праз парог, пачала наступ старая. — У маім узросце вымушаеш праз поле гэтулькі вёрст цягнуцца.

— Цішэй ты! Валерыка разбудзіш, — зашыпела на яе дачка, паказваючы на сына, які, на шчасце, спаў.

— Табе сын важнейшы, пра маці падумаць часу не знойдзеш, — пакрыўдзілася Епі кува. Але голас сцішыла.

— Перастань зараз жа! — раззлавалася дачка. — Калі спецыяльна сварыцца прыйшла, дык можаш назад вяртацца. Увайшла ў дом, не можаш па-чалавечы прывітацца. Адразу трэба крычаць? Вечна ты са сваімі прэтэнзіямі. Адвыкнуць не можаш камандаваць мною. Я цябе сюды не клікала! І так на душы моташна, а тут ты яшчэ дастаеш.

— Сама нагоду даеш. Мякчэй з маці трэба размаўляць. Казала я табе яшчэ да вяселля, калі ты ўхапілася за гэтага Сцяпана: не ўбачыш ты шчасця ў яго доме.

Так, дачка добра памятала папярэджанне маці, хаця і прайшло з тае часіны дваццаць доўгіх гадоў. Не падабаўся будучай цешчы даччын жаніх. Ох, не падабаўся! А пра прычыну таго непрыняцця тлумачэнняў яна не давала. Хто ведае: можа, не даспадобы ёй было красамоўства Сцяпана («Гарманісты ўсе несур’ёзныя!») альбо тое, што працаваў ён простым ляснічым. Але ва ўпраўленні лясніцтва да яго ставіліся добра. Ён быў хлопец шчыры і сумленны, налева лес не аддаваў, народ не падманваў. Характарам спакойны, стрыманы быў. Чаго Епі куве не хапала? Лепшага жаніха для дачкі яна ва ўсёй ваколіцы не адшукала б. Але яна на смерць змагалася супраціў, не дапускала да вяселля.

— Не і не! Не будзе табе з ім шчасця! — крычала так, як быццам паміж жорнамі прапускала дачку.

— Мама, патлумач мне — чаму? — дапытвалася дачка. — Мы кахаем адно аднаго. І сям’ю ў любові і згодзе пабудуем.

— Аднаго кахання мала, каб сям’ёю абзаводзіцца! — сказала, як адрэзала тады Епі кува.

За Лізук заступіўся бацька. Устаў на бок маладых. Іначай невядома, чым бы скончыліся гэтыя спрэчкі з упартай жанчынай. І як бы яшчэ ўсё склалася пасля. Жылі Лізук са Сцяпанам душа ў душу. Трох сыноў выгадавалі. У іх доме грубага слова ніколі не было чуваць.Так добра было: здавалася, што гэтая дабрыня, гэта шчасце будзе доўжыцца і доўжыцца. Толькі паміж зяцем і цешчай як быццам прабегла некалі кошка, ды так назад і не праскочыла. Яны не ладзілі. А між тым Сцяпан яе не крыўдзіў, не абражаў, быў прыветлівы, стараўся ва ўсім дапамагчы, дагадзіць. Але марнымі аказаліся ўсе яго спробы наладзіць з цешчай добрыя адносіны…

Не ведала б дачка і зараз, чаму маці не жадала гэтага вяселля. Толькі пасля, калі Сцяпан цяжка захварэў, адчуваючы, што засталіся яму лічаныя дні на белым свеце, муж расказаў гісторыю, якую так старанна хавала Епі кува ўсе гэтыя гады.

— Злавіў я тваю маці ў лесе на дрэннай справе. Усё ніяк прабачыць мне не можа з тае пары. А мог жа на яе і яе сяброў-татар з суседняй вёскі ў суд падаць. Хапіла б на некалькі гадоў турмы, — патлумачыў муж. Пасля яго не стала. Лізук засталася ўдавой.

— Мама, пара спыніць гэтую вайну. Зяць ужо год як у магіле, а ты ў яго дом усё яшчэ са злосцю ўваходзіш. Чаму ты ў мяне такая, мама?

— Яго няма, а я жывая! — злавалася Епі кува.

«І чаго прыйшла? Цяпер толькі перажывай з-за яе», — падумала з сумам Лізук і азірнулася на ложак, дзе на мяккай пасцелі з гусінага пуху ляжаў хворы сыночак.

— Не ведаю, што і рабіць, як быць з Валерыкам. Куды ўжо ні вазіла, чым толькі ні паіла…

— Увесь час табе казала — сам дом бядзе кланяецца. Вазьмі сына з сабой, пойдзем да мяне жыць. Адразу палёгка надыдзе. Успомніш мае словы!

— Пра што ты гаворыш, мама? Падумай галавою — як я кіну гаспадарку, як пакіну працай нажытае? — Лізук ледзьве стрымлівала слёзы. — Скаціны поўны двор. Сямён наступнай вясной з арміі вернецца. Яго трэба ў роднай хаце сустракаць. Не, нават і не ўгаворвай! І слухаць цябе не хачу!

— Кане-е-ешне, — расцягнула Епі кува са злосцю. — Калі ты мяне слухалася?! Таму і лёс такі сабе выбрала, што і сама ўжо не рада гэткаму жыццю. Вось і пакутуй, калі такая ўпартая.

Размаўляючы напаўголасу, маці і дачка выйшлі на вуліцу. Стаяла ціхае гарачае надвор'е. Пакрытае сінім небакраем, быццам упрыгожанае празрыстым полагам, неба было наўздзіў спакойнае. Сонца награвала зямельку, цёплы ветрык прасочваўся скрозь штыкеціны плота ў двор, знайшоў нейкую каляровую паперчыну і з шорахам ганяў яе, быццам немаўля гуляла з юлой. У пыле купаўся верабей, некуды спяшаўся па сваіх неадкладных справах мураш. Наўкол усё квітнела, жыло, дыхала і радавалася. Толькі Лізук не знаходзіла сабе месца. «Што рабіць? Як зрабіць так, каб Валерык выкараскаўся са сваёй незразумелай хваробы?» — адзіная думка, якая не пакідала і маленькага акенца астатняму жыццю, сіднем сядзела ў душы жанчыны, разрывала яе сэрца. Маці ёсць маці. Вышэй за мацярынскія пачуцці нішто ў свеце ў параўнанне не ідзе.

— У Купсалу, відаць, да Чапай кувы трэба схадзіць, — уголас прамовіла Лізук. Быццам сябе спытала. Ці, можа, хацела запытацца ў сваёй маці парады. Але сказала рашуча. Так, што склалася ўражанне: да жанчыны прыйшло азарэнне.

— Не балбачы абы-што! Глядзі ты на яе, дурную справу наважыла! — пачуўшы словы дачкі, так адрэагавала Епі кува. І сама спужана перахрысцілася. — Збірайся і едзь хоць да самай Масквы. Але па дактарах. Спярша ў Казані яшчэ паспрабуй каго знайсці. Там прафесараў хапае, каб як след пракансультавацца. Няўжо не дапамогуць?! А да Вядзьмаркі гэтай не сунься нават. Нічога вартага ты ў яе не выпрасіш.

— Ай, мама! Твае парады — пусты гук. З табою як з чалавекам, які шмат на свеце пражыў, шмат што пабачыў, хацела параіцца. А ты зноў за рыбу грошы… Вярзеш адно і тое ж…

… Жаданне схадзіць да Чапай кувы нарастала. Лізук у тыя дні гатова была пайсці на любую крайнасць, пакланіцца хоць самому чорту, абы толькі выратаваць сына. Пакуль толькі страх утрымліваў ды папераджальны шэпт маці. У рэшце рэшт, вырашыла яна, губляць ужо няма чаго. Людзі вунь з якой далечыні прыязджаюць, амаль прыпаўзаюць да Вядзьмаркі — не баяцца ж! А Лізук мясцовая, бабуля ведае яе з дзяцінства. «Калі будзе горш, то толькі мне. А Валерыку дапаможа — век буду дзякаваць», — паставіла яна кропку на сваіх сумненнях.

На другі дзень, накарміўшы сына сняданкам, Лізук стала збірацца ў Купсолу.

— Айда, Валерык, сходзім да Чапай кувы, — паведаміла яна.

— Да Вядзьмаркі?.. Я… не пайду да яе.., — тоненькі голас хлопчыка задрыжэў і зазвінеў ноткамі слёз.

— Гэта яшчэ чаму? Ты ж яе не ведаеш, — здзівілася Лізук словам сына.

— Баюся я, мама. Восенню… ну… усёй школай хадзілі збіраць бульбу ў поле ля Купсолы, я паспрачаўся з хлопцамі, што ўсім слабо, а я змагу залезці ў бабулін сад, сарваць для ўсіх яблыкі, — расказваў Валерык гісторыю, пра якую маці нават не здагадвалася. — Вядзьмарка паспела нас заўважыць, але мы ўцяклі. Яна доўга крычала ўслед. Відаць, кляла нас…

Лізук аслупянела на тым самым месцы, дзе стаяла, быццам хтосьці яе паленам па галаве ўдарыў. Апусцілася знясілена на лаўку.

— Гэта праўда, сынок? — ледзь вымавіла яна.

— Так, мама, — хлопчыка спужаў твар ашаломленай ад такой весткі маці.

«Выходзіць, што хвароба майго дзіцяці — справа рук Вядзьмаркі? — уся кроў імгненна адхлынула ад сэрца. Лізук адразу ўявіла, як Чапай кува насылае срокі на Валерыка. — З-за аднаго яблыка?! Хіба можа быць здольным на такое сумленны чалавек? Цяпер ужо нікуды не дзенешся — і без сваёй волі павінен ісці да Вядзьмаркі: трэба ўпасці на калені, прасіць, маліць яе…»

Схапіла Валерыка за руку і пацягнула за сабою.

Спыніўшыся каля перакошанага дома, Лізук выцерла ўспацелы ад напружання лоб кончыкам хусцінкі. Набіралася духу, каб увайсці, ды так усё яшчэ сумнявалася, правільнае рашэнне прымае ці не. Сэрца дзятлам

стукала ў грудзях, немагчыма было набраць паветра ў лёгкія. Быццам адчуваючы нядобрае, Лізук уся гарэла. І ўсё ж, прыцягнуўшы левай рукой сына да сябе бліжэй, перахрысціла яго правай рукой некалькі разоў запар і пагрукала ў вароты. У адказ — цішыня. Лізук забарабаніла грамчэй.

— Хто там? — данеслася праз якую хвіліну маўчання, затым пачулася рыпенне дзвярэй у сенцах. Адзін гук гэтага голасу прымусіў удаву Сцяпана анямець настолькі, што язык у роце быццам прымёрз і перастаў паварочвацца. Лізук ледзьве не страціла прытомнасць.

— Ды хто там — пытаюся?! Што трэба?! — на прыступках з незадаволеным выглядам стаяла невысокага росту згорбленая старая жанчына. Тварам цёмная, з чорнымі вачыма, — Чапай кува неспадзеўкі наводзіла жах.

— Гэта я… Удава Сцяпана з вёскі Атымбал. Сына прывяла. Хворы ён. Можа, дапаможаш чым?

Ледзьве не выпаліла: «Той, хто твае яблыкі той восенню ўкраў», — але прамаўчала.

— Уваходзьце, калі прыйшлі, — вымавіла старая і ціхенька рушыла, прапускаючы іх наперад.

Хата ўнутры была дрэнна асветлена. Спачатку Лізук нічога не разгледзела, пакуль вочы крыху прывыклі пасля яркага дзённага святла на вуліцы. Толькі пасля пачала адрозніваць і праваленую бэльку, і карычневыя ад часу, непафарбаваныя, усе ў трэшчынах бярвенні зруба, і напалову згнілыя касякі двух акон, праз якія слаба трапляла дзённае святло. Убачыла яшчэ шмат пучкоў розных сухіх траў, развешаных уздоўж сцен. Прыгнятала не толькі ўбогасць, але і адчуванне цеснаты.

Чапай кува жэстам паказала на табурэткі, якія стаялі каля стала ў кутку, а сама ўсё ўглядалася блізарукімі вачыма ў няпрошаных гасцей, спрабуючы распазнаць у іх знаёмыя рысы, і неяк рыпуча кашляла ў кулак. Валерык прыціснуўся да маці, спужана глядзеў на гаспадыню таямнічага дома. Але паступова дзіцячая цікаўнасць узяла сваё. Ды і прысутнасць маці давала ўпэўненасць, што нічога тут з ім не зробяць.

З глыбокай журбой дрыготкім голасам Лізук пачала расказваць пра ўсё, што яе непакоіла, якія выпрабаванні выпалі на яе жаночую долю, пра хваробу сына... Не забылася і на непатрэбную хлапечую зухаватасць перад таварышамі і ўкрадзеныя яблыкі з сада Чапай кувы. Затым марудна спаўзла на падлогу, устала на калені і заплакала наўзрыд:

— Малю цябе, бабуля, як Бога прашу! Вызвалі майго Валерыка ад твайго пракляцця, вярні яму здароўе. Я ўсё зраблю. Што загадаеш, тое і выканаю, толькі б сыночак мой малодшанькі зноў стаў па-ранейшаму ўсмешлівым вясёлым хлопчыкам.

— Устань, дачушка, падыміся — не да твару так табе стаяць, — старая ціхенька дакранулася да пляча жанчыны. Перавяла позірк на Валерыка і спыталася ласкава: «Кажаш, ты быў тады на маёй яблыні? Ведаеш, як мяне тут завуць?»

— Так! — хлопчык быў непасрэдны і шчыры. — Вядзьмаркай.

— Эх-хх, унучак, унучак! Неразумнае малое. Наслухаўся ўсялякага ад нядобрых людзей, — цяжка ўздыхнула Чапай кува. Рукой з сухімі заскарузлымі ад хваробы суставаў пальцамі старая пацягнулася, каб пагладзіць Валерыка па русай галаве, але той адхіснуўся ўбок. — Думаеце: Вядзьмарка пашкадавала яблыкаў дзіцяці, і таму ён захварэў? Не, дачушка, у гэтым ты моцна памыляешся, але і сама яшчэ гэтага не разумееш. Я на такое не здольная. Тым болей, што праклінаць дзяцей — гэта страшэнны грэх. Памятаю, канешне, што хлапчукі тут круціліся. Чырвоныя былі яблыкі, спелыя. Спакуса для дзіцяці вялікая. Але я ж толькі хацела, каб яны галінак не ламалі. Дрэву баліць, яно таксама жывое, як і чалавек. Папрасілі б — сама вынесла б, пачаставала.

— А што тады з маім сынам робіцца?

— Хочаш даведацца? Давай паглядзім, — Чапай кува занялася абрадам. На левую руку паклала белы рушнік, наліла ў міску вады, на край гэтай міскі прымацавала свечку і запаліла яе. Пасля папрасіла хлопчыка падысці бліжэй да полымя свечкі і пачала прамаўляць словы замовы. Лізук чакала, чым гэта ўсё скончыцца.

— Усё зразумела, — адводзячы ад полымя погляд, сказала старая і затушыла свечку. — Сурочылі твайго сына. Чары на ім. Ні адзін урач тут не памочнік.

— Як сурочылі? Калі? Дзе? Хто? — пытанні сыпаліся, быццам гарошыны, якія каціліся з меха. — Мы нікому нічога дрэннага не жадалі і не рабілі. Я ўвогуле ў такіх справах не разбіраюся. Што ж тады нам рабіць?

— Каб чары навесці, шмат часу не трэба, дачушка. Часам аднаго позірку хапае, каб нашкодзіць іншай жывой душы. Сын твой сімпатычны, некаму, магчыма, стала зайдросна. Той, хто жадае зла, непрыкметны.

І звонку добры, прыветлівы з усімі. Падыдзе, прыгалубіць ці абдыме, пагладзіць па галоўцы. І ўсё. Гэтага для яго цалкам дастаткова. А сурочаны пачынае мучыцца: яго будзе хіліць да сну, з'явіцца абыякавасць да ўсяго, ён становіцца вялым, марудна разважае. У вас жа ўсё так і адбываецца?

— Так, бабуля.

— Зараз мы гэта паправім. Здымем чужую ўладу над тваім сынам. Трэба было раней да мяне звярнуцца. Чаго цягнулі? Эх, людзі, людзі…

Старая зноў запаліла свечку. Воск, што пачаў плавіцца, капаў у міску і круціўся, застываючы ў выглядзе своеасаблівых фігурак. Чапай кува намачыла два пальцы вадой, тройчы правяла па ілбе Валерыка, малюючы крыжыкі, пры гэтым гаворачы новую замову.

— Цяпер цябе ніхто не сурочыць. Ніхто не адолее, нічый дрэнны позірк да цябе не прыстане, дзе б ты ні быў, з кім бы ні сустрэўся. Любіш бываць у сяброў? Га? Любіш…

Цяжка ступаючы, Чапай кува прайшла за печку, вазілася там нядоўга, шамацела нечым і вынесла некалькі відаў сушаных траў. Акуратна склала ў чысты папяровы пакет і аддала Лізук са словамі:

— Гэты збор карысны для аднаўлення сіл. Заварвай як чай і давай сыну піць на працягу тыдня. Можаш часам і сама глынуць — табе таксама нядрэнна было б супакоіцца.

— Як мне табе аддзячыць, бабуля? — Лізук не ведала, што ў такіх выпадках даюць знахаркам. Дастала раней падрыхтаваныя на ўсялякі выпадак грошы. Прапанавала Чапай куве.

— Супакойся. Грошы схавай. Яны табе яшчэ спатрэбяцца. Галоўнае — здароўе, — паківала галавой старая.

Лізук вельмі здзівілася. «Як такое можа быць? Хіба вядзьмаркі павінны так рабіць?» — падумала пра сябе, але ўголас нічога не прамовіла, не рашылася. Раптам пакрыўдзіцца? Падзякавала гаспадыні, паўтараючы: «Тау, кугу тау!», паклікала Валерыка, папрасіла, каб і ён сказаў сваё «дзякуй». З тым і пайшлі.

…Калі ў наступны раз да ўдавы Сцяпана заявілася яе маці, Епі кува, Валерык бегаў па вуліцы з сябрамі.

— Што, лягчэй стала ўнуку? Відаць, рада? — ледзьве пераступіўшы парог, спяшалася спытацца яна.

— Чапай кува дапамагла. Проста дзіва дзіўнае. Але ж пасля таго, як мы да яе завіталі, сыну стала нашмат лепей. Ён з апетытам пачаў есці. Вярнуўся здаровы колер твару. І травамі па бабчынай рэкамендацыі паіла. Ажыў, дзякуй Богу.

— Няўжо ў Купсолу не пабаялася схадзіць?! — схамянулася абураная Епі кува. — Ты ж яго зусім загубіла, дачушка! Вядзьмарка, мусіць, у яго свайго выпладка-лесуна пасяліла.

— Глупства не гавары, мама! Сама ўжо да вядзьмаркі стала падобная. Ніводнага добрага слова пра людзей ад цябе не пачуеш. Злосць цяжка ў сабе насіць, яна цябе знутры грызе.

— Гэта ты роднай маці такое гаворыш?! О-о, дык і цябе Чапай кува перарабіла.

— Вось якраз і перарабіла, мама. Яна мне шмат на што вочы адкрыла. Патлумачыла, што нельга нядобрыя думкі ў сабе трымаць. Людзі розныя бываюць. У добрае трэба верыць, мама. Чаму ты мяне гэтаму сама не вучыла? Толькі жоўцю вечна сыходзіш.

— Бачу — я табе не патрэбна... — завяла старую песню Епі кува.

— Ды люблю я цябе, мама. Але жыць на твой лад не хачу. Чапай кува дала мне выдатны ўрок дабрыні: «Не жадай іншаму кепскага, і да цябе гэта вернецца старыцай дабрыні».

… Позняй восенню Лізук атрымала пісьмо ад старэйшага сына з арміі. «Мама, за выдатную службу мне даюць адпачынак, — пісаў ён. — Чакайце. Хутка прыеду дахаты». Праходзілі дні, тыдні — сына не відаць. Вочы прагледзела. Валерык па некалькі разоў на дзень пытаецца пра брата. «Дык што ж такое магло здарыцца? — устрывожылася маці. — Чаму ён не едзе?» Палезлі ў галаву розныя думкі. Ужо чаго толькі ні вымалявала ў галаве, якіх страшных апавяданняў пра армейскае жыццё ні ўспомніла. Некалькі разоў сядала пісаць пісьмо, але зноў адкладвала яго ўбок: не паспее атрымаць. Калі ніякага цярпення ўжо не стала, Лізук спахапілася ды са сваім горам заспяшалася да Чапай кувы.

— І што цябе прывяло да мяне гэтым разам? Зноў сынок захварэў? — не паверыла вачам старая.

— Дзякуй Богу, малы здаровы. Іншая журба ў мяне аб'явілася, бабуля: салдацік мой…

— Наша жаночая доля — праводзіць ды сустракаць, — Чапай кува зрабілася сумнай, быццам пераняла чужы боль, устала і пайшла да акна. Там, у прасценку паміж вокнамі, вісела рамка з пажаўцелымі здымкамі. — Прыедзе твой сын. Зараз не вайна… Дарагіх для мяне людзей чакаю і я, усё веру, што нехта з іх раптам пастукае ў акно…

Нечакана для Лізук старая згорбленая жанчына заплакала звычайнымі слязьмі. Нічога вядзьмарскага ў ёй не было. Проста стаяла перад удавой Сцяпана тая, што і пакутуе, як і ўсе, і хварэе тымі самымі хваробамі, што ва ўсіх да старасці збіраюцца. Адзінокая і безабаронная, яна выклікала ў Лізук спачуванне. Госця, якая прыйшла прасіць парады і дапамогі, здолела зразумець трагедыю старой, якая ўсяго толькі шмат ведала пра лекавыя травы, захоўвала ў памяці бабуліны замовы, якія мелі абарончую сілу. Не яна таго жадала, а людзі з пакалення ў пакаленне перадавалі страшныя легенды пра чарадзейную магутнасць роду Чапай кувы. Болей прыпісвалі ад няведання ды таму, што народ заўсёды губляўся перад незразумелымі з'явамі…

— У першы ж месяц вайны яны пайшлі на фронт, — сказала, паказваючы на трох хлопцаў у салдацкай форме, старая. — Мужа майго і двух маіх братоў забралі. Разам і пайшлі… Ні адзін не вярнуўся… Прыбяру ўсё ў садзе, да зімы падрыхтую і паеду да старэйшага брата Івука. Ён пад Масквой пахаваны. А магілы мужа і малодшага брата невядомыя. Я з Івуком пагавару, хоць праз яго паклон на той свет перадам. Слабая стала. Вось толькі ці змагу зараз даехаць… Вочы зусім дрэнна сталі бачыць... — Чапай кува кашлянула ў кулак і ціха заплакала. Слёзы беглі па зморшчаных шчоках. Яна іх не выцірала. — За што мяне лёс так пакараў?

Лізук плакала разам з ёю і думала: «Ніхто не зможа адказаць на такое быццам простае пытанне. Жыццё — як мазаіка. Узор не складзеш — не будзе па-твойму, так, як хочаш жыць. І чаго ўсе да Чапай кувы прычапіліся? Хай сабе — моладзь. У іх іншыя меркаванні. А пажылы люд дзе? Ён што? Не бачыць і не разумее? Не, каб хто-небудзь абараніў, прыйшоў, дапамог…»

— За ўсе гэтыя гады, якія я іх чакаю, колькі слёз праліла. Калі ўсе сабраць, рэчка б атрымалася… — ціха расказвала, дзялілася з Лізук гаспадыня. — Раней часу састарылася, вельмі рана мяне ў бабулі запісалі…

— Чаму са сваім горам да людзей не прыйшла?

— Эх, дачушка, усім не патлумачыш. На чужы раток хустку не накінеш. Не хадок я да людзей: раней, па маладосці, не магла кожнаму стрэчнаму душу адкрыць. А пасля слава пра мяне пайшла сама ведаеш якая. Ці Богам дадзена, ці прырода мая такая, што стала варажбіткай ды знахаркай. Ідзі, дачушка. Стамілася я. Прылягу крыху. Паўстане твой салдацік перад тваімі светлымі вачыма. Армія. Дысцыпліна. Ці мала непрадбачаных абставін у іх часці магло здарыцца, — з тым і правяла госцю Чапай кува.

Лізук сыходзіла з Купсолы з лёгкім сэрцам. Падняўшыся на кручу, азірнулася на схаваную ў зяляніне вёску. Яна была невялікая, з гары нагадвала птушынае гняздо. Дамоў тут прыгожых набудавалі, многія з белай цэглы складзены. Жанчына адшукала вачыма старую хату Чапай кувы. У апошні час яна стала для яе роднай, падарыла надзею. Лізук стала мудрэйшай у ёй, даведалася нешта такое, што не ўсім выпадае зразумець і ацаніць за ўсё жыццё. І гэтым яна стала багацейшай. «Можа, за тоўстай каменнай сцяной і жыве якая-небудзь сытая, задаволеная жыццём, самазакаханая вядзьмарка. Толькі не ў той, перакошанай, як картуз на галаве мужчыны, хатцы», — прыйшла ў яе галаву думка і прымусіла ўсміхнуцца. Шчаслівым крокам пайшла далей Лізук. Дыхалася добра, лёгка. Захацелася спяваць. Высветлілася ў душы: «На зіму трэба Чапай куву забраць да сябе. Чаго ёй адной, хворай ды напалову сляпой, мучыцца? Месца ў нас у доме дастаткова. Хлопцы пярэчыць не будуць…»

*З марыйскай. Пераклаў Алесь Карлюкевіч.*

**Ася Умарава**

# Дзед Хаса

Туман ахінуў саўгас імя 50-годдзя Кастрычніка. Тут адразу прыходзіць у галаву надакучлівае азначэнне «лонданскі», што наганяе аскому, але туман мясцовы, саўгасны. У такія дні хобі некаторых старых — падпальваць на сваім падворку рэшткі сена і смецце. Паўсюль плыве смурод, і вы не зможаце пакінуць селішча без фірменнага «парфюму». Дарэмна спрачацца з падпальшчыкамі: ні скаргі суседзяў, ні нараканні хворых не бяруцца пад увагу. Паўсюль качкі, гусі, куры шумяць і блытаюцца пад нагамі, як тыя школьнікі на дэманстрацыі.

Ля бярвенняў, каля трансфарматара, як звычайна сабраліся старэйшыны — абмеркаваць апошнія навіны. Самы актыўны сярод іх — дзядзька Грыша: размахвае рукамі і паўтарае свае заўсёдныя словы: «Ну, гэта і вожыку зразумела».

Сутонее. Дзед Хаса вяртаецца з чарадой авечак — яму насустрач выходзяць мужчыны, каб забраць сваю жывёлу. Авечкі пачынаюць шарахацца з боку ў бок, узнімаючы пыл, што слупам стаіць у паветры. Тут яшчэ аднекуль з'явіўся статак задзірыстых гусей — яны з шыпеннем кідаюцца на дарослых і дзяцей. Сярод гэтай мітусні, сігналячы і патрабуючы саступіць дарогу, едуць камбайны і трактары. Дзед Хаса толькі хітае галавой, час ад часу цмокае языком і ўсклікае:

— Дуй хьуна!

Хаса носіць высокія кірзавыя боты, штаны-галіфэ, доўгі чорны плашч-дажджавік, шэры капялюш з шырокімі палямі. Калі Хаса, горбячыся, крочыць следам за статкам, яго можна пазнаць здалёк дзякуючы своеасаблівай манеры насіць свой славуты посах: ён не абапіраецца на яго, а трымае за спінай, гарызантальна, акурат на поясе, закідваючы на яго абедзве рукі.

Штовечар дзед Хаса наведвае сваю стрыечную сястру Секімат: старэнькая амаль страціла зрок. Яшчэ з парога стукае ён посахам у дзверы і, гарэзліва смеючыся, крычыць: «Ці ты дома, старая?!» Секімат старэйшая за яго на адзін год, і з маленства дзед Хаса кпіць з яе, называючы старой. Яна пасміхаецца, перабіраючы зялёныя пацеркі.

У іх была сяброўка, старая Паканат з суседняга сяла, якая ўсё абяцала перасяліцца да Секімат, каб быць бліжэй да прыяцелькі. «І перавязу туды свой куфар», — ад усяго сэрца рагатала яна. І то сказаць, чачэнская дзяўчына, ідучы замуж, вязе ў дом мужа куфар з пасагам. Традыцыя захавалася і дагэтуль, толькі цяжкія старасвецкія куфары замянілі модныя чамаданы ад «Шанэль» і «Луі Вітан»…

Старая Паканат так і не пераехала, але загадала пахаваць сябе ў іх сяле, каб хоць магілкі былі побач. Жаданне Паканат, калі надышоў яе час, выканалі…

Секімат ледзь соваецца па пакоях: хворая паясніца перавязана шэрай пуховай хусткай, на нагах — вязаныя шкарпэткі. Ёй пасуе карычневая сукенка, каляровая, у славянскім стылі, хустка на галаве і бурштынавыя каралі на шыі — жоўтыя праменьчыкі трапляюць на скуру. Ёй нядужыцца, і яна просіць дачку Ліпхан памераць ціск, хоць старэйшае пакаленне больш давярае звыклым метадам вызначэння прычын хваробы. Яшчэ здавён у чачэнцаў захаваўся традыцыйны метад дыягностыкі і лячэння — дол дзілар. Бяруць галаўную хустку, некалькі разоў праводзяць над галавой хворага. Пасля завязваюць вузельчык на самым канцы хусткі і вымяраюць адлегласць да яго локцем, шэпчучы заклінанне. Так вызначаецца наяўнасць сурокаў, псоты, зайздрасці, а яшчэ — незадаволенасці нябожчыкаў. Пасля чытаюць малітву, над агнём кідаюць соль, і вось адбываецца цуд — хвароба адступае! Мужчыны толькі усміхаюцца. А можа, гэта сапраўды проста недавер да тутэйшых дактароў?

Навіны па тэлевізары Секімат хоць і не бачыць, але просіць зрабіць гучней. Дыктарка бадзёрым голасам паведамляе пра прыродныя катаклізмы, пра тысячы пацярпелых і параненых: цунамі ў Азіі, землятрус у Паўднёвай Амерыцы… «У Багдадзе закідалі камянямі чатырнаццаць падлеткаў эма». Пасля ўсяго сказанага тэлевядучая раптам робіць сумны твар, трымае паўзу і жалобным голасам абвяшчае: «А зараз самая трагічная навіна — памёр вядомы артыст…»

Хаса ў засмучэнні хітае галавой: няўжо папярэднія навіны былі не такія ж трагічныя, як паведамленне пра смерць аднаго кінаартыста?..

Ніхто не разумеў дзеда Хасу. Заўсёды ўлетку і ўвосень Хаса на сваёй драўлянай рыпучай брычцы, у якую быў запрэжаны лядашчы конік, ездзіў у закінутыя сады — нарыхтоўваў сена для кароў, бычкоў, авечак. Суседзі дзівіліся: куды столькі, і так у каморы поўна?!. Але Хаса ўсё працаваў і працаваў, нарыхтоўваў сена, авёс, ячмень… «Сам можаш недаесці, але пра жывёлу, за якую ты адказваеш перад Усявышнім, павінен паклапаціцца. Вось і нарыхтоўваю, пакуль сілы ёсць…» — гаварыў ён.

Дзед доўга не мог забыць сваю жонку. Людзі часта бачылі яго ў закінутым садзе, калі ён нерухома сядзеў на брычцы, утаропіўшыся ў адну кропку.

Жонка Хасы памерла дваццаць чатыры гады таму ад бранхіяльнай астмы, але ён, нягледзячы на ўгаворы сваякоў, так больш і не жаніўся: надта ж любіў сваю прыгажуню. Гэта цалкам у адпаведнасці са словамі «пакуль смерць не прыйдзе па нас»… Ён выкраў яе, калі ёй было ўсяго шаснаццаць. І выкраў не таму, што яна не згаджалася пайсці за яго, — яе бацькі былі супраць, бо лічылі дачку занадта маладзенькай.

Але не толькі ўспамінаў не мог пазбыцца Хаса. У адрыне было многа рэчаў, якія даўно трэба было б павыкідаць. Але кожная рэч пра кагосьці нагадвала: пра жонку, бацькоў, якіх больш няма, пра дзяцей, сваякоў…

У асобных размаляваных куфрах захоўваліся лялькі і вышываныя тканіны. Вышыванне было любімым заняткам яго жонкі. Ён толькі здзіўляўся, калі яна паспявала гэтым займацца: усё ж такі дзевяць дзяцей і ўвесь дзень на працы. Яна і лялькі рабіла вельмі проста. Брала дзве дошчачкі, адну даўжэйшую, другую карацейшую, і складала іх крыж-накрыж, а потым абвязвала вяроўкай. Даўжэйшая — гэта тулава і галава, а карацейшая — рукі. Галаву робяць са шматка тканіны, напханага ватай. Дзве чорныя пацерачкі — вочы, адна чырвоная — вусны, валасы са звычайнай махры. А пасля для лялькі шыюць сукенку, апранаюць яе. Такія лялькі здавён рабілі нашы прабабкі.

…Ну вось, Хаса едзе ў вазку, колы парыпваюць. Калі ён гоніць статак ці паганяе каня, дык гукае прыгожа і нават, як людзям здаецца, на французскі лад:

— Чэо! Чэо!

Часам ён засынае проста ў дарозе, але гэта выключна праз старэчае начное бяссонне. Вясковая дзятва вясёлай гурбой бяжыць насустрач.

— Дзядуля Хаса, зрабі ласку, пакатай нас! — просяць-гукаюць яны.

Хаса прачынаецца. Да сустрэчы з дзецьмі ён рыхтаваўся загадзя і таму загрузіў брычку сенам толькі да бартоў, бо калі нагрузіць «да ўпора», з верхам, дык дзеці могуць пазвальвацца. Стары спыняе каня і чакае, пакуль тыя, чапляючыся за колы, ускараскаюцца наверх. Маленькія «пасажыры» занялі свае месцы і пільна глядзяць на дзеда, чакаючы забаўляльнага працягу. А Хаса раптам ускліквае:

— Дуй хьуна! Што гэта ў мяне тут пад нагамі?!.

Дзеці пазіраюць адно на аднаго і смяюцца. Хаса выцягвае яблыкі, якія назбіраў у закінутым садзе.

— Бярыце, родныя, бярыце… А вось гэтыя маленькія пакіньце для майго ўнука. Вы ж ведаеце, як яго завуць?

— Ведаем. Яго завуць Ту-ту-рбок, — разам адгукаецца дзятва.

Хаса задаволены, ад яго вачэй у розныя бакі бягуць зморшчынкі…

…Хаса пайшоў з гэтага свету праз месяц пасля таго, як нечакана памёр яго сын, бацька Ту-ту-рбока.

Ён нават на хаўтурах гаварыў, што не зможа жыць без сына. І не змог.

Вазок Хасы доўга стаяў ля іхняга двара: у сваякоў рукі не падымаліся выкінуць ці спаліць. А можа, і яны захварэлі на тое, што і дзед Хаса — не выкідаць рэчы, бо яны ж захоўваюць успаміны…

Дзеці часцяком гулялі ў вазку — ім гэта надта ж падабалася. Калі адно драўлянае кола зусім спарахнела, сваякі ўсё ж такі адцягнулі вазок на сметнік і спалілі. Конь спруцянеў праз некалькі гадоў.

Цяпер ты ведаеш, дарагі чытач, што саўгасны туман хавае ў сабе шмат успамінаў.

*З чачэнскай. Пераклад Ірыны Качатковай*

**Максат Бяшымаў**

# Перакуленае неба

Я хачу, каб было неба, белае-белае ад пышных аблокаў. І каб праз іх прарэхі прабіваліся залацістыя праменні. Хачу, каб гэтыя стрэлы святла рухаліся ў розныя бакі, вымалёўваючы на зямлі мудрагелістыя ўзоры. І няхай дзіця ярка-зялёнай акварэллю намалюе лугі і пагоркі, напалову круглыя, якія ўзвышаюцца адно над другім. Можа, ён намалюе там і мяне з табою, і сябе паміж намі, калі ён моцна трымае нас за рукі. І неістотна, што фігуры не будуць прапарцыянальныя, і што галовы нашы будуць круглыя, як мячыкі; няхай у мяне застанецца ўсяго толькі дзве-тры валасіны, прамыя, як антэна, а ў цябе будуць кучары якога-небудзь незразумелага колеру. І няхай ногі нашы будуць настолькі тонкія, наколькі заточаны грыфель алоўка. Я буду з зачараваннем любавацца гэтай карцінкай і нікому яе не аддам.

Ужо апусцілася ноч, калі ты нарэшце прыйшла. Я сядзеў у сваім недабудаваным доме. Я так ніколі яго і не дабудую. На табе была цёмна-сіняя сукенка, а я сядзеў на драўлянай табурэтцы, голы па пояс, у брудных шэрых штанах. Не заўважыў тваёго прыходу. Мой амярцвелы позірк быў прыкуты да цэглы. Ты ўвайшла без стуку: не было дзвярэй. У руках несла полымя, пад якім марудна раставала свечка. Дзіўна, чаму не ліхтар? Але ўсё ж ты з’явілася, і ў пакоі стала святлей, хаця я гэтага не заўважыў. Найперш ты ўбачыла вядро з зацвярдзелым цэментам, затым — вялікую чорную дзірку на столі. Над ёю валадарыла пустэльная бясконцая цемра. Яна не зацікавіла цябе, таму што вочы твае спыніліся на аголенай мужчынскай спіне, месцамі вычарчанай старымі шнарамі.

Ты падышла, прысела на кукішкі і паставіла перада мною пластмасавую каробачку з ежай. Я пазнаў знаёмыя карыя вочы.

— Паедзем дахаты, — сказала ты.

Я паспрабаваў адказаць, што тут мой дом, але не адважыўся, таму моўчкі працягваў ўглядацца ў нетры тваіх вачэй. Яны так ззялі, быццам перапоўніліся вільгаццю. Я глядзеў і думаў: наколькі ж усё банальна і недарэчна.

Памятаю, як мы пазнаёміліся. Там, у доўгім і цьмяным калідоры, дзе не было ніводнай душы і ўсе дзверы былі зачынены. Я шукаў працу, а ты падыходзіла да свайго кабінета. Тады на табе была такая самая цёмна-сіняя

сукенка са шлейфам. Ты старэйшая за мяне, але тады я адчуваў сябе лядашчым і старым. Ды і апранаўся я неахайна. Што ж прывабіла такую элегантную прыгажуню? Непасціжна.

У наступную сустрэчу мы разгаварыліся, а праз некаторы час пачалі гаварыць без супынку, пакуль не навучыліся разумець адно аднаго без слоў. Тады мы пажаніліся. Гэта было праз тры месяцы пасля нашай першай сустрэчы. Настолькі мы былі ўпэўненыя і рашучыя.

Пасля гэтага я памаладзеў душою. І ты маладзела ад шчасця. Усё было цудоўна. Але мы забыліся ўлічыць, што нават калі жыццё ідзе нязменным ходам, сама гэтая аднастайнасць становіцца праблемай.

Нам пашчасціла. Я ўладкаваўся на высокааплатную працу і хутка прасоўваўся па кар'ернай лесвіцы. Ты была рэдактарам у выдавецтве. Мы жылі ў палоне вар'яцкага, нястрымнага запалу і амаль кожную ноч аддаваліся шалёнаму жывёльнаму жаданню. Мы адначасова бралі адпачынак і выпраўляліся ў далёкія краіны, ляжалі на пляжы ў Дубаі, гулялі па вузенькіх вулачках Стамбула, моршчылі нос, убачыўшы дзіўныя кітайскія стравы. Усё складвалася як нельга лепей.

Так прайшлі першыя гады сумеснага жыцця – весела і захапляюча. Але нас усё яшчэ было двое.

Ты пайшла да дактароў. Я хадзіў па клініках. Мы лячыліся, прымалі парашкі, глыталі рознакаляровыя пілюлі, здавалі аналізы. Гэтулькі дактароў бачылі нашы інтымныя месцы. Цэлы год мы як быццам лячыліся ад розных хвароб. Часам цябе ванітавала, і месяц праходзіў у прыемным чаканні.

Але мы ўсё яшчэ заставаліся ўдвух. Дактары насамрэч не выяўлялі ніякіх хвароб.

Падпарадкоўваючыся бацькам, мы хадзілі да розных знахарак і тэбібаў, хаця і не верылі ім і дарэмна гублялі час. Здавалася, нейкі цяжкі праклён скоўвае нашы надзеі.

Памятаю, як ты ўсміхалася ў дзіцячай краме, гледзячы на смешныя маленечкія пінеткі. Памятаю, як плакала ад нястрыманай зайздрасці, калі даведвалася, што у нейкіх гулён нараджалася дзіця, якое тыя пазней кідалі на волю лёсу.

Ты накупіла ўсялякай дзіцячай вопраткі, запоўніла ёю велізарны чамадан. Кожны раз, дадаючы туды новую рэч, ты даставала купленае раней і пачынала марудна складваць назад, хвілінамі разглядаючы кожную рэч, ад шапачак да шкарпэтак. У такія імгненні ты сама здавалася мне дзіцём.

Ты плакала начамі, шчыльна тулячыся да мяне, і я суцяшаў і цалаваў цябе ў горкія шчокі. Зрэдчас я і сам даваў волю пачуццям, зачыняючыся ў ванным пакоі, але ты ніколі пра гэта не ведала.

Пайшоў чацвёрты год, пяты… Ты перастала плакаць. Мы апусцелі і высахлі, як такыр. Надзея згасла. Усынаўляць ці ўдачараць не хацелася. Марылі, каб нашы дзеці былі падобны да нас. Каб у іх спалучыўся мой характар з тваёй знешнасцю.

Час загаіў памяць, быццам прытаптаную сцежку. Мы пачалі нават забывацца, у чым наша праблема, чаго нам не хапае. Жылі, быццам на аўтапілоце. Перасталі падарожнічаць, забаўляцца, смяяцца. Мы прачыналіся зусім рана, снедалі і сыходзілі на працу, а вечарам гэтаксама механічна вячэралі, стрымана, нешматслоўна абмяркоўвалі навіны і кладліся спаць, пакідаючы паміж сабой у ложку пустую прастору.

Потым у цябе пачаліся істэрыкі. Ды і я, запальчывы, не стрымліваў языка. Любая дробязь прадвяшчала велізарную катастрофу ў нашых адносінах. Кожны вечар сцены дома трэскаліся ад нашай бессэнсоўнай ярасці. Часам справа даходзіла да бойкі. Ты біла мяне, як вар'ятка, і я пачынаў верыць, што зрабіўся табе ненавісным, і адразу сыходзіў дыхаць свежым паветрам. Пасля гэтага ты рыдала, абвінавачваючы мяне ў тым, што я кідаю цябе. Часам я губляў разважлівасць, і твар твой чырванеў ад аплявухі, але ўжо праз імгненне, калі па ружовых шчоках сцякала вільгаць, я вымольваў у цябе прабачэнне, называючы сябе дурнем.

Урэшце мы дайшлі да таго, што нам патрэбна было адпачываць адно ад аднаго, мяняць абставіны. Ты сыходзіла да маці і заставалася там на выходныя. А я купіў месца на лецішчы і пачаў уласнаручна будаваць там дом у вольны час. Кожную суботу, уцякаючы ад адзіноты, я ішоў туды і нетаропка працягваў складваць цагліны адну на другую. У мяне не было пэўнага плана пабудовы хаціны. Я бессэнсоўна працягваў яе будаваць, здымаючы кашулю і надзяваючы навушнікі.

Аднойчы ты не вярнулася ў нядзелю. Я пазваніў даведацца, ці ўсё ў парадку. Ты адказала суха: усё, маўляў, добра, толькі вырашыла застацца ў маці яшчэ на некалькі дзён. Але ўсё ж я быў упэўнены — гэта з-за нашай апошняй сваркі. Тады ты зноў накінулася на мяне з кулакамі, а я, зусім ашалелы ад гневу, парваў на табе сукенку і авалодаў табою проста на халоднай кухоннай падлозе.

Ты супраціўлялася і, моцна жмурачыся, плакала, але я не спыняўся, пакуль не кончыў, а здарылася гэта вельмі хутка. Нават сорамна прызнавацца, наколькі хутка. Блізкасці ў нас доўга не было, а я табе ніводнага разу не здраджваў, і маё палавое жыццё спынілася.

Пасля таго, што здарылася, ты так і засталася нерухома ляжаць на падлозе, а я пайшоў і зачыніўся ў гасцёўні.

У наступны панядзелак я застаўся дома. Сядзеў, тупа гледзячы ў столь, не збіраючыся на працу. Ты прыйшла ўвечары і не прамовіла ніводнага слова. Пасля таго дня я ўзяў адпачынак на цэлы месяц, але не паведаміў табе пра гэта. Я пачаў ездзіць на дачу. Таго, што пральная машына вельмі хутка напаўнялася штанамі з плямамі ад засохлага цэменту, ты не заўважала, магчыма, табе было ўсё роўна. Месяц адпачынку закончыўся, але я ўсё адно не выходзіў на працу і далей будаваў той дом. Тым не меней, як бы ні стараўся, мне здавалася, што наадварот, ён становіцца ўсё меншым і меншым, цяснейшым і цяснейшым.

Пасля некалькіх дзён адсутнасці без важкіх прычын мяне звольнілі з працы. Болей я туды не наведваўся, ды і людзей пачаў пазбягаць. З імі мяне звязвала толькі ты, але і ты цяпер аддалілася ад мяне. Мы пачалі спаць у розных пакоях. Я размясціўся на канапе ў гасцёўні і імгненна засынаў, а тэлевізар працаваў да самай раніцы.

Аднойчы, нанёсшы на сцяну тынкоўку, я і не заўважыў, што сонца ўжо схавалася за даляглядам. Тады да мяне прыйшла дзіўная думка пераначаваць тут, у доме, адкрытым з усіх бакоў для халоднага скразняку. Я з такой лёгкасцю прыняў гэта рашэнне, што нават і сам здзівіўся свайму імгненнаму капрызу. Але спаць у мяне ў тую ноч не атрымлівалася. І я будаваў у цемры.

Я не вярнуўся дахаты ні на наступны дзень, ні яшчэ праз дзень. Але і ты не прыязджала за мною. Нават не званіла. Грошы, якія я захапіў з сабою, скончыліся. Ежы таксама не заставалася. І ўсё ж я не адчуваў голаду. Часам краў з суседняга саду яблык. Хаця і ён не абуджаў у мяне апетыт. Скура мая абгарэла і высахла пад палаючым сонечным святлом. Цела загартавалася. Я быў падобны да дзікуна, які не мае ні ўзросту, ні розуму, ні мэты.

Так прайшоў тыдзень. Да гэтакага жыцця я пачаў прызвычайвацца, іншага ў мяне як быццам і не было. А дом уздымаўся марудна, быццам Вавілонская вежа. Часам я думаў пра цябе. Магчыма, мне нават хацелася, каб ты прыйшла. Напэўна, я цябе раўнаваў. Думаў пра тое, што аддалася другому. І нават рада майму знікненню. І ўрэшце я прыходзіў да высновы, што, мусіць, так яно і лепей. Магчыма, мяне наведвалі падобныя думкі, але я пра гэта табе ніколі не раскажу.

Ты прыехала да мяне на дзявятую ноч. Прысела побач і глядзела зусім як тады, чатыры гады таму. І што я мог цяпер сказаць? Добры дзень? Добрай ночы? Прабач? Я сумаваў?

Мне заставалася толькі моўчкі глядзець у твае вочы. Ты адкрыла накрыўку кантэйнера. Свечка асвяціла падсмажаныя курыныя ножкі і бульбу. Спакушальна запахла падліўкай.

— Гэта яшчэ не ўсё… — Ты стомлена ўсміхнулася і выцягнула з кішэні складзеную ў чатыры столкі паперу.

Мяне раптам ахапілі дрыжыкі. Быццам я толькі зараз упершыню адчуў холад гэтай ночы. Дрыготкай рукой я ўзяў паперу і стаў чытаць, наблізіўшы яе да святла свечкі. Там сухой ўрачэбнай мовай апісваўся памер плода, яго стан.

Я ўзняў галаву, паглядзеў на цябе і адчуў, як цяжкі камяк душыць мне горла. Хацелася прыціснуць цябе да сябе. Твой твар расплыўся перад вачыма, і я зразумеў, што гэта дзве вялікія кроплі маіх слёз упалі на паперу. Я паспрабаваў устаць, але ты спыніла мяне.

— Чакай. Ёсць яшчэ нешта.

Здаецца, я прамармытаў нейкую недарэчнасць, калі ты дастала і ўручыла мне яшчэ адну паперу. З той самай радаснай усмешкай я прачытаў тваю заяву на развод. Я не адразу зразумеў сэнс прачытанага, таму лёгкая няўклюдная ўсмешка яшчэ доўга не сыходзіла з майго твару, нават калі ты папрасіла ўважліва прачытаць першую паперу, паказаўшы на той слупок, дзе чорным па белым было напісана, што тэрмін цяжарнасці – пятнаццаць тыдняў, гэта значыць — больш за тры з паловай месяцы.

— Спадзяюся, ты сам усё зразумееш і не станеш мяне ні пра што распытваць і ні ў чым папракаць, хаця гэта і подла ў адносінах да цябе. Наш раман доўжыцца крыху меней за год, і … я зразумела, што кахаю яго… А ў нас з табою няма будучыні…

Не памятаю, што я тады адказаў. Можа, і зусім нічога не гаварыў. Але ясна памятаю, як уявіў тады тую яркую, прыгожую карціну акварэллю, намаляваную няўмелымі пальцамі дзіцяці. Там нас было трое. Ты, я і гэты шчаслівы маленькі хлопчык. У малюнку ёсць і беласнежнае неба, вытканае чыстымі аблокамі, і зялёны луг, і дрэвы. Але я хачу цябе пра нешта папрасіць. Няхай ён побач з намі намалюе дом з процьмай вокнаў і высокім гарышчам. Вялікі прыгожы дом, у якім кожнаму захочацца жыць.

*З туркменскай. Пераклаў Алесь Карлюкевіч*

**Алесь Марціновіч**

# Матылёк пад чароўным шкельцам

*Нядаўна ў Выдавецкім доме «Звязда» выйшла першая кніга вершаў і перакладаў Юліі Алейчанкі з арыгінальнай і, як мне падаецца, у чымсьці інтрыгуючай назвай — «Пад чароўным шкельцам». Як звычайна ў падобных выпадках, выдавецкая анатацыя кароткая, таму вельмі мала гаворыць пра аўтара, а, між іншым, Юлія Алейчанка — з тых маладых творцаў, якія ўжо зрабілі нямала... І не толькі ў галіне паэзіі і перакладу. На жаль, пра гэта ведаюць нямногія, толькі тыя, хто пастаянна сочыць за сучасным літаратурным працэсам. Няведанне гэта вядзе да таго, што ўяўленне пра гэты працэс у нечым збядняецца, мае няпоўны, а часам і аднабаковы характар. То чаму б не пазнаёміцца з маладой пісьменніцай бліжэй.*

*Родам Юлія Алейчанка з Оршы. Нарадзілася 21 снежня 1991 года. Літаратурай, прынамсі паэзіяй, зацікавілася яшчэ ў дзіцячым узросце. А ў сем гадоў ужо напісала верш. Ды ў друку пачала выступаць рана. Яе вершы і нататкі на працягу 2003—2009 гадоў часта змяшчаліся ў «Аршанскай газеце» і рэспубліканскай «Зорьке». Знайшлося месца для яе творчасці і ў альманаху «Дняпроўскія галасы» — чарговым зборніку паэтаў Аршаншчыны, які выйшаў у 2010 годзе. Літаратурнае жыццё, як ў самой Оршы, так і ў Аршанскім раёне заўсёды развівалася плённа. У 1925—1928 гадах аршанская філія «Маладняка» нават выдала сем нумароў літаратурна-мастацкага часопіса «Аршанскі маладняк». Тых, хто піша мастацкія творы, і сёння шмат. Сярод іх і сталыя аўтары. Таму творчая канкурэнцыя вялікая, але Юлія Алейчанка была заўважана, што ўжо само па сабе сведчыць пра высокія мастацкія якасці яе твораў.*

*Будучы школьніцай, Юлія, дарэчы, не «замыкалася» ў адной літаратуры. Яна з'яўлялася актыўным удзельнікам і пераможцам шматлікіх гарадскіх, абласных і рэспубліканскіх конкурсаў дзяцей і моладзі. На філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта паступіла як пераможца адной з рэспубліканскіх алімпіяд — без здачы ўступных экзаменаў. А ўжо будучы студэнткай, з 2013 года пачала друкавацца і ў сталічных выданнях. На сёння гэта часопісы «Нёман», «Полымя», «Маладосць», газеты «Літаратура і мастацтва», «Звязда». У перыёдыцы выступае як з вершамі, так і з эсэ, апавяданнямі, літаратуразнаўчымі і крытычнымі артыкуламі. Перакладае творы пісьменнікаў Польшчы, Расіі, Украіны, Сярэдняй Азіі, Кітая і іншых краін. Укладальнік і адзін з перакладчыкаў кніжнай серыі «Светлыя знакі. Паэты Кітая». У суаўтарстве з Алесем Карлюкевічам пераўвасобіла па-беларуску кнігу туркменскага пісьменніка Касыма Нурбадава «Гулялек — Чырвоны мак, або Тонкі сшытак».*



Юлія Алейчанка.

*У 2014 годзе Юлія Алейчанка атрымала вышэйшую адукацыю. Праз год скончыла магістратуру па спецыяльнасці «Літаратуразнаўства». Цяпер — аспірант кафедры тэорыі літаратуры філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта. Пра што б ні пісала, чым бы ні захаплялася, заўсёды з ёй неадлучная паэзія. У тым, што яна займае важнае месца ў жыцці і творчасці гэтага таленавітага маладога аўтара, пераконвае і кніга «Пад чароўным шкельцам».*

## Сонечны горад і пачуццё з пачуццяў

Адразу дазволю сабе задаць пытанне: якія вершы Юліі Алейчанкі найбольш уражваюць? На першы погляд, яно рытарычнае, бо адзін адказ на яго немагчымы, у кожнага чытача — свае схільнасці: адным падабаюцца творы пра хараство прыроды, іншых прываблівае грамадзянская лірыка. Ёсць свае прыхільнікі і ў лірыкі філасофскай. Густы розныя. Тым не менш, агульны знамянальнік не так і цяжка знайсці. Калі, шукаючы яго, крыху падумаць. Тады…




Няма, бадай, такога чытача, які б не любіў, прабачце за таўталогію, любоўную лірыку. Вершы пра каханне — гэта тое, што, як кажуць, на ўсе ўзросты. Дый такімі творамі аднолькава цікавяцца як мужчыны, так і жанчыны. Апошнія нават у большай ступені. Што да мужчын, то, відаць, не памылюся, калі скажу, што ім асабліва падабаецца любоўная лірыка, народжаная пяром паэтэс. Думаю, што і творы Юліі Алейчанкі на гэтую вечную, трапяткую і пяшчотную тэму не пакінуць іх абыякавымі.

Вершаў пра каханне ў яе шмат. Што і не дзіўна, бо ўзрост такі, калі сама пісаць пра гэта. Што Юлія Алейчанка паспяхова і робіць. Аднак, а гэта важна, яна не належыць да тых, хто ў любоўнай лірыцы карыстаецца толькі традыцыйнымі атрыбутамі. Не ведаю, ці чытала яна знакаміты верш вядомага рускага паэта Сцяпана Шчыпачова наконт гэтага. У ім, як вядома, сцвярджаецца, што «любовь — не вздохи на скамейке, // и не прогулки при луне. […] Любовь с хорошей песней схожа, // а песню нелегко сложить». Гэтую сваю «песню» пра каханне яна і складае, ад верша да верша заглыбляючыся ў вечную тэму, паспяхова знаходзячы новыя і новыя нюансы ў асэнсаванні яе.

Піша Юлія Алейчанка так, каб не паўтараць іншых, што, пагадзіцеся, сёння не так і лёгка, калі прыняць пад увагу, колькі пра гэта пачуццё, пра ўзаемаадносіны ЯЕ і ЯГО пісана-перапісана. Ды, калі пастарацца, можна ўсё ж сказаць сваё слова. Іншымі не прамоўленае. Калі штосьці падобнае і сказана, дык яно ніяк не можа зацьміць сваё. Сваё ж — гэта тое, што вырываецца з вуснаў на адным уздыху. Паколькі ж яно яшчэ і на дзіва шчырае, дык цаны гэтаму прызнанню няма.

Прыцягвае ў творах Юліі Алейчанкі яшчэ адна важная якасць — пісаць так, каб чытач як мага лепш перажываў прачытанае, а лірычную гераіню ці не цалкам атаясамліваў з самім аўтарам. Зразумела, у сапраўднасці гэта не заўсёды так. Знак роўнасці паміж імі можна правесці ў адзінкавых выпадках. Тады толькі, калі ў твор прасочваецца нешта асабліва блізкае паэту. Аднак ўспрыманне ўсёй любоўнай лірыкі як таго, што, несумненна, было ў рэальнасці, сведчыць пра асабліва даверлівыя адносіны да паэтэсы, успрыманне пачуццяў, паводзін лірычнай гераіні пачуццямі, паводзінамі самой аўтаркі. З-за менавіта такога ўспрымання яна яшчэ больш блізкая і зразумелая. Калі ж «свая», то яе радасці — частка тваіх радасцей. Перажыванні — ў нейкай ступені і твае перажыванні. Памкненні, жаданні — таксама:

Давай сустрэнемся ў Сонечным горадзе,
Дзе ўсе пацалункі на целе не змесцяцца,
Збяжым па гулкай параднай лесвіцы
У сад, дзе птушкі-сірыны водзяцца.

Дзе кроў ускіпае, як зелле чароўнае,
Руку прыкладзі — вены быццам шалёныя,
Дзе крылы нябёсаў, ад спёкі салёныя,
Сабой ахінаюць сэрцы вандроўныя.

Я буду гарачым аголеным летам,
Я знішчу адвечны звярыны холад,
Калі не згубіўся Сонечны горад
На мапе тваіх неспазнаных светаў…

Не так і важна, дзе рэальнасць, а дзе толькі магчымасць рэальнага. Куды больш істотна, што ўнутраны свет лірычнай гераіні Юліі Алейчанкі — неабсяжны. Ён настолькі вялізны, аб'ёмны, што гэта, па-сутнасці, сам космас душы, якой жадаецца, прагнецца жыць так, каб кожны пражыты дзень быў у радасць, а ад кахання атрымліваць асалоду. Гэта відаць і з верша «*** Рукамі ўсіх тых…»:

Рукамі ўсіх тых,
хто абдымаў мяне,
Шыва даўно ўжо
руйнуе Сусветы.

Вачыма ўсіх тых,
хто пажадна
глядзеў на мяне,
Аргус даўно ўжо
вартуе бясконцыя статкі.

Вуснамі тых,
хто горка мяне цалаваў,
Прараслі кветкі
у садзе зямных асалодаў.

Толькі сэрцам сваім,
быццам Данка,
Ты й дагэтуль
змагаешся з цемрай маёй.

Жаданне «сустрэцца ў Сонечным горадзе, аднак, не адмаўляе і звычайных спатканняў, часам нечаканых, але пра гэтую нечаканасць забываецца, калі перад табой той, без каго не ўяўляеш сабе жыцця. Пра гэта верш «*** Калі робяцца нязвыкла сінімі… »:

Я ведаю, што гэта —
Добры знак
Чакаць і верыць
У новую вясну,
Калі ўбачу ў скверы
(на аўтобусным прыпынку?)
Цябе цыбатага, вясёлага, нервовага
(з шчаціннем, ў акулярах?)

Бо ведаю, што ўсе, каго мне лёс дарує,
ў абліччах розных — Ты.

У Юліі Алейчанкі — па-сапраўднаму паэтычны позірк на людзей і свет. Абавязкова знойдуцца тыя, хто, прачытаўшы такое сведчанне, здзівіцца падобнаму сцвярджэнню. Маўляў, а які яшчэ позірк можа быць у паэта? Яно так. Аднак колькі яшчэ вершаў, у якіх, здавалася б, усё правільна, ды толькі яны, мякка кажучы, не грэюць. А таму, што тое, пра што гаворыцца ў іх, аўтарам не пражыта, не асэнсавана так, што са шчырасці ўспрымання пэўнай з'явы з'яўляецца і шчырасць перадачы яе. У падобных вершах навідавоку культура радка, але чытаеш іх і застаешся абыякавым. У Юліі Алейчанкі што ні твор, усё ў ім настолькі праўдзіва, што цёплай хваляй тваю душу кранае пачуццё замілавання. Як у вершы «*** Звычайная пара. З дзіцём…». Колькі пісана-перапісана пра тое, як шмат значыць для чалавека сямейная гармонія, паразуменне паміж бацькамі, у якіх, па сутнасці, і вытокі шчасця Двух, якія і даюць жыццё сваім дзецям. Але Юлія Алейчанка не паўтарыла іншых паэтаў. У творы быццам новага і не сказана. Ды толькі як паглядзець, як паставіцца. А глядзець трэба чуйным позіркам самой лірычнай гераіні, якая чужую радасць успрымае сваёй радасцю і якой пасля гэтага (дый ад гэтага!) так хораша на сэрцы:

Звычайная пара. З дзіцём.
А яно так бачыць жыццё,
Быццам з неба яшчэ глядзіць.
Я баюся яму зманіць:
Даць цукерку не той рукой,
Усміхнуцца няшчыра ў адказ.
Мізарнею, губляю спакой
Прад анёламі кожны раз…

## Ад любві да прыроды — зноў да кахання

Быццам не так і шмат у кнізе «Пад чароўным шкельцам» вершаў пра хараство прыроды. Толькі чытаеш іх і разумееш, што паняцці «мала—многа» — адносныя. Усяго некалькі вершаў на гэтую, таксама вечную, тэму, але яны, як і творы пра каханне, гавораць пра Юлію Алейчанку-паэтэсу шмат. З іх відавочна, што лірычная гераіня і праз прыроду раскрываецца лепшымі якасцямі душы і характару. Сама радуючыся навакольным краявідам, гэткае ж пачуццё замілавання імі абуджае і ў чытача. Ён таксама, узіраючыся ў іх, прапускае гэта хараство праз сябе, каб праз яго стаць душэўна чысцейшым, святлейшым. Інакш і нельга, чытаючы, для прыкладу, верш «*** Хтосьці з неба вырашыў паслаць…». Нібыта і не над кнігай схіліўся ты. І перад табой не бісер літар на белай паперы. А спыніўся на ўзлеску, узіраешся ў снежны цалік, што ляжыць суцэльнай белай коўдрай. Толькі сям-там на ім відаць нейкія рыскі — гэта колькі метраў прабегла нейкая птушка. Наўкола такая прыгажосць, што ажно сэрца замірае. Ды камусьці ўверсе падалося, што яе мала:

Хтосьці з неба вырашыў паслаць
Дзіўны дар у голыя абшары…
Вольны вецер пачынае раздзімаць
Бель снягоў з вялікай шчодрай хмары.

Пасля гэтага наваколле яшчэ больш прыгажэе. Аднак Юлія Алейчанка, канешне ж, не задавальняецца звычайнай канстацыяй таго, што адбываецца. Яна знаходзіць такія выяўленчыя сродкі, якія, дзякуючы сваёй нечаканасці, не проста ўзбуйняюць мастацкі вобраз, а як бы ачалавечваюць яго, робяць адушаўлёным, а праз яго і сама прырода паўстае жывой істотай. Снег здатны не толькі радаваць:

Чыстай коўдраю ахутвае зямлю,
**Гоіць раны на сусветным хворым целе**
(выдзелена мною — А. М.).
Ціхай музыкай нам дораць… цеплыню
Нечаканыя марозныя мяцелі.

У творах, падобных вершу «*** Хтосьці з неба вырашыў паслаць…», часцей за ўсё прысутнічае так званая ўнутраная публіцыстычнасць. У іншых выпадках аўтар не мінае спакусы звярнуцца да чытача непасрэдна з заклікам берагчы, захоўваць усё тое хараство, што дадзена нам самім Усявышнім. На жаль, далёка не ўсе знаходзяць удалы пераход ад лірычнасці да публіцыстычнасці. Юліі Алейчанцы гэта ўдалося. Нестыкоўкі не назіраецца, настолькі ўсё выглядае натуральна:

Падстаўляйце сэрцы пад снягі,
Дайце душам піць святую сілу.
Снег ляціць на рэчак берагі,
На дзяцей, на даўнія магілы.

Снег ляжыць на ганку, на шашы,
Выпадае зноў і зноў вякамі.
Вы ніколі гэту бель душы
Не кранайце бруднымі рукамі…

«Бель душы» — на дзіва ўдала сказана. Падобны неардынарны вобраз шукаць ды шукаць. У рэшце рэшт, для Юліі Алейчанкі звыклая справа — не проста адушаўляць прыроду, а паказваць яе такой, што яна літаральна «раствараецца» ў чалавеку, а чалавек, у сваю чаргу, — ў ёй. Такая знітаванасць дазваляе яшчэ выразней падкрэсліць, наколькі лірычная гераіня — плоць ад плоці ўсяго жывога, як упэўнена адчувае сябе сярод людзей. У большай ступені гэта датычыцца стасункаў з каханым. Гатова нават выкарыстаць і язычніцкі матыў. Праўда, робіць гэта мімаходам, але ўсё адно атрымліваецца ўражліва: «Спеюць брусніцы ў чароўным лесе, // Ходзіць лясун па шаўковых травах».

Лірычная гераіня і сама ўжо як бы становіцца язычніцай. Такой, якую не відаць, але яе прысутнасць выдаюць дзеянні: «Рэхам раблюся журботнай песні, // Пахам раблюся моху гаркавым». Тое, што адбываецца далей, таксама не можа не ўразіць, бо гэта такое праяўленне пачуццяў, якое не прыдумаеш. Іх неабходна ўнутрана перажыць, прапусціць праз сябе, каб яны сталі неадлучнай часткай цябе, каб пранізалі цябе наскрозь, а ў гэтым пранікненні адчувалася найвышэйшая асалода:

Лашчу лістотай твой твар і плечы,
Драпаю рукі карой старою.
П'ю без краёў дурнап'янавы вечар
Цёплай, прадзорна-ціхай парою.

Не супраць таго Юлія Алейчанка, каб пакарыстацца і празмерна-нечаканай метафарай, стварыць вобраз, які не проста ўражвае, а здзіўляе. Да гэтага можна паставіцца па-рознаму. Але рэч не ў тым — захапляцца гэтым ці цалкам адмаўляць яго. Паэзія — на тое і паэзія, каб прыносіць нешта нечаканае. І чым часцей, тым лепш. У рэшце рэшт, сапраўдны паэт без пошукаў немагчымы. Дык чаму ж у такім разе адмаўляць у гэтым Юліі Алейчанцы! Асабліва тады, калі нават у выпадку вобразнай ускладненасці твора нельга не знайсці рацыянальнае зерне паэзіі:

Гартаваным жалезам на вуснах тваіх застанецца
Пацалунак апошні ў гарачцы запозненай стрэчы.
Да чужога цяпла маё сэрца няўмольна імкнецца,
Чорнай коткай у бездань сягаю ізноў недарэчы.

Мне б зацішна было пад пагодлівым дахам тваім,
Мне б утульна было ў вузле тваіх рук неспакойных.
Толькі б'ецца трывога ў вокны птахам жывым,
Толькі кліча дарога прасторам дурасліва-вольным…

## Вершы — як тыя анёлы

Лірычная гераіня Юліі Алейчанкі, канешне ж, уся ў дні сённяшнім. Толькі яна, як ці не ўсе, не замыкаецца ў ім, а кідае позірк і ў будучыню, у тое, што пакуль недзе за смугою далягляду, але калі-небудзь стане рэальнасцю. Аднак у падобнай цікаўнасці — не спроба ўбачыць, прадугадаць, якім будзе калі-небудзь жыццё на Зямлі. У памкненнях лірычнай гераіні прасочваецца звычайнае памкненне дапытлівай натуры, якой хочацца ўявіць сябе самую праз гады, дзесяцігоддзі. Калі ж глядзець далей, у перспектыву, дык не толькі ў гэтым жыцці, што даецца кожнаму з нас аднойчы Богам, а і ў тым, другім, што напаткоўвае чалавека пасля смерці, калі ён, стаўшы часткай вечнасці, існуе ўжо ў нейкай іншай іпастасі. Адны вераць у верагоднасць такога ператварэння, іншыя аспрэчваюць падобную магчымасць. Але, як бы там ні было, абыякавыя адсутнічаюць.

Да гэтага Юлія Алейчанка звярнулася ў вершы «*** Калі галоўны Суддзя спытае…». Выснова, да якой прыходзіць лірычная гераіня, падаецца ў самым пачатку твора:

Калі галоўны Суддзя спытае,
Ці будзем разам ў новым жыцці,
Я, непадступная браме раю,
Ў адказ шапну: поруч нам не ісці.

На першы погляд, такое сцвярджэнне — не проста нечаканае. Здавалася б, толькі радавацца трэба, што і «ў новым жыцці» можна быць разам з каханым, а тут катэгарычнае: «поруч нам не ісці». Калі ж уважліва ўчытацца ў тое, пра што гаворыцца далей, то гэтая катэгарычнасць успрымаецца нават і нейкай нелагічнай, бо ў лірычнай гераіні ўсё ж жыве жаданне, каб яе памяталі такой, якой яна была. Дый каб не забылася тое, што звязвала абодвух:

Запомні добра маю ўсмешку.
Не сапсуем успамінаў быль!
Запомні словы на летнім узмежку,
Якія чуў брат вятроў — кавыль.

Аднак усё куды складаней. Каханне, што было паміж ЁЙ і ІМ, працягвае жыць. Яно не патухла, але і згасаць не збіраецца. Толькі лірычная гераіня, апынуўшыся ў новых рэаліях, упэўніваецца, што дзеля ранейшага кахання яна мусіць ахвяраваць сабой. У тым сэнсе, што той, каго працягвае кахаць, жыве. Там жыве, дзе яшчэ нядаўна жыла сама. Спакусіцца тым, што абодвум можна быць «разам ў новым жыцці», значыць, па сутнасці, пазбавіць каханага права працягваць зямное жыццё. На такое яна, канешне, пайсці не можа. Падобная самахвярнасць, безумоўна, вымушаная, але яна — найвышэйшае праяўленне чалавечнасці, без якой, дарэчы, і не можа быць сапраўднага кахання.  Пры такім каханні нават у, здавалася б, самай безвыходнай сітуацыі магчыма выйсце. Чаго і не можа разумець лірычная гераіня гэтага верша:

Я адраджуся тваім бяссмерцем,
Я прарасту ў шчаслівых снах.
Не патану ў хуткаплыннай Леце
Ды стану зрэнкай у чужых вачах.

У 2017 годзе Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Выдавецкі дом «Звязда» і выдавецтва «Мастацкая літаратура» правялі Рэспубліканскі конкурс на лепшы твор сярод маладых аўтараў. У ім прынялі ўдзел каля 160 літаратараў. Асобныя творы прозы і паэзіі ўвайшлі ў зборнік «Першацвет». Адкрываецца ён вершамі Юліі Алейчанкі. Паколькі вытрыманы алфавітны прынцып падачы матэрыялаў, прасцей за ўсё патлумачыць гэта тым, што яе прозвішча пачынаецца на першую літару алфавіта. Ды, як нярэдка бывае, простае — не значыць правільнае. Ва ўсякім разе, тут — акурат такі выпадак. Быў бы складальнікам гэтай кнігі я, нават адмовіўшыся ад алфавітнага прынцыпу размяшчэння твораў, не задумваючыся, усё адно першымі б паставіў вершы Юліі Алейчанкі. Канешне, не адмаўляю таго, што і ў астатніх дзевятнаццаці аўтараў ёсць цікавыя знаходкі як у паэзіі, так і ў прозе. У прыватнасці, Ірына Карэліна па-свойму паставілася да вызначэння сутнасці паэзіі ў наш час:

І што цяпер вершы? Анёлы,
са змоклымі крыламі.
Я лісцем зрываюся з клёна
у вечар шыпшынавы.

Адзін з такіх «анёлаў» — верш Юліі Алейчанкі «*** Плюшавы мядзведзь у старой кватэры…». Гэта твор, у якім адчуваецца настальгія па бесклапотнай часіне юных гадоў, што мінуліся, застаўшыся ў памяці самотнымі, але адначасова і радаснымі згадкамі. Верш пра тое, што ніколі назад не вяртаецца, аднак у гэтым таксама свая вабнасць, таму што гэта — часцінка, няхай і самая маленькая, тваёй душы:

Плюшавы мядзведзь у старой кватэры
глядзіць вачыма
майго нявыплаканага юначага смутку.
На парэпанай фотцы
абдымаюся з тым,
Хто мог адным позіркам
Перасоўваць шклянкі, зоркі,
шляхі  майго лёсу.
Раскрываю згублены даўно парасон,
пыл ляціць у вочы…
Ды я не зважаю:
бачу казкі ўласнага Оле Лукойе.

## Безбілетніца-поўня і ... майстэрства перакладу

Як ужо гаварылася, не чужы Юліі Алейчанцы і пераклад. Аднолькава паспяхова яна перакладае як паэзію, так і прозу. Але паколькі і сама мае большы вопыт у паэзіі, дык аддае перавагу вершаваным творам. Прытым пераўвасабляе па-беларуску не толькі вершы з украінскай і рускай мовы, якімі дасканала валодае, як і сваёй роднай, а і прадстаўнікоў, як цяпер любяць казаць, бліжняга і далёкага замежжа.

Зразумела, ў такім разе ёй даводзіцца карыстацца падрадкоўнікамі ці рускамоўнымі перакладамі. Што ж, гэта звыклая з'ява не толькі для Беларусі. Тое ж самае назіраецца і ў іншых краінах. У першую чаргу на постсавецкай прасторы.

Прычына зразумелая: на жаль, веданне замежных моў у большасці з нас зводзіцца, у лепшым выпадку, да адной-двух. Таму і даводзіцца шукаць хоць нейкае выйсце, абы толькі перакладчыцкая прастора не звужалася. Аднак, калі за справу бярэцца таленавіты пераўвасабляльнік, гэта зусім не на шкоду мастацкасці. Няведанне мовы арыгінала кампенсуецца, прынамсі, двума, прытым узаемазвязанымі, падыходамі. Першы і ці не галоўны — уменне перакладчыка знайсці для пераўвасаблення менавіта такі твор, які б дазволіў як мага лепш адчуць творчую індывідуальнасць пэўнага аўтара. З яго арганічна вынікае і другі падыход: праз гэтую непаўторнасць зразумець і нацыянальны каларыт той краіны, адкуль родам сам творца. Гэта ў тым разе, калі перакладаецца не кніга твораў пэўнага іншамоўнага аўтара, а толькі некалькі яго вершаў.

Падобным шляхам — браць для пераўвасаблення па-беларуску твор (ці творы), найбольш характэрныя для таго ці іншага паэта, дый каб адначасова праз яго, гэты твор, можна было атрымаць нейкае ўяўленне аб Радзіме творцы — ідзе Юлія Алейчанка. Яскравы прыклад таму — пераклад ёю асобных твораў эквадорскага паэта Хорхэ Карэра Андрадэ. Найперш верша «У трэцім класе», які, безумоўна, шмат гаворыць пра яго як пра арыгінальнага творцу, здатнага ствараць свой паэтычны свет нават там, дзе, здавалася б, такая магчымасць адсутнічае, паколькі тое, пра што расказваецца, ўсё ж не належыць да нечага вельмі значнага. Ды — а гэта, як вядома, ісціна — не так і важна, пра што сказаць, куды важней, як гэта зрабіць, не забыўшыся ўсяму надаць нацыянальны каларыт.

У правільнасці такой думкі лішні раз і пераконвае верш «У трэцім класе». У самым пачатку твора паўстае менавіта тое, што можна напаткаць толькі ў гэтай далёкай і па-свойму непаўторнай краіне. Усё пададзена і перададзена наўздзіў праўдзіва. У пэўнай меры нават спрацоўвае эфект тваёй прысутнасці ў вагоне, прызначаным не для багатых пасажыраў, а для тых, хто ў сваім жыцці задавальняецца толькі самым неабходным. Аднак гэта ніколькі не псуе іх настрой. Яны даўно звыкліся з такім сваім жыццём. Дый менавіта ў гэтым стане адчуваеш сябе пасапраўднаму чалавекам, які ў самым малым умее знаходзіць тую, няхай і не такую вялікую, радасць, што не заменіш ніякімі грашыма. Таму яны паводзяць сябе нязмушана, непасрэдна. Так, як звычайна і робіць чалавек у звыклым яму асяродку:

У вагоне трэцяга класа
салдат адкаркоўвае штыком
бляшанку часу.

Згадзіцеся: мала ў якой краіне напаткаеш салдата, які б свабодна ехаў у цягніку з вінтоўкай. Пра яе, праўда, не гаворыцца. Аднак і так усё зразумела, бо ніхто з сабой ні з таго ні з сяго штык не возіць. Дый налаўчыўся салдат карыстацца ім як нажом ці адкрывалкай. Канешне, ужо і ў гэтым па-свойму адчуваецца экзотыка Эквадора. Але малюнак знаходжання ў вагоне пасажыра-вайскоўца набывае яшчэ большую выразнасць, акрэсленасць, дзякуючы ўдала знойдзенаму паэтам метафарычна-насычанаму вобразу. Несумненна і тое, што салдат хоча спаталіць у дарозе смагу хутчэй за ўсё півам ці, магчыма, якім-небудзь іншым напіткам.

Праўда, калі казаць пра гэта прама, згадка пра піва ці пра нейкі іншы напой пры яе звычайнасці будзе выглядаць празмерна будзённа. Неяк «не паэтычна» нават. Затое як гучыць «адкаркоўвае штыком бляшанку часу»! Гэта таксама свайго роду экзотыка. Ды толькі яна асаблівага кшталту. Па сутнасці, экзотыка, народжаная талентам Андрадэ. Толькі так, а не інакш, і трэба ўспрымаць верш «У трэцім класе» у арыгінале. Калі ж мець на ўвазе пераклад, дык, несумненна, у твора ўжо два аўтары, бо перакладчык становіцца суаўтарам паэта. Безумоўна, тады, калі пераклад дасканалы.

Юлія Алейчанка, што не выклікае сумнення, менавіта да такога спасціжэння згаданага твора і імкнулася. Ёй хацелася, каб Андрадэ, будучы паэтам эквадорскім, праз гэты верш, па-сутнасці, стаў бы і паэтам беларускім. У тым сэнсе, каб матывы твора былі не чужымі, і тым, хто далёкі ад эквадорскіх рэалій. Каб беларускі чытач успрымаў іх для сябе звыклымі, хоць у сапраўднасці яны і не нашы.

Гэта ёй удалося. Дзякуючы таму, што, адчуўшы сам дух верша Андрадэ, яна пранікла яго вобразна-выяўленчай сістэмай, глыбока спасцігла яе. А яшчэ, што немалаважна, ўспрыняла яе не проста блізкай сабе, а і зразумелай. Хоць, бадай, нават праўдзівей сказаць — нейкай свойскай. Тое, пра што гаворыцца, стала і часцінкай звыклага для беларусаў. Адсюль і такое натуральнае гучанне ў перакладзе выказанага Андрадэ. Адначасова відавочная і наяўнасць беларускага каларыту.

Канешне, падобнае параўнанне крыху нацягнутае, але без яго ніяк не абысціся. Яно не прос-

та напрошваецца, а ўладна заяўляе аб сабе. Верш «У трэцім вагоне» тым і ўражвае ў беларускамоўным варыянце, што перакладчык, захаваўшы дух арыгінала, дасягнула не менш важнага: дазволіла Андрадэ прамаўляць па-беларуску так шчыра і пранікнёна, як гэта ён робіць на роднай яму мове:

Токар здымае
двухкаляровую стружку з яблыка.
А дзесьці на варанёным даху паравоза
стаілася безбілетніца-поўня.

Безбілетніца-поўня і так — вобраз, што робіць гонар любому паэту. А тое, што яна яшчэ і стаілася, ды не дзе-небудзь, «а дзесьці на варанёным даху паравоза», — гэта ўжо з шэрагу паэтычных шэдэўраў. І не толькі эквадорскай паэзіі, а і паэзіі беларускай. Значыць, у чымсьці і Юліі Алейчанкі, якая спрычынілася да яго нараджэння, з'яўлення, удыхнула ў яго існаванне новае жыццё.

Увесь гэты твор Андрадэ настолькі насычаны нечаканымі параўнаннямі, вобразнымі асацыяцыямі, што паступова ўтвараецца своеасаблівы ланцуг, які звяно за звяном убірае ў сябе пабачанае лірычным героем. Балазе, ён увесь час у дарозе. Цягнік, у якім едзе салдат, адмервае вярсту за вярстой. Несумненна, навідавоку ўмоўнасць такога руху. Адзін і той жа поезд не можа ехаць праз некалькі краін, што знаходзяцца далёка адна ад другой. Аднак відавочна і тое, што паэт удала скарыстаўся менавіта такім мастацкім прыёмам. Дарога — заўсёды дарога, яна дазваляе многае ўбачыць, шмат што асэнсаваць. Асабліва шмат што відаць з вокнаў цягніка. Кажучы вобразна, трэці клас вагона — гэта першы клас жыцця. Таго жыцця, якое бачыцца без прыкрас, рэтушыроўкі. Ды менавіта ў гэтым выглядзе яно найбольш і прывабнае, бо паўстае рэальным.

Увогуле, Юлія Алейчанка, імкнучыся заставацца як мага больш блізкай да арыгінала, слепа не прытрымліваецца яго. І далей пераўвасабляе верш так, што захоўваецца першаснасць успрыняцця рэальнасці, але ў той жа час гэта ўжо і тое, у чым адчуваецца і почырк самога перакладчыка. Калі ж мець на ўвазе мастацкія вартасці пераўвасобленага, дык гэта, канешне ж, эквадорац Андрадэ. Але гэта і беларуска Юлія Алейчанка. З яе ўлюбёнасцю ў слова, у родную ёй мову. А яшчэ з упэўненасцю, што сапраўдная паэзія заўсёды застаецца паэзіяй. Пераўвасобленая таленавіта на іншыя мовы — таксама. Што і пацвярджае яна сваімі перакладамі.

Не магу не запыніцца яшчэ крыху на вершы «У трэцім класе». Бо так шмат у ім паэтычных знаходак, кожная з якіх — маленькі, але такі істотны штрышок для разумення той ці іншай краіны, па тэрыторыі якой, па задумцы Андрадэ, і праязджае яго лірычны герой. Як не прыгадаць, што з малога пачынаецца вялікае. Калі ж яшчэ такія дасведчаныя гіды — Андрадэ і Алейчанка, якія добра разумеюць, пра што абавязкова трэба сказаць, дык, здавалася б, не такое і істотнае набывае статус значнага. Учытаешся пільней і … Мяркуйце самі:

Берлінскія піўніцы.
Піва колеру зыркіх вачэй.
Зялёны кірмаш на плошчы Лютэра.
Статыстыкай улічана кожная хлебная драбінка,
якую з'еў верабей.
Снегапад — першая споведзь зямлі;
«Вось і зіма!» — радасна паўтараюць
мужчыны і жанчыны.

Нешматслоўна сказана, а прачытаў — нібыта і ў Берліне пабываў. Ва ўсякім разе, хоць і невялікае ўяўленне, але пра гэты горад атрымаў. Праз тое самае піва, што дагэтуль умяшчалася ў «бляшанку часу». Каб паспытаць яго, трэба будзе яшчэ раз завітаць сюды, затрымацца на колькі дзён. Цяпер жа не да гэтага — цягнік з вагонам трэцяга класа спяшаецца ў горад, не менш цікавы, чым Берлін:

Кёльнскі сабор —
сталагмітавы гай,
струмені граніту з фантана,
што ўрэзаліся ў блакіт,
паветраны замак шэрані,
акамянелы акорд.

Пабываў гэты незвычайны цягнік, які ноччу нават «безбілетніцу-поўню» вязе, і ў сталіцы Францыі. Малюнак яе, у параўнанні з іншымі гарадамі, атрымаўся куды больш разгорнутым. Гэта і зразумела. Пабачыць Парыж і … Не, паміраць не трэба. Хоць бы для таго, каб усё, што так уразіла, яшчэ раз пераўжыць, уважліва ўчытваючыся ў верш. У ім жа акурат звязанае з парыжскімі ўражаннямі, найбольш эмацыянальна-ўзнёслае, але разам тым усё гэта і настолькі вобразна насычанае, што метафарычная напоўненасць радка ўспрымаецца вялікім жывапісным палатном. Яно распасціраецца не толькі ў прасторы, а і ў часе. Знаходзячыся ў дні сённяшнім, сягае і ў мінулае. На ім, на гэтым непаўторным палатне, шмат паэтычных знаходак і адкрыццяў. Канешне, прысутнічае і ўжо вядомае — як жа інакш, калі гаворка ідзе пра Парыж, але гэта і паэтычнае адкрыццё яго праз яркую напоўненасць і насычанасць вобразаў:

Вуліцы Парыжа быццам знаёмы з маленства,
хаця першы раз іх бачыш.
Трыўмфальная арка ўкленчыла пад цяжарам гісторыі.
Птушкі на саборы Нотр-Дам,
быццам крылатыя барэльефы.
Рулетка круглай плошчы Згоды —
там я паставіў на белы нуль поўні
сваю надзею.
Аднойчы, на выхадзе ранкам з Луўра,
я зразумеў, што лёд —
гэта вада, што зрабілася статуяй.

Зноў жа, як гэта назіралася неаднойчы пры чытанні верша «У трэцім вагоне», пра ўсё гаворыцца так нязмушана. Забываешся, што перад табой твор у перакладзе. Уражанне, што ён і напісаны быў па-беларуску. Тым больш гэтак успрымаюцца заключныя радкі, у якіх ужо прысутнічае і памкненне туды, дзе пачынаецца вечнасць, а якая ж паэзія без гэтага:

І праз слыхавое акно па канаце белага промня
можна залезці на край небасхілу.
У гэты калодзеж часам глядзяць
хмары-вандроўнікі і галубы.

Пераўвасобіла Юлія Алейчанка па-беларуску яшчэ два вершы Андрадэ — «Патаемная біяграфія сына» і «Філасофія дыму». Гэтыя творы таксама сведчаць пра яго як пра вельмі арыгінальнага творцу. Першы з іх, не пабаюся такога азначэння, — паэтычны шэдэўр. Ва ўсякім разе, дагэтуль нічога падобнага чытаць не даводзілася. Як не падзякаваць Юліі Алейчанцы ўжо за тое, што яна звярнула ўвагу на гэты верш, узялася яго перакладаць. А яшчэ адно дзякуй так і напрошваецца за выдатнае пераўвасабленне згаданага твора па-беларуску.

Толькі бярэшся чытаць «Патаемную біяграфію сына», і адчуванне такое, што перад табой ніякі не пераклад. Настолькі радок гучыць лёгка, раскрываючыся ўсёй сваёй вабнасцю. Андрадэ-«беларус» паўстае паэтам глыбока зямным, які ўмее напоўніцу цаніць радасці быцця. Адначасова відавочная яго схільнасць і да пэўнай філасафічнасці. Не ўскладнёнай, калі высокія матэрыі нярэдка адштурхоўваюць ад сябе, а такой, што таксама вынікае з самой паўсядзённасці. Ён задумваецца як над вечнай загадкай зараджэння яшчэ аднаго жыцця, так і над сутнасцю людскога існавання увогуле, быццам зазіраючы туды, адкуль і з'явіцца маленькі чалавечак. Хуткае з'яўленне яго паўстае працэсам загадкавым, таямнічым. Пакуль жа гэтыя загадкавасць і таямнічасць як бы знаходзяцца на мяжы магчымага і яшчэ не здзейсненага: «Мікраскапічны згустак жывога, // птушкі маленькай, меншай за колас… // Толькі ужо, як руда ў дальніх нетрах, // у мацярынскім улонні твой голас». Ды жыццё ўсё ж пачалося. Хай сабе яно знаходзіцца толькі ў зародкавым стане, аднак яго ўжо нічым не спыніць:

У цёмных затоках крыві паслухмянай
спее і шырыцца кропелька-кокан,
дзе прарастаць будзе старанна
сіла жыцця з нервовых валокан.

Павекі цяжкія яшчэ не расклеіць,
цягнешся прагна да новага свету,
што пупавінай надзейнай не змерыць…
І заварушышся ўпоўнач планетай.

Ёсць у вершы яшчэ адна страфа, заключная. Яна прывабная тым, што Юлія Алейчанка неназойліва, аднак разам з тым і ўпэўнена ўвяла ў твор беларускі каларыт, удала выкарыстаўшы размоўнае слова «падшыванец». У нас яно, як вядома, ужываецца ў сэнсе «падлетак», а ў некаторых выпадках і як «хлапчук». Лірычны ж герой гэтага верша, што заўважаецца нават па назве яго, — будучы бацька. Ён з замілаваннем уяўляе сабе, як неўзабаве на свет з'явіцца яго нашчадак. Зразумела, што ў думках звяртаецца да яго пяшчотна, але ў той жа час і з пэўнай усмешкай, адразу падкрэсліваючы блізкасць з ім. У такім разе найбольш і падыходзіць слова «падшыванец». Яно і надало твору беларускасці:

Тыкаеш маці знутры, падшыванец,
дорыш чакання і веры дзівосы.
Быццам танцуеш няведамы танец,
з гэтага часу надзелены лёсам…

Пераклад верша «Патаемная біяграфія сына» — яшчэ адно сведчанне пра тое, наколькі ў Юліі Алейчанкі высокі мастацкі густ, як умее яна адбіраць для пераўвасаблення па-беларуску самае цікавае і значнае. Тое, што дазваляе адчуць адметнасць пэўнага паэта. Гэта датычыцца і твораў непальца Мадхафа Праад Гхімірэ, удмуртца Сяргея Матвеева, Арцёма Аруцюняна з Арменіі, туркмена Агагельды Аланазарава, кітайцаў Лі Хэ і Ван Гачжэня. Калі Гхімірэ, для прыкладу, занепакоены тым, «каб мір ды спакой на планеце не знішчыла сіла злая» («Вадародная бомба»), дык Аруцюнян надта ж адметна перадае паяднанасць чалавека з прыродай: «Гарачыя рэбры скал. // Спякота, як свечка, // Бяжыць па вяршынях тапаляў, // Святло пульсуе ў скронях тваіх, // Здаецца, паветра вось-вось загарыцца. // І хутка ўсё ператворыцца ў глыбу ўцёса» («Рэкі Арцаха»).

У Аланазарава («*** Вечар. Мы разам у лодцы з каханай…») таксама апяваецца прырода, але праз пачуццё з пачуццяў — каханне:

Вечар. Мы разам у лодцы з каханай
Пераплываем Мургаб у цішыні.
З мілай, нябёсамі мне абяцанай,
Вечна ў памяці шчасныя дні.

Пэўна, прырода ёй шчодрай рукою
Пекнасць адмерыла аж да краёў…
Дзіўнай пяшчотай, чароўнай журбою
Свецяцца вочы да ранку ізноў.

Толькі глядзець на яе застаецца —
Вецер вяслуе, і я разам з ім.
Хустка блакітная вабіць-віецца
Побач са мною і ў сэрцы маім.

Апошнім часам Юлія Алейчанка шмат перакладае кітайскіх паэтаў. Прадстаўленыя ў кнізе «Пад чароўным шкельцам» Лі Хэ і Ван Гачжэнь — толькі два з іх. Кітайская паэзія, як вядома, — адна з самых старэйшых у свеце, яе узрост — каля трох тысяч гадоў. Багатыя і традыцыі яе перакладу. Усё гэта ўскладае на таго, хто сёння бярэцца за яе пераствараэнне, вялікую адказнасць. Дый выклікае немалыя цяжкасці нават тады, калі перакладаюцца творы сучасных аўтараў. Таму пахвальна, што Юлія Алейчанка не пабаялася такіх перашкод. Яшчэ лепш, што, як відаць па пераўвасобленых ёю творах Лі Хэ і Ван Гачжэня, данесла да беларускамоўнага чытача ўсю адметнасць іх мастакоўскай манеры. Гэта відаць ужо хоць бы па вершы «Думы ў пакоях» Лі Хэ:

Ледзь кранае восеньскі вецер
Карычнага дрэва лісцё.
Успамін адлятае аб леце
Матыльком у туман-небыццё.

Перарыўныя гукі званочка —
У павозцы месяц імчыць.
І ціхмяная сіняя ночка
У абдоймах сваіх халадзіць.

Як жа вытрымаць мне самоту?
Плача конік пяшчотнай нотай…

Матыў у творы, канешне, традыцыйны — непрыкаянасць, адзінота лірычнага героя, яго самота. Гэта, між іншым, характэрна для творцаў усіх краін. Аднак менавіта аўтары тых з іх, у якіх асабліва даўнія і моцныя паэтычныя традыцыі, у гэтым накірунку лірыкі асабліва адметныя. Такую адметнасць Юлія Алейчанка і перадала па-майстэрску ў вышэйпрыведзеным вершы.

## Толькі ... не забівай

Як перакладчык яна ўпэўнена заявіла пра сябе і ў прозе. Гэта добра відаць па падборцы «Сучасныя ўкраінскія апавяданні», змешчанай у восьмым нумары часопіса «Полымя» за 2014 год. Сярод перакладчыкаў твораў і іншыя аўтары, але сваімі якасцямі вылучаецца менавіта пераўвасобленае Юліяй Алейчанкай. Усё заканамерна: да сваёй працы яна паставілася так, як і пры перакладзе іншамоўнай паэзіі. Гэтаксама дае аб сабе знаць высокі мастацкі густ у выбары пісьменнікаў і твораў. Адчуваецца ўменне пераўвасабляць прозу так, каб чытач атрымліваў ад яе такую асалоду, нібыта знаёміцца з беларускамоўным арыгіналам.

Праўда, калі мець на ўвазе гэтую празаічную падборку, важна і іншае. Юлія Алейчанка выбрала для перакладу па апавяданню з творчасці ўкраінскіх пісьменнікаў Анатоля Дзімарава і Міхайлы Слабашніцкага. Творы гэтыя, па-сутнасці, ўзаемна дапаўняюць адно аднаго, паколькі ў абодвух на розным матэрыяле гучыць адна і тая ж тэма: повязь усяго жывога на зямлі. Яшчэ адно сведчанне таго, як у нас і «братоў нашых меншых» шмат агульнага. Скразной ніткай праз апавяданні праходзіць думка пра тое, як неабходна іх яшчэ больш любіць і лепш разумець. Толькі ў такім разе ў прыродзе ўсталюецца раўнавага, без якой і чалавек — не чалавек.

Праўда, адзін з герояў апавядання Дзімарава «Полаз» — той, каго, як ужо відаць з назвы твора, палюбіць, бадай, немагчыма. Хоць гледзячы як да ўсяго паставіцца. Пачаткам апавядання пісьменнік заінтрыгоўвае: «Адбылося гэта на Паміры, у такім глухім закутку, куды нават птушкі паказацца баяліся.

Адбылося гэта ў адным з саяў самых дзікіх, назва якога, калі перакласці, гучыць прыкладна так: «Пойдзеш — не вернешся». Бо смерць тут хапае за пяткі амаль на кожным кроку».

Ледзь не ўхапіла яна за пяткі і героя-апавядальніка, калі той убачыў, як «праз дзесяць метраў наперадзе чарнеў трохметровы полаз. […] Я ажно здрыгануўся ад агіды, ад жаху. Гэтыя пачуцці перадаліся мне на генным узроўні ад далёкіх продкаў, якія тысячы, а то і мільёны гадоў таму пакутавалі ад атрутных змей.

Яшчэ да спадчынных агіды і жаху дадалася нянавісць: вырашыў забіць змяю.

Тым больш, што забіць яе можна было проста: полаз ляжаў нерухома, полаз толькі што выпаўз са сховы, дзе цягам жорсткай паморскай ночы яго люта скоўваў холад. Выпаўз, магчыма, сустрэць сонца, што магло вярнуць яго да жыцця».

Задумана — павінна быць ажыццёўлена. Герой-апавядальнік «падняў цяжкі камень, зацiснуў у правай руцэ». Пачаў падкрадвацца да змяі, каб ударыць ёй у галаву. І ўдарыў бы, але ў апошні момант адбылося неверагоднае: полаз утаропіўся ў героя-апавядальніка. Яго вочы гіпнатызавалі, «прапякаючы наскрозь, яны такім немым крыкам галасілі да мяне, што голас той пранізаў сэрца: «Не забівай! Не забівай! Дай мне перад смерцю пагрэцца на сонцы!»

Пасля гэтага «камень пакаціўся долу, […] прапаў жах, прапала агіда». А потым адбылося яшчэ больш неверагоднае: «і я прысеў, і наблізіўся, і рука мая міжволі пацягнулася да яго галавы.

Ён узняў галаву насустрач, даверліва прыхіліўся да маёй далоні…».

Учытаемся ў заключныя развагі аўтара-апавядальніка:

«І мы ўжо былі не чалавек і змяя… Не змяя і чалавек, бясконцай барацьбой раз'яднаныя, а дзве найдаражэйшыя адна адной істоты, узаемнай любоўю пабратаныя.

Адзінокія… На ўвесь свет — адзінокія. На ўсю зямлю дашчэнту спустошаную, без адзінай прыкметы жыцця…

І для кожнага з нас было б найвялікшай трагедыяй страціць адзін аднаго…

Мы народжаныя сонцам, з'яднаныя сонцам…»

Для хлопчыка Слаўко, героя апавядання Слабашніцкага «Нашчадак тарпанаў», такой «найвялікшай трагедыяй» стала смерць старога каня Каштана. З ім Слаўко пасябраваў, адпачываючы летам у бабулі. З аднолькава глыбокім псіхалагізмам расказваецца як пра Слаўко, так і пра яго чацвераногага сябра. Твор напісаны так, што раскрываецца душа іх абодвух. Сёй-той гатовы запярэчыць, што душа ёсць толькі ў чалавека. Ды справа ў тым, што Каштан пададзены так, быццам ніякі ён не конь, а чалавек. Яго перажыванні — гэта перажыванні істоты, здатнай мысліць. Каштан — істота, якая на схіле свайго веку шукае душу, блізкую сабе. Яе ён і знайшоў у асобе Слаўко.

Мне здаецца, што, перакладаючы гэты твор, гэтаксама, як і апавяданне «Полаз» Дзімарава, Юлія Алейчанка атрымлівала задавальненне ад прозы, што, з'яўляючыся мастацкай з'явай, адначасова ўспрымаецца і самім жыццём, таленавіта ўзноўленым пісьменнікамі. Калі ж з задавальненнем чытаецца, дык з гэткім жа задавальненнем і перакладаецца. Якое месца ў апавяданні «Нашчадак тарпанаў» ні возьмеш, успрымаецца яно так, нібыта ніякі і не пераклад гэта.

## «Рэвізія» жыцця і ўменне бачыць

Пераклады твораў украінскіх празаікаў атрымаліся цудоўнымі не толькі ў тым, што Юлія Алейчанка дасканала валодае ўкраінскай мовай, адчувае ўсе яе нюансы. Яна ўжо і сама заявіла пра сябе як пра празаіка. Яе апавяданні друкаваліся ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», газеце «Звязда», іншых перыядычных выданнях. Уражанне ад гэтых твораў прыемнае, бо яны пры, здавалася б, усёй іхняй традыцыйнасці нямала даюць сэрцу і розуму.

Як, скажам, апавяданне «Болей не буду!». Як быццам нічога новага: «Сёння ноччу, упершыню за апошнія гадоў пяць, Лізе прыснілася прабабуля. Цёплы асенні поўдзень… Баба Валя, як клікала яе яшчэ Лізіна маці, шпарка крочыць па сцяжынцы насустрач, вясёлая і адначасова засяроджаная, у сваім звычайным для будняга дня бавоўняным карычневым касцюме. Вось толькі выглядае далёка не на восемдзясят гадоў. Яна — прыгожая малажавая кабета».

Сны, як вядома, могуць шмат сказаць. Не ў сэнсе таго, што часам яны бываюць вешчымі. Гэта яшчэ і магчымасць таму, каму нешта прыснілася, штосьці абдумаць, на нечым спыніць асаблівую ўвагу. У дадзеным выпадку і прыгадаць тое, што з гадамі забылася. Чым і пакарысталася Ліза. А штуршком для ўзнаўлення шмат чаго ў памяці стаў адзін з эпізодаў: «Калі ў каляровым сне прабабуля апынулася побач, то яны доўга размаўлялі пра нешта штодзённае, нязначнае, быццам бы і не развітваліся ніколі… Пра што, Ліза, хоць забі, так і не ўспомніла. А вось пасля, шчымліва дакрануўшыся да рукі, баба Валя ціха папрасіла: «Не рабі так болей». Гэта, галоўнае, і ўрэзалася ў памяць».

Прыгадваючы шмат што з пражытага, успамінаючы часам не такое ўжо і значнае, гераіня твора як бы праводзіць «рэвізію» свайго жыцця. Па сутнасці, кіруючыся просьбай сваё прабабулі — «Не рабі так болей!». Нарэшце, «[…] піша тлустым маркерам на вялікім лісце паперы «Болей не буду!» і прыклейвае скотчам да акна, надпісам на вуліцу. Смяецца сама са свайго дзіцячага ўчынку. Але […] упэўнена, што так баба Валя абавязкова пабачыць адказ. Усё зразумее і прабачыць».

Назва эсэ «Баку» сама гаворыць за сябе. Гэта… Назваць твор падарожнымі нататкамі язык не паварочваецца. Не толькі таму, што сама Юлія Алейчанка назвала яго эсэ. Нельга рабіць гэтага і па іншай прычыне. Хоць месцамі і прысутнічаюць элементы нататак, тым не менш напісанае сягае за

іх межы. Перад намі свабодная, раскаваная падача матэрыялу, як таго і вымагае жанр эсэ. Гэта згадкі аб убачаным у краіне, не такой і блізкай ад Беларусі. Гэта і споведзь, напоўненая згадкамі пра людзей, якія нечым запомніліся, хоць часам сустрэчы з імі былі не такімі і доўгімі.

Эсэ прасякнута тым асаблівым настроем, які з'яўляецца тады, калі чалавек, чымсьці надзвычай уражаны, захоплены, хоча, каб гэтыя ўражанні, захапленні перадаліся і іншым. Больш за тое, каб яны пераканаліся, як шмат у Баку таго, у што проста нельга не ўлюбіцца, што грэшна не пабачыць. Самае ж галоўнае, у чым упэўніваешся, прачытаўшы эсэ «Баку», — канешне ж — душа не падарожніца, але яна, уражаная пабачаным у дарозе, схільная падштурхнуць да гэтага падарожжа і іншых.

## На даследчыцкай дзялянцы

Важкія набыткі Юліі Алейчанкі і ў галіне крытыкі і літаратуразнаўства. Але яна не толькі выступае з артыкуламі і рэцэнзіямі на новыя кнігі, а і паспяхова працуе над кандыдацкай дысертацыяй «Рытма-метрычная арганізацыя паэзіі Янкі Купалы: сутнасць, своеасаблівасць, эвалюцыя». Па словах самой даследчыцы, «выбар тэмы быў прадыктаваны выключнай значнасцю творчых здабыткаў Янкі Купалы ў справе развіцця нацыянальнай лірыкі і ліра-эпасу. Да таго ж, рыта-метрычная арганізацыя купалаўскай паэзіі — надзвычай удзячная глеба для навуковага асэнсавання, бо яна вызначаецца арыгінальнасцю і багаццем, дэманструе  асноўныя этапы развіцця беларускай літаратуры, знаходзіцца пад уплывам перадавых запатрабаванняў свайго часу, выступае выдатна распрацаваным кампанентам аўтарскага стылю, што актыўна ўдзельнічае ў паяднанні зместавага і фармальнага бакоў твора». Юлія дадае: «Гэта добрая школа для любога паэта».

Актуальнасць працы тым больш відавочная, што адсутнічае грунтоўнае манаграфічнае даследаванне рытма-метрычных асаблівасцей купалаўскага верша. Няма даведніка вершаваных памераў творчай спадчыны паэта (накшталт «Метрычнага даведніка да вершаў М. Багдановіча» Івана Ралько). Аднак гэта не азначае, што пытанне не трапляла ў поле зроку даследчыкаў. Юлія Алейчанка, засведчыўшы вялікую эрудыраванасць і глыбокую дасведчанасць у гэтай праблеме, называе артыкулы «Пра майстэрства Янкі Купалы» Максіма Лужаніна («Савецкая Айчына», 1957, № 4), «Беларускай песні валадар: фальклорныя традыцыі ў лірыцы Янкі Купалы» («Маладосць», 1960, № 2) і «Паэтыка лірыкі Янкі Купалы»(«Веснік БДУ». Серыя. 4, 1973) Алега Лойкі, «Эмацыянальная ўлада слова» Варлена Бечыка (ЛіМ, 1960, 21 чэрв.), «Янка Купала і народна-песенная творчасць» Паўла Ахрыменкі (у кнізе «Народны паэт Беларусі», 1962), «Шаўчэнка і Купала: ля вытокаў беларускага і ўкраінскага акцэнтнага верша» Івана Ралько («Маладосць», 1967, № 2), «Дакастрычніцкая творчасць Янкі Купалы і Някрасаў» Алены Лянсу («Полымя», 1971, № 12), «Баладная паэзія Янкі Купалы» Валянціны Коўтун («Полымя», 1981), «І міл, і страшан думцы свет: паэтыка і светаадчуванне» Любові Тарасюк і «Пушкінскія традыцыі ў лірыцы Янкі Купалы» Антаніны Шалемавай (у кнізе «Песні беларускай валадар», 1981), «Фальклорныя традыцыі ў лірыцы Янкі Купалы і Якуба Коласа ваеннага часу» Віктара Яраца (у кнізе «Беларуская літаратура», 1981), «Валадар роднага слова: [Заўвагі аб паэтычнай мове твораў Я. Купалы]» Ніла Гілевіча (у яго кнізе «Удзячнасць і абавязак», 1982). Манаграфіямі, у якіх закранаюцца праблемы, звязаныя з вершам Янкі Купалы, з'яўляюцца: «Янка Купала: Духоўны воблік героя» Івана Навуменкі (1967), «Фальклорныя традыцыі ў беларускай дакастрычніцкай паэзіі» Міколы Грынчыка (1969), «Свет Купалы» Рыгора Бярозкіна (1981) і іншыя. Разам з тым зазначае, «што праблема рытма-метрычнай разнастайнасці купалаўскай паэзіі разглядаецца ў іх даволі пункцірна».

Дарога — заўсёды дарога, яна і дазваляе многае ўбачыць, шмат што асэнсаваць. Асабліва шмат што відаць з вокнаў цягніка. Кажучы вобразна, трэці клас вагона — гэта першы клас жыцця

Сур'ёзны ўнёсак у распрацоўку пытанняў рытму і метра Янкі Купалы зрабіў І. Ралько. Яго праца «Беларускі верш: старонкі гісторыі і тэорыі» (1969) з'яўляецца першай спробай гісторыка-тэарэтычнага даследавання праблем беларускага верша. На шырокім фактычным матэрыяле аўтар асвятляе некаторыя пытанні беларускага вершаскладання: зараджэнне сілаба-тонікі ў самой сілабічнай сістэме, гісторыю і тэорыю акцэнтнага верша. Значнае месца ў манаграфіі адведзена і гісторыка-параўнальнаму аналізу сістэм вершаскладання ў славянскіх літаратурах. Творчая эвалюцыя Янкі Купалы, купалаўскі акцэнтны верш (як тыпалагічна блізкі да шаўчэнкаўскай традыцыі), сілаба-танічны верш паэ-

та і яго рытмічнае ўзбагачэнне — вось шэраг важных пытанняў, якія не абышоў даследчык у сваёй працы.

Яшчэ адным грунтоўным даследаваннем дадзенай праблематыкі з'яўляецца манаграфія «Шляхі беларускага вершаскладання» М. Грынчыка (1973), прысвечаная асэнсаванню гістарычных шляхоў развіцця беларускага верша, пачынаючы з яго пачатковых дасілабічных форм, аналізуюцца пытанні ўсталявання ў беларускім вершы сілаба-танічных прынцыпаў у паэзіі пачатку XX стагоддзя. Асаблівасці асноўных версіфікацыйных сістэм разглядаюцца ў сувязі з фармальнымі традыцыямі і характэрнымі з'явамі суседніх славянскіх літаратур. Выяўленчамастацкія функцыі разнастайных вершаваных форм і прыёмаў раскрываюцца даследчыкам адначасова з аналізам пытанняў творчай індывідуальнасці паэтаў (А. Рымшы, С. Полацкага, Я. Баршчэўскага, В. Дуніна-Марцінкевіча, В. Каратынскага, Ф. Багушэвіча, Я. Лучыны, А. Гурыновіча, Цёткі, Янкі Купалы, Якуба Коласа, М. Багдановіча). Аналізу вершавання Янкі Купалы надаецца надзвычай вялікае значэнне, разглядаюцца крыніцы творчага ўзбагачэння народнага паэта, сінтэз розных сістэм вершавання ў яго творчай спадчыне, асаблівасці рытма-інтанацыйнай пабудовы твораў.

Аднак вынікі даследавання М. Грынчыка трапілі пад крытычны перагляд І. Ралько, які выступаў за перавагу сілаба-тонікі ўжо на першапачатковым этапе творчага развіцця паэта. І па сённяшні дзень не сціхае дыскусія наконт паслядоўнасці ўсталявання сілаба-танічных прынцыпаў у творчасці Янкі Купалы, асабліва ў першых яго зборніках.

Вось чаму і наспела неабходнасць разгледзець вершаванне Янкі Купалы ў святле сучасных дасягненняў тэорыі літаратуры, акрэсліць шляхі засваення і ўсталявання ім вядучых прынцыпаў вершавання, што з'яўляюцца вызначальнымі для ўсяго далейшага развіцця беларускай літаратуры.

Арыгінальнасць і навізна даследавання, над якім працуе Юлія Алейчанка, у тым, што яна ўпершыню праводзіць аналіз усёй спадчыны Янкі Купалы ў рамках комплекснага шматаспектнага падыходу. Улічвае адрозненне функцыянальных і структурных характарыстык метрычнага і рытмічнага ўзроўняў вершаванай арганізацыі. Больш за тое, гэта даследаванне прапануе матэрыялы для стварэння даведніка вершаваных памераў творчай спадчыны народнага песняра.

* * *

Усе накірункі творчасці, якія прыцягваюць увагу Юліі Алейчанкі, важныя для яе мастакоўскага станаўлення. Час, безумоўна, пакажа, якому з іх яна аддасць перавагу ў будучыні, хоць, верагодней за ўсё, па-ранейшаму будзе паспяхова праяўляць сябе ў розных іпастасях. Але, паколькі да напісання гэтага артыкула мяне падштурхнуў выхад кнігі паэзіі і перакладаў «Пад чароўным шкельцам», напрыканцы яшчэ раз звярнуся да яе. Хачу падкрэсліць, што гэта менавіта кніга, а не проста зборнік твораў. Здавалася б, ніякай розніцы няма. Ды не будзем забывацца, што кніга — прынамсі, калі мець на ўвазе вершаваную, — вызначаецца цэласнасцю задумы, чаго не скажаш пра звычайны зборнік, у якім куды больш свабоднае размяшчэнне твораў. Тое, з чым Юлія Алейчанка прыйшла да чытача, лёгка вызначыць, нават пазнаёміўшыся толькі з першым і апошнім вершамі яе кнігі. Свайго роду верш-зачын успрымаецца як праграмны. Лірычная гераіня перакананa, што «[…] рака жыцця // Выкідае на бераг // Слабых і непасталелых». Але, як сведчыць заключны верш кнігі «*** Жыць весела і лёгка…», яна ўпэўнена і ў іншым:

Жыць весела і лёгка,
Калі ты ёсць яшчэ «праектам чалавека».
Калі марыцца
Пасадзіць пальму,
Пабудаваць горад,
Разбіць сотні сэрцаў,
Знайсці матылька пад чароўным шкельцам.

Невыносна цяжка робіцца,
Калі зямля ўжо стамлёна дыхае пад нагамі.
Калі пальма ніяк не расце ў кадцы,
Горад рассыпаецца па цаглінцы,
Ды аскепкі шкельца так глыбока ў сэрцы,
Што не бачыш танец
Запаветнага матылька.

Вобраз «матылька пад чароўным шкельцам» набывае важкі сэнс. Знайсці яго, убачыць, палюбавацца ім — значыць, не растраціць умення радавацца прыгажосці ў самым звычайным. Нават, як на першы погляд, непрыкметным. У шчаслівую часіну юнацтва гэта не так і складана, было б толькі ў сэрцы жаданне ўспрымаць навакольны свет свежа і паэтычна. З гадамі, безумоўна, рабіць гэта ўсё цяжэй і цяжэй, бо сапраўды «зямля ўжо стамлёна дыхае пад нагамі», а шмат якія мары разбіваюцца ўшчэнт. Толькі верыцца, што лірычная гераіня Юліі Алейчанкі і цягам часу захавае сваю душэўную і духоўную чысціню, а дзе шчырасць і непасрэднасць, там і сапраўдная паэзія. У рэшце рэшт, як і літаратура ўвогуле.

Анастасія Анцімонік

# Агаломшанасць у садзе паэзіі

Вальжыну Морт у нас найчасцей прадстаўляюць як беларуска-амерыканскую паэтку. Калі згадаць, хто з сучасных беларускіх літаратараў змог выйсці за межы нашай геаграфічнай прасторы і не згубіцца ў сутарэннях сусветнага мастацтва слова, то ў галаву адразу залятаюць два прозвішчы — Разанаў і Морт.

Першы зборнік паэткі «Я тоненькая, як твае вейкі» з'явіўся ў 2005 годзе. А ў 2006-м Вальжына Морт з'ехала ў ЗША выкладаць майстэрства (магію) паэзіі ў Карнэльскім універсітэце, чым займаецца і да сёння. У 2008-м беларускамоўныя вершы з іх англамоўнымі перакладамі склалі «Factory of tears»; праз тры гады выйшла англамоўная кніга «Collected body». І вось — нарэшце — 2017-ы: выдаецца другі ў Беларусі зборнік — «…вельмі своечасовае і важнае… вяртанне Вальжыны да нашага чытача» (з анатацыі).

За такім афіцыйна-традыцыйным уступам я хаваю свой страх перад напісаннем «крытыкі» на новы зборнік Вальжыны Морт «Эпідэмія ружаў». Паэзія гэтай абаяльнай асобы нішчыць на раз-два ўсе патрабаванні аб'ектыўнага бачання філолага, я губляюся і губляю галаву. Сапраўдная эпідэмія ў дзеянні…

Вокладка кнігі атрымалася густоўнай і гіпнатызуючай. Дызайнерка К. Пікірэня ўдала «ўпляла» назву ў лініі, якія нагадваюць сцябліны/ніткі/дарогі, што вырастаюць з вузла (памяці). Яны толькі намякаюць на магчымасць існавання ружаў, дазваляюць заблытацца ў сваіх выгінах і знайсці верагодную кветку ў садзе, пра які кажа рэдактар зборніка А. Бахарэвіч: ««Эпідэмія ружаў» — не




проста кніга… Гэта чарадзейны сад, дзе побач растуць боль і радасць, любоў і вусціш, жорсткасць і меланхолія. Сад, у якога няма агароджы, сад, дзе валадарыць цені і дзе кожны сам за сябе». Я ўпэўнена, што ў гэта месца можна прыходзіць бясконца, бо чарговае наведванне не стане шараговым: сад кожны раз можна адкрываць па-новаму. Ён—бясконцы, бяздонны, неабдымны. Немагчыма разгадаць усе яго таямніцы, немагчыма спыніцца.

Адна з цэнтральных тэм зборніка — сувязь са сваімі мёртвымі. Неспакой, жаданне зразумець і перажыць, націснуць на клавішы памяці. Пачуць музыку чужога мінулага — адчуць сваё цяперашняе. «Музыка, што над сваімі клавішамі расціскае / кулак радаводу, / распускае пальцы, / быццам пялёсткі. // Радавод — гэта не дрэва, а бутон ружы, / пялёсткі, звязаныя разам, ратамі ўніз».

Вальжына Морт уважліва ставіцца да падзелу на радкі і строфы, значэння слоў, гучання, створаных вобразаў... Паэзія — гэта сукупнасць назоўнікаў. Паэзія — гэта стан. Паэзія — гэта фотаздымак. Паэзія — гэта тое, што нельга растлумачыць. Спытайце, адкуль я ведаю; адкажу, што наведала ўсе тры «публічныя» сустрэчы з аўтаркай у Мінску на пачатку лета. Цудоўныя сустрэчы з жывым разумным чалавекам. Словы Вальжыны наконт паэтычнага майстэрства захапілі мяне ў палон — такая моц у іх, такая прыгажосць.

…Я гуляла ў садзе некалькі разоў. Шыпы ружаў драпалі сэрца, пялёсткі падалі на раны, лісце шаптала гісторыі чужога жыцця. Я выходзіла з саду знямоглая. Я вярталася ў сад драпежная. Неўтаймаваная. Ненажэрная. «Калі доўга не есці, / ад сэрца застанецца чырвоная костка. // У кожнай кнізе я бачу адно твой пусты страўнік». Пасля прачытання «Эпідэміі ружаў» страўнік мозгу, душы і сэрца заціхае ў пакорлівым бяссіллі. Ён не спатолены, але задаволены.

# Рэканструкцыя адпачынку: як бавіць час на рыцарскім фэсце?

Прыпынак і прахалода. Заўсёды холадна, калі едзеш раніцай на фестываль. Загартаваныя — у адных футболках, і ім добра. Нам жа хочацца нацягнуць на футболку байку, а зверху яшчэ куртку, каб напэўна не змерзнуць на вакзале. І звычайна як? Потым увесь гэты ранішні ўцяпляльнік сцягваеш з сябе, бо ўдзень пячэшся пад моцным сонцам. Але сам — добра, сам — перажывеш. А вось як выжываюць рыцары, кожны раз застаецца загадкай. Тут часам незразумела, як яны стаяць, не кажучы ўжо пра тое, каб змагацца.

Але фестываль «Эпоха рыцарства», што размясціўся на базе Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту, праходзіць у канцы мая, калі яшчэ не так горача, не так пячэ сонца і ёсць чым дыхаць.



Паездкі на такія фэсты — гэта квэст на выжыванне. Як ўлезці ў трансфер, каб не застацца на прыпынку чакаць наступнага транспарту, як размясціцца, каб «не раздушылі»? Як умясціць на адно сядзенне сябе, заплечнік, зброю і дзіця? Глядзім: вось калені, рукі, якія абдымаюць заплечнік, і калчан. Чалавек на гэтым заканчваецца. Насупраць яшчэ мужчыны — адны і з сем'ямі, жанчыны — адна з адной, з каляскамі, дзецьмі і турыстычнымі кілімкамі.

Вось «М»ы зараз выем, але без такой дарогі было б не тое: гэта не так цяжка, як можа падацца; гэта весела, нават калі едзеш адзін. Калі прапаноўвалі больш «простыя» варыянты, то «М»ы адмаўляліся.

Бо такое падарожжа аб'ядноўвае з тымі самымі самотнікамі, што едуць глядзець на рыцараў (ці быць рыцарамі). «Гівойт» як арганізатар падабраў ўдалую лакацыю менавіта для сямейнага адпачынку: недалёка ад Мінска, зручна дабірацца, ёсць дзе размясціцца і чым заняцца, а яшчэ — можна без праблем з'ехаць увечары.

Вось прыязджаем, а тут ужо акрыццё — маленькае, але адкрыццё. Клубы ленавата выпаўзаюць на прадстаўленне. Часам не выпаўзаюць, а хутка імкнуцца рэціравацца ад вядучых: распакаваць і падрыхтавацца важней. А тыя, што прыехалі крыху раней, паспелі апрануцца, зашнуравацца, разбіць лагер, прайсціся па музеі, а цяпер ужо стаяць са сцягамі, усміхаюцца: хто тут самы пунктуальны і арганізаваны, га?

З аднаго боку прадстаўленне — гэта важная частка мерапрыемства. Удзельнікам цікава паглядзець адно на аднаго. Гледачам жа цікава паглядзець на касцюмы, якія не паўтараюцца, і на твары (якія таксама не паўтараюцца).

Але… ці не занадта рана? Гледачы яшчэ не даехалі, рэканструктары яшчэ не падрыхтаваліся, яшчэ справы больш важныя ёсць, чым пастаяць перад жменькай людзей. Праўда, некаторым людзям заўжды і ўсё занадта рана.

Што ёсць ва ўсіх гэтых фестывалях? Чаму іх трэба праводзіць? Ну, для саміх рэканструктараў гэта магчымасць паказаць і праверыць сябе. Для гледачоў — магчымасць дакрануцца да гісторыі, адчуць, што яна жывая. Акунуцца ў гісторыю.

Пасля прадстаўлення рэканструктары разыходзяцца: трэба яшчэ нешта распакаваць, перавязаць, апрануць, яшчэ нешта зрабіць. Пакуль рыцары рыхтуюцца, сыходзім да лучнікаў.

Можна глядзець вечна на тры рэчы: на агонь, ваду і… лучнікаў. Вельмі цікава разглядаць іх рукі. Рукі іх розныя. І стралкі звычайна ў наручах і спецыяльных пальчатках. Ці ў некага два-тры пальцы проста перакручаны пластырам. Глядзім, альбо як яны страляюць, альбо як стрэлы ляцяць у мішэнь (ці зусім не ў мішэнь).

Дарэчы, усе людзі страляюць па-living рознаму. Хтосьці выглядае «цякучым», пастаянна рухаецца, падымае лук, цэліцца, замірае літаральна на нейкія секунды, потым зноў рухаецца. Хтосьці страляе і замірае, гледзячы, як яго страла ўтыкаецца ў мішэнь, ператвараючыся ў нерухомую постаць да таго моманту, пакуль не знерухомее яго страла.

Гэта нешта, падобнае да медытацыі. Адцягваюць увагу толькі асобныя рэзкія выкрыкі:

— Прыстрэлка яшчэ пяць хвілін! Усе стралялі? Стралялі ўсе?

— Так слабым не дапаможа, а моцным і не трэба! — крывіць вусны адзін лучнік. Але ўсё роўна павольна падыходзіць да лініі, ставіць кубак на зямлю, падымае лук, бярэ стралу. Цаляе — з першага разу — і можна адыходзіць. Лучнік паводзіць плячом, быццам усё гэта ўмоўнасці, быццам і так ясна, хто тут робінгуд, і ўвогуле — навошта на ўсё гэта марнаваць час? О, ледзь на кубак не забыўся, тут ужо гультаяватая важнасць зляцела. Хуценька вярнуўся, забраў і павольна-паважна пайшоў назад.

А вось пешыя рыцарскія турніры ніяк не падобныя да медытацыі. На адзін бой адводзіцца хвіліна. І за гэтую хвіліну рыцары павінны максімальна выкласціся, каб паказаць сваю







тэхніку. Кожны бой — гэта напружанне, якое часта недарэчна (на погляд гледачоў) перапыняе крык «Стоп, бой!».

— Стоп бой! — і два рыцары, якія несліся адно на аднаго з аголенымі мячамі, амаль небяспечна спыняюць рух, так і не сыходзячыся ў баі, застываюць і разыходзяцца. Бурчаць нават не рыцары, а гледачы, на што вядучыя аджартоўваюцца:

— Та-а-ак, я ж якраз і чакаў гэтага разбегу, каб спыніць!

— Дык вы… фатограф у душы, сэр Конар…

Прастора, усярэдзіне якой абгароджана пляцоўка, дзе ідуць баі, перацягнута вяроўкай. Такі падыход да бяспекі гледачоў часам абцяжарвае назіранне за самім шоу, але цэласць частак цела наведвальнікаў даражэйшая.

Гледачы віснуць на вяроўках, сядзяць проста пад імі, каб быць бліжэй, бачыць больш. Вось аднойчы рандоль — дэталька маленькая — паляцела ў натоўп. Натоўп страпянуўся, адхіснуўся… і на наступны ж бой вярнуўся назад: не губляць жа выгоднае месца праз нейкую маленькую дэталь даспеха. Не цэлы рыцар прыляцеў — і добра.



Часам зайздросціш маршалкам, якія стаяць ля самых парэнчаў маленькай арэны. Тут іх, маршалкаў, дзве пары, і кожная сочыць за адным чалавекам: колькі разоў у яго трапяць. І ёсць гофмаршалак, што сочыць за карцінай ўсяго бою. Ужо пасля яму паведамляюць, колькі удараў было па кожным.

«М»ы пагаварылі з Аляксеем Гарбачэнка — адным з маршалкаў:

— У рэканструктарскім руху я з 2000 года. «Маршаліць» пачаў з 2007-га. У «Битве наций» прымаю ўдзел з 2012 года. Ужо трохі лень ваяваць, ды і баі перайшлі на іншы ўзровень. «Битва наций» — гэта спартыўнае спаборніцтва. Таму вось глядзім, каб адно аднаго не паламалі.

Потым невялікі перапынак — час з'есці блін, каб якраз прыйсці да пачатку наступнай часткі фэсту.

Наш знаёмы (глядзі «Маладосць» № 6 за гэты год) Франсуа дэ Манфор, або Ігар Усенка, — чалавек, які працуе з конямі, займаецца арганізацыяй і правядзеннем рэканструкцый, — пракаментаваў коннае шоу, арганізаванае на «Эпосе рыцарства»:

— У нас інавацыйная практыка турніраў. Кожны рыцар праходзіць паласу перашкод: бервяно, праз якое трэба пераскочыць, кабан, якога трэба забіць, сарацын, якога трэба перамагчы. Потым рыцар канцом сваёй дзіды павінен зняць кальцо, зноў скочыць праз перашкоду і затым зрынуць ворага — ссекчы капусту са слупа. І толькі потым коннікі выходзяць адно супраць аднаго.

Стаім, глядзім. Паблізу праносіцца імклівы рыцар з аголеным мячом. Часам нават далятае капустнае шмаццё. Як бы смешна гэта ні гучала, выглядае так, што хочацца забрацца вышэй, каб бачыць лепей.

Уражвае тое, што, верагодна, толькі цяпер і толькі тут атрымалася

адчуць агонь рэальнага бою. Коннае шоу выглядае не настолькі люта, як пешыя турніры, калі рыцары ў запале не чуюць крыку «стоп». Быццам у вушах грыміць кроў і гудзіць бой. Тут жа рыцары могуць рабіць адно з адным што хочуць, але ні пры якіх абставінах не павінны зачапіць каня — свайго роду этыка конных рыцараў. А гэта патрабуе акуратнасці і канцэнтрацыі. Таму дзіўна ад таго, якое ўражанне застаецца.

Самы запал бою, рыцары лятуць адно на аднаго з аголенымі мячамі на прыгажунах-конях. І тут адзін прыгажун садзіцца: Рокаш не жадае змагацца, Рокаш проста хоча паказаць, які ён класны хлопец. І тут уражвае тое, як рыцары спраўляюцца са сваімі баявымі коньмі — і калі конь «упарціцца», і калі робіць практычна вертыкальныя свечкі.

І вас не адпусціць яшчэ колькі часоў, гарантую.

Франсуа як сталы рыцар з самага старога беларускага рэканструктарскага клуба «Ордэн Паўночнага Храма» падзяліўся сваімі ўражаннямі:

— Я прыязджаю на гэты фестываль з першага года, як ён пачаў праводзіцца. І магу сказаць, што месца падабрана вельмі ўдала: прырода, архітэктура, атмасфера вельмі прыдатныя. І гэты вясновы фестываль — адзін з першых у сезоне, за якім іх будзе яшчэ шмат.

Для клуба гістарычнай рэканструкцыі арганізацыя свайго фэсту — гэта сур'ёзны крок. Любое масавае мерапрыемства — гэта складана. Масавае мерапрыемства, створанае сіламі энтузіястаў, — гэта таксама складана. У такіх сітуацыях ратуе тое, што людзі, якія робяць фестываль, сапраўды хочуць, нягледзячы на ўсе складанасці, давесці працу да канца.

А далей — скокі пад Старога Ольсу, Butterfly Temple ды музыку іншых цудоўных гуртоў. Музыка — гэта таксама значная частка фестываляў. Але тут ўжо трэба слухаць і танцаваць, а не пісаць.

Людзі, якія прыязджаюць сюды, любяць тое, што робяць. Рэканструкцыя на Беларусі мае сваю асаблівасць — яе паважаюць. У нас нейкае трапяткое стаўленне да сваёй гісторыі, да свайго мінулага.

Людзі, якія прыязджаюць на такія фестывалі, паважаюць працу тых, хто ажыўляе гісторыю. Так, мы можам пасмяяцца з якіх-небудзь рэчаў разам з самімі рэканструктарамі. Але ўсмешка не выключае павагі — проста стварае прывабную, сяброўскую атмасферу.



# Па Полацку мінулага з Навумам Гальпяровічам



**Інтэрв'ю, ператворанае ў рэтраспектыўны даведнік, які ў сувязі з тэмай нумара аздоблены яшчэ і лінкамі на рэлевантныя старонкі, запісала Святлана Воцінава. Фотаздымкамі яго забяспечыў Уладзімір Цвірка, а ілюстрацыі зрабіла Надзея Савельева.**



**Сафійскі сабор** як помнік гісторыі і культуры адкрыўся для мяне значна пазней, чым я ўпершыню ўбачыў яго вежы, з'явіўшыся на свет у раддоме, з вокнаў якога яны добра відаць.

У гады майго дзяцінства будынак гэты быў абнесены дваром бальнічнага корпуса, а ў ім самім размяшчаўся склад. На месцы, дзе цяпер стаіць Барысаў камень, прагульваліся людзі ў бальнічных халатах. Канечне, больш уважліва на вежы Сафійкі я паглядзеў, калі сам трапіў у бальніцу. Здарылася гэта ў дзясятым класе, у маі, пры цудоўным надвор'і, калі ўсё зелянее, буяе, цвіце. Уявіце: людзі ў бальнічных халатах ходзяць вакол сабора, сядзяць на траве, частуюцца тым, што прынеслі ім родныя. А з высокай выспы, дзе стаіць сабор, відаць, як унізе ўпадае ў Дзвіну маленькая рэчка Палата. І над ёю вісячы масток — суцэльнае замілаванне. Гэта месца для мяне з таго часу стала святым. У любы дзень я мог падысці да яго і знізу, з Запалоцця, і зверху. Але ад таго моманту, як я адчуў і зразумеў яго святасць, да часу, калі яно стала месцам паломніцтва і турыстычнай адметнасцю, адбыліся вялікія эвалюцыйныя пераўтварэнні.

Калі ў саборы ішла першая рэстаўрацыя, мы, маладыя літаратары літаб'яднання «Крыніца» і клуба творчай моладзі «Маладзік», выносілі адтуль друз, абсалютна добраахвотна дамовіўшыся аб такой дапамозе. Адзінай узнагародай нам была лекцыя пра сабор, якую правялі для нас археолагі і гісторыкі з Мінска. Мне давялося таксама прысутнічаць на першым арганным канцэрце, зладжаным ў Сафійскім саборы легендарным Алегам Янчанкам, і рабіць пра гэта рэпартаж для беларускага радыё.



**Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр** з'яўляецца, напэўна, самым памятным месцам у Полацку. З нашага Шостага завулка, што ў прыгарадным пасёлку пад назвай Пітомнік, да Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра можна было трапіць праз вуліцу Фрунзе, якая цяпер носіць імя Еўфрасінні Полацкай. Але мы, малыя, маглі трапіць у манастыр напрасткі, на вуліцу не выхо-дзячы. У нашым завулку я часта бачыў манашак — яны жылі тут пасля высялення з будынкаў манастыра, у якіх размясцілі камунальныя кватэры. Побач стаяў ваенны гарадок, які ў народзе называлі спаскім. У двары манастыра была калонка, з якой людзі бралі ваду, і хлеўчукі, у якіх трымалі парсючкоў і курэй. І хадзіў па ім з баянам, вечна, як памятаю, на падпітку адстаўны прапаршчык дзядзька Міша. Хадзіў і граў. Крыжаўздзвіжанскі сабор стаяў разбураны. Цэркаўка ж, малая, спасаўская, — дзейнічала, і ў яе хадзілі вернікі. А за цэркаўкай — зноў Палата і вісячы масток, які злучаў гэтую частку горада з прыгараднай Слабадой. Палата вузкая, Палата вірлівая. Я любіў хадзіць на гэты масток. З яго мы з Лёшкам Варанцовым глядзелі, як у дзень Еўфрасінні Полацкай прыязджалі ў царкву паломнікі. А нам, дзецям, тады паказвалі дакументальны фільм пра тое, якія нехарошыя людзі ў чорных сутанах ходзяць маліцца ў манастыр, і пра Еўфрасінню — такая яна, маўляў, і сякая. Тым не менш, месца гэта стала для мяне і лёсавызначальным. Аднойчы ў адзін з манастырскіх будынкаў на кватэру да Любові Васільеўны пасялілася дзяўчына-паляшучка, якая потым стала маёй жонкай. Таму я заўсёды кажу, што жонку браў з манастыра. І хадзіў на спатканні праз манастырскую браму.

Пра лясны каледж — на старонцы 112



**Лясны тэхнікум,** цяпер лясны каледж — стары будынак з чырвонай цэглы, паўз які я таксама хадзіў з дзяцінства. У ім заўсёды засядала выбарчая камісія і працаваў буфет. Памятаю, у восьмым класе, адразу пасля хваробы ішоў у лясны тэхнікум праз завулак, скрозь сумёты — паглядзець канцэрт. Спявалі тады: «Но нашим мальчишкам сидеть не по нраву в тепле». Я запомніў гэта, бо пасля хваробы давялося мне апрануць зімовае паліто з вялікім каўняром, які я вельмі не любіў.

Выкладчыкаў ляснога тэхнікума ведалі ўсе — яны былі полацкімі інтэлігентамі. Сярод іх асабліва вылучаўся Іван Пятровіч Дэйніс, знакаміты полацкі краязнаўца, — ён хадзіў з трубкай.

Працы Івана Дэйніса — на старонцы 109

Пра дзявятую школу — на старонцы 116



**Дзявятая школа** — мая родная. Ісці да яе праз завулак, асабліва восенню, калі гразка, было сапраўднай прыгодай. Аднаго разу я нават згубіў, ідучы, чаравік. Калі казалі, што праз колькі гадоў настане ў нас камунізм, і я пытаўся ў бабулі, што гэта значыць, то яна адказвала так: калі наш завулак, маўляў, заасфальтуюць, тады і прыйдзе ён, камунізм. Завулак заасфальтавалі…

Школа наша, калі я пайшоў у яе ў першы клас, была новая, толькі пабудаваная. І была радасць, што яна рускамоўная: значыць, больш прэстыжная. Настаўніца Тамара Фёдараўна Кананок, пра якую я пасля шмат пісаў і якая стала для мяне вельмі важнай асобай, была нам сапраўднай другой мамай. Яна працавала з намі ад першага да дзясятага класа: пачынала як настаўніца пасля педагагічнага вучылішча, а пакуль мы раслі — працягвала адукацыю і стала нашым класным кіраўніком, выкладала рускую мову і літаратуру. Але не толькі гэтыя яе ўрокі мы памятаем: яна была вельмі чулая і мудрая.

Лепшая адукацыя, як лічылася, даецца ў школах у цэнтры горада. Але нягледзячы на правінцыйнасць і непрэстыжнасць нашай школы, закончыў яе і Мікалай Ільніцкі, будучы дырэктар гісторыка-культурнага музея-запаведніка, сенатар, на жаль, заўчасна памерлы, і Таццяна Савельева, былы галоўны бібліятэкар Полацка. Тут вучыўся і вундэркінд Пеця Васючэнка...

Артыкул Пятра Васючэнкі — на старонцы 105



**Бібліятэка.** У школу я яшчэ не хадзіў, а чытаць навучыўся, і падгаварыў сябрукоў, Ваську і Мішку, пайсці запісацца ў бібліятэку — адзін баяўся. Сустрэлі нас пытаннем: ці ходзім мы ў школу? Бо калі не, то ў бібліятэку, маўляў, не запішам. Сябры мае спалохаліся, а я раззлаваўся, кажу: «Дайце мне любую кніжку, я прачытаю». Мне далі нешта прачытаць і запісалі ў бібліятэку, у якую я рэгулярна пасля хадзіў і нават стаў вельмі актыўным «юным бібліятэкарам».

Пра справы Полацкай бібліятэкі — на старонцы 119

**Другі магазін.** Здаецца, так ён і цяпер называецца. Невялікі цагляны будынак, паўз які мы праходзілі, ідучы ў школу і вяртаючыся дамоў. А калі каго з нас пасылалі туды па хлеб, то лічылася, што гэта далёка. Бываючы ў Полацку, я некалькі разоў цяпер заходзіў у гэтую краму. Назвы яна не мае, па-ранейшаму толькі нумар. Працуюць у ёй дзве жанчынкі. Яны наладзілі самаабслугоўванне, паставілі касу, а раней было проста — прылавак, і за ім прадаўшчыца. Куплялі мы ў краме хлеб і малако, а яшчэ там увесь час стаялі бочкі з селядцамі, ад якіх ішоў вельмі смачны пах, і прапаноўвалася каўбаса — паўвэнджаная, дарагая, і ніхто яе з гэтай прычыны не браў. А калі аказваў хто каму якую паслугу, то форма разліку называлася проста: «праз другі магазін».



**Клёцкі з душамі.** Усё, што я памятаю з дзяцінства смачнае, гатавалася з бульбы. Клёцкі з душамі былі шыкам вышэйшай пробы. Іх яшчэ называлі кама́мі. У Полацк яны прыйшлі з Ушаччыны, адкуль у наш горад дзеля прапіскі перасяляліся дзяўчаты, уладкоўваючыся ў дамы палачан прыслугай. Уявіце сабе, нават у слесара пры такіх акалічнасцях магла быць прыслуга.

Дык вось клёцкі. Круглыя, вялікія, я б нават сказаў, магутныя, з дзёртай бульбы, грубыя. Мяса для іх, у адрозненне ад цэпелінаў і іншых падобных страў, не пракручваецца праз мясарубку, а дробненька наразаецца. Мяса, сальца, часнок, прыправачкі... Клёцкі варацца ў падсоленай вадзе, даўгавата, бо вялікія, а пры падачы на стол паліваюцца смятанай або падсмажанымі да хрумсткасці дробна пакрышанымі сальцам і цыбулькай. Гэта, канечне, страва на святы — дажынкі або дакопкі.







Самы цэнтр горада быў месцам незвычайным. Я зайздросціў тым, хто тут жыў. Ім, прынамсі, не трэба было хадзіць праз незаасфальтаваны завулак і губляць у ім чаравікі. І ўсё тут было вельмі блізка. У цэнтры горада стаяў Кадэцкі корпус. Насамрэч Мікалаеўскі сабор, але такой назвы мы не ведалі, называлі гэты будынак Кадэцкім корпусам. Магутны, ён быў дамінантай усяго цэнтра. Расказвалі, што пасля вайны ў ім жылі людзі, таму што Полацк быў разбураны, і жыць не было дзе. Калі б сёння ён існаваў, то сімвалам Полацкага краявіду была б яго выява, не іначай. Але яго ўзарвалі. А чаму ён нас цікавіў? Бо існавала легенда, што пад ім пракладзены падземныя хады, а ў іх схаваны скарб. Усе полацкія хлапчукі марылі трапіць у тыя падземныя хады. Мне не было з кім хадзіць іх шукаць — я не меў кампаніі з тымі, хто жыў у цэнтры. Але ў мяне ён заўсёды выклікаў пачуццё магутнасці і велічы.

*Многія людзі, якія заслужылі права застацца ў памяці, у ёй чамусьці не застаюцца. Для адраджэння пасляваеннага Полацка вельмі многа зрабіла Таццяна Давыдаўна Рудава, былая загадчыца аддзела культуры Полацкага райвыканкама. Памятаю, калі пачалася рэстаўрацыя Сафійскага сабора, яна расказвала аднаму віцебскаму начальніку, што будзе тут граць арган, а той здзіўлена пытаўся: «Зачем в Полоцке орган? Кто пойдет на этот орган? Что вы здесь выдумываете?» Але на аргане яна настаяла. Пасля стала дырэктарам музея-запаведніка і шмат яшчэ добрага зрабіла дзякуючы свайму энтузіязму.*

**Пятро Васючэнка**

# Полацкія гульні ды забавы

*Эсэ*

## Полацкая антычнасць

Дзяцінства як дзяцінства: гульні, футбол, рыбалка...

Але раптам ва ўспамінах прамільгне штосьць дзіўнае, містычнае, і тады разумееш: дзяцінства, праведзенае ў старадаўнім горадзе, — гэта штосьць адметнае.

Я не быў у Грэцыі, але прачытаў шмат кніг пра гісторыю, геаграфію і міфалогію гэтай краіны, калі мерыўся напісаць раман-бурлеск «Дванаццаць подзвігаў Геракла».

Вобраз антычнага героя быў мне блізкі яшчэ і таму, што мяне ў дзяцінстве часам называлі «Геракл», дадаючы: «У высушаным выглядзе».

Што пабачыў Джордж Гордан Байран, калі наведаў Грэцыю? Ён знайшоў сляды пагаслай цывілізацыі, руіны, рэшткі калон, парослыя плюшчом, старыя, у барознах-зморшчынах горы, статкі коз на пагорках — там, дзе калісь блукалі сатыры і фаўны. Пастухоў, што размаўлялі на гаворцы, далёкай ад спеўнай мовы Гамера. Байрана раздражняла апатыя новых грэкаў, якія прызвычаіліся да турэцкай няволі. І ён падбухторваў іх да супраціву радкамі паэмы «Гяур». Прыблізна такім пабачыў Полацк і яго жыхароў на пачатку мінулага стагоддзя пісьменнік Вацлаў Ластоўскі, калі напісаў апавяданне «Прывід».

Храмы, якія закрануў Час. Адны з іх ацалелі, іншыя ж сталі руінамі... Зялёныя пагоркі, козы на схілах. Людзі — нашчадкі крывічоў, што забыліся на мову продкаў, на іх таямніцы і рэліквіі. Вось ён, герой апавядання, палачанін Ігнат, ляжыць сабе на печы, чухае спіну і слухае тое, што яму кажа пра згубленую славу продкаў ўгнеўленая язычніцкая багіня. Але сам сабе наўме.

Маё дзяцінства прыйшлося на перадіндустрыяльную эпоху, але што змянілі ў жыцці стомленай цывілізацыі аўтамабілі, тэлевізары, камп'ютары? Полацкія руіны, пагоркі з козамі засталіся тымі ж, што і за часамі Ластоўскага.

Полацкая даўніна была для нас такой звыклай, як і стогадовая ліпа, пашчапаная маланкай, якая жыве ў маёй памяці.



Але мінулае прарастала праз маё дзяцінства, як трава праз асфальт.

## Таямнічы востраў

На старадаўняй карце Полацка бачу аб'екты, якія час мала кранyў. Сафійскі сабор, Спаса-Еўфрасіннеўская царква, Верхні і Ніжні замкі і выспа пасярод ракі Палаты.

На востраў можна было прайсці па кладцы, але мне не падабаўся гэты шлях. Страшыла бурлівая, пеністая вада ўнізе, вір, у якім, па чутках, жылі хіжыя ракі-людажэры і пільнавала сваіх ахвяр русалка з зялёнымі валасамі і вачыма, што нядаўна забрала да сябе неасцярожнага падлетка.

Я прабіраўся на востраў праз брод, па лагоднай, цёплай пратоцы, у якой плавалі студзяністыя камячкі жабурыння.

Надышоў час, калі гэтая выспа ператварылася ў «Таямнічы востраў» Жуля Верна.

У эпоху Калі-камп'ютараў-яшчэ-не-было мы ўсе жылі ў магічным коле Полацкай Бібліятэкі, што знікла невядома калі і куды, і гульні нашы былі з кніг. Цяпер такіх гульняў не бывае.

## Што змянілі ў жыцці стомленай цывілізацыі аўтамабілі, тэлевізары, камп'ютары? Полацкія руіны, пагоркі з козамі засталіся тымі ж, што і за часамі Ластоўскага

Мая мама працавала ў бібліятэцы Полацкага ляснога тэхнікума (які па-мясцоваму называлі «караедняй»), і гэта шмат што вызначыла ў маім дзяцінстве, што напалову прайшло ў той бібліятэцы.

Мой брат быў інжынерам Сайрасам Смітам, сусед Дзіма — мараком Пенкрафам, сябра Вова — журналістам Гедэонам Спілетам, а я, дзеля любові да ўсяго жывога, — юным натуралістам Гербертам. Кепска памятаю, чым тая гульня скончылася, але гэта было нашмат цікавей, чым сучасныя камп'ютарныя забаўкі. Прынамсі, памятаю пачастункі — печаная бульба, памідоры, цыбуля, соль, якімі ласаваліся насельнікі таямнічай выспы пасля дзённых турбот. Да нас завітвала ў госці самотная каза, што пасвілася на абшарах ненаселенай выспы, жавала бульбяныя лушпайкі, соль і газету «Правда», у якую ўсё гэта было загорнута. Такая апалітычная была каза.

Другой кніжнай гульнёй была «Сабака Баскервіляў» па раману Артура Конан Дойла. Сабаку прадстаўляў Славік, якога паклалі ў яміну на лузе, закідаўшы травой і галлём. З-пад зеляніны вытыркаўся Славікаў азадак, які, паводле дзіўнай логікі, сімвалізаваў страшнага сабаку. Мэтай гульні было напалохаць маленькага Ігарка, які прасіў паказаць яму Бабайку. «Што тая Бабайка, — казалі яму, — сабака Баскервіляў куды страшнейшы». Але Ігарок чамусьці не спалохаўся і нават аперазаў «сабаку» дрынам.

Мы гулялі па чужых кнігах, але ў нашы гульні з неабходнасцю пранікала сваё, без чаго маё дзяцінства не склалася б.

Мы ведалі, што мы не «ребята», не «хлопцы», а полацкія «мальцы», а мальцы — гэта штось такое, чаго больш няма нідзе на планеце Зямля.

Беларускую мову (полацкую гаворку) я слухаў на рынку. І сёння гэтая мова льецца з вуснаў жанчын, якія гандлююць непаўторным полацкім клінковым сырам, роўнага якому таксама няма нідзе на планеце Зямля.

Аднойчы мы ўсе сталі шукальнікамі скарбу. Жыць у Полацку і не шукаць скарб (хаця б раз у жыцці) немагчыма. Бо яго ўвесь час знаходзяць. Памятаю, як тата ўпарадкоўваў скляпенне ў доме. Жалеза дзынгнула аб жалеза... Шкада, што стары заржавелы чыгун быў пусты. Ды мы з братам не гублялі надзеі і шукалі скарб то пад старым ясенем, то ў зарасніку жоўтай акацыі. Наш дом месціўся на тэрыторыі былога манастырскага саду, і брат лічыў такія пошукі перспектыўнымі.

### Лабірынт вачыма палачаніна

Як і кожны полацкі малец, я ўдзельнічаў у пошуку Полацкага Лабірынта.

Скептыкі па-ранейшаму не вераць, што Полацкі Лабірынт існуе. Ім мала сведчанняў летапісцаў, гісторыкаў, археолагаў.

Той, хто пабываў у Лабірынце, пераканаўся, што ў яго былі папярэднікі. Напрыклад, юныя следапыты з кадэцкага корпуса ў пазамінулым стагоддзі. Яны пакінулі на сценах свае пісьмёны, няцяжка здагадацца, якога зместу. Пасля іх у Лабірынце пабываў шмат хто: адны прайшлі пад зямлёю да Дзвіны і ўперліся ў завалы, а хацелі дабрацца да Кіева; іншыя зусім згубіліся.

Я ў дзяцінстве, разявіўшы рот, слухаў гісторыю пра двух дзетак, брацікa і сястрычку, якія зніклі ў Полацкім Лабірынце.

Паважныя навукоўцы пацвярджаюць, што Лабірынт існуе, але гэта звычайная дрэнажная сістэма.

Мы, полацкія мальцы, верылі ў існаванне падземнай галерэі, якая злучае Спаса-Еўфрасіннеўскую царкву і Сафійскі сабор.

Мы былі перакананы: адзін з уваходаў схаваны ў руінах цёплай царквы, пад заваламі цэглы, шкла і друзу.

Калі б нам і ўдалося разабраць тыя завалы ды ўвайсці ў Лабірынт, там нас падпільноўваў бы Жалезны Рыцар. Пачуўшы нашы крокі, ён выйшаў бы з цемры і сталёвым мячом назаўсёды адрэзаў бы дарогу да дзённага святла, ракі, печкуроў, футбольнага поля.

Другі ўваход размяшчаўся ў сутарэннях Крыжаўзвіжанскай царквы, тады змрочнай, апаленай маланкай, якую кінуў святы Ілля. За амбарным замком, які навесіў на дзверы вартаўнік Трахімчык, жылі не чэрці, а вушастыя стварэнні,

з чуйнымі вусікамі і чырвонымі, як і ў іх уладара, вочкамі. Трусікі — імя ім было легіён. Яны бегалі па сутарэннях, хіжыя ды галодныя, бы шакалы, з драпежніцкім віскатам. Вартаўнік ссякаў для іх цэлыя дрэўцы і кідаў у вушастую зграю, і праз хвіліну ад ствалоў, галля і лісця заставалася пацяруха. Тое ж самае магло здарыцца і з намі, калі б мы патрапілі ў зубы той галоднай зграі.

Так згінула адно з грандыёзных адкрыццяў мінулага стагоддзя.

Тады мы яшчэ не чыталі Ластоўскага, які сакралізаваў легенду пра Лабірынт і звязаў яе з лёсам каласальнай Полацкай Бібліятэкі.

Неаднойчы даводзілася мне чуць пра тое, што Полацкі Лабірынт адшукаўся. Мне давялося гутарыць з братамі Бухавецкімі, якія праніклі ў сутарэнне падчас рэстаўрацыі кадэцкага корпуса. Адзін з іх, Андрэй, прыгадваў, як з пралому паваліла па́ра, нібыта памяшканне было герметычна закаркавана. Паветра стаяла цяжкое. Ішоў з ліхтаром у руках, размотваў шнур, пакуль брат чакаў каля пралому. Здымкі атрымаліся кепскія — бляклыя, размывістыя. Рухаўся, пакуль галерэя не ператварылася ў залітую вадой шахту. Падобна на тое, што ў сутарэнні браты пабачылі такое, чаго не хацелі згадваць. Ні станоўчых эмоцый, ні здароўя ім гэта падарожжа не прынесла. А ўваход у Лабірынт яны надзейна замуравалі.

Я не раю шукаць уваход у Лабірынт дзеля забаўкі ці вострых уражанняў, хаця падазраю: рана або позна гэтая падзея паўторыцца, і першаадкрывальнікамі будуць не археолагі, а дзеці.

І яшчэ я думаю пра тое, што мы, полацкія мальцы, застаемся дзецьмі Полацкага Лабірынта, які нейкай магічнай сілай вяртае нас на радзіму, куды б лёс нас ні закінуў. Як гэта адбылося з Усяславам Полацкім.

## Ад вайны да міру

Ці гулялі мы ў вайну? Пэўна. Але мяне такія гульні не вабілі. Ніколі я не квапіўся на пасаду камандзіра, а гуляў ролю ад’ютанта або разведчыка.

Думаю, што Полацк наталіўся войнамі. Мой горад хто толькі не нішчыў — шведы, французы, немцы, Іван IV і Пётр I, ды кожны заваёўнік

Байрана раздражняла апатыя новых грэкаў, што прызвычаіліся да турэцкай няволі. І ён падбухторваў іх да супраціву радкамі паэмы «Гяур». Прыблізна такім пабачыў Полацк і яго жыхароў на пачатку мінулага стагоддзя пісьменнік Вацлаў Ластоўскі, калі напісаў апавяданне «Прывід»

заклікаў, каб яго любілі, а Полацк палягаў у руінах, і зямля полацкая набрыньвала крывёю, як пісаў Фёдар Дастаеўскі, ад кары да самага ядра. І палачанін міжволі ўзрошчваў у сабе абыякавасць да новага, нічым не лепшага заваёўніка.

Мост праз Палату, што вёў да ва́ла Івана Жахлівага, называлі Чырвоным. Падчас бітвы там змешвалася французская і славянская кроў. Паводле іроніі лёсу, нейкі час ён быў пафарбаваны ў чырвоны колер. І я наіўна лічыў гэтую фарбу крывёю.

Я адваяваўся. Маёй першай і апошняй бойкай было сутыкненне з Сярожам (калі мне было шэсць гадоў). Біліся з-за дзяўчынкі Тані. Бітва была кароткая, бо я пацэліў Сярожу кулаком у нос. Ніколі не забыцца мне эфекту покнутага памідора. «Малайчына, добра пацэліў, прамой наводкай», — хвалілі мяне сябры. Але ў мяне з той пары выспела агіда да кровапраліцця.

Я часцяком сядзеў каля ганка і назіраў, як па вулцы прабягаюць мальцы з кала́мі і жалезнымі прутамі ў руках. Гэта слабадскія (з-за рэчкі) пагналі гарадскіх. Пабеглі ў адваротны бок... Гэта ўжо гарадскія пагналі слабадскіх. І гарадскія, і слабадскія падпільноўвалі «караедаў» — студэнтаў ляснога тэхнікума. Я лічыў гэта ганебным, бо тата і мама працавалі ў «караедні».

Па вечарах па вуліцы з ваяўнічай назвай Фрунзе ішла чарада, несучы цішу і мір. Багамольцы, пераважна жанчыны сталага веку, ішлі на вячэрню ў храм Еўфрасінні Полацкай. Мая абыякавасць змянялася трывогай і пытаннямі. Якая праўда, не даступная мне, вядомая ім?

Цяпер, калі я іду па параду, падтрымку, дапамогу да святой Еўфрасінні, мне згадваюцца тыя часы, калі на тэрыторыі манастыра панавала,

Мы ведалі, што мы не «ребята», не «хлопцы», а полацкія «мальцы», а мальцы — гэта штось такое, чаго больш няма нідзе на планеце Зямля

як казаў адзін бацюшка, «мерзость запустения». Стаяў апалены ўдарам маланкі Крыжаўзвіжанскі храм. Манахінь перавезлі ў Жыровічы, пад Слонім. Цёплая царква палягала ў руінах. Вуліца майго дзяцінства, цяпер перайменаваная ў гонар святой, не была запоўнена экскурсійнымі аўтобусамі. Але дух Полацкай цывілізацыі жыў, хоць і драмаў.

## Кім быць?

Гэта пытанне паўстала перада мною, калі я адчуў, што дзіцячыя гульні рана або позна заканчваюцца. І я пачаў думаць і раіцца з настаўнікамі.

Вольга Паўлаўна, настаўніца музыкі і спеваў, заваблівала мяне ў хор. «Мы цябе салістам зробім», — абяцала яна. Але мая харавая кар'ера скончылася, як толькі я пачаў саліраваць у песні «Там вдали, за рекой…» і сфальшывіў у цэлую палову тону.

Настаўніца хіміі Эмілія Лукінічна цягнула мяне ў сваю навуку, ды марна. У хіміі я любіў вопыты, рэакцыі, але пагарджаў формуламі. Аднойчы разам з аднакласнікамі мы ўцяклі з урока хіміі на стромкі бераг Палаты і там гулялі ў карты. За наш подзвіг перадусім папала беднай Эміліі Лукінічне ад дырэктара школы, бо яна была яшчэ і нашым класным кіраўніком — і яна доўга ўшчувала прагульшчыкаў. «А Пеця таксама ўцёк і гуляў у карты», — пачуўся гугнявы голас даносчыка. (То ж бо я лічыўся ўзорным вучнем, выдатнікам.) «А што, Пеця з іншага цеста, чым вы, зроблены?» — адклікнулася класная. Але пасля сходу паўшчувала мяне: «Пеця, Пеця… Чаму ты не любіш хімію? Вось твой старэйшы брат, Саша, так яе любіў, што ўсе рэактывы ў мяне з лабараторыі пазносіў…» Мой брат сапраўды збудаваў пасярод агарода буданчык і там ладзіў такія хімічныя эксперыменты, што ад іх ажно ўздрыгваў старажытны Полацк. Я ж быў злеплены з іншага цеста…

Жыць у Полацку і не шукаць скарб (хаця б раз у жыцці) немагчыма. Бо яго ўвесь час знаходзяць

Маё сэрца разрывалася паміж біялогіяй і літаратурай. Я любіў усё жывое, што поўзае, бегае, плавае, лятае, і захапляўся творамі Джэральда Дарэла. Улетку збіраў арабіны і журавіны і на зробленыя грошы набыў мікраскоп, каб разглядаць тое, што жыве ў кроплі вады. (На жаль, пабачанае мяне крыху расчаравала. Я зразумеў: у гэтым свеце кожны некага есць…)

Я вырашыў пайсці ў літаратуру праз журналістыку. І першае сапраўднае журналісцкае заданне атрымаў у аб'яднанай полацкай газеце «Сцяг камунізму». Мне належала апісаць даярку Марыю Краснабаеву з яе каровамі, якія ў саўгасе «Прагрэс» дасягалі шалёных поспехаў, прымеркаваных да XXIV з'езду КПСС.

Я, гарадскі малец, паехаў на ўскраіну Полацка, якую называлі Кароўнікамі, адшукаў там даярку Краснабаеву і яе кароў. Ферма страшэнна ўразіла мяне, перадусім тэрыконамі неапетытнага корму — сіласу. Па праўдзе кажучы, каровы выводзілі з сябе амаль тое, што і елі. Лепшая карова даяркі Краснабаевай глядзела на мяне сумнымі-сумнымі вачыма, якія праціналі мяне да самага сэрца. Я занатоўваў у нататнік лічбы. «А ці слухаюцца вас каровы?», — пытаўся я ў даяркі Краснабаевай. «А як вы дасягаеце такіх вялікіх поспехаў?» — было наступнае маё пытанне. «Яшчэ лепшыя былі б поспехі, калі б былі кармы», — з уздыхам адказала гераіня майго першага допісу.

Яго надрукавалі. Праўда, чырвоным алоўкам былі выкрэслены ўсе мае лірычныя пытанні і адказы на іх. Засталося толькі тое, што датычылася XXIV з'езда КПСС. Я атрымаў не такі і малы на той час ганарар — тры рублі.

Затое ў маёй памяці засталіся сумныя-сумныя каровіны вочы, якімі глядзела яна на мяне і як быццам пыталася: «Вось, людзі, я кармлю вас малаком, стаўлю рэкорды па надоях, а што мне ад таго?» І я пусціў гэтую Карову ў п'есу «Страшнік Гам», дзе яна ўцякае ад людзей, знаходзіць у лесе хатку, есць стакроткі, варыць малочны суп і спявае рамансы. Так фарміравалася маё экамысленне.

Полацкія гульні ды забавы… Дзякуй вам, што вы былі. Мы, дарослыя, застаёмся па-ранейшаму тымі, кім былі, хаця гуляем ужо ў свае дарослыя гульні.

**Замалёўкі самых прыгожых і знакавых месцаў Полацка XIX—XX стагоддзяў, зробленыя рукой выдатнага полацкага педагога і даследчыка Івана Пятровіча Дэйніса, з яго асабістымі подпісамі, прадастаўлены загадчыцай Полацкага краязнаўчага музея (філіяла Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка) Ірынай Водневай, за што часопіс «Маладосць» выказвае ёй і музею вялікую падзяку.**






Царква Барысаглебскага манастыра.




№ 59.
Вид Полоцкого Спасо-Евфросиниевского монастыря
в 80 года XIX века.


№ 165.
Полоцкий Гортеатр (бывш. „Благородное собрание")
Здание уничтожено в период войны 1941–44 годы.

# «Лясны каледж» — гучыць прыгожа і загадкава

**Амаль як «Школа чараўніцтва і магіі». Але каб трапіць ў Полацкі дзяржаўны лясны каледж, саву з запрашэннем чакаць не трэба. Вось Кацярына Захарэвіч туды і выправілася, саву не чакаючы, каб паглядзець, чым жыве рэальная навучальная ўстанова з чароўнай назвай.**

## Пра афіцыйнае — з Уладзімірам Міраноўскім, в. а. дырэктара

— На дадзены момант асноўны напрамак працы каледжа — падрыхтоўка спецыялістаў сярэдняга звяна па спецыяльнасці «Тэхнік лясной гаспадаркі». Да таго ж, пасля заканчэння каледжа выпускнікі атрымліваюць пасведчанне вальшчыка шостага разраду. Вялікая колькасць часу аддаецца на ўдасканальванне практычных уменняў. Мы адчуваем, што трэба развівацца, таму плануем шукаць новыя напрамкі. Прываблівае такі накірунак, як паляўнічая гаспадарка, падрыхтоўка егераў. Цікавіць і хімічная галіна, паколькі на Полаччыне размешчаныя адны з самых моцных хімічных прадпрыемстваў. Думкі ёсць, але сёння трэба вельмі дакладна ўсё пралічваць, каб не схібіць. У прыватнасці, патрэбна навучальная база і, адпаведна, матэрыяльныя сродкі.

**— Наколькі запатрабаванымі з'яўляюцца спецыялісты, якіх вы рыхтуеце?**

— Усе выпускнікі мінулага навучальнага года забяспечаны працоўнымі месцамі па спецыяльнасці. Попыт ёсць. У асноўным працуюць у лясгасах. Магчыма таксама праца ў сферы азелянення, але нашы выпускнікі запатрабаваны менавіта ў лясніцтвах. Вельмі шмат выпускнікоў займае кіруючыя пасады ў галіне лясной гаспадаркі — і ў Міністэрстве, і ў адпаведных навучальных установах.

Каб працаваць у такой сферы, павінна быць жаданне, імкненне да спасціжэння прыроды, любоў да лесу. Калі ўсё гэта не па душы, то лепш і не спрабаваць. Тыя, у каго такога імкнення няма, канешне, давучваюцца, адпрацоўваюць год-два па спецыяльнасці, але не затрымліваюцца, шукаюць іншыя напрамкі.

Я таксама вучыўся тут, потым застаўся ў Полацкім раёне. Пачынаў ляснiком, затым працаваў майстрам лесу, памочнікам ляснічага, ляснічым. Пасля кіраваў мясцовымі выканкамам, потым стаў дырэктарам вучэбна-вопытнага лясгаса пры каледжы і нарэшце трапіў сюды. Працы тут вельмі шмат, і яна вельмі цікавая. У нас добры калектыў — згуртаваны, прафесійны і ініцыятыўны, усе ведаюць, што і як трэба рабіць.

## Пра практычнае — з Таццянай Лазарэнка, кіраўніком практыкі

— Практычнае навучанне — адзін з самых важных складнікаў навучання ўвогуле, таму што менавіта на практыцы адпрацоўваюцца ўсе навыкі, атрыманыя тэарэтычна. Пры каледжы ў нас ёсць вучэбна-вопытны лясгас, на базе якога



студэнты атрымліваюць і адпрацоўваюць свае ўменні. Адметнасць нашага практычнага навучання ў тым, што ўсё робіцца ў вытворчых мэтах: вучні ўсведамляюць адказнасць за сваю працу і падыходзяць да яе свядома. Геадэзічныя здымкі, вытворчыя адводы, будаўніцтва профіляў дарог — гэта работа, вынікамі якой потым будуць карыстацца. Напрыклад, вучні выязджаюць на мерапрыемства, якое называецца «агляд месцаў рубак», — яно звычайна праводзіцца кваліфікаванай камісіяй. Практыканты падпісваюць акт, згодна з якім складаюцца прадпісанні для лесакарыстальніка. Канешне, у вучэбна-вопытным лясгасе дапускаецца пэўная доля памылак. Тым не менш, умовы максімальна набліжаны да рэальных працоўных, і вучні задаволены, таму што ўзровень падрыхтоўкі нашых выпускнікоў вышэйшы, чым у іншых навучальных установах гэтага профілю.

Пасля другога і трэцяга курсаў студэнты маюць два месяцы практыкі. Праходзіць яна ў нас, на базе лясгаса. Ёсць і вытворчая практыка — па месцы будучай працы. Пра ўзровень практычнага навучання сведчыць яшчэ і тое, што вельмі многа студэнтаў хоча праходзіць вытворчую практыку менавіта ў нашым лясгасе. Тут ёсць дарагая спецыялізаваная тэхніка: навігатары, фотапасткі, электронная мерная вілка, адмысловыя праграмы для апрацоўкі даных — усім гэтым практыканты карыстаюцца.

Перш чым стаць майстрамі лесу, вучні павінны зразумець сутнасць працы людзей, якімі будуць кіраваць, таму што выпускаем мы кіраўнікоў сярэдняга звяна, у якіх можа быць з дзясятак падначаленых. І каб яны разумелі, што гэта за праца, мы даём ім прафесію «вальшчык лесу». Улічваючы асаблівасці фізічнага развіцця вучняў, мы закупілі новыя, аблегчаныя бензапілы (чатыры кілаграмы супраць колішніх сямі): калі параўнаць 17-18-гадовых юнакоў дзесяць гадоў таму і сёння, то фізічныя паказчыкі сённяшніх скіраваны ў горшы бок. Пасля вытворчай практыкі мы праводзім спаборніцтвы «Лепшы па прафесіі»: выбіраем па два вучні з кожнай групы, і цягам двух дзён яны спаборнічаюць, а мы здымаем пра гэта фільм — у выглядзе казкі, пародыі і г. д. Такім чынам узнімаем прэстыж працоўнай прафесіі. За ўдзел у конкурсе можна атрымаць каштоўны прыз і дадатковыя балы да рэйтынгу.

У нас працуе рэйтынгава-маніторынгавая сістэма: кожны вучань з першых дзён вучобы на першым курсе пачынае зарабляць балы — вучобай, грамадскім жыццём, удзелам у мерапрыемствах, разавымі даручэннямі і г. д. Балы могуць мінусавацца за заўвагі, вымовы, нявыкананыя заданні. Падыходзячы да выпуску на 4-м курсе, кожны мае пэўную колькасць балаў, і па іх фарміруецца чарга на размеркаванне. То бок, можна быць выдатнікам, але ніяк не ўдзельнічаць у жыцці каледжа, не атрымліваць балы за яго. І наадварот, актыўныя ў грамадскім плане вучні могуць «падцягнуцца» за кошт удзелу ў мерапрыемствах каледжа. Тым, для каго прынцыпова размеркавацца ў прэстыжнае месца, балы вельмі патрэбныя. На першым-другім курсах пра іх звычайна не думаюць, а вось пачынаючы з трэцяга імкнуцца актыўна зарабляць.



## Пра творчае — з Маяй Івановай, намеснікам дырэктара па выхаваўчай і ідэалагічнай рабоце, і Мікалаем Марчанкам, выкладчыкам, кіраўніком гуртка «Планета відэа»

**Мая Францаўна** распавядае:

— Вучні і супрацоўнікі лясного каледжа вельмі актыўна ўдзельнічаюць ва ўсіх гарадскіх і раённых культурных мерапрыемствах. У прыватнасці, у падрыхтоўцы да Скарынаўскіх дзён і Дня пісьменства. Найперш хачу распавесці пра праект «Полацк вачыма дзяцей, ці Горад у мініяцюры», у межах якога навучальныя ўстановы рыхтуюць макеты гістарычных будынкаў Полаччыны. Мы вырашылі зрабіць макет нашага вучэбнага корпуса. Ён, як і астатнія макеты праекта, будзе прадстаўлены падчас Скарынаўскіх дзён, першага верасня. З нагоды таго, што Полацк сёлета — моладзевая сталіца, мы прадставілі праект «Моладзь у эфіры»: правялі ток-шоу з удзелам прадстаўнікоў райвыканкама, БРСМ і, канешне, нашых навучэнцаў. Праект дэманструецца ў нас на сайце і ў сацыяльных сетках.

Год таму лясны каледж стварыў свой відэаканал на ютубе, дзе з'явілася дзесяць выпускаў. Канал — плён сумеснай працы двух гурткоў — «Планета відэа», якім кіруе Мікалай Марчанка, і «Юны спецкар», які вядзе Ірына Гарбаценка. Каледж мае і малатыражную газету «Ведамасці ляснога каледжа», электронны варыянт якой даступны на сайце.

**Мікалай Марчанка** дадае:

— Мы стварылі відэаканал, каб быць бліжэй да сваіх навучэнцаў, каб паказаць, што адбываецца ў каледжы, не толькі ім, але і ўсім зацікаўленым — напрыклад, будучым абітурыентам. У нас кіпіць праца і творчасць, увесь час адбываецца нешта новае, цікавае, пазнавальнае — спрыяльная атмасфера для адукацыі і самаразвіцця. Усе этапы, ад стварэння да з'яўлення роліка на канале, мы — кіраўнікі і наведвальнікі згаданых гурткоў — ажыццяўляем самі. У маі адзначылі год нашага тэлебачання, падвялі вынікі, паказалі, што адбываецца за кадрам. Канешне, за год дабіліся значнага плёну: засвоілі фармат ток-шоу, у якім абмеркавалі дасягненні Полацка як моладзевай сталіцы. Плануем здымаць сацыяльныя ролікі, музычныя кліпы з удзелам гурта «Song», каб трансліраваць іх у каледжы, а таксама напаўняць канал, набіраць прагляды і развіваць прафарыентацыйны напрамак. Усё, што адбываецца ў нашым каледжы, павінна рэкламаваць яго, каб людзі цікавіліся і ведалі, што ў нас тут не толькі леснікі, але і творчыя людзі. Збіраемся праводзіць апытанні сярод студэнтаў, каб ведаць, што ім яшчэ хочацца бачыць на канале, бо меркаванняў і прапаноў заўсёды шмат. Вядома, ёсць заўвагі, ды і мы самі бачым свае памылкі і імкнемся выпраўляць іх у наступных роліках.

**М. І.:** — У верасні плануем зладзіць яшчэ адно ток-шоу і прысвяціць яго Скарынаўскім дням. Магчыма, узмацнім пазіцыі нашых карэспандэнтаў праз колькасць, здымем ролікі пра мерапрыемствы, якія праходзяць з гэтай нагоды, зробім фільм. Гэтыя матэрыялы дапоўняць ток-шоу прадметнай інфармацыяй і зробяць іх яшчэ больш цікавымі для аўдыторыі.

Мая мара пра тое, каб у каледжы было сваё тэлебачанне, спраўдзілася, ёсць яшчэ адна — зрабіць ток-шоу на тэму маральных каштоўнасцей, у прыватнасці — на гендарную тэму.

Калі вы паглядзіце ўсе нашы відэасюжэты, то ўбачыце, як за год змяніўся тэлеканал, як выраслі ўменні: калі першыя ролікі былі наіўныя і простыя, то зараз Мікалай з камандай набліжаюцца да прафесійнага ўзроўню. У лютым мы ўдзельнічалі ў сацыяльным праекце «Свет вачыма студэнтаў» на базе Пермскага будаўнічага каледжа, дзе сталі першымі ў намінацыі «Лепшы сацыяльны ролік». Удзельнічалі і займалі прызавыя месцы ў абласных і рэспубліканскіх конкурсах. Што яшчэ характэрна: спачатку вучні асцярожнічалі, саромеліся, мы не ведалі, як іх заманіць. А зараз самі гуртуюцца вакол кіраўнікоў канала, таму што бачны вынік, відаць, як змяняецца напаўненне, як змяняюцца тыя, хто мае да яго дачыненне.

**М. М.:** — Сама праца над відэа і ёсць рэклама тэлеканала, якая працуе. Хто ўмее, хто не, але ў кожнага ёсць жаданне і прапановы. Чым больш новых людзей, тым больш новых рубрык мы можам прыдумаць і рэалізаваць, улічваючы здольнасці кожнага.

**М. І.:** — Першая ініцыятыва, вядома, ідзе ад выкладчыкаў. Ініцыятыўных вучняў мала, і сядзець чакаць, пакуль яны самі прыйдуць з прапановамі, не выпадае. Потым, калі яны пачынаюць працаваць у камандзе над пэўнай справай, акунаюцца ў тэму, то ў іх з'яўляюцца прапановы, і даволі цікавыя.

**М. М.:** — Стараемся, каб было прэзентабельна. Канешне, вяршыня для нас — гэта відэа ўзроўню тэлебачання, і мы імкнемся глядзець на «старэйшых таварышаў» і адпавядаць трэндам свету СМІ. У планах зладзіць кулінарную рубрыку для студэнтаў — пра тое, як гатаваць смачныя стравы з простых даступных складнікаў, каб гэта было карысна і хутка. Распрацоўваем ідэі ўдасканалення ўжо існуючых рубрык — хочацца больш дынамікі, руху, кампактнасці. Вядома, збіраемся ўдзельнічаць у конкурсах, але для гэтага трэба пераключыцца на іншы фармат, больш універсальны, чым навіны каледжа.

**М. І.:** — Я бачу, калі ёсць здольнасці да творчасці ў тых ці іншых праяўленнях. Мікалай, дарэчы, таксама наш былы студэнт, не толькі цікавіцца інфармацыйнымі тэхналогіямі, але і цудоўна танцуе, праводзіць мерапрыемствы ўзроўню гарадскіх і раённых, спявае і цудоўна ўпраўляецца з пілой — майстар вытворчага навучання. Атрымлівае вышэйшую адукацыю і будзе выкладаць фізічную культуру. А ў якасці педагога дадатковай адукацыі займаецца інфармацыйнымі тэхналогіямі. Мікалай не адзіны наш выпускнік, які прыйшоў сюды працаваць. Калі мы бачым у дзецях таленты, то стараемся развіваць іх, а потым захоўваць гэтыя кадры ў сябе. А яны развіваюць тых, хто ідзе за імі.



**Кацярына Захарэвіч**

# Школа творчасці

**Менавіта так хочацца назваць сярэднюю школу № 9 горада Полацка. Нягледзячы на тое, што яна, вядома, агульнаадукацыйная, і расклад заняткаў уключае вядомыя ўсім прадметы, здаецца, што творчасці (нават на ўзроўні мыслення) тут вучаць найперш.**

Школа пачынае сваю гісторыю з 1 верасня 1933 года. Пра гэты час падрабязна распавядае Летапіс, у які беражліва і ўважліва запісана ўсё, што вядома пра школу, яе настаўнікаў і выпускнікоў, ад самага з'яўлення навучальнай установы да цяперашняга часу. Так даведваемся, што школа была разлічана на 440 вучняў, а выкладанне ў ёй вялося па-беларуску. Цікава і тое, што першапачаткова школа знаходзілася на іншым месцы па той самай вуліцы — зараз там, на вуліцы Еўфрасінні Полацкай, 34а (былая Фрунзе) знаходзіцца жылы будынак.

Першым дырэктарам быў Раман Ціханавіч Палашчанка, настаўнік рускай мовы і літаратуры, вялікі аматар творчасці Аляксандра Пушкіна. Праз чатыры гады пасля адкрыцця школы калектыў вучняў і настаўнікаў звярнуўся да гарадскіх улад з хадайніцтвам аб прысваенні ёй імя Пушкіна. Захаваўся ў Летапісе адказ за подпісам старшыні гарсавета Кацмана: «Задаволіць хадайніцтва вучняў і выкладчыкаў калектыва 9-й школы, змешчанай на вуліцы Фрунзе, назваўшы апошнюю «9-я ўзорная імя А. С. Пушкіна школа».

У тым жа 1937 годзе навучальная ўстанова выпусціла першых вучняў. Захаваліся ў Летапісе словы тагачаснага выпускніка Барыса Ланзата, які скончыў школу з пахвальным лістом (яны папярэднічалі медалям): «У 1937 годзе адбыўся першы выпуск з васьмі чалавек… Шэвалдзін Нікіфар, Пазняк Ян, Брускін Р., Латушкін П., Цэтлін Якаў, Іванькові́ч Мікалай, Бушунонаў… Гэта быў тады адзіны 10-ы клас у Полацку. Раман Ціханавіч (дырэктар школы) арганізаваў выпускны баль. Былі запрошаны вучні з малодшых класаў (таму што нас было вельмі мала). Нават шампанскім нас пачаставалі. Гэта быў вельмі запамінальны вечар».

Даведваемся і пра лёс школы падчас вайны: у чэрвені 1941-га педагогі і выпускнікі на чале з дырэктарам школы Раманам Ціханавічам Палашчанкам пайшлі на фронт… Першым загінуў у 1941 годзе ў апалчэнні дырэктар. У тым жа годзе падчас бамбёжкі знішчылі будынак школы. У пасляваенны час да 1953 года ў горадзе працавалі 8 школ, а з 1 кастрычніка і ў «дзявятцы» пачаліся першыя ўрокі, на якія прыйшлі 353 вучні.

Гісторыя школы багатая на падзеі, важныя для любога вучня і настаўніка: гэта і алімпіяды, і праца шматлікіх гурткоў і секцый, і творчыя вечары, і спартыўныя спаборніцтвы, і педагагічныя канферэнцыі, і нават навуковыя даследаванні. Летапіс захоўвае імёны настаўнікаў і вучняў, якія праслаўлялі і праслаўляюць школу не толькі на конкурсах і імпрэзах, але і паспяховай штодзённай працай і вучобай.

Зрэшты, менавіта людзі і ёсць тут галоўная каштоўнасць. Настаўнікі, здаецца, на памяць ведаюць імёны выпускнікоў, якія дасягнулі поспеху ў «дарослым» жыцці. Гэтую школу скончыў калісьці і Навум Гальпяровіч, творчыя сустрэчы з якім тут з цеплынёй і любоўю згадваюць супрацоўнікі і вучні: да іх рыхтуюцца і пішуць сцэнарыі, а па творчасці Навума Якаўлевіча нават пісалі навуковае даследаванне. «Мы яго вельмі любім, паважаем, і вершы яго гучаць у выкананні нашых вучняў. Навум прывозіць да нас вядомых паэтаў і празаікаў, якіх без яго ўдзелу мы б не пабачылі. Разам з ім прыязджаў і Мікола Чарняўскі, і Алена Масла, і Алесь Савіцкі… Калі такія госці завітваюць, мы найперш падштурхоўваем нашых вучняў да знаёмства, да праяўлення сябе», — кажа Кацярына Сідаровіч, бібліятэкарка.

Нам пашчасціла трапіць туды, адкуль сёння ў школе № 9 пачынаюцца літаратурныя таленты. Гэта месца, здаецца, акумулюе ўсю творчую энергію і выдае яе ў канцэнтраваным выглядзе. Гэта школьная бібліятэка. Не сховішча кніг, куды прыбягаюць раз на год, каб змяніць падручнікі, сховішча ідэй, дзверы ў якое ўвесь час нараспашку, як і душы ўсіх, хто тут працуе.

Кацярына Юльянаўна Сідаровіч — не толькі захавальніца мудрасці вякоў у папяровым эквіваленце, але яшчэ і кіраўнік школьнага лялечнага тэатра «Сонейка» і літаратурнага гуртка

«Спроба пяра». Аматары тэатра разам з Кацярынай Юльянаўнай пішуць казкі, робяць лялек, а таксама арганізоўваюць пастаноўкі. А прыхільнікі завостраных пёраў пішуць вершы і прозу, вучацца правільна дэкламаваць літаратурныя творы і займаюць высокія месцы на адпаведных конкурсах.

Кацярыну Юльянаўну калегі адрэкамендавалі так: «паэтка суполкі «Полацкая ветка», якую паўсюль запрашаюць выступаць. І калі Навум Гальпяровіч прывозіць на сустрэчы ў школу вядомых літаратараў, тыя ў захапленні і просяць, каб яна дасылала свае творы. А яна вельмі сціплая — у коле калег і сяброў выступае, а далей ісці не хоча».

Размова з Кацярынай Юльянаўнай з пункту гледжання журналіста была ідэальная: амаль не спатрэбіліся пытанні і рэмаркі. Гэта абумовіла і форму:

**Маналог бібліятэкаркі, паэткі, творчай настаўніцы (пра паэзію, жыццё і сучасных школьнікаў)**

Калі я прыйшла ў «Полацкую ветку», вырашыла, што ніхто мяне не ведае тут, таму можна смела чытаць свае вершы. І так мяне прынялі добра, сказалі: «Ты наша, ты добра пішаш!» Потым Аляксандр Радкевіч, які кіруе суполкай, узяў мой сшытак, пагартаў і сказаў, што я ўводжу ў зман сваім чароўным голасам, а вершы ў мяне занадта простыя, з памылкамі і збоямі ў рытме. Я пакрыўдзілася і папрасіла даць пачытаць яго вершы. Ён даў мне свой зборнік, я прачытала, мне вельмі спадабаліся яго творы, але калі Аляксандр



Сустрэча з Навумам Гальпяровічам.

запытаўся: «Ну як?», я сказала: «Вашым вершам не дапаможа нават мой чароўны голас». Ён не пакрыўдзіўся, бо таленавіты і з гумарам. Аляксандр Радкевіч — вельмі добры настаўнік, і я, пахадзіўшы да яго на заняткі, сама стала бачыць памылкі ў сваіх творах і выпраўляць іх. А галоўнае, што сустрэла ў суполцы сапраўдных паэтаў. Я з тых бібліятэкараў, якія чытаюць, таму заўсёды цікавілася літаратурай, асабліва паэзіяй, і бачу, што сярод знаёмых аматараў пісаць ёсць тыя, чые імёны яшчэ прагучаць. Я бачу іх узровень і магу адэкватна ацэньваць свой.

Пісаць я пачала ў 33 гады — у сшытак запісвала эмоцыі і думкі, якімі не магла ні з кім падзяліцца. Можа, калі б у дзяцінстве хтосьці мяне «раскапаў», разварушыў, я сапраўды магла б стаць паэтам. Таму я ганаруся сабой, калі знаходжу ў школе здольных дзяцей, разварушваю, падштурхоўваю паказваць свае таленты, дапамагаю, як магу. І калі яны мяне пераўзыходзяць — вось гэта для мяне шчасце.

Я адчуваю сябе патрэбнай у школе: вяду гурток мастацкага слова і кірую лялечным тэатрам. Калі бачыш, як раскрываюцца дзеці, якім звычайна цяжка было слова сказаць, — гэта вельмі каштоўна! Дзеці ведаюць: каб удзельнічаць у спектаклі, трэба старацца вымаўляць тэксты гучна, выразна і эмацыйна. За шырмай, калі цябе не бачаць, — вялікія магчымасці. Удзельнікі лялечнага тэатра не могуць не сябраваць, інакш не атрымаецца ўзаемадзеяння ў спектаклі. Увогуле школа — гэта пастаянныя конкурсы, да якіх мы разам рыхтуемся ў бібліятэцы. Як толькі з'яўляецца вольная хвілінка, і дзеці, і настаўнікі прыходзяць, і мы прыдумляем сцэнарыі, вершы... Гэта аб'ядноўвае, дае магчымасць сябраваць.




Яшчэ мы пішам аўтарскія сцэнарыі, прысвечаныя літаратарам-юбілярам. Гэта станоўча ўплывае на дзяцей: яны хочуць удзельнічаць у мерапрыемствах. Рэпертуар для ўдзелу ў той ці іншай вечарыне я прапаноўваю вучням выбіраць на свой густ. А каб выбраць адзін верш, трэба прачытаць некалькі. Напрыклад, зборнікі вершаў класікаў увесь час на руках — дзеці шукаюць тое, што ляжа на душу. Часам здараецца, выбіраюць аднолькавыя творы, і тады я кажу: «Вучыце, на канцэрце выступіць той, хто лепш прачытае, — так, як хацеў бы чуць пісьменнік». Мне здаецца, самае галоўнае ў любым школьным мерапрыемстве — падрыхтоўка: сама імпрэза — гадзіна, хто пачуў, хто не, а вось падрыхтоўка... Хто аднойчы ўзяў кнігу ў рукі, той абавязкова зробіць гэта яшчэ раз. А калі хто піша, то набіраецца смеласці паказаць свае творы. Таленты ў вучняў нашай школы відавочныя, ды мы не пра ўсіх ведаем.

Дзеці любяць заходзіць у бібліятэку паміж урокамі. А я люблю іх, мне з імі цікава. Калі прыходзяць перачакаць вольны час, значыць, мне трэба іх заняць. Калі рыхтуем мерапрыемства і трэба яго «прагнаць» на аўдыторыю, яны — за гледачоў. Можа, гэта і няправільна, але ў нашай бібліятэцы заўсёды шумна: хтосьці дэкламуе, хтосьці выказвае заўвагі па чытанні, можам разам гуляць у рыфмы... Напрыклад, пішам вершаваны сцэнарый і рыфмы прыдумляем разам. Так, сёлета занялі другое месца ў вобласці на конкурсе, прысвечаным здароваму ладу жыцця: зрабілі лялечны спектакль у вершаванай форме. Адмысловым спектаклем сустракаем нават удзельнікаў школы першакласнікаў. Лепшыя нашы сцэнарыі і творы вучняў мы збіраем у папкі і захоўваем, дзелімся сваімі напрацоўкамі з калегамі.

Калі даведваюся пра які-небудзь літаратурны конкурс, кажу вучням: «Давайце прыдумаем, што можна напісаць на зададзеную тэму». Мы разам разважаем, абмяркоўваем, а потым дзеці прыносяць свае апавяданні, вершы — і працуем з імі, рэдагуем. Калі на конкурсах мае вучні чуюць, як іншыя дзеці чытаюць свае творы, то спрабуюць аналізаваць пачутае, кажуць: «Вось тут паўтор, можна замяніць сінонімам, вось тут было б больш дарэчным гэта слова…».

Кожнаму з нас неабходна адчуваць сваю значнасць. Дарэчы, многія вучні нашай школы не без падстаў лічаць, што без іх я як без рук. Кожны знаходзіць для сябе ў нашай бібліятэцы занятак па здольнасцях. Ёсць у нас спецыялісты, якія рамантуюць лялек, шыюць для іх сукенкі, малююць дэкарацыі, прымаюць удзел у афармленні кніжных выстаў, падбіраюць пытанні да віктарын, рыхтуюць музычнае суправаджэнне спектакляў, а таксама раўняюць пабураныя радкі кніг на паліцах, дапамагаюць расставіць у фонд прынесеную літаратуру. Тое, што за перапынак дзеці ператрасаюць усе паліцы, мяне не злуе. Я люблю іх слухаць, назіраць за імі.

**Кацярына Захарэвіч**

# Немагчыма абмінуць…

**…Цэнтральную раённую бібліятэку імя Францыска Скарыны, вандруючы па Полацку напярэдадні Дня пісьменства, Дня горада і Скарынаўскіх дзён. Дзе, як не тут, падрыхтоўка да вераснёўскіх свят павінна кіпець? Супрацоўнікі распавялі Кацярыне Захарэвіч пра тое, як жыве бібліятэка не толькі ў святочныя, але і ў звычайныя дні, і як стварыць свята сярод звыклай будзённасці.**

Будні летні дзень, кароткае сонечнае «акно» паміж двума дажджамі. У бібліятэцы даволі шмат наведвальнікаў. Хтосьці прыйшоў на абанемент узяць новую кнігу, нехта — пасядзець у спрыяльных для размоў сценах чытальнай залы… Дзверы розных памяшканняў толькі і паспяваюць адчыняцца-зачыняцца. Наша знаёмства з бібліятэкай пачынаецца з абанемента. Вікторыя Свіловіч распавядае:

— Пэўную падрыхтоўку да святкавання Дня пісьменства і Скарынаўскіх дзён, што таксама праходзяць у пачатку верасня, мы пачалі загадзя. У залах бібліятэкі аформлены выставы, прысвечаныя жыццю, творчасці і поглядам славутага першадрукара. Правялі відэалекторый «Невядомыя факты з жыцця Скарыны» для малалетніх вязняў часоў вайны. З 1 па 3 верасня будзе працаваць чытальная зала пад адкрытым небам. Праводзілі раней і ўдасканальваем зараз квэст «Лабірынт часу па шляхах Францыска Скарыны» — па месцах, дзе жыў і працаваў наш славуты зямляк, знаходзячыся ў Полацку. У квэст уключаны будынкі і ўстановы, якія маюць дачыненне да яго, — і бібліятэка, і гімназія, і праспект, якія носяць яго імя, і помнік, і музей кнігадрукавання, дзе ёсць зала, прысвечаная першадрукару. Часткова экскурсія можа быць віртуальнай, таму што да ўсіх месцаў немагчыма дайсці за кароткі час.

Інтрыгуюць і запрашаюць да ўдзелу такія назвы мерапрыемстваў, як «Імідж-лабараторыя: стварэнне арт-вокладак для кніг», інтэлектуальны пазл «Алфавіт у загадках» і «Літаратурнае караоке», якія будуць працаваць у горадзе ў святочныя выходныя верасня. З пастаянных вартых увагі падзей — праект «Мова і стыль» — неакадэмічныя курсы беларускай мовы для дзяцей і дарослых, якія праводзіць Дар'я Кулеш.

У чытальнай зале — уладаннях Вольгі Куцынай — шмат магчымасцей для афармлення разгорнутай экспазіцыі:

— Выстава літаратуры па краязнаўстве знаходзіцца цяпер па суседстве з выставай, прысвечанай Скарыне і іншым вядомым палачанам. Вельмі шмат каму з настаўнікаў, студэнтаў, школьнікаў патрэбны гэтыя выданні — гучнае святкаванне пяцісотгоддзя кнігадрукавання паспрыяла росту зацікаўленасці нашых наведвальнікаў гэтай тэмай. У экспазіцыі знаходзіцца некалькі ўнікальных выданняў наўпрост з кнігасховішча (напрыклад, пяцітомнік). Улічваючы, што вялікая колькасць матэрыялаў размяшчаецца яшчэ і ў часопісах, то мы зможам знайсці інфармацыю на любы запыт. Людзям цікава, бо яны чакаюць свята, рыхтуюцца да яго, а ў іншы час гэтых кніг можа проста не быць на палічках.

Адно з самых незвычайных адгалінаванняў бібліятэкі — Публічны цэнтр прававой інфармацыі, дзе кожны наведвальнік можа пазнаёміцца з афіцыйнымі прававымі дакументамі і юрыдычнай літаратурай, а таксама паўдзельнічаць у адукацыйных прававых праектах і праграмах. Без адной усім вядомай персоны не абыходзіцца і тут: Валянціна Прыданава паказвае стэнд з інфармацыяй на тэму «Палітычныя і прававыя погляды Францыска Скарыны».

У інфармацыйна-бібліяграфічным аддзеле знаходзіцца літаратура на замежнай мове, а таксама краязнаўчыя матэрыялы. Галіна Нэліна паказвае фотаэкспазіцыю: помнікі Скарыне ў розных гарадах свету, а таксама творы выяўленчага мастацтва, натхнёныя гэтай асобай: рэпрадукцыі карцін Драздовіча і фрагмент «Афінскай школы» Рафаэля, дзе, па адной з версій, знайшлося месца і таленавітаму доктару сямі вольных навук…

***

**Людміла Дзедзюліна, загадчык аддзела, распавядае пра сур'ёзныя падзеі…**

— Мы праводзілі прафесійны семінар, у якім удзельнікі — прадстаўнікі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, Віцебскай абласной бібліятэкі імя Леніна, нашы супрацоўнікі — падзяліліся вопытам, хто і як рыхтуецца да святкавання пяцісотгоддзя кнігадрукавання. Паколькі гэты год — год навукі, то прысутнічалі

і маладыя навукоўцы Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта Кацярына Афанасьева і Вольга Гулягіна, якія распавялі пра важную для іх кнігу. А паколькі сёлета Полацк — моладзевая сталіца, то запрасілі яшчэ і маладую сям'ю — Аляксандра і Святлану Нэліных, якія падзяліліся думкамі пра ролю кнігі ў іх жыцці. Да семінара распрацавалі віртуальную інтэрактыўную віктарыну з пытаннямі пра нашага першага кнігадрукара, даступную для ўсіх, хто хоча паўдзельнічаць.

Сёлета ў Полацку другі раз будзе ўручана прэмія імя Алеся Савіцкага, сярод арганізатараў якой — Полацкая раённая цэнтралізаваная бібліятэчная сістэма. А бібліятэка-філіял № 9 носіць імя Алеся Савіцкага. Першым лаўрэатам прэміі стаў Віктар Карасёў, пісьменнік і краязнаўца, які напісаў дзевяць кніг, прысвечаных Полаччыне. Пераможца гэтага года будзе аб'яўлены ў Дзень пісьменства. Людзі з задавальненнем наведваюць такія мерапрыемствы. Мы супрацоўнічаем і з гімназіямі, і са школамі, і з універсітэтам, і з педагагічным каледжам. У параўнанні з мінулым годам колькасць імпрэз павялічылася, а з ёй узрасла і колькасць наведвальнікаў.

**… і пра навуковыя распрацоўкі бібліятэкі.**

— Мы склалі біябібліяграфічны ўказальнік «Даследчыкі Полаччынны XVI — пачатку XXI стагоддзя», які ўключае 500 персаналій — да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання. Драбышэўскі, Клокаў, Карасёў, Ліхачоў і іншыя краязнаўцы, якія прысвяцілі свае творы Полаччыне, знайшлі месца на яго старонках. Пра кожнага даследчыка змяшчаюцца біяграфічныя звесткі, літаратура пра жыццё і дзейнасць, а таксама звесткі пра кнігі і артыкулы, прысвечаныя Полаччыне. Калі даследчык — наш сучаснік, то ў даведнік трапляе і яго аўтограф.

Стварылі і даведнік па гісторыі Полаччыны ад 862 года да нашых дзён: усе гістарычныя падзеі, што адбываліся на тэрыторыі нашага горада, усе персаналіі, так ці інакш адметныя, — у гэтым даведніку. Складаем брашурку «Паэтычная Скарыніяна», якая ўключае вершы, прысвечаныя Францыску Скарыне. Збіраем вершы-прысвячэнні Рагнедзе, Сімяону Полацкаму, Еўфрасінні і іншым славутым землякам. Усю гэтую працу супрацоўнікі бібліятэкі выконваюць самі, паралельна з асноўнымі абавязкамі.

***

Але не толькі святамі і падрыхтоўкай да іх жыве бібліятэка. Адметнасцю яе сталі віртуальныя вандроўкі. Кожную суботу, прыйшоўшы сюды, можна паўтары-дзве гадзіны атрымліваць асалоду ад краявідаў цікавых мясцін усяго свету, гледзячы фільмы і прэзентацыі, даведваючыся пра штосьці незвычайнае.

— Мы ўжо «аб'ехалі» Еўропу, Лацінскую Амерыку, Азію, цяпер «вандруем» па рэках. Афіша выкладваецца ў сацыяльныя сеткі, людзі прыходзяць, мы забаўляемся і даведваемся пра нешта новае, п'ем гарбату, фатаграфуемся ў атмасферы падарожжа. Ведаючы пра гэта, усе рыхтуюцца, каб выглядаць прыгожа, бо ў сацыяльных сетках за кожным з цікавасцю сочаць знаёмыя», — кажа Галіна Мікалаеўна, якая асабіста распрацоўвае кожны маршрут.

— Наведвальнікі — гэта, у большасці, пенсіянеры. Многія з іх хадзілі на камп'ютарныя курсы, а цяпер зацікавіліся вандроўкамі. Але бываюць сустрэчы і для студэнтаў, вучняў каледжаў, вайскоўцаў. Асобна праходзілі маршрутамі Францыска Скарыны: прасочвалі шлях Полацк — Кракаў — Прага — Вільна, за дзве вандроўкі яго «прайшлі».

Чаго ў Цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Францыска Скарыны няма, дык гэта суму. Здаецца, разам з людзьмі тут нябачна, але эфектыўна працуюць ідэі — творчыя, даследчыя — стваральныя. У 2019 годзе бібліятэка будзе адзначаць свой стогадовы юбілей. Падчас правядзення бібліяночы наведвальнікі пісалі пажаданні, якой хочуць бачыць бібліятэку ў гэтым узросце. Запіскі закрыты ў колбе і чакаюць свята. Хоць фізічна немагчыма дадаць у тую колбу яшчэ адну паперку — ад «Маладосці», але няхай своеасаблівай запіскай з пажаданнем будзе гэтая публікацыя:

**«М»ы жадаем, каб пастаянныя наведвальнікі заўсёды прыводзілі новых.**



**Анжэліка Вінаградава**

## Мая Глыбоччына

Калі я атрымала заданне напісаць пра людзей Беларусі і даты, звязаныя з краінай, то адразу на думку прыйшоў Якуб Колас і Янка Купала, а з дат — 1941—1945 гады.

Якуб Колас і Янка Купала — вядомыя беларускія пісьменнікі. Успомніла іх, бо вучыла іх творы ў школе, пісала розныя сачыненні па іх і рыхтавала выказванні пра гэтых пісьменнікаў для алімпіяды па беларускай мове.

Чаму мне адразу прыйшлі ў галаву такія даты? На гэта ёсць дзве прычыны. Галоўная з іх: мой прадзед ваяваў, дайшоў да Берліна і вярнуўся дадому праз сем гадоў пасля заканчэння вайны. Другой прычынай з'яўляецца тое, што я не любіла гісторыю ў школе. Ну, не гісторыю, а настаўніцу. Мне прыходзілася вучыць параграфы на памяць. А які з гэтага сэнс? З гэтага завучвання? Настаўніца адбіла ўсё жаданне захапляцца яе прадметам. Таму я гісторыю практычна не ведаю.

Увогуле, калі гаварыць пра знакамітых людзей ці нават незнакамітых, пра тых, якія адразу прыйшлі на думку. Я амаль упэўнена, што кожны студэнт будзе расказваць пра пісьменнікаў, паэтаў, прэзідэнта, можа, хто і пра які музычны гурт раскажа. І ва ўсіх, напэўна, будуць аднолькавыя думкі пра людзей. Вы будзеце чытаць гэтыя эсэ пра людзей, якіх ведаеце. А я хачу расказаць пра людзей Глыбоччыны, вельмі знакамітых на маёй роднай зямлі, ці тых, якія проста родам адсюль.

Калі вы вырашыце паехаць у Глыбокае, то пры ўездзе ў горад у вочы кінецца самалёт на пастаменце. Гэта своеасаблівы помнік выдатнаму савецкаму авіяканструктару, двойчы Герою Сацыялістычнай Працы Паўлу Восіпавічу Сухому. Нарадзіўся ён у сям'і выкладчыка Глыбоцкага народнага вучылішча. Чаму мне захацелася расказаць менавіта пра гэтага чалавека? А таму, што калі я ездзіла да сваякоў у Мінск, мы заўсёды прыпыняліся ля гэтага самалёта. Мне падабалася проста глядзець на яго, а калі любіла і памацаць, як робяць усе маленькія дзеці. Цяпер, калі праязджаю міма, заўсёды ўсміхаюся, але не толькі таму, што маю прыемныя ўспаміны з дзяцінства, але і таму, што гэта не проста пастамент, а помнік такому выдатнаму чалавеку.

Далей хачу расказаць пра Максіма Аляксандравіча Клімянка. Гэты чалавек працаваў старшынёй калгаса імя Чапаева (у вёсцы, дзе быў і ёсць калгас, цяпер жыву я), зрабіў яго адной з перадавых гаспадарак Віцебшчыны. З яго дапамогай была пабудавана школа, у якую хадзіла я, хадзілі мае бацькі і нават бабуля. Шкада, што зараз яна зачынена, і ніхто яе не даглядае… Яшчэ М. А. Клімянок пакінуў такую вечную памяць пра сябе, як вялікі яблыневы сад і бярозавая алея. Як жа радасна назіраць за бярозамі ў любую пару года! Калі вы паедзеце ў маю вёску Верхняе, то вы мяне зразумееце, бо такую прыгажосць я проста не змагу перадаць на паперы.

Зараз раскажу яшчэ пра трох пісьменнікаў і паэтаў Глыбоччыны, якія да гэтага часу радуюць нас сваімі творамі.

Уладзімір Сауліч. Чаму менавіта ён? А таму, што ён нарадзіўся ў той вёсцы, дзе жыве мой прадзед. Таксама мне спадабаўся адзін яго твор — гэта п'еса «Сабака з залатым зубам». Я думаю, што ўсе яго творы цікавыя, але мне давялося прачытаць толькі гэты, і ён мне вельмі спадабаўся.

Алесь Жыгуноў. Нарадзіўся ён, праўда, у Магілёўскай вобласці, але сам ён і ўсе глыбачане лічаць сваёй/яго другой радзімай менавіта Глыбоччыну. Пазнаёмілася я з ім пасля таго, як ён пачаў друкавацца ў раённай газеце

Я не любіла гісторыю ў школе. Ну, не гісторыю, а настаўніцу. Мне прыходзілася вучыць параграфы на памяць. А які з гэтага сэнс?

«Веснік Глыбоччыны». У адным нумары, у другім... Пасля даведалася, што ён аўтар «Гімна горада Глыбокае». Давялося прачытаць таксама яго твор «Пагавары са мной пра восень». Быў выбар, што чытаць: ці зборнік «Баравічок на скутары», ці вось гэты твор «Пагавары са мной пра восень». Выбрала апошні, бо больш спадабалася назва. Але цяпер ужо хочацца пачытаць і першы яго зборнік.

Бывае, сустракаю Алеся Жыгунова на вуліцы ці ў крамах горада. Заўсёды ў касцюме, такі сур'ёзны. Можа, мне здаецца ён такім з-за сваіх вусоў.

Марыя Баравік. Пра гэтую жанчыну я дазналася толькі тады, калі яна прыехала да нас у школу, дзе расказвала пра сябе. Быў гэта клас чацвёрты. Што мне назаўсёды пра яе запомнілася, дык гэта наступнае:

1. «Я ніколі не рыхтуюся да выступленняў. Кажу тое, што адчуваю ў дадзены момант. Бо калі рыхтавалася, ніколі не даводзілася гаварыць добра».

2. «У суседняй вёсцы жыло маё першае каханне — Джордж». І ўсе на хвіліну задумаліся, хто ж ён такі. А потым, як сказалі, што гэта за чалавек, было такое здзіўленне! Бо зараз гэты мужчына любіць добра выпіць. Ну і канечне, здзіўленне было ад такога імені — Джордж.

Таксама Марыя Баравік раздала нам кніжкі са сваімі вершамі. Але я, на жаль, так і не прачытала нічога. Думала, што пасля, пасля.., а той час і не надышоў.

Калі сёння спытаць у каго, дзе нарадзіўся Ігнат Буйніцкі, правільны адказ змогуць даць толькі тыя, хто добра ведае гэта з урокаў літаратуры; настаўнікі ці тыя, хто кожную нядзелю ездзіць з Глыбокага ў Полацк, ці праехаў аднойчы па гэтым маршруце і запомніў вялізны білборд наўзбоч ажыўленай шашы. Правільна! Ён нарадзіўся ў вёсцы Празарокі. Я хоць, здаецца, і добра вучыла літаратуру, але крыху здзівілася, а затым і ўзрадавалася, што выдатны дзеяч культуры і мастацтва нарадзіўся менавіта ў Глыбоцкім раёне.

А хто такая Паўліна Мядзёлка? Так, яна была першым каханнем Янкі Купалы. Нарадзілася ў мястэчку Будслаў (Мінская вобласць). А далей што? У 1898 годзе сям'я пераехала ў Глыбокае, дзе Паўліна скончыла царкоўнапрыходскую вучэльню.

А хто такі Язэп Драздовіч? Так-так-так, нарадзіўся ён на Глыбоччыне. Адкуль ведаю? Была ў класе сёмым у музеі на экскурсіі, прысвечанай яму. Тады і даведалася пра яго месца нараджэння, і ўбачыла яго прыгожыя карціны. Не кожны ведае, што Язэп Драздовіч быў не толькі мастаком, але і «трохі» пісьменнікам. Праўда, творы яго я не чытала, затое ведаю яго карціны «Заслаўе», «Жыццё на Марсе», «Старажытны Мінск».

А хто такая Марына Шкірманкова? Ну, сорамна не ведаць! Гэта глыбачанка-штангістка, якая прынесла першую ўзнагароду XXX летніх Алімпійскіх гульняў у скарбонку Беларусі (бронзавы медаль). Сама я запомніла гэтую дзяўчыну толькі таму, што яна была сяброўкай нашай настаўніцы фізкультуры. А тая і расказала нам пра Марыну.

Не ведаю чаму, але мне падабаецца, што я ведаю (можа, і не ўсіх) людзей Глыбоччыны, якія жылі ці жывуць тут, не забылі свой родны горад, праслаўляюць яго. Нейкі гонар адчуваеш за свой горад і гэтых людзей.

Вядомым святам Глыбоччыны з'яўляецца «Вішнёвы фестываль», які кожны год доўжыцца цэлы тыдзень. Праходзіць ён пасля 3 ліпеня. Усе дні на плошчы гучыць музыка, праводзяцца розныя конкурсы, кірмашы (але самыя цікавыя дні — гэта першы і апошні). У першы дзень абавязкова адбываецца мітынг. Кожная арганізацыя прадстаўляе свае «вішанькі». Ну, хто што прыдумае. Мая матуля працуе на пошце, дык у мінулым годзе ад іх арганізацыі паперадзе калоны ішлі хлопчык і дзяўчынка, апранутыя ў касцюмы вішань. У апошні дзень абавязкова салют — маё самае любімае з гэтага свята. Людзі кажуць, што гэта свята рэспубліканскага, а то і сусветнага значэння, бо часта можна ўбачыць тут прадстаўнікоў розных нацыянальнасцей. Як расказвала мама, на пошце пытаюцца нават з Мінска і Віцебска, калі адбудзецца гэта свята.

Спадзяюся, што зацікавіла вас сваім горадам, і вы калі-небудзь наведаеце яго.

Да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання

праект

# «ВАРШТАТ»

**Стагоддзі:** XV — XIX

**З’явы:** уніяты і стараверы — гісторыя неверагоднага сяброўства

**Асобы:** Эрхард Ратдольт і паслядоўнікі, Фёдар Шклярaў і стараверы

**Акалічнасці:** прынцып «чорнага мастацтва», балканская пляцёнка і іншае ў прыгодах нашай буквіцы

**У выпуску:**

- Галіна Нячаева, Святлана Лявонцьева. Унікальныя кніжныя помнікі. *З калекцыі Веткаўскага музея стараабрадніцтва і беларускіх традыцый імя Ф.Р. Шклярава*



**ю бь ужўше рфтўхбзд амшшю пафы**

Галіна Нячаева, Святлана Лявонцьева

# Унікальныя кніжныя помнікі

*З калекцыі Веткаўскага музея стараабраднііцтва і беларускіх традыцый імя Ф.Р. Шклярава*

## Стараверская Ветка ў гісторыі Беларусі

Як мудрагеліста сплятаюцца энергіі розных стагоддзяў! Здаецца, вось толькі, нейкія 345 гадоў таму (дванаццаць пакаленняў), на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага (сучасны паўднёвы ўсход Беларусі) з'явіліся людзі старой маскоўскай веры. Па вызначэнні камісіі, пасланай каралём польскім у 1690 годзе ў Ветку (а каралём тады быў Ян III Сабескі, знакаміты сваімі перамогамі над туркамі), у іх хрысціянскай веры «ніякаяй схізмы выяўлена не было». У выніку абследавання «дазволена ім выконваць іх хрысціянскія адправы і службы бязбоязна…».

Што такое «старая вера»? І ці ёсць тут супрацьстаянне «вер»? Насамрэч, у Расіі размова ішла пра адну веру — хрысціянства, і пытанне было не ў «новых рэформах», якія б спрыялі прывядзенню да адной нормы царквы Расійскай дзяржавы і царквы Канстанцінопаля. Мэтай Масквы было заявіць аб сабе як аб «Трэцім Рыме». І гэта было лагічна: у 1553 годзе Канстанцінопаль трапіў пад уладу туркаў. Тыя дазволілі хрысціянам маліцца паводле іх звычаю, але зацвярджэнне патрыярхаў узгаднялася з турэцкімі ўладамі. Юны рускі цар Аляксей Міхайлавіч Раманаў быў «заражаны» патрыярхам Ніканам, які і ўвёў новыя рэформы, на сусветную ролю галавы ўсяго праваслаўнага свету. Аднак разгарнулася ўсё далёка не так. І замест сусветнага трыумфу атрымалася ў выніку нацыянальная трагедыя. Тады ж, пасля 1650-х гадоў, паўстала пытанне пра тое, як належыць маліцца: «старым крыжам, двухперсцем» ці па-новаму, як цяпер маліліся грэкі, — трохперсцем? У старым малітоўным жэсце два пальцы (указальны і сярэдні), угору ўзнятыя, сімвалізавалі двуадзіную прыроду Бога-Сына, а тры астатнія, злучаныя ўнізе, азначалі старазапаветную Тройцу. Гэты хрысціянскі сімвал налічваў сем стагоддзяў, з часу хрышчэння славян. Аднак ён быў заменены іншым сцвярджэннем. Цяпер тры пальцы (вялікі, указальны і сярэдні), злучаныя разам зверху, сімвалізавалі тую ж Тройцу, а два астатнія азначалі «Богачалавецтва». То бок, тое самае, але з пераваротам пазіцый пальцаў. Па ўзору «новай Грэцыі». Гэта сёння мы, нашчадкі розных вер, думаем: якая розніца? Але за трыста гадоў рознагалосся такіх, хто хацеў маліцца, як дзяды і прадзеды, налічылася дзясяткі мільёнаў. Шматсотгадовая вайна з Асманскай імперыяй падтрымлівала ідэю. Стараверцы пыталі пра Візантыю: «Яны палі пад мусульманамі, чаму мы, свабодныя, павінны іх пераймаць?» І іх можна зразумець: навошта мяняцца нашаму малітоўнаму жэсту, гісторыі нашай незалежнасці? Чаму мы павінны кіравацца «новым праваслаўем», якое друкуе кнігі ў каталіцкіх Фларэнцыі і Венецыі і чые святчэнніцкія вопраткі паддаліся турэцкаму ўплыву?

Але гэтая магутная ідэя накаплення ўласнай інфармацыйнай энергіі ў Расіі не была падтрымана палітычна. Мільёны людзей, не адрокшыся ад веры продкаў, рушылі «двума шляхамі старaверства».

### Пра незразумелыя літаркі на вокладцы праекта «Варштат»

*З нумара ў нумар, ад студзеня да снежня 2017-га на вокладцы сур'ёзнага праекта, прысвечанага значнай даце, размяшчаецца абракадабра?!*

*Ніякая не абракадабра, а… арбадакарба. Баараакадрба. Аьматацьма. F,hfrflf,hf. Бвсблбебвсб. Што мы выкарысталі для зашыфроўкі такога простага слова «абракадабра» — тарабарскую грамату, мудрую літарэю, шыфр пад назвай ROT1, іншыя перастановачныя ключы?*

*На вокладцы нашага праекта размяшчаецца не абракадабра, а зашыфраваная частка выказвання. Займець цэлы зашыфраваны выраз магчыма толькі пры чытанні ўсіх нумароў «Маладосці» за год. Сабраўшы часткі ў парадку, які супадае з нумарацыяй часопіса, знайшоўшы ключ і расшыфраваўшы выказванне, можна атрымаць ад «Маладосці» шыкоўны прыз!*

*Месца выдачы прызоў — рэдакцыя «Маладосці». Тэрмін выдачы: 25—31 снежня 2017 года.*





Менавіта з выданняў Ратдольта ініцыял набыў характэрную для наступных гадоў форму: белая антыквенная літара ў сярэдзіне чорнага квадрата.
Гарманічны кантраст чорнай фарбы і белай паперы, аб'ёмная штрыхоўка, плаўнасць і вытанчанасць ліній даюць цудоўны эстэтычны эфект.

«Беспапоўцы» — тыя, хто рашыў, што ўсе «папы» ўжо здрадзілі «старой веры». І «папоўцы», хто шукаў паўнаты свяшчэнства, вывучаючы гісторыю ажно да Індыі, радзімы Буды-Гаутамы. На тэрыторыю ВКЛ рушылі абодва патокі. Здарылася так, што абедзве галіны стараверства, «беспапоўцы» і «папоўцы», прадстаўленыя як «паўночныя» і «паўднёвыя» галіны, знайшлі сваю новую радзіму на землях, дзе праваслаўе ў XVII стагоддзі перажывала моцныя выпрабаванні. Дарэчы, у самой «Літве» праваслаўныя маліліся «па-старому», двухперсцем. Сёння мы бачым, што невыпадкова яны тут з'явіліся, што наканавана было гэтым «носьбітам старой веры» адыграць выдатную ролю ў культуры як Расіі, так і Беларусі. Толькі, паводле правіл гэтых некалькіх стагоддзяў, іх роля ў гісторыі збольшага была «інкогніта».

## Наша «кніжная гісторыя»

У рэформах XVII стагоддзя важная роля адводзілася выпраўленню богаслужэбных кніг, зноў жа, «па грэчаскіх узорах». Старыя кнігі, рукапісныя і старадрукаваныя, дарэформенныя кнігі XVI — XVII стагоддзяў абвяшчаюцца паза законам. Іх патрабуецца знішчыць. Тут і пачынаецца, уласна, наша кніжная гісторыя.

Як пісаў у 1930 годзе акадэмік Мікалай Міхайлавіч Нікольскі, «на Ветке же при монастырях было организовано иконописание и устроены склады старопечатных книг, скупавшихся за московским рубежом; иконами и книгами Ветка снабжала весь старообрядческий мир». Сюды ж прыходзяць і старадаўнія рукапісныя кнігі. Так староверцы аказваюцца першымі археографамі, якія ратуюць тыя ўнікальныя помнікі, што лічацца цяпер шэдэўрамі гісторыі кніжнасці. Праўда, спакойна гэтым займацца веткаўчанам не давалі: ужо ў XVIII стагоддзі іх двойчы палілі — у 1735 і 1764 гадах, а кнігі адбіралі. Пра вялізныя кніжныя скарбы стараверскіх манастыроў і скітаў згадвалі ўсе даследчыкі XIX — пачатку XX стагоддзяў, вылучаючы пры гэтым Веткаўскі Пакроўскі мужчынскі манастыр. У сваім данясенні ў міністэрскую канцылярыю 14 кастрычніка 1735 года (пасля першай «выганкі» Веткі) палкоўнік Сыцін паведаміў, што ён адабраў у гэтым манастыры 682 кнігі, «да особливо разных мелких книжек полтора мешка».

Ды і пасля… Але ў XIX — пачатку XX стагоддзя сусветна вядомыя кніжныя зборы знакамітых калекцыянераў фарміраваліся шмат у чым з дапамогай староверцаў. Потым яны стваралі аснову буйнейшых нацыянальных бібліятэк. Граф Мікалай Пятровіч Румянцаў, уладальнік Гомельскай сядзібы, напрыклад, яшчэ ў пачатку XIX стагоддзя атрымліваў кнігі



Евангелле ад Матфея. Ініцыял «К». Беларускі рукапіс пачатку XVI стагоддзя.



Пачатак Евангелля ад Марка. Ініцыял «З». Беларускі рукапіс пачатку XVI стагоддзя.

ад старавераў. Ён меў да іх ласку, дазваляў ім будаваць цэрквы, а ўдзячныя жыхары гомельскіх і старадубскіх слабод ведалі захапленне графа. Галоўная бібліятэка ў Маскве ўтварылася на аснове Румянцаўскага музея. Ды і сярод саміх «старавераў» былі такія вядомыя калекцыянеры. Увогуле ж, беларускія і памежныя з Украінай і Расіяй землі настолькі шматпакутныя, што ніхто з маскоўскіх навукоўцаў-археолагаў, якія прыехалі сюды ў 1970-я, не чакаў знайсці столькі кніжных помнікаў! А калі стварыўся Веткаўскі музей, мы самі з заснавальнікам яго Фёдарам Рыгоравічам Шкляравым (ён стаў і першым дырэктарам) ездзілі па стараверскіх вёсках у пошуках старадаўніх кніг. І запомнілі назаўсёды выпадак, калі адзін стары сурова крычаў нам услед: «Цяпер спахапіліся! А дзе вы былі, калі на Добрушскую фабрыку пергаменныя кнігі вагонамі вазілі?» Добрушская папяровая фабрыка ўсё маё дзяцінства выпускала школьныя сшыткі. Канечне, «пергаменныя кнігі вагонамі» наўрад ці вазілі, але нават калі некалькі іх было, то ўжо не вернеш. Цяпер калекцыя музея налічвае 152 рукапісныя кнігі XVI — пачатку XX стагоддзяў і больш за 500 старадрукаў XVI — пачатку XIX стагоддзяў. У многіх выратаваных кнігах — найцікавейшыя гістарычныя запісы, яны пераносяць нас у гады тых падзей, імён, гарадоў і родаў. Ёсць і «беларускі след». Пра гэта — трошкі пазней. А вось акалічнасці пакупкі аднаго старадруку, «Трэфалагіёна» 1638 года выдання, — яны запісаны на яго старонках. У 1700 годзе кнігу купілі ў адной з крамлёўскіх цэркваў у свяшчэнніка Пятра Андрэева, «церкви Георгия, что у Спасских ворот». І прададзена яна была «для ветхости тоя книги». А між тым, у навуковую рэстаўрацыю і праз трыста з нечым гадоў «Трэфалагіён» так і не трапіў. І выдатна сёння выглядае. Тут, канечне, вялікую ролю адыгралі стараверскія пераплётчыкі. Яны ж былі і выдатнымі грамацеямі.

Майстры жылі ў кожнай стараверскай слабадзе, у кожным пасадзе, мястэчку і горадзе. Яны падаўжалі жыццё кнізе на многія стагоддзі. То бок, традыцыя і чарга пакаленняў такіх народных рэстаўратараў была непарыўнай. І гэта сведчыць пра высокую кніжную культуру веткаўчан. Сёння мы ведаем дзясяткі імён «переплётных дел мастеров». Але гэта невялікая крыха творцаў



Пачатак Евангелля ад Лукі. Ініцыял «П». Беларускі рукапіс пачатку XVI стагоддзя.

у сапраўдных працэсах зберажэння стАрадрукаў. Зрэшты, не адно тэхнічнае майстэрства зберагае кнігу. І не толькі «богодухновенное чтение». І не толькі духоўная пісьменнасць. Абсалютна жывыя стасункі паміж чалавекам і кнігай характэрны для народнай стараверскай культуры. Некалі Фёдар Рыгоравіч Шкляраў запрасіў пажылую старверку Ірыну Сямёнаўну Тарасенкаву ў музей на сустрэчу з творчай інтэлігенцыяй. І паклаў перад бабуляй рукапісную кнігу з яе вёскі. У кнігі ў яе мінулай гісторыі быў адарваны родны пераплёт, а сама яна «жыла» ў кардоннай абгортцы. Ірына Сямёнаўна пазнала рукапіс і ўсклікнула: «Родненькая моя! Вот и довелось стренуться! Был бы жив мой дедушка, он одел бы тебя в новые одёжки!» Часам рэстаўраваная ў розныя стагоддзі кніга нагадвае чалавека з перасаджанай скурай: кожны лапік «плоці» захаваны, і «перасаджаныя» месцы злучаны ў адно цэлае гаючымі рукамі, а страты дапісаны патрэбнымі словамі.

Так былі выратаваны беларускія выданні, унікальныя помнікі кніжнасці, пачынаючы з XVI стагоддзя. Пра іх — асобны аповед. І таксама трошкі пазней. А гэта «ўводнае слова» хочацца завяршыць таксама надзвычайнымі і для многіх неверагоднымі звесткамі з XVIII стагоддзя.

## Уніяты і стараверы. Гісторыя неверагоднага сяброўства

Лічыцца, што стараверы — перакананыя арта-доксы, і з культурай іншых канфесій хрысціянства стасункаў не дапусцілі б. Але вось кнігі беларускіх уніяцкіх друкарняў выдадзены... па замове старавераў. У гэты час замоў ад уніяцкіх манастыроў было мала, іх эканоміка перажывала істотны спад. А на тэрыторыі Расіі існавала забарона на выданне «раскольнической литературы». Між тым, кнігі, хоць і берагліся, але за стагоддзі зношваліся. Акрамя таго, выгода для друкароў ад выдання стараверскай літаратуры, на якую стараверы не шкадавалі грошай, была істотнай.

Вядома, што на тэрыторыі Рэчы Паспалітай старaверскія кнігі друкаваліся ў 1701—1812 гадах: у Магілёве (1701—1705, 1733—1773), друкарнях уніяцкіх манастыроў у Вільні (1767—1800 ці нават ажно да 1812 года), Супраслі (1777—1791), Пачаеве




Псалтыр Дагульфа. Каля 783—795.

(1782—1795), друкарнях Антонія Тызенгаўза ў Гродне (1781—1792) і П'ера Дзюфура ў Варшаве (1785—1788, 1798). Сярод іх былі не толькі перадрукі даніканаўскіх кніг першай паловы XVII стагоддзя, але і напісаныя самімі старaверамі тэксты, якія асвятлялі гісторыю барацьбы за захаванне старых абрадаў і палеміку з сінадальнай Царквой.

У XVIII — пачатку XIX стагоддзя ў Рэчы Паспалітай выйшла вялізная для таго часу колькасць стараверскіх выданняў — 150. Напрыклад, у 70-я гады XVIII стагоддзя друкарня Супрасльскага Благавешчанскага манастыра другой, пасля друкарні Віленскага Свята-Троіцкага манастыра, «стала печатать на коммерческой основе книги для старообрядческих общин





Карнеліа Чэлса. Медыцына. Фларэнцыя.
XV стагоддзе (1427).

России». І для тых жа веткаўскіх слабод і чытачоў, трэба заўважыць. Цяпер Супрасль — горад у Польшчы, у Беластокскім павеце Падляскага ваяводства.

Асабліва ж яркі другі «супрасльскі» перыяд прыпаў на сярэдзіну 80-х — пачатак 90-х гадоў XVIII стагоддзя і супаў з часам, калі прэфектам друкарні быў Мялецій Асухоўскі. Адным з замоўцаў стараверскіх выданняў з'яўляўся купец са Старадуб'я (сёння гэта суседнія з намі раёны Бранскай вобласці) П. І. Губараў. Усяго на пачатак 90-х гадоў XVIII стагоддзя ў Супраслі было надрукавана каля 70 стараверскіх выданняў, у асноўным богаслужэбных: псалтыры, гадзіннікі, святцы, мінеі, іншае. І вось з гэтага месца больш падрабязна: «Важной особенностью их оформления было использование наряду с досками, имитирующими дониконовские, также тех, что применялись в типографии для издания книг греко-католических и светских на польском и латинском языках». Так і траплялі гравюрныя адбіткі з арнаментам ракако, ампіру, сюжэтныя сцэнкі і свецкія матывы на старонкі стараверскіх кніг. І нікога, заўважым, не збянтэжылі. Бо Ветка развівалася, цесна ўзаемадзейнічаючы з культурай ВКЛ. І яе майстры-іканапісцы нязмушана выкарыстоўвалі зваротную старадаўнюю перспектыву для адлюстравання ў іконах вялікай архітэктуры ў стылях барока, ракако, класіцызму. А золатакавалі-чаканшчыкі спалучалі старадаўнія матывы візантыйскага арнаменту з ракавінкамі-грабеньчыкамі, вазамі, натуралістычнымі кветкамі — усім, што прыходзіла са стыляў XVIII стагоддзя. І вельмі арганічна спалучалі. Зрэшты, і сам асабняк, у якім размясціўся Веткаўскі музей, быў замоўлены ў канцы XIX стагоддзя веткаўскім купцом Цімафеем Паўлавічам Грошыкавым у стылі мадэрн, а менавіта «псеўдаготыкі». Мадэрновы асабняк пабудаваў і яго брат у Гомелі. То бок, казаць пра адсталыя і закасцянелыя густы ў нашым выпадку не варта.

Акрамя таго, у канцы XVIII — пачатку XIX стагоддзя ў таемных стараверскіх друкарнях было таксама надрукавана больш за 200 кніг. Гэтыя друкарні ў розныя часы дзейнічалі ў Клінцах (Чаргінаўская губерня, сёння Бранская вобласць, Расія), Ясах (Румынія), Янаве (Падольская губерня, сёння сяло Іванаў Калінаўскага раёна Вінніцкай вобласці, Украіна), Махноўцы (Кіеўская губерня, сёння сяло Бярдзічаўскага раёна Жытомірскай вобласці, Украіна). Дарэчы, апошняя друкарня была заснавана ў 1793 годзе Антоніем Пратазанам Патоцкім. Эканомам у ёй быў Тадэвуш Герынк. Друкавалі ў ёй кнігі на лацінскай і польскай мовах. Пасля трэцяга падзелу Польшчы друкарня перайшла ў валоданне расійскае. 21 снежня 1802 года, згодна з указам Кіеўскага губернскага праўлення, Махноўская друкарня была выстаўлена на аўкцыён, на якім маскоўскі купец-старавер Селязнёў набыў



Евангелле ад Іаана. Ініцыял «В». Беларускі рукапіс пачатку XVII стагоддзя.

яе за 3 520 злотых. На час пакупкі ў друкарні было «4 стана и 30 пудов литер российских и польских». У друкарні Селязнёва, па яго ўласных паказаннях 1804 года, друкаваліся кнігі на польскай, рускай і нямецкай мовах. У адрозненне ад польскіх кніг стараверскія выданні з указаннем у якасці месца паходжання Махноўкі невядомыя; звычайна ў іх захоўваліся тыя выхадныя дадзеныя, якія мелі выданні, што сталі крыніцамі перадруку, прычым для перадруку, як правіла, Селязнёў выбіраў кнігі, якія мелі найбольшы попыт.

Для параўнання: у XVIII стагоддзі ў ВКЛ выйшлі толькі 194 кнігі на літоўскай мове. Наклады стараверскіх выданняў былі вялікімі: напрыклад, аднаразовае выданне асобных кніг у Супраслі дасягнула некалькіх тысяч экзэмпляраў.

## Пра старадрукаваны арнамент

У сярэдзіне XV стагоддзя майнцскі гараджанін Іаган Генсфляйшцум Гутэнберг вынайшаў арыгінальны спосаб вырабу металічных літар, з дапамогай якіх пачаў набіраць і друкаваць кнігі. Для чалавечай цывілізацыі гэтая падзея мела грандыёзныя наступствы. «Гісторыя розуму мае дзве галоўныя эпохі: вынаходніцтва літар і друкарняў; усе іншыя былі іх следствам», — меркаваў Карамзін. «Вынаходніцтва кнігадруку — падзея, якая адкрыла другую частку сусветнай гісторыі і гісторыі мастацтва, зусім адрозную ад першай», — пісаў Гётэ.

Выраб друкаваных кніг распаўсюдзіўся неверагодна хутка. К канцу XV стагоддзя на тэрыторыі Еўропы ўзнікла каля 1100 друкарняў! Яны выпусцілі ў свет амаль 40000 выданняў агульным накладам больш як 12000 000 экзэмпляраў. Гэты перыяд у гісторыі кнігадрукавання — з 1440-х гадоў, калі Гутэнбергам былі атрыманы пробныя адбіткі, да 1 студзеня 1501 года — прынята называць «калыскавым», а выданні гэтага часу маюць найменне «інкунабулы» (ад лацінскай *incunabula* — «калыска», «дзяцінства»). Нягледзячы на тое, што многае ў інкунабулах было створана ўпершыню, яны да гэтага часу здзіўляюць сваёй сталасцю і высокай культурай выканання, наўрад ці пераўзыдзенай у наступныя эпохі. Але вялікія літары, ініцыялы па-ранейшаму выконваліся ўручную. І яшчэ не адно пакаленне пасля Гутэнберга выкананне кніжных вялікіх літар давярала не тыпографам, а каліграфам і ілюмінатарам.



«Ірмасы», 1777 год. Манах Феданорт. Лаўрэнцьеўскі стараверскі манастыр. З калекцыі Веткаўскага музея.



Данііл Яфімаў, сын Удовін. «Святы пеўчыя». Ветка — Старадуб'е. ІІ палова XIX стагоддзя.



«Святы пеўчыя». Рукапіс на паперы 1821 года. З калекцыі Веткаўскага музея.

Новая, друкаваная эстэтыка кнігі ўсё больш настойліва заяўляла пра свае правы, дыктуючы тыпографам уласныя законы, якія не заўсёды супадалі са старадаўнімі традыцыямі выканання манускрыптаў. Усё часцей здаралася, што прырода тыражнага выдання ўступала ў прамое пярэчанне з прыёмамі выканання адзінкавага рукапіснага экзэмпляра. Таму з канца 1470-х гадоў з тыпаграфскага працэсу паступова сталі выдаляцца ручныя работы, а кніжнае ўбранне пачало набываць універсальны выгляд. Першым, хто свядома пачаў выкарыстоўваць арнаментальны чорна-белы дэкор, адмовіўшыся ад далейшай яго расфарбоўкі, быў немец Эрхард Ратдольт, які адкрыў сваю друкарню ў Венецыі. Выдадзеная ім у 1477 годзе «Рымская гісторыя» антычнага гісторыка Апіяна не толькі залажыла асновы венецыянскага стылю ў аздабленні інкунабул, але і на дзесяцігоддзі наперад прадвызначыла выгляд заходне-еўрапейскай друкаванай кнігі. Менавіта з выданняў Ратдольта ініцыял набыў характэрную для наступных гадоў форму: белая антыквенная літара ў сярэдзіне чорнага квадрата. Каб збольшага разбавіць чарнату фона, гравёр запаўняў яго парасткамі бярозкі, якія вытанчана перапляталіся між сабой і заадно апляталі пісьмовы знак. Гэты еўрапейскі прынцып «чорнага мастацтва» выкарыстаў у 1517 годзе і Францыск Скарына — упершыню ў кірылічным друку, выпрацаваўшы не пераймальны, а глыбока творчы стыль.

У 1480-1488 гадах немец нідэрландскага паходжання ван Мекенем стварае серыю высокамастацкіх гравіраваных буквіц пад назвай Das grossere Majuskel-Alphabet («Вялікі прапісны алфавіт»). Так і нараджаецца «старадрукаваны стыль» арнаменту. Адрознай рысай гравюры, паміж іншым, з'яўляецца тое, што ў малюнку ўдзельнічае не толькі фарба, але і папера. На прыкладзе «Прапіснога алфавіта» гэтая ўласцівасць праяўляецца асабліва наглядна: гарманічны кантраст чорнай фарбы і белай паперы, аб'ёмная штрыхоўка, плаўнасць і вытанчанасць ліній даюць цудоўны эстэтычны эфект.

У аснову кампазіцыі кожнай літары быў пакладзены раслінны матыў, а менавіта — дэкаратыўная акантавая бярозка. Выбар расліны для пабудовы арнаментальных цел буквіц уяўляецца невыпадковым і звязаны не толькі з відавочнай прыгажосцю акантавага ліста, які яшчэ з часу Антычнасці служыў узорам для розных упрыгожванняў... У традыцыйнай заходне-хрысціянскай сімволіцы акант, як і цярноўнік, і чартапалох, адсылае да вобразу Пакут Гасподніх, да цярновага вянца і адначасова — да бессмяротнасці, вечнага жыцця і райскага саду, сімвалізуючы выратаванне праз выкупляльную ахвяру. Акантавы арнаментальны матыў сустракаецца на розных прадметах яшчэ дахрысціянскага часу, аднак найбольшае распаўсюджванне атрымлівае ў мастацтве заходнееўрапейскага Сярэднявечча, асабліва ў нямецкай готыцы.

Для гісторыі беларускай кніжнасці гэтая еўрапейская «эпоха маленства» надзвычай важная. Кніга ўжо не магла заставацца ранейшай. Надышоў час сплячення традыцый і ўзаемадзеяння «гістарычных аўтарытэтаў» у кніжным мастацтве. Зразумела, што еўрапейскі кантэкст у культуры ВКЛ праяўляецца ў той час нашмат мацней, чым, напрыклад, на землях Маскоўскай дзяржавы. Зразумела, што старадрукаваны стыль пранікае ў мастацтва аздаблення рукапісных кніг.

Разглядзім адзін з унікальных кніжных помнікаў з калекцыі Веткаўскага музея старабрадніцтва і беларускіх традыцый імя Ф.Р. Шклярава. Перад намі беларускі рукапіс пачатку XVI стагоддзя, выратаваны ад гібелі стараверамі і знойдзены Фёдарам Шкляравым у 1970-я гады ў адной з мясцовых вёсак. Там кніга ў апошні час жыла ў сям'і сялян. Гэта «Евангелле» упрыгожана ў двух стылях: балканскім і заходнееўрапейскім, старадрукаваным.

Балканская пляцёнка разышлася па ўсходнеславянскім свеце пасля заваявання Канстанцінопаля і Балкан у сярэдзіне XVI стагоддзя турэцкай Асманскай імперыяй. Тады мноства майстроў-кніжнікаў — грэкаў, сербаў — уцякло на ўсходне-славянскія землі, у тым ліку і беларускія. Плецены стыль меў яшчэ старадаўнія кельцкія карані. У Сярэднявеччы, магчыма, так перадавалася прамудрасць пабудовы свету і «пляценне славес». Акрамя таго, у славянскіх народных традыцыях пры дапамозе вузла ратавалі ад зла: ніхто не нашкодзіць, пакуль усіх вузлоў не развяжа! Дарэчы, над мудрай буквіцай К тут — таксама мудрагелісты надпіс, зроблены «вяззю». Сама назва за сябе кажа. Вязь — не толькі гарантыя аховы свяшчэннага тэксту. Зірніце на склад яе элементаў: літары, між сабою звязаныя, даюць густыя парасткі. Пазней Ветка мела самы прамы архетып у сваёй метафарычнай формуле: «Ветка (ветвь русских слобод, привитая на земле Великого Княжества Литовского) процветает…». А далей: «Убо процветшие на Ветке обители…». Але пакуль у гісторыі рукапісу пачатку XVI стагоддзя яшчэ няма расколу, і беларускі майстра аддае належнае старому балканскаму плеценаму стылю, пачынаючы з яго ўсю кнігу — то бок, сцвярджае гістарычную паслядоўнасць крыніц, а пры гэтым мяркуе, што першаўзор — «богодухновенен». Буквіца выконваецца кінавар'ю па контуры, а цела яе застаецца белым (той жа белы сілуэт паўторыцца ў старадрукаваным арнаменце, і мова рукапісаў — невыпадковыя ў гэтай гісторыі). Але некаторыя «прагалы» петляў зацямняюцца. Мне здаецца, што мова тканага беларускага арнаменту (рушнікоў) усё яшчэ ўзаемадзейнічае з кніжным арнаментам. Зрэшты, трыядзе «белы-чырвоны-чорны» 40 000 гадоў.

А вось пачатак Евангелля ад Марка суправаджае ініцыял «З». Ён выкананы ўжо ў старадрукаваным стылі. Нагадаем: першыя друкаваныя ініцыялы рэнесанснага тыпу з'явіліся ў канцы 1470-х гадоў у венецыянскіх выданнях. Мы бачым і тут тэму лістоў аканта, якія Адраджэнне пераймае ў культуры Антычнасці. А яшчэ адзін арнамент тут — у выглядзе тонкай белай бярозкі, якая аплятае літару, — быў вядомы ў Італіі пад назвай bianchi girari. Асабліва любілі яго на радзіме Рэнесансу — у рукапісных майстэрнях Фларэнцыі. Аднак прыгледзімся больш уважліва. Гэта не пераймання і не рабскае капіраванне «еўрапейскага». Па-першае, ініцыял — гэта чыста славянская літара З (яна называлася «Зямля»). І яго абрыс — абсалютна нацыянальны, у духу старога паўустава. А чорна-белую аснову (у старадрукаваным стылі) арнаментальнай буквіцы мастак не толькі нязмушана і вольна выканаў пяром, дапоўніўшы гэта павойнае «Зело-зелле» бутонамі, ягадамі, кветкамі, але і расквеціў кінавар'ю. Відаць, што святлаценявы рысунак выкананы ў духу гравюры — штрыхом, які то выгінаецца ў форме лістоў, то складана запаўняе плеценыя элементы. Але буквіца выразна прывязана да старонкі, не правальваючыся і не вытыркаючыся. І роля белай паперы ў прагалах — самая цудоўная.

Евангелле ад Лукі пачынаецца зноў са славянскага ініцыяла — «П». Называлі літару «Пакой». Літара не толькі запоўнена акантам, але сама прарастае. А на адным лісціку ўнутры (злева) — знак засеянага поля (гэтаму сімвалу 4 500 гадоў, і ён вандруе па нашым арнаменце бесперапынку). Бярозка паміж штамбамі-ствaламі — як і заўсёды, у садзе.



«Святы». 1810-я гады. Рукапіс з калекцыі Гомельскага палацава-паркавага ансамбля.

Дарэчы, гісторыя з бярозкай на Захадзе была загадкавай. Калі мастакі Рэнесансу звярнуліся да антычнай спадчыны, яны прынялі за сапраўдныя рымскія рукапісы старадаўнія і для іх кнігі. Але насамрэч гэта былі каралінгскія рукапісы лацінскіх класікаў (канец VIII — IX стагоддзе). У эпоху Карла Вялікага Еўропа перажыла «першы інтарэс» да спадчыны антычных аўтараў каралінгскага часу, а разам з тым і ўласцівыя гэтаму перыяду кніжныя аздабленні. У выніку дэкор каралінгскіх і раманскіх кніг запоўніў рэнесансныя рукапісы на правах антычнага. Па сутнасці, рысунак dei bianchi girari злучыў стылістыкі трох эпох: арнаментальныя матывы Сярэднявечча былі перапрацаваны ў духу Антычнасці так, як гэта ўяўлялі сабе майстры Адраджэння.

Яшчэ адно рукапіснае Евангелле беларускага паходжання з Веткаўскай калекцыі. Гэта твор пачатку XVII стагоддзя. Майстэрскае спляценне выяўленчых крыніц і перапрацоўка прыёмаў і тэхнік, якая прывяла да арганічнага арыгінальнага стылю.

Буквіца «В» («Веди», ведай) ствараецца з плеценых рамянёў (як у балканскім стылі). Але само пляценне з жывога рытму натуральнай вязкі ператворана ў рэгулярную геаметрычную форму, ускладнена, сімвалічна ўтрымлівае крыж. Гэта спадчына готыкі — у эпоху Рэнесансу. Затое асцярожныя парасткі ў кутах ранейшага арнаменту ператварыліся ў пышныя сцябліны. Яны буяюць, несучы новы імпульс энергіі — барока. І ўсё выканана ў гравюрным, старадрукаваным стылі. Якія разнастайныя пошукі, якія нечаканыя рашэнні!

А вось шыкоўная буквіца «З». Плеценая «па-балканску», але яе цудоўныя парасткі, здаецца, калышуцца ў паветры, як плюмажы на рыцарскіх шлемах. Гэта не перашкаджае літары мець сапраўдныя вочы. Як у гратэску эпохі Рэнесансу. Побач — тэкст: «Зачало евангелия IC X(ристо)ВА…». Шрыфт — «еўрапейскі», пад уплывам лацінскай антыквы. Першым крокі ў гэтым накірунку зрабіў Скарына.

Вырваўшыся на волю, акумулюючы энергію розных стагоддзяў, буквіцы старадрукаванага стылю працягваюць развіваць сваю адвечную тэму: непарыўнага, скрозь вякі, квітнення жыцця і бурнага росту. Добра відаць нястрымнасць гэтага пераможнага, літаральнага развіцця — юных пяшчотных бярозак — і магутных крон буквіц, кожная з якіх — Дрэва ў пачатку краіны-старонкі. Райскае дрэва, якое кідае насенне літар, а тыя ўжо прарастаюць парасткамі старадаўніх нот-«крукоў». Веткаўскія ініцыялы падхопліваюць гэтую жывую музыку. І сказаць, што яны проста ствараюцца ў старадрукаваным стылі, — гэта праўда, але гэта значыць — нічога не сказаць.

Рукапісная кніга «Ірмасы» з калекцыі Веткаўскага музея створана ў 1777 годзе. Пісаў яе манах Феданорт. Толькі ў 2010 годзе С. І. Лявонцьевай, галоўнаму захавальніку Веткаўскага музея, удалося даказаць, што гэты шыкоўны помнік створаны ў Лаўрэнцьеўскім стараверскім манастыры каля Гомеля. Раслінны імпульс яго арнаменту відавочна адухоўлены старадрукаваным арнаментам. Але і ўсімі працэсамі, якія спарадзілі і сам старадрукаваны арнамент. Парасткі буквіцы «Н» пранізваюць яе штамбы (так прынята называць вертыкальныя мачты літар, але тэрмін садаводчы: штамбы — ствалы, падвоі). Раслінная сіла парастка — асіметрычная, свабодна развіваецца ў абсалютна рэнесансным стылі. Аднак, калі паглядзець па часе, гэты ж імпульс асіметрычнага развіцця падхапіла ракако, а гэты стыль панаваў на тэрыторыі ВКЛ у 1730-я—1770-я гады. Няўжо веткаўскія старавеpы былі «у курсе справы»? Падобна, што так. Спалучэнне элементаў логікі (вышэйшай геаметрыі) з вобразным мысленнем «у раслінным стылі» ў гэтым рукапісе відавочнае.

А вось рукапіс стараверскага паходжання з калекцыі Гомельскага палацава-паркавага музея. Знаходзячыся ўнутры ўласнай традыцыі, мастак не толькі вольна транскрыбуе архітэктурныя традыцыі барока. Ён таксама імправізуе на тэму «старадрукаванага арнаменту». Гэты стыль усведамляецца як новы, але роўны — у шматвекавой гісторыі кніжнага арнаменту, які мы ўспрымаем як дэкаратыўны элемент. Але сімвалічны сэнс — нашмат глыбей. Візуальна мы разумеем, што мастак наследаваў старадрукаваны стыль у яго еўрапейскім варыянце: цела літары застаецца белым… Але ўжо той чорны фон Еўропы заменены каляровым. А гэты жоўты апелюе да каляровых еўрапейскіх, якія нашмат старэйшыя, чым кнігадрукаванне…

Цяпер зноў да вытокаў веткаўскай калекцыі. Вось рукапіс на паперы 1821 года. Аляксандру Пушкіну ў гэты час 22 гады. А веткаўскі майстра (рукапіс захаваўся цудам, выратаваны быў ад гібелі ў 1930-м і знойдзены чарнобыльскімі пажарнымі ў 1986-м) шыкоўна імправізуе на тэму «старадрукаванага арнамента». Гравюрны штрых па-ранейшаму выяўляе святлаценявую форму. Але ён вяртае сабе старую свабоду колеру: як у іканапісе, сімволіка святланосных тонаў развівае дыялектыку залатога=жоўтага=аранжавага як увасаблення боскага святла і нястрымнага зялёнага, зямнога развіцця вольных парасткаў. І як не паверыць, што веткаўскі мастак усёй верай сэрца не сцвярджаў сілу сваёй культуры — «цветущей Ветки»…

Другая палова XIX стагоддзя. Здаецца, старыя матывы — гэта толькі правінцыйныя перапевы сталічнага мастацтва. Але не! Гэта рукапісная кніга са старадаўняй натацыяй (запіс спеваў даадраджэнскім, візантыйскім спосабам, у пачатку XX стагоддзя «крукі» ўзарвалі свядомасць Стравінскага, Пракоф'ева — а пасля і ўвесь свет…). Але ўпрыгожаны рукапіс у духу таго стылю, які натхніў культуру Веткі на тэрыторыі ВКЛ у пачатку XVIII стагоддзя. Гэта быў стыль ракако. Ад такой вытанчанасці не адмовіўся б ніводзін кніжны майстра, будзь ён і англійскім лордам (праверана падчас экскурсій з замежнікамі ў Веткаўскім музеі).

Вось неяк так, а таямніц у нашай гісторыі не робіцца менш. Трэба толькі глядзець цікаўнымі і чыстымі вачыма маладосці — і ў нашай даўніне нам адкрыецца не толькі пералік аўтарытэтаў, але і новы свет, які нараджае энергію, — у нашым дыялогу з продкамі!

## «Вы и нас, трудившихся, не забывайте…»

З такой просьбай звярнуўся да нашчадкаў, а значыць, да нас адзін з першых беларускіх друкароў Пётр Мсціславец у сваім Пасляслоўі да Евангелля 1575 года. І цяпер, асабліва ў год юбілею — пяцісотгоддзя беларускага кнігадрукавання, — мы ўсё часцей згадваем імёны і працы не толькі першых беларускіх друкароў.

Нам часам са здзіўленнем задаюць пытанне пра тое, якое, уласна, дачыненне маюць стараверы да беларускага кнігадрукавання. І мы адказваем: самае непасрэднае. Справа



«Евангелие учительное». Заблудаў, 1569. Друкары — Іван Фёдараў, Пётр Мсціславец.

ў тым, што калі б не стараверы, мы ніколі б не ўбачылі ні старадаўніх рукапісных кніг, ні кніг першых рускіх і беларускіх друкароў. Трапіўшы пад забарону пасля царкоўнай рэформы, яны проста зніклі б: згнілі, струхлелі, згарэлі…

Старaверам жа такое духоўнае сілкаванне было неабходна і ў далёкім XVII стагоддзі, запатрабавана яно ў іх і сёння. Таму, як адзначаў этнограф І. Абрамаў, пабыўшы ў Ветцы ў пачатку XX стагоддзя, «они свято хранили древние книги, но не как вещи, имеющие ценность, как нечто старое, а как материал для поучения и чтения назидательного и душеполезного». Сведкамі менавіта такога стаўлення да кнігі з'явіліся і мы ў 1983 годзе, калі ў адной з вёсак трапілі ў дом Ірыны Рыгораўны Далговай і ўбачылі на стале разгорнутую кнігу, якую яна чытала. Як аказалася, гэта быў «Апостол», надрукаваны Іванам Фёдаравым у 1574 годзе ў Львове. Зведаўшы шок, мы сутаргава пачалі падлічваць, колькі ж пакаленняў прайшло ад рук першага рускага друкара да рук гэтай жанчыны. Налічылі шаснаццаць. Шаснаццаць пакаленняў звязалі тонкай ніткай стагоддзі і данеслі да нас гэтую дзівосную любоў і павагу да Слова!

Шматлікія ўспаміны мясцовых жыхароў сведчаць пра ўнікальныя помнікі, якія існавалі на Веткаўскай зямлі. Напрыклад, у вёсцы Тарасаўка Веткаўскага раёна Тараканаў Мікіта Дзям'янавіч 1910 года нараджэння расказваў пра тое, што ў 1960-я гады ён падарыў «Острожскую библию» Івана Фёдарова ў Каўнас. У яго ж была і першая датаваная кніга маскоўскай друкарні — «Апостол» 1564 года, які «падчас вайны салдаты адрылі і выкарыстоўвалі на свае патрэбы». Яшчэ больш уражвае тое, што з Тарасаўкі ў 1960-я гады быў вывезены і «Статут літоўскі» 1588 года.



«Евангелие». Вільня, 1575. Друкар — Пётр Мсціславец.

Самым раннім сярод выданняў XVI стагоддзя ў фондах Веткаўскага музея з'яўляецца «Евангелие учительное», або тлумачальнае. Упершыню такое «Евангелие» было выдадзена на тэрыторыі ВКЛ у 1569 годзе ў Заблудаве дзякуючы асветніцкай дзейнасці беларускага магната Хадкевіча, які пабудаваў друкарню ў сваім маёнтку і запрасіў туды прыбылых з Масковіі Івана Фёдарава і Пятра Мсціслаўца.

У сваім мастацкім афармленні заблудаўскае «Евангелие» ўзыходзіць да традыцый беларускага мастацтва кнігі, якое перажывала заходнееўрапейскія павевы. Упершыню ва ўласнай творчай практыцы Іван Фёдараў і Пётр Мсціславец увялі ў кнігу тытульны ліст, упрыгожылі яе геральдычнай гравюрай, канцоўкамі. Геральдычная гравюра як самастойная ва ўсходнім кнігадрукаванні раней не сустракалася. Менавіта яна надае кнізе свецкі выгляд.

У сваю чаргу, беларуская кніжная графіка ўзбагачалася новымі традыцыямі. У заблудаўскім «Евангелии» упершыню з'яўляюцца застаўкі, выкананыя ў старадрукаваным стылі. Шрыфт заблудаўскіх выданняў таксама стаў узорам для многіх пакаленняў беларускіх тыпографаў.

Кнігі, выдадзеныя ў Заблудаве, выканалі важную місію — яны сталі сувязным звяном паміж кнігадрукаваннем Расіі, Беларусі, Украіны. Друкарня, з дазволу Хадкевіча, з Заблудава была перавезена ў Львоў. У знак падзякі яму Іван Фёдараў памясціў гравюру з гербам у першай кнізе, якая выйшла на тэрыторыі Украіны, — львоўскім «Апостале» 1574 года.

Другі беларускі майстар, Васіль Гарабурда, перадрукаваў шмат якія выданні Пятра Мсціслаўца, Івана Фёдарава і Віленскай друкарні купцоў Мамонічаў. Да такіх належыць і «Евангелие учительное», надрукаванае ў 1580 годзе. Яно з'яўляецца амаль дакладнай копіяй заблудаўскага «Евангелия учительного» 1569 года. З арыгіналам яго блыталі нават вопытныя бібліёграфы.

Кніга на працягу многіх пакаленняў перадавалася як самая каштоўная спадчына, пра што сведчыць запіс XIX стагоддзя на прыпераплётным лісце ў канцы экзэмпляра: «Сия книга пренадлежитъ Ивану Соколову. № 1-й наследница Анна».

У перыяд працы Пятра Мсціслаўца ў Віленскай друкарні Мамонічаў былі выпушчаны кнігі, найбольш дасканалыя ў мастацкім афармленні. Сярод іх — «Тетроевангелие», выдадзенае ў 1575 годзе. У пасляслоўі да кнігі Пётр Мсціславец дзякуе беларускім купцам Луке і Кузьме Мамонічам за стварэнне друкарні і адзначае, што змог выдаць гэтую кнігу «умышлением и промышлением его милости пана скарбного Ивана Семеновича Зарецкого и брата его пана Зенона бурмистра места Виленского».

Кніга надрукавана буйным прыгожым шрыфтам. Малюнкам ён падобны да буйнага паўустава беларускіх рукапісаў. Такі шрыфт упершыню быў адліты Пятром Мсціслаўцам. Пазней яго капіравалі ў Маскве, Вільні, паўсюль, дзе друкаваліся напрастольныя Евангеллі.

Пятром Мсціслаўцам выкананы і арыгінальныя гравюры ў стылі маньерызму. Позы евангелістаў і іх сімвалаў манерна-мудрагелістыя. Архітэктурныя дэталі вылучаюцца ускладненасцю форм, багаццем дэкору. Іх упрыгожваюць фантастычныя арабескі. Асіметрычнасць расліннага арнаменту ў застаўках, гравюрах надае яму рытмічную рухавасць.

## «Надана в монастырь Кутеинский»… Запісы ў кнігах

Практычна кожная старадрукаваная або рукапісная кніга з'яўляецца ўнікальным гістарычным, літаратурным, мастацкім помнікам, вартым дасканалага вывучэння. Але акрамя таго, амаль у кожнай кнізе ёсць матэрыял, які па каштоўнасці параўноўваецца толькі з архіўным. Гэта запісы, пакінутыя ўладальнікамі ў розныя часы. Укладныя, купчыя, дарчыя, падзейныя — яны робяць кнігу па-зямному «жывой», здольнай хаця б у нейкай ступені расказаць нам пра сваю доўгую вандроўку ў часе і прасторы. Калі бярэш у рукі такую кнігу, адчуваеш вялікае хваляванне. Заўсёды здаецца, што варта расшпіліць тоўстыя дубовыя вокладкі, — і ажывуць стагоддзі: загучаць назвы гарадоў, цэркваў, манастыроў, імёны ўладальнікаў, і час пройдзе скрозь цябе, і ты быццам убачыш бесперапынную нітку, якая звязвае цябе з дзясяткамі пакаленняў папярэднікаў.

Намі прачытана каля 800 запісаў амаль што ў 600 старадрукаваных і рукапісных кнігах XVI — пачатку XX стагоддзяў. Шмат якія запісы звязаны з беларускай зямлёй. І гэта натуральна, паколькі стараверы, акрамя таго, што жылі на гэтых землях, усталёўвалі кантакты з усімі духоўнымі цэнтрамі Рэчы Паспалітай. З беларускіх манастыроў і цэркваў да іх траплялі «непотребные» кнігі.

У «Минее февральской», надрукаванай у маскоўскай друкарні ў 1622 годзе, ёсць два запісы. Першы — укладная XVII стагоддзя — гаворыць нам пра тое, што кнігу ўклаў «в Орше в монастырь Кутеиной великий и полномошный посол старший боярин и наместник Вологод[ский] Василий Иванович …». На жаль, ад прозвішча застаўся толькі пачатак «Стре…», астатняя частка вытраўлена. Кніга была ўкладзена ў Богаяўленскі мужчынскі манастыр у 1646 годзе пры ігумене Іаілі. Менавіта тым Іаілі (Труцэвічы), які ўзначаліў у 1632 годзе друкарню, заснаваную пры Куцеінскім манастыры. Дарэчы, у 1656 годзе гэты манастыр наведваў цар Аляксей Міхайлавіч. Ён быў захоплены працай беларускіх рэзчыкаў па дрэве. А знакамітых майстроў Арсенія і Паісія накіраваў у Каломенскае ўпрыгожваць царскі палац. Другі запіс — уладальніцкі, зроблены



Сустрэча з кнігай, якой 350 гадоў. Злева — Ф. Р. Шкляраў, справа — старавер Я. Г. Цішанкоў. Пачатак 1980-х.

ў XVIII стагоддзі, сведчыць пра тое, што «Минея» знаходзіцца ўжо ў Магілёве і належыць «церкви Вознесения Господня и святого Иоанна предтечи монастыря Борколабовскаго паненскаго». Калі кніга аказалася ў стараверАў, невядома, але ў пачатку 1970-х гадоў Фёдар Рыгоравіч Шкляраў набывае яе ў адной з вёсак Веткаўскага раёна.

Не менш цікавы лёс «Учительного евангелия», надрукаванага ў Заблудаве ў 1569 годзе. Цэлы ланцужок запісаў дае нам магчымасць трошкі да яго дакрануцца. Па рэштках амаль вытраўленага запісу XVII стагоддзя мы можам меркаваць, што ў 1647 годзе кніга была ўкладзена ў Спаскую царкву, якая знаходзілася ў валадаранні «князя литовскаго руского пруского жомонецкого фланцкого шведцкаго годцкаго вандлевского дидичнаго Кроля». Запіс зрабіў «писарь виленский земской Анатолий».

Паводле запісу, зробленага ўжо ў XVIII стагоддзі, мы бачым, што ў 1732 годзе ўладальнік кнігі падлічваў, колькі гадоў прамінула з часу яе выдання і з моманту паступлення ў Спаскую царкву: «Сия Книга Глаголемая евангелие учительное. Куплена Сия Книга 1732-1647 году. Итого летъ куплена 0085. З типографии вышла 1732-1569 году итого печатана 0163». Магчыма, кніга яшчэ знаходзілася ў гэтай царкве. Але з запісаў XIX стагоддзя мы даведваемся, што «Учительное евангелие» ужо ў прыватных руках жыхароў Веткаўска-Старадубскага рэгіёна. У 1842 годзе нейкі Іван Якімаў дзякуе Івану Іванавічу за тое, што той даў яму пачытаць «Ивангилия Толковаго». А ў 1861 годзе пакінуў свой подпіс у кнізе Пётр Іванавіч Беспалікаў. Род Беспалікавых ідзе з былой веткаўскай слабады Лявонцьевай (цяпер вёска Лявонцьева Добрушскага раёна). Сын Пятра Іванавіча Беспалікава Кір Пятровіч быў свяшчэннікам. У пачатку XX стагоддзя ён служыў у царкве Пакрова прасвятой Багародзіцы ў Навазыбкаве. І апошні запіс зрабіў Фёдар Рыгоравіч Шкляраў: «Эту книгу подарила мне Ирина Тарасенко (из деревни Леонтьево), ноябрь 1969 год. Ф. Шкляров».

Яшчэ больш цікавы лёс іншай вельмі рэдкай кнігі з фондаў Веткаўскага музея. «Устав-Око церковное» лічыцца галоўнай царкоўнай кнігай. Яе называюць «асноўным ключом» богаслужэнняў. Надрукавана ў 1610 годзе ў Маскве Анісімам Радзішэўскім, выхадцам з Польска-Літоўскай дзяржавы. У свеце захавалася трошкі больш за дзясятак экзэмпляраў гэтага ўнікальнага выдання, паколькі яго чакала сумная доля. Амаль тысячны наклад на Русі быў аддадзены агню. Дзіўна, але наша кніга засталася жывой. Аказваецца, як і старавеРы, яна знайшла выратаванне на беларускай зямлі. І пра гэта мы даведваемся з запісу, зробленага ў XVII стагоддзі: «Сия Книга глаголемая Устав жалована от государя царя и великого князя Алексея всея великия и малея и белея России самодерзща. Надана на храм божий Живоначальную тройцу на мирской монастир Браславского уезду старчу киларю Григорыю Карскому». З гэтага запісу зразумела, што кніга не пазней як з 1676 года знаходзіцца на тэрыторыі Беларусі (апошні год праўлення Аляксея Міхайлавіча). І канечне ж, дзякуючы толькі гэтаму яна захавалася. Аляксей Міхайлавіч уласнаручна дорыць яе кілару, то бок, эканому Браслаўскага манастыра Рыгору Карскаму. Гэта сапраўды царскі

падарунак, паколькі кнігі каштавалі столькі, што лічыліся скарбам. Калі «Устав» апынуўся на Веткаўскай зямлі, невядома. Верагодна, ужо ў XVIII стагоддзі. У XIX стагоддзі на палях аднаго з лістоў пакінуты лаканічны надпіс: «1865 года был пожар». Належала кніга Раманавым — служыцелям Пакроўскай царквы, што знаходзілася ў былой Веткаўскай слабадзе Раманавай (вёска Барба Веткаўскага раёна, зніклая пасля Чарнобыльскай катастрофы). Апошнім уладальнікам быў Аляксандр Каліновіч, у доме якога ў 1971 годзе Фёдар Рыгоравіч і ўбачыў упершыню гэтую кнігу, а ў 1973 годзе стаў шчаслівым уладальнікам унікальнага выдання. У 1983 годзе «Устав» у складзе калекцыі старадрукаў і рукапісных кніг, сабранай Фёдарам Шкляравым, паступіў у фонды Веткаўскага музея.

Яшчэ нямала загадак хаваецца ў кожнай кнізе за тоўстымі дубовымі дошкамі, абцягнутымі скурай, сцягнутымі шырокімі рамянямі засцежак. І, магчыма, нам яшчэ давядзецца раскрыць хаця б некаторыя з іх.

## «Сия святая и богодохновенная книга …»

Адным з важных аспектаў, якія ўключае ў сябе паняцце «кніжная культура», без сумненняў, з'яўляецца аспект этычны. Ён не толькі ў тым, што кніга займала асаблівае месца ў маральным станаўленні чалавека, але і ў стаўленні да яе і чытання. Уражвае тое, што старaверскі асяродак не толькі данёс да нашых дзён старадаўнюю кнігу, але і захаваў традыцыйную культуру стасункаў з ёю. Тую культуру, для якой здаўна характэрна было прызнаваць кнігу «честнее чистого злата и серебра и многоцветного бисера и камений дорогих». Чалавек разумеў, што «как птица без крыльев не может на высоту подняться, так и ум не можетъ додуматься, как без книг спастись». Кнігу параўноўвалі з вялікім караблём, нагружаным скарбамі. Параўнанне ж яе з грознай зброяй — далёка не проста вобраз. Менавіта так успрымалі яе не толькі ў старaверскім асяродку. Прыкладам гэтаму можа стаць пранізлівы аповед, запісаны намі ад Быкавай Праскоўі Кузьмінічны, 1894 года нараджэння, ў вёсцы Лявонцьева.

«Утром рано зарей пришли к нам люди:

— Чи можно у вас вобыск сделать? Говорят, у вас оружие есть.

— Помилуйте, никакова оружия нет у нас.

Почали всюдых-всюдых вобыск. Подошел один в угол, там книг много, они и говорят:

— Ну, вот и оружие, а вы говорили, что нету.

Наклали целый мешок книг.

— Дедушка, бери!

А дед:

— Я уже не возьму.

— Бери!

Дед шубейку одел, книги взвалил на себя и пошел. С тех пор мы ево больш и не видали. Ему было тода, в 1931 году, 70 лет. Это свекор мой — Быков Никифор Иванович».

Кнігі ў любыя часы падзялялі «огнепальные» лёсы старавераў. У «Праздниках певчих», напісаных у слабадзе Агародні ў пачатку XX стагоддзя, на адным з апошніх пераплётных аркушаў чытаем: «Сия книга была обречена к сожжению колеблющимися совестию младоумными. По внушению Божию спасена 1937 года не одна а пять книг, Боброва Мария Тимофеевна».

Падчас экспедыцыі Веткаўскага музея да старавераў. 1980-я.



Кніга ў стараверскім асяродку лічылася не толькі важнай крыніцай ведаў, у большай ступені цанілася карысць для душы тых ідэй, якія яна змяшчае. Напэўна, таму маральны аспект у дасягненні ведаў быў на першым месцы. Не столькі розумам павінен чалавек спазнаць кнігу, колькі трапятаннем душэўным, асабліва калі гэта боскае слова. Гэтаму вучылі маладых настаўнікі: «Со вниманием и тихостью читати, а не борзяся. Принимать стихи кротостию от сердца своего».

У прыманні стараверамі кнігі, у дачыненні да яе самой назіраецца дзівоснае зліццё чалавечай асобы і кнігі, што, паводле меркавання сучасных даследчыкаў, якраз і з'явілася інструментам захавання і ўзнаўлення ўсяго аб'ёму традыцыйнай культуры як сістэмы ў асяродку старавераў. Адзін з самых яскравых вобразаў, якія атаясамліваюць кнігу з асобай, стварыў пратапоп Авакум у сваёй «Книге толкований». Але такі прыклад можна прывесці і з нашага часу. У 1987 годзе мы прывезлі ў Агародню Добрушскага раёна, у дом Аляксандры Савельеўны Кушняровай (1909 — 1995), кнігу XIX стагоддзя «Житие Николы» у абмен на «Минею» XVII стагоддзя. Яна прыняла яе, заплакала і сказала: «Ну вот, наконец-то, хозяин появился в доме».

Кнігу як самую каштоўную спадчыну перадавалі з пакалення ў пакаленне. Сярод шматлікіх запісаў найчасцей сустракаюцца дарчыя, падобныя да гэтай: «Сия книга отдана моему сыну родному во благословление Прохору Агафонову Андрееву сие подписал отец его Агафон Павлович Андреев. 1863 году». Калі маёмасць дзялілася паміж роднымі, кніга ўдзельнічала як адна з галоўных каштоўнасцей. Напрыклад, у «Минее общей» XVII стагоддзя паведамляецца, што «Сия книга по разделу досталася Артемию Васильеву Смирнову от братьев».

Кнігу ўкладалі ў царкву на памін сваёй душы, бацькоўскай або ў памяць пра цэлы род. Гэта сапраўды быў вялікі ўклад. І ў традыцыйных з гэтай нагоды запісах у ёй адчайна праклінаўся на некалькі стагоддзяў тыя, «кто дерзнет ее от Храма того взяти». Гэта лічылася смяротным грахом.

Такое стаўленне да кнігі ў стараверскім асяродку народжана традыцыйным для Старадаўняй Русі гледжаннем на яе і на слова. Паводле сярэднявечнага ўяўлення, свет — гэта кніга, то бок, тэкст, які ўвасобіў боскі сэнс. Гэты пагляд, уласна кажучы, працягвае ранневізантыйскія традыцыі, для якіх характэрна ўспрыняцце кніжнай прадметнасці, рэчнасці, яе «плоці» як святыні і як матэрыялізацыі таямнічых сіл. Як ні дзіўна, але пацвярджэнне гэтаму мы ўбачылі ў адной з малітваў, запісаных у мясцовым рукапісным зборніку канца XVIII стагоддзя: «Книги разгнутся (т.е. откроются) и явлена будут деяния человекомъ».

Багаслоў і філосаф XVI стагоддзя Рыгор Палама лічыць, што «вселенную можно назвать сочинением Самоипостасного Слова». Адначасова, з'яўляючыся «кнігай», гэты свет спасцігаўся праз яе і перш за ўсё праз мову царкоўных пісанняў. Паводле хрысціянскага светапогляду, Слова — гэта Бог, які ўвасобіўся ў вобразе Ісуса Хрыста, які, адпаведна, нясе ў сабе гэты слоўны вобраз-сімвал. Таму гэтаксама, як за Хрыста, за «аз единый», паводле выказвання Авакума, гатовы былі яго паслядоўнікі ўзняцца на дыбу, згарэць у агні. Гэтым, на наш погляд, тлумачыцца і трапяткое стаўленне да рэстаўрацыі кніг. Майстры-пераплётчыкі імкнуліся захаваць нават самыя дробныя фрагменты тэксту, нават адзіную літарку.

Святасць кнігі была раўназначная святасці святых. Адсюль і асаблівае захаванне. Арына Радзівонаўна Юрчанка (1910—2006) расказвала: «Книг у нас много было. У отца специальный шкафчик был — там все эти книги. Уже туды, боже сохрани, — ничего. Он говорил: «Поаккуратней вы с книгой, это как святое. А шо вы так обращаетесь»». Павага да кнігі як увасаблення ісціны і прыгажосці была характэрнай не толькі для старажытнарускага чалавека.

Аўтарытэт кнігі ў асяродку старавераў быў настолькі бясспрэчным, што, паводле слоў веткаўчанкі Матроны Андрэеўны Чарнаглазавай, «никогда на книгу «книжка» не говорили, только «книга», уважительно». Асаблівае стаўленне да кнігі бачыцца яшчэ і ў тым, што амаль у кожным запісе (укладным, дарчым, іншых) слова гэтае пішацца з вялікай літары. Стараабраднiцтва складвалася як культура, якая ўзняла кнігу на сапраўды хрысціянскую вышыню. Гэтая культура данесла да нас скрозь стагоддзі, войны, пажары нашу самую галоўную спадчыну — Кнігу.

# Проста рабіць дабро

## Як праваслаўныя «братчыкі» дапамагаюць пацыентам інтэрнатаў

**Кожны чалавек прызваны служыць тым, хто побач з ім. Але як дапамагчы тым, ад каго адраклося грамадства і нават сям’я і блізкія людзі? Разам з праваслаўным брацтвам св. Спірыдона Трыміфунцкага наша карэспандэнт Надзея Філіпчык наведала некалькі псіханеўралагічных інтэрнатаў Мінскай вобласці.**

Велізарную актавую залу з драўлянымі крэсламі і старэнькай рыпучай падлогай пачынаюць запаўняць людзі. Гэта — пацыенты, ці, як кажуць на праваслаўны манер, насельнікі псіханеўралагічнага інтэрната ў вёсачцы Куль. І сёння ў іх госці — члены праваслаўнага брацтва імя святога Спірыдона Трыміфунцкага, якое ўжо некалькі гадоў апякае іх інтэрнат. «Братчыкі»— заўсёды чаканыя: і тут, і яшчэ ў адзінаццаці псіханеўралагічных інтэрнатах і сацыяльных установах Мінска і Міншчыны.

Кіраўнік брацтва Сяргей Доўгаль пачаў займацца дабрачыннасцю, напэўна, нечакана для самога сябе, у 2012 годзе, падчас Вялікага посту, пасля прагляду фільма «Фарпост». Гэтая стужка — пра ўкраінскага архіепіскапа, які стварыў велізарны прытулак для сірот, — так натхніла Сяргея, што ён адразу паехаў у адзін з дзіцячых псіханеўралагічных інтэрнатаў. Прыехаў — і зразумеў, што жыць без гэтых людзей, без дапамогі ім і шчырага сяброўства з імі — не здолее. Вакол Сяргея пачалі збірацца людзі, таксама зацікаўленыя ў дапамозе інвалідам, і так паступова ўтварылася брацтва пры праваслаўным прыходзе Спаса-Прэабражэнскага сабора ў Заслаўі. Нябесным заступнікам быў выбраны прападобны Спірыдон Трыміфунцкі — адзін з найславуцейшых грэчаскіх святых, мошчы якога знаходзяцца зараз на востраве Корфу і вядомыя шматлікімі цудамі. Так святы, што жыў за тысячы кіламетраў ад Беларусі, стаў сваім для заслаўскіх «братчыкаў». Яго выява з’явілася на хустачках і майках, у якіх «братчыкі» наведваюць інтэрнаты.



З таго часу прамінула пяць гадоў, цягам якіх ініцыятыва аднаго чалавека перарасла ў вялікі дабрачынны рух. Цяпер брацтва налічвае каля сямідзесяці чалавек, яшчэ каля ста чалавек дапамагаюць у якасці валанцёраў. Але ў акцыях па збору сродкаў для насельнікаў інтэрнатаў, што ладзяцца ў сталічных гіпермаркетах, прымаюць удзел прадстаўнікі ўсіх моладзевых арганізацый Мінска і ўсёй Мінскай епархіі. Людзі, якія хочуць душой дапамагчы іншым, праз дзейнасць брацтва маюць магчымасць рэалізаваць гэта жаданне, а інваліды — атрымаць доўгачаканае душэўнае цяпло і рэальную дапамогу.

Што робяць «братчыкі»? Канешне, яны стараюцца дапамагаць насельнікам інтэрнатаў рэчамі першай неабходнасці — сродкамі гігіены, памперсамі для ляжачых хворых, канцылярскімі прыладамі і іншым. І трэба бачыць, як падапечныя брацтва радуюцца самым простым рэчам, такім, як пакецік гарбаты ці кавалачак пірага.

Але не ў гэтым сэнс існавання брацтва, што асабліва падкрэслівае яго кіраўнік. Больш важным, на думку валанцёраў, з’яўляецца



далучэнне насельнікаў да духоўнага жыцця і царкоўных Таінстваў. «Братчыкі» стараюцца быць не проста «паштальёнамі», якія прывозяць дабрачынную дапамогу. У кожны свой прыезд яны размаўляюць з насельнікамі пра галоўнае — пра веру, Хрыста і пра тое, як быць сапраўдным хрысціянінам і чалавекам.

Заўважана, што чалавек, які наведвае інтэрнаты, мяняецца, і глыбока. Раптам бачыш, што жыццё, якое здавалася бессэнсоўным, насамрэч прыгожае і поўнае самых цудоўных імгненняў. Раптам пачынаеш цаніць тое, што маеш, і круціцца галава ад разумення сваёй свабоды — свабоды выйсці з дома, калі пажадаеш, і пайсці ў кіно, парк, ды проста прайсціся па вуліцы. Звыклыя рэчы таксама змяняюцца для валанцёра, і вось ужо звычайная кватэра ў параўнанні з інтэрнацкімі палатамі ператвараецца ў царскі палац, а самыя простыя прадукты робяцца каштоўнейшымі і смачнейшымі за што іншае. Магчыма, гэта пераасэнсоўванне ўласнага жыцця і ёсць тое, што зноў і зноў, у любое надвор'е, цягне «братчыкаў» у інтэрнаты. А яшчэ — жаданне дапамагаць і разуменне, што там, за высокімі сценамі інтэрнатаў, іх вельмі любяць і чакаюць.

— Сёння мала хто ў Беларусі ведае пра праблему інтэрнатаў, і я пра гэта раней нічога не ведаў, — тлумачыць Сяргей. — Зараз у краіне каля 33 тысяч чалавек пражывае ў 137 інтэрнатах рознага профілю, і яшчэ сотні тысяч інвалідаў жывуць у хатніх умовах. Іх пачуццё любові да нас нерастрачанае, яно ў іх захавана па міласці Божай, і я заўсёды прашу іх памаліцца. І я цяпер не ведаю, хто больш атрымлівае, а хто больш аддае: так, фізічна ты стамляешся, але духоўна ты набываеш вельмі шмат, і гэта адчуваецца ва ўсім. Кожнае наведванне інтэрната— гэта малая Пасха.





Падчас наведвання аднаго з інтэрнатаў звяртаю ўвагу на жанчыну ў хустцы, гадоў 40-50, што трымае ў руках некалькі складзеных лісткоў паперы. Бачу, што на іх нешта ёсць, прашу паказаць і — адчуваю, як захоплівае дыханне: там унутры — малюнкі. Зусім простыя тэмы — звяры, будынак, дрэва, але колькі душы ўкладзена ў іх!

І ў такія моманты разумееш: меў рацыю старац Мікалай Гур'янаў, які казаў, што збаўленне чакае тых, хто служыць пацыентам псіхіятрычных клінік. Бо збаўленне ёсць у жыцці з Богам і ў Бозе, які ёсць Любоў, а любоў — тое, чаму ў гэтых людзей можна навучыцца лепей, чым па любым падручніку.

Прачытаць пра дзейнасць брацтва і даведацца пра тое, як дапамагчы «братчыкам», можна на сайце *bratstvost.by*

**Святлана Курганава**

# Траецкі фэст у Мінску

Кожнае царкоўнае свята — гэта не проста ўспамін пра «паданні даўніны глыбокай», але і асэнсаванне пэўных адвечных рэчаў, так цесна звязаных з лёсам чалавецтва.

Мы завіталі на свята Тройцы ў храм Мікалая Японскага ў Мінску. Маленькія зялёны куток між гарадскіх пабудоў. Сёння — 4 чэрвеня — тут шмат музыкі, перад царквой — дываны. А вакол — спрэс прыемныя знаёмствы. Пакуль вернікі весяліліся, мы прыселі на схіл пагорка за царквой з протаіерэем Паўлам Сердзюком і трохі паразмаўлялі — пра храм, пра людзей і, канечне ж, пра фестываль.

**— Вашы вернікі — гэта толькі жыхары гэтага мікрараёна ці яны прыязджаюць яшчэ адкуль-небудзь?**

— У асноўным толькі жыхары нашага мікраёна, але і прыязджаюць. У нас ёсць вернік з Японіі — Хітошы Танака. Ён студэнт факультэта журналістыкі БДУ. Сімвалічна тое, што на першым богаслужэнні ў нашым новым храме ў дзень святога Раўнаапостала Мікалая Японскага, 16 лютага, з'явіўся шызы ад марозу японец, захутаны ў шалік. І з таго часу наша сяброўства працягваецца і мацнее. Гэта знак для мяне, што святы Мікалай Японскі асабліва апякуецца нашым храмам.

**— Як складваюцца адносіны з раёнам, з людзьмі, якія тут жывуць?**

— Храм стаіць на гэтым месцы пяць гадоў. За гэты час вакол выраслі дамы, у якія засяліліся людзі, і я рады, што ў нас пакуль няма ніводнага сур'ёзнага канфлікту. Іду па мікрараёне — мяне пазнаюць, вітаюцца. Для народа, што 70 гадоў адпрэчваў веру і ганьбаваў яе носьбітаў, гэта сур'ёзныя зрухі — калі святар выклікае станоўчыя эмоцыі. Я перакананы, што вяртанне такой міралюбнасці — гэта сімптом змены ў душах. Мне хочацца, каб наш прыход стаў прасторай аб'яднання людзей.

**— Фестываль «Траецкі фэст» праходзіць другі раз. Як увогуле з'явілася ідэя праводзіць такое мерапрыемства?**

— У нас вельмі «неспакойныя» вернікі — актыўныя і творчыя, яны маюць у сваіх шэрагах і культуролагаў. І ў многіх з іх карані роду сыходзяць у сельскую мясцовасць. А нам вельмі важ-



на, каб царкоўныя святы суправаджаліся нейкім дадатковым культурным праяўленнем, якое б рэалізоўвалася побач з храмам. Пасля літургіі, калі перапаўняе радасць ад стасункаў з Богам, чалавека апаноўвае жаданне неяк гэтую радасць падоўжыць, неяк выказаць. Так склалася, што на свята Тройцы было вырашана выказаць ідэю: беларуская зямля ўкрываецца крыламі Духа Святога.

Мы ведаем, розныя краіны маюць нябесных заступнікаў: Вялікабрытанія — Велікамучаніка Георгія Пераможца, Грузія — Божую Маці. А пра Беларусь мы гаворым як пра зямлю Святога Духа, які багата «выліваецца» ў дзень Святой Тройцы. Святы Дух, які прыносіць перамены і аб'ядноўвае людзей, — гэта дух, што асвятляе розумы і сэрцы. Такія дзеі натхняюць і павялічваюць творчыя сілы. Нашы вернікі гатовы ладзіць фестывалі ў гонар такіх вось дзей. А першы з іх здарыўся проста таму, што ў свята Тройцы мы вырашылі парадавацца. Было такое перажыванне: вось ёсць Вербная Нядзеля — людзі ідуць у храм з вербамі; ёсць Вялікдзень — людзі ідуць у храм з кулічамі і яйкамі. А траецкія святкаванні? Пасля службы разысціся — няправільна. Павінна быць нейкае матэрыяльнае праяўленне. «Траецкі фэст» увогуле, цяпер ужо можна казаць так, існуе, каб мы не замыкаліся ў вузкім свеце бед, смутку, праблем. Яны, вядома, ёсць, яны і будуць. Мы ў жыцці сутыкаемся з непрыемнасцямі, з-за чаго нам часам здаецца, што свет — гэта нешта для Бога чужое, бо поўніцца ён страшнымі рэчамі. Але мы святкуем, хай часам і сціскае душу смуткам, мы ўсё ж усхваляем Творцу.

**— І ўсё гэта робіцца сіламі дабрачынцаў?**

— Так, напрыклад, наш другі фестываль ужо брэндаваны. Нам у гэтым дапамагло агенцтва Fabula Group. Выдатнай пары — Дзмітрыю і Вользе Кашканам, кіраўнікам гэтай кампаніі, — блізкае тое, чым мы займаемся. І супрацоўнікі гэтай кампаніі патрацілі свой час на тое, каб у фестываля з'явілася лагічнае і яркае візуальнае праяўленне. Тут, вядома, асаблівую ролю адыграла наяўнасць экалагічнай сцежкі на тэрыторыі вакол храма. Гэты праект мы рэалізавалі сумесна з арганізацыяй «Ахова птушак Бацькаўшчыны», Цэнтрам экалагічных рашэнняў і Цэнтрам экалагічнага выхавання, з боку якіх у арганізацыю свята былі ўцягнуты нашы сябры — Яўген Лабанаў, Сяргей Юшкевіч, Руслан Шайкін, Карына Салавей, Віктар Кулік. Гэта наша агульная справа.

**— А як фестываль стаў такім, якім мы яго бачым цяпер? Бо летась не існавала агульная канцэпцыя «фестывалю хрысціянскіх культур».**

— Нашы вернікі любяць і ўмеюць весяліцца. А паколькі, напрыклад, старшы алтарнік нашага храма па бацьку армянін, то летась гучала армянская тэма. Ён распавядаў пра прыняцце ў Арменіі хрысціянства, пра тое, наколькі старажытная гэтая зямля, пра тое, хто прынёс сюды слова Хрыстова. Быў нават зладжаны маленькі майстар-клас па гатаванні страў армянскай кухні. Таксама летась завітаў да нас ансамбль танца «Сонечная Грузія». Тады мы і вырашылі, што наступнае свята Тройцы стане фестывалем хрысціянскіх культур. Гэтая канцэпцыя, можа, яшчэ не так ярка выяўляецца, таму што фестываль малады. Але, ва ўсялякім выпадку, мы хочам прадэманстраваць, як адзіны Дух Святы стварае свае непаўторныя формы ў культуры кожнага народа.

**— Ваш храм вельмі моцна звязаны з экалагічнай тэмай дзякуючы згаданай экалагічнай сцежцы. Як вашы вернікі да гэтага адносяцца?**

— Яны практычна ў цэнтры гэтай працы. Сіламі нашага прыходу на экалагічнай сцежцы праводзяцца экскурсіі. Вернікі распрацоўваюць квэсты, каб папулярызаваць яе, прыдумляюць рознага кшталту праекты, каб было ўсім цікава. У маладых людзей шмат магчымасцей для забаў, таму мы шукаем адмысловыя формы ўзаемадзеяння. Аднак дакладна не тужліва-лекцыйныя: яны зусім не падыходзяць. Акрамя таго, у нас ёсць жаночы клуб — амігурумі-клуб. Нашы сёстры, дзяўчаты і жанчыны, збіраюцца штотыдзень і вяжуць эксклюзіўныя цацкі. Яны ж робяць сімвалы экалагічнай сцежкі — совачак. Бо любая творчасць, якая прыцягвае ўвагу, — гэта прыўнясенне ў гэты свет часткі Тварэння. І ў канчатковым выніку гэта аповед пра прыгажосць.

З дапамогай Цэнтра экалагічных рашэнняў нашы верніцы — удзельніцы гэтага праекта — па-



стаянна павышаюць кампетэнцыю падчас розных семінараў і трэнінгаў. Каб нешта было зроблена добра, трэба зрабіць гэта якасна і прафесійна. Мы спадзяёмся, што экалагічная сцежка — гэта добрая магчымасць самаўдасканалення ў нашай парафіі. І падарунак, своеасаблівы мэсэдж ад прыходу — мікрараёну, людзям, якія тут жывуць. Маўляў, сябры, мы, вядома, усё тут можам засеяць бутэлькамі, паўсюль можам намаляваць зразумелыя, хвосткія словы, можам ператварыць свет, у якім мы жывём, у сметнік, але давайце паспрабуем па-іншаму.

**— А што вы асабіста думаеце на гэты конт?**

— Я, вядома, разумею, што чалавеку ўвайсці ў храм і стаць часткай царквы можа быць складана, але яму нашмат лягчэй зразумець, што асяроддзе, у якім ён жыве, — гэта яго асяроддзе, і ён за яго адказвае. Мы толькі падкрэслілі гэта на экалагічнай сцежцы: вось частка твайго месца, чалавек, яна з'яўляецца часткай Божага Свету, і гэта чароўнасць, якую трэба захоўваць і памнажаць. Такім чынам, узаемадзейнічаючы з гэтай прыгажосцю Божага Свету, мы нейкім чынам робімся прыгажэйшымі ўнутры. І пачынаем нанова адкрываць для сябе жыццё.

**—А ў чым для вас асабіста сутнасць фэсту?**

— Вельмі важна даць кожнаму адчуванне, што яму тут рады. І не толькі ў прагматычным сэнсе: маркетынгавая радасць заключаецца ў тым, каб праз добры сэрвіс і ўсмешку чалавек у цябе нешта набыў. А мне б хацелася, каб усе ўдзельнікі маглі сказаць: «Вось гэта наш храм. Вось гэта тое, чаго нам не хапае». Я маю на ўвазе, што ўсё павінна быць цікавым, драматургічна выбудаваным, прывабным, каб у рэшце рэшт «сарафаннае радыё» або медыя гаварылі пра нас, і каб людзі — прыходзілі.



**«Нашы Руіны»**
**Аўтарскі праект Уладзіміра Цвіркі**

Віцебская вобласць, Талачынскі раён,
вёска Каменнае-Крывое. Вадзяны млын. 1868 год.

У кожным нумары часопісаў «Маладосць» і «Бярозка». Поўны камплект выяў будзе мець той, хто чытае абодва выданні.

# Трымай раўнавагу

У грамадскім транспарце перыядычна гучаць словы-загад-прапанова: «Трымайцеся за поручні». А навошта за іх трымацца? Бо інакш згубіш раўнавагу і можаш упасці. Сам упадзеш і іншых за сабой пацягнеш. Тое ж на экскалатары. Тое ж і ў жыцці.

Чалавек не можа жыць у грамадстве і быць адзін. Жывучы ў грамадстве, ён вымушаны часткова зліватца з гэтым грамадствам. Карэкціраваць свае паводзіны. Прымаць чужыя нормы. Прызнаваць сябе часткай агульнага. У тым ліку, і агульнай культуры. Гаварыць з гонарам «мы», «наша» і дзейнічаць так, каб гэтыя «мы», «наша» рабіліся мацнейшымі. Трымацца за гэтыя поручні і адначасова прымаць удзел у іх стварэнні і рамонце.

Кнігі на беларускай мове, фільмы з беларускім перакладам, вышыванкі, заплечнікі, магніцікі, сувеніры з нацыянальнай сімволікай не абцяжараць вас. Толькі замацуюць. Дададуць разумення сваёй ідэнтыфікацыі, раўнавагі — і вам, і «нашаму» аўтобусу.

*«М»ы*